**Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў**
**Установа адукацыі “Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы”**

**Вячаслаў Швед**
**Сяргей Данскіх**

# ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ Ў ЧАСЫ НАПАЛЕОНАЎСКІХ ВОЙНАЎ 1805 – 1815 гады

**Гродна**
**2006**

УДК
ББК

Р э ц е н з е н т ы : *Смалянчук Алесь Фёдаравіч*, доктар гістарычных навук, прафесар кафедры тэорыі і гісторыі права ПУА "БІП – Інстытут правазнаўства"; *Кітурка Юрый Віктаравіч*, кандыдат гістарычных навук, дырэктар УК "Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей".

**Швед В.**

Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады. / В. Швед, С. Данскіх. – Гр.: ГрДУ імя Янкі Купалы, 2006. – 252 с.

ISBN

Упершыню ў гістарыяграфіі даследуецца комплекс пытанняў, звязаных з заходнім рэгіёнам Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў (1805 – 1815): дэмаграфічныя і гаспадарчыя змены, планы Французскай і Расійскай імперый і іх саюзнікаў у дачыненні да заходнебеларускіх земляў, баявыя дзеянні падчас "вайны 1812 года", удзел насельніцтва заходняга рэгіёну Беларусі ў "напалеонаўскай эпапеі" і іншыя. Аўтары ўпершыню шырока выкарыстоўваюць шматлікія архіўныя крыніцы і замежную літаратуру, што дазваляе ажыццявіць аб'ектыўную рэканструкцыю мінулага. Для навукоўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў і вучняў, усіх, хто цікавіцца велічнымі і складанымі старонкамі роднай гісторыі ў часы напалеонаўскіх войнаў.

**УДК**
**ББК**

**ISBN**

## ЗМЕСТ

*Давно ль орлы твои летали*
*Над обесславленной землей?*

*А.С.Пушкин. “Наполеон”.*

## УВОДЗІНЫ

Два стагоддзі аддзяляюць нас ад ужо легендарных і гераічных падзей напалеонаўскіх часоў. У віхуры тагачасных войнаў, радыкальных палітычных перабудоў ды смелых мрояў выспявала сучасная Еўропа з усімі яе дасягненнямі і хібамі. У барацьбе “за” і “супраць” Напалеона абуджалася нацыянальная свядомасць, выспявалі сучасныя нацыі ды акрэсліваліся межы сучасных дзяржаў, нават калі лёс наканаваў ім з’явіцца на палітычнай арэне свету толькі праз сто ці больш гадоў. Вобразна кажучы, часы напалеонаўскіх войнаў былі своеасаблівай “кропкай біфуркацыі”, калі гістарычны час “фантаніраваў” культурна-гістарычнымі магчымасцямі. Вынікі напалеонаўскай эпапеі – ад метрычнай сістэмы і правастаронняга руху да грамадзянскіх кодэксаў і раўнавагі свецкіх дзяржаў з традыцыйнымі канфесіямі – сталіся аб’ектыўным падмуркам усяго наступнага развіцця Старога Свету.

Заходні рэгіён першым на Беларусі адчуў на сабе подых пераменаў ды моц ваенных завеяў напалеонаўскіх часоў. У залежнасці ад руху магутных імперскіх армій ды іх разнастайных саюзнікаў ён мог стаць ці ваенным памежжам французскай і расійскай “сфераў уплыву” (Літоўска-Гродзенскай губерняй ды Беластоцкай вобласцю), ці буфернай дзяржавай на заходніх межах Расійскай імперыі (план Агінскага па аднаўленню Вялікага княства Літоўскага), ці цэнтральнымі правінцыямі адноўленай Напалеонам Рэчы Паспалітай (на гэта спадзявалася палітычная эліта Варшаўскага герцагства, якая марыла аб нацыянальнай Польшчы ў межах былой “федэрацыі абодвух народаў”). У апошніх двух выпадках мы маглі б ніколі не ўбачыць Беларусь у яе сучасным выглядзе. Усё гэта прымушае нас звярнуцца да вывучэння ды асэнсавання часу, калі “ўсе магчымасці былі яшчэ атвартымі”.

Цэнтральнай падзеяй для Беларусі ў часы напалеонаўскай эпапеі, безумоўна, з’явілася вайна 1812 г. Да гэтага толькі эліты былі пэўным чынам уцягнуты ў еўрапейскія працэсы. Дванаццатый год закрануў амаль кожнага. Тая паўлегендарная вайна выклікае да сябе больш увагі, чым большасць найноўшых падзей. Справа тут не ў выключным значэнні вайны 1812 г. у айчыннай гісторыі. З “тутэйшага” пункту гледжання, 1812 г. нічым не вылучаецца са смутнага шэрагу разбуральных войнаў, якія бадай у кожным стагоддзі высмоктывалі сілы беларускага народа. Ніводнага слова не прагучала тады ў абарону Беларусі. Ніводнага ўчынка не адбылося на яе карысць. Замежныя арміі крочылі праз краіну, і

тысячы беларускіх рэкрутаў гінулі па загадах чужых генералаў пад іншаземнымі сцягамі.

Сапраўднае значэнне 1812 года ў іншым. Неўзабаве часам адбываюцца ў гісторыі заходняй часткі Старога Свету падзеі ці з'явы, якія акрэсліваюць уласна "еўрапейскі кантэкст", вызначаюць сутнасныя – не геаграфічныя, а сацыякультурныя межы гэтай часткі свету. Рымская імперыя, распаўсюджанне хрысціянства, феадалізацыя ды імперыя Карла Вялікага, Адраджэнне, Рэфармацыя, Асветніцтва, французская рэвалюцыя 1789 г. ды напалеонаўскія войны – раз-пораз змянялі межы і воблік Еўропы. Народы, якія прымалі ўдзел у гэтых падзеях, атрымлівалі магчымасць з гонарам называць сябе еўрапейскімі і доўга потым захоўваць у свядомасці ды гістарычнай традыцыі памяць аб сваім дачыненні да еўрапейскай цывілізацыі.

1812 год гэта беларуская глава напалеонаўскай эпапеі, новае з'яўленне роднай старонкі ў культурна-гістарычнай еўрапейскай прасторы. Зразумела, што яно непараўнальна з XVI ст., са славутым часам Адраджэння і Рэфармацыі на Беларусі. Але нават у сваёй трагічнай форме 1812 год давёў да Еўропы факт існавання і значэння Беларусі. Увесь свет даведаўся аб жахлівай пераправе праз Бярэзіну ды ўцёках Напалеона са Смаргоні. Уся Еўропа сачыла за рызыкоўнымі манеўрамі Баграціёна на шляху ад Ваўкавыска да Магілёва ды абмяркоўвала пяцідзённае марнатраўства Жэрома Банапарта ў Гродне. Менавіта ў Панямонні, пад Мірам, пачала ствараецца легенда аб непераможных казацкіх палках і іх удалым атамане Мацвее Платаве. Ваенныя тэарэтыкі, пачынаючы ад Клаўзевіца ды Жаміні, па сённяшні дзень старанна вывучаюць карты Беларусі ды падлічваюць адлегласці паміж нашымі гарадамі – разглядаюць варыянты развіцця баявых дзеянняў. Адчуванне таго, што лёс усёй Еўропы ў значнай ступені вырашаўся тут – на Беларусі – прымушае нас ізноў вяртацца да вывучэння і асэнсавання тых даўніх, трагічных і велічных падзей.

Воразна кажучы, чатыры геральдычных арла схваціліся паміж сабой за панаванне над беларускімі землямі ў часы напалеонаўскіх войнаў. Самымі магутнымі сярод іх былі залаты арол Францыі і дзвюхгаловы расійскі арол. Першы змагаўся за сусветнае панаванне, другому хапіла б толькі Усходняй Еўропы. Саюзнік залатога французскага арла – сярэбраны арол Польшчы – спрабаваў аднавіць Рэч Паспалітую. Гэта дзяржава загінула ў 1795 г. і некалі з'яўлялася агульным домам для палякаў, літоўцаў, беларусаў, украінцаў. Іншая справа, што ўсё часцей пад аднаўленнем Рэчы Паспалітай разумелася не былая федэрацыя, а новая польская нацыянальная дзяржава. Апошнім умяшаўся ў зацятую барацьбу чорны дзвюхгаловы арол аўстрыйскіх Габсбургаў, якія ў 1812 г. апынуліся ў становішчы вымушанага саюзніка Напалеона.

Пэўных тлумачэнняў патрабуюць геаграфічныя межы прапанаванага даследавання. Сучасны заходні рэгіён Беларусі – гэта Брэсцкая ды

Гродзенская вобласці. Падзеі, пра якія мы будзем гаварыць, адбываліся на тэрыторыі, якая існавала ў 1805 – 1815 г. пад назвай Літоўска-Гродзенская губерня. Створана яна была паводле ўказа Аляксандра I ад 9 (21) верасня 1801 г., а фактычна пачала існаванне з 1 (13) студзеня 1802 г. Тагачасная Гродзенская губерня істотна адрознівалася ад сучаснай Гродзенскай вобласці і нават ад Гродзенскай губерні пачатку XX ст. Яна афіцыйна называлася Літоўска-Гродзенскай губерняй. Акрамя Ваўкавыскага, Гродзенскага, Лідскага, Навагрудскага ды Слонімскага паветаў, якія адпавядаюць тэрыторыі сучаснай Гродзеншчыны, у склад губерні ўваходзілі Брэсцкі, Кобрынскі ды Пружанскі паветы. Таму праца непазбежна закранае і падзеі на тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці. Ашмянскі павет у пачатку XIX ст. уваходзіў у склад Віленскай губерні. Таму з фармальнага пункту гледжання ён павінен быў бы застацца па-за межамі даследавання. Але паколькі зараз землі былога Ашмянскага павета ўтвараюць значную частку Гродзенскай вобласці, то было б непрыгожа ў дачыненні да тутэйшых жыхароў пазбавіць іх магчымасці даведацца аб мінулым сваёй роднай зямлі. Па гэтай прычыне падзеі 1812 г. у Ашмянскім павеце таксама знайшлі адлюстраванне на старонках гэтай працы. Падобным чынам аўтары аднесліся і да былога Пінскага павета, тэрыторыя якога зараз утварае значную частку Брэсцкай вобласці, але ў свой час не ўваходзіла ў склад Літоўска-Гродзенскай губерні. Логіка падзей прымусіла аўтараў уключыць у геаграфічныя межы даследавання і тагачасную Беластоцкую вобласць, якая зараз знаходзіцца ў межах Польшчы, але па сённяшні дзень не страціла канчаткова сваіх беларускіх каранёў.

У выніку геаграфічныя межы даследавання ахопліваюць амаль усю тэрыторыю дзвюх заходніх абласцей Рэспублікі Беларусь. Гэта той славуты культурна-гістарычны рэгіён Усходняй Еўропы, які некалі з’яўляўся “гістарычнай Літвой”. Тапаніміка пачатку XIX ст. яшчэ захоўвала сярэднявечную ліцвінскую традыцыю: Брэст Літоўскі, Высока-Літоўск, Камянец Літоўскі, Шчучын Літоўскі, Янаў Літоўскі (сучаснае Іванава Брэсцкай вобласці) і нават Мінск Літоўскі. Зараз беларускія навукоўцы акрэсліваюць гэты рэгіён як Заходнюю Беларусь, а польскія – як “kresy pylnocno-wschodnie”.

Вылучэнне заходняга рэгіёну Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў у асобны прадмет даследавання абумоўлена некалькімі прычынамі. Па-першае, з часоў юбілейных гістарычных нарысаў пачатку XX ст., прысвечаным даўно знікнуўшым губерням Паўночна-Заходняга краю, гістарыяграфія не звяртала асаблівай увагі на асаблівасці рэгіянальнай гісторыі Беларусі ў напалеонаўскую эпоху. Нават не агульнабеларускі, а расійскі гістарычны матэрыял займае цэнтральнае месца ў многіх працах па рэгіянальнай беларускай гісторыі. Наспеў час з улікам сучаснага стану гістарыяграфіі і крыніцазнаўства звярнуцца да рэгіянальных гіста-

рычных спадчын. Па-другое, памежны характар заходняга рэгіёну Беларусі аумовіў той факт, што ўплыў напалеонаўскіх войнаў адчуўся тут значна раней за астатнія беларускія землі. “Напалеонаўскі эксперымент” з аднаўленнем Вялікага княства Літоўскага толькі на захадзе Беларусі паспеў набыць больш-менш акрэсленыя рысы. Усё гэта робіць мэтазгодным з навуковага пункту гледжання асобнае даследаванне заходняга рэгіёну Беларусі ў напалеонаўскія часы. Па-трэцяе, дадзеная праца можа разглядацца як падмурак будучага, больш шырокага даследавання па Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў.

Усе даты ў прапанаванай шаноўным чытачам працы прыведзены па сучаснаму “новаму” стылю. Выключэнне складаюць толькі даты ў афіцыйных расійскіх паперах пачатку XIX ст.: царскіх рэскрыптах ды ўказах. Яны падаюцца па старому стылю, а ў дужках пазначаецца дата па новаму стылю.

# ГІСТАРЫЯГРАФІЧНЫ АГЛЯД

Чаму мы ўзяліся за напісанне гэтай кнігі? Таму, што на сённяшні дзень у беларускай гістарыяграфіі не існуе працы аб заходнім рэгіёне Беларусі часоў напалеонаўскіх войн. Гістарыяграфія гэтай праблемы не вельмі багатая (Рабкоў, Ерашэвіч) [208, 119, 254]. Першай спробай расказаць пра падзеі таго часу з'яўляецца літаратурны твор пяра Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве: Шляхецкая гісторыя 1811 – 1812 гадоў у дванаццаці кнігах вершам". Будучы чатырнаццацігадовым хлопцам, ён стаў сведкаю гістарычных падзей, якія з захапленнем перажываў другі раз у 1832 г., калі сеў за напісанне сваёй неўміручай паэмы. Рэалістычна паказаны настрой беларускай шляхты, жадаючай з дапамогай французскага войска аднавіць Вялікае княства Літоўскае разам з Рэччу Паспалітай.

Першай гістарычнай працай, у якой асвятляліся некаторыя закранутыя намі пытанні, з'яўляецца кніга Л.Саланевіча "Краткий исторический очерк Гродненской губернии за сто лет её существования (1802 – 1902)", апублікаваная ў 1901 г. На адной старонцы аўтар дае размеркаванне расійскіх войск у 1805, 1806, 1811 гадах; гаворыць, што яны, як пазней французы, харчаваліся за кошт мясцовага насельніцтва; вызначае страты губерні ў выніку вайны 1812 г. (32,5 млн. руб.) і робіць выснову, што эканамічныя наступствы былі ў 10 і болей раз большыя [213].

У працы Е.Ф.Арлоўскага "Гродненская старина. Ч. 1. Гродна" (1910) некаторы матэрыял па нашых праблемах ёсць у дзвюх главах. У XIX главе гродзенскі гісторык вельмі коратка і фрагментарна апісвае падзеі напярэдадні 1812 г., французскую адміністрацыю ў губерні, разарэнне насельніцтва, баі ў Кобрыне і Гарадзечне, адыход французаў. У XX главе таксама нешматслоўна Арлоўскі гаворыць пра аднаўленне жыцця на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні. Сярод іншых цікавых фактаў успомнім амністыю жыхарам губерні – удзельнікам вайны на баку Напалеона і тое, як слушна падмеціў аўтар, што ў мясцовай адміністрацыі засталіся тыя самыя чыноўнікі, якія супрацоўнічалі з французамі [178].

Назва другой працы Арлоўскага гаворыць сама за сябе – "Гродненская губерния в 1812 году: Исторический очерк" (1912). Аўтар лічыў, што Гродзенская губерня адыгрывала "второстепенное значение", бо тут было ўсяго дзве бітвы (у Кобрыне і Гарадзечне) і дзве "невялічкія справы" пры Слоніме і Ваўкавыску, а шлях Вялікай арміі Напалеона на Маскву і з Масквы быў у баку ад губерні [177, с.1]. У першай главе Арлоўскі апавядае аб размеркаванні расійскай арміі ў межах Гродзенскай губерні, планах Напалеона, кантрабандным гандлі, наступленні французскай арміі і адыходзе расійскай, захопе Гродна. У другой главе прыводзяцца сюжэты, звязаныя з акупацыяй напалеонаўскімі войскамі губерні: стварэнне польскіх канфедэрацый, дзейнасці адміністрацыі ВКЛ, арганіза-

цыі літоўска-беларускай арміі, страты губерні. Трэцяя і чацвёртая главы прысвечаны дзейнасці абсэрвацыйнай арміі А.П.Тармасава: апісваюцца баі пад Кобрынам і Гарадзечна, Брэстам, Слонімам, Ваўкавыскам, адыход аўстрыйскага корпуса Шванцэнберга за Буг, вызваленне Гродна Д.Давыдавым [177].

Напісаныя расійскімі, як раней пісалі, дарэвалюцыйнымі гісторыкамі, названыя вышэй тры кнігі адлюстроўваюць афіцыйны пагляд царскага ўрада на вайну 1812 г. і маюць характэрныя рысы дваранскай канцэпцыі вайны 1812 г.: у асноўным знешняе апісанне і інтэрпрэтацыя ваенных дзеянняў, сцвярджэнне аб еднасці ўсіх саслоўяў і народаў і іх аб'яднанні вакол расійскага імператара, узвялічванне ролі дваранства і Аляксандра І [180, 181]. Літоўска-Гродзенская губерня разглядаецца як частка расійскай тэрыторыі, на якой адбыліся другарадныя падзеі. Часта ішла канстатацыя цікавых фактаў, але не было распрацоўкі такіх праблем, якія цікавяць сённяшніх гісторыкаў самастойнай Беларусі: настроі насельніцтва Беларусі перад вайной, ВКЛ 1812 г., літоўска-беларускія войскі – удзельнікі барацьбы з Расіяй за адраджэнне незалежнасці.

Савецкія гісторыкі, не саромеючыся, пісалі тое ж самае і выкарыстоўвалі тыя ж факты, толькі ацэнкі давалі іншыя, звяртаючы асаблівую ўвагу на масавы гераізм насельніцтва Літоўска-Гродзенскай губерні ў барацьбе супраць французскіх акупантаў і на сумесную вайсковую дзейнасць. Працытуем адно з выказванняў на гэтую тэму: "Сумесная барацьба, замацаваная крывёю, пралітай у баях за Радзіму, яшчэ болей парадніла рускіх і беларусаў" [67, с.3]. Факты ўдзелу беларусаў у войсках Напалеона або абыходзілі, або адмоўна ацэньвалі. Новы факталагічны матэрыял з'яўляўся даволі рэдка. Амаль па адной схеме напісаны артыкулы В.Бяркоўскага (1946 г.) і С.А.Кудзій (1984 г.) з аднолькавай назвай "Гродня (Гродна) у 1812 годзе" [76, 148]. Нягледзячы на апошнюю, абодва аўтары пішуць пра падзеі на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні: пра тое, што мы пералічылі ў Арлоўскага. Праўда, Кудій пашырае храналагічныя рамкі тэмы – прыводзіць факты шпіёнскай дзейнасці ў 1806 – 1807 г., звяртае ўвагу на тое, што "менавіта на Гродзеншчыне павінен быў, па задуме Напалеона, вырашыцца лёс ваеннага і палітычнага прэстыжу Расіі", спрабуе апісаць структуру губернскай адміністрацыі ВКЛ [148, с.136].

Амаль падобныя адзін да аднаго артыкулы Л.Аржаевай, Г.Шапкінай і Г.Патапёнка. Аўтары асноўную ўвагу канцэнтруюць на рабаўніцкай дзейнасці французаў, саксонцаў і аўстрыйцаў на тэрыторыі губерні (шматлікія падаткі і павіннасці, рэквізіі і карныя мерапрыемствы) і на барацьбе сялян супраць марадзёраў [67, 203]. У першым артыкуле яшчэ асветлены баі пад Слонімам і Ваўкавыскам, вызваленне Гродна партызанам Д.Давыдавым. У другім паказана стварэнне літоўска-беларускага войска, Нацыянальнай гвардыі і жандармерыі як сілы, якая павінна была

спыніць ваюючае з французамі насельніцтва. Гэта на самай справе не так, бо літоўска-беларуская армія арганізавана была для вайны з расійскай арміяй, што і адбылося. Мы не згодны з Патапёнкам і тады, калі ён сцвярджае, што спробы стварэння літоўска-беларускага войска "пацярпелі поўны правал, шляхецкая моладзь засталася глухою да заклікаў польскіх магнатаў". Адкуль жа тады лічба 19 – 20 тысяч чалавек ў гэтым войску?

Вынікам шматгадовай даследчай працы па гісторыі вайны 1812 г. на Брэстчыне сталі публікацыі Л.М.Несцярчука. У брашуры "Отечественная война 1812 года на Брестчине: Учебно-методические разработки к разделу курса истории БССР" ён звяртае ўвагу на баі пад Кобрынам і Гарадзечна, на гісторыі будаўніцтва і захавання помнікаў на гэтых і іншых месцах. Асобныя раздзелы прысвечаны А.П.Тармасаву і "ранам послевоенным" тых населеных пунктаў, дзе адбыліся баі [171]. У кандыдацкай дысертацыі "Баявыя дзеянні 3-й Заходняй рускай арміі ў Айчынную вайну 1812 года на тэрыторыі Беларусі" Несцярчук вызначае ролю, месца і ўклад арміі Тармасава ў разгром арміі Напалеона; аналізуе ваенна-палітычнае становішча на тэрыторыі Беларусі і Польшчы падчас вайны 1812 г. У першым сюжэце даволі падрабязна апісаны баі пад Кобрынам, Гарадзечна, Брэст-Літоўскам, Слонімам. У другім – гаворыцца аб наборы рэкрутаў у расійскую армію з Літоўска-Гродзенскай губерні і іх мужнасці ў баях з французамі; аб дзеяннях беларускага і польскага шляхецтва па аб'яднанню патрыятычных сіл супраць Расіі; аб фарміраванні літоўска-беларускай арміі ВКЛ 1812 г. [173]. Тое ж Несцярчук апісвае і ў артыкуле "Баявыя дзеянні 3-й заходняй рускай арміі з аўстрыйскім і саксонскім карпусамі Напалеона ў вайну 1812 года на тэрыторыі Беларусі" [172].

У брашуры "Гарадзечна. Матэрыяльная і духоўная спадчына. Гісторыка-архітэктурны нарыс" Несцярчук у раздзеле "Асноўныя гістарычныя даты. Падзеі і помнікі" прыгадвае Гарадзенскую бітву, будаўніцтва ў гонар яе графам В.Б. Пуслоўскім у 1825 г. храма, асвячэнне мемарыяльнай пліты "Сраженіе при Городечнъ" у Храме Хрыста Збавіцеля ў Маскве ў 1883 г., будаўніцтва мемарыяльнай капліцы ў 1912-1913 г. і ўзвядзенне ў в. Харкі Астравок драўлянага праваслаўнага крыжа да 100-годдзя Гарадзечненскай бітвы. У раздзеле "Гісторыя Гарадзечны ў знакамітых асобах" Несцерчук успамінае П.І.Баграціёна, А.П.Тармасава, П.В.Чычагава, К.В.Ламберта і іншых, называе ваенаначальнікаў, якія прымалі ўдзел у Гарадзечненскай бітве [175].

Апошнім часам нашыя вядомыя краязнаўцы ў сваіх кнігах, прысвечаных, як правіла, пэўным рэгіёнам, звярнулі ўвагу на ваенныя падзеі 1812 г. Так, С.Асіноўскі ў кнізе "Там, дзе была Неўрыда" ў нарысе "Пад сцягамі Напалеона" адзначыў "слонімскі след" у 1812 г. (фарміраванне коннага палка ўланаў Я.Канопкі, яго разгром расійскім атрадам Я.Чапліца, стварэнне жандарскага атрада); звярнуў увагу на тое, што Гродзен-

ская губерня па плану М.К.Агінскага 1811 г. увайшла бы ў адноўленае ВКЛ і што ў ВКЛ 1812 г. улада Часовага ўрада сягала на яго тэрыторыю; успомніў пра існаванне да 1970-х гадоў ахоўнага знаку каля в. Вострава Слонімскага раёна [68, с.150-158].

В.Супрун у кнізе "Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай)" некалькі старонак таксама прысвяціў Слонімшчыне ў 1812 г.: апісана цяжкае становішча пад акупацыяй аўстрыйскай і саксонскай армій, дзеянні прапольскі настроенай часткі насельніцва і ліцвінскага ўрада (структуру органаў кіравання, фарміраванне вайсковых частак), вызначыў ролю 3-й рускай арміі генерала А.П.Тармасава ў барацьбе з Напалеонам (баі пад Брэстам, Кобрынам, Гарадзечна) [218, с.61 – 64].

Ёсць працы, якія прысвечаны асобным праблемам даследуемай намі тэмы. Напрыклад, Э.М.Карасік у артыкуле "Ці не Ашмяны?" на аснове аналізу рапартаў французскага маршала Берцье вызначыў ваколіцы г. Ашмяны як канчатковы пункт руху абоза з напалеонаўскімі трафеямі [135]. Л.Лінёў на фоне "грознага і слаўнага 1812 года" расказвае пра сувязь рускіх літаратараў з Гродзеншчынай. Прыводзяцца старонкі дзённіка Д.Давыдава аб вызваленні Гродна; сцвярджаецца, што ў Брэст-Літоўску А.С.Грыбаедаў (тады ад'ютант генерала кавалерыі А.С.Калагрывава) "стаў, па сутнасці, на той шлях, на які яго сустрэла сусветная слава"; успамінаюцца вершы паэтаў К.М.Бацюшкава і Ф.І.Цютчава аб пераходзе рускай арміі праз Нёман у 1813 г. [158, 159].

Амаль тое ж самае напісаў праз 30 год В.М.Чарапіца ў артыкуле "Достигли Немана и копья водрузили…". Новым стала даданне цытат з Давыдава і фактаў з жыцця Грыбаедава, узятых з кнігі С.Букчына "...Народ издревле наш родной" [246]. А вось другі літаратурны нарыс Чарапіцы аб М.І.Талстым напісаны нова і цікава, з выкарыстаннем архіўных і дакументальных крыніц [244, с.156 – 161]. Упершыню ўзняў гэты гісторык праблему знаходжання на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні ваеннапалонных з напалеонаўскай арміі і тых, хто сам пры адступленні застаўся тут. Адзначана спецыфіка губерні ў адносінах насельніцтва да ваеннапалонных [249]. У дзвюх публікацыях звярнуў увагу В.М. Чарапіца на аўтарства "Записки" або "Сведения, относящиеся к истории о войне 1812 года". Гэты дакумент выдаўцы падавалі як твор гродзенскага губернатара. Чарапіца ўдакладніў, што аўтарам быў выкладчык гімназіі Ф.К. Гартц, а рэдактарам – дырэктар Гродзенскай губернскай гімназіі І.М. Ястрабцоў (гэтае, дарэчы, напісана на самым дакуменце, які захоўваецца ў НГАБ у Гродне). Чарапіца параўнаў запіскі, якія апублікаваны ў зборніках "Белоруссия в эпоху феодализма" і "Акты, документы и материалы для политической и бытовой истории 1812 года", з архіўным экзэмплярам і выявіў асаблівасці трох варыянтаў [248].

Значны ўклад у вывучэнні сувязей генерал-маёра С.М.Ланскога з Гродна (тут ён пахаваны) унесла даследчыца Т.Афанасьева. У шэрагу

артыкулаў яна паступова раскрыла жыццё і дзейнасць гэтага героя 1812 г., устанавіла сваяцкія сувязі яго з гродзенскім губернатарам В.С.Ланскім. Ёй належыць першанства ў выяўленні значнай колькасці дакументаў аб Ланскіх у НГА Беларусі ў Гродне, дзе яна працуе [69; 70; 71]. Нарыс аб Ланскім ёсць і ў кнізе Чарапіцы “Гродненский православный некрополь” [245].

Гісторыю Беларусі перыяду напалеонаўскіх войнаў даследуе малады мінскі гісторык А.У.Ерашэвіч. У адным з яго артыкулаў аналізуюцца палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і ВКЛ у палітыцы расійскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. [120]. Ён бадай адзін з усіх аўтараў, якіх мы ўспамінаем у нашым гістарыяграфічным аглядзе, ахоплівае перыяд 1805 – 1815 г. Яшчэ большыя храналагічныя рамкі ў ягонай кандыдацкай дысертацыі “Уплыў напалеонаўскіх войнаў на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі (1799 – 1815 гг.)”. У дысертацыі закрануты такія праблемы, як уплыў войнаў Расійскай імперыі 1799 – 1815 г. на беларускія землі, палітыка расійскіх улад у час войнаў 1812-1815 г., беларускія землі ў кантэксце “польскага пытання”, уплыў напалеонаўскіх войнаў на грамадскую думку і жыццё. Без успамінаў аб Гродзенскай губерні аўтар не абышоўся [123].

А.Лукашэвіч піша пра заходні рэгіён Беларусі ў сувязі з даследаваннем пытанняў выкарыстання тэрыторыі Беларусі ў ваенных дзеяннях. У артыкуле “Беларусь в документах военно-стратегического планирования Российской империи (1810 – 1812 гг.)” аўтар паказвае, што ў распрацаваным палкоўнікам К.Ф.Толем “Плане военных действий русской западной армии” прадугледжвалася размеркаванне галоўнай масы 1-й арміі (80 тыс. чал.) паміж Гродна і Мастамі, на Нёмане, 6-га (абсервацыйнага) полка (18 тыс. чал.) – вакол Пружан, 2-га рэзервовага кавалярыйскага полка – у Ваўкавыску [163, с. 30 – 31].

Серыя газетных публікацый 1980 – 1990-х гадоў у гродзенскім друку прысвечана Д.Давыдаву [98, 99, 100], уцечцы Напалеона праз Гродзеншчыну [130, 140, 216, 262, 264], баям пад Ваўкавыскам [115, 252], Кобрынам і Гарадзечна [219]. Факты ў асноўным адны і тыя ж пераходзяць з аднаго артыкула ў другі і розняцца толькі ўзроўнем літаратурнай падачы. Цікавы артыкул “По следам Бонапарта” Б.С.Клейна пададзены ў кнізе “Найдено в архиве” [142]. На дзейнасць корпуса Рэнье звернута ўвага ў артыкуле А.Палубінскага “1812-ы ў нашым краі” [182].

Завершым наш гістарыяграфічны агляд серыяй кніг “Памяць”. Па заходняму рэгіёну Беларусі на сённяшні дзень нам вядомы 20 кніг, выдадзеных у 1992 – 2002 г. Матэрыялы аб вайне 1812 г. змешчаны ўсюды ў раздзеле “У складзе Расійскай імперыі”. У кнігах па Мастоўскаму, Берасцейскаму, Карэліцкаму, Іванаўскаму раёнах і гарадах Брэст і Гродна маюцца асобныя артыкулы, як правіла, пад назваю “У вайне 1812 г.”. У некаторых кнігах ёсць, акрамя таго, дадатковыя артыкулы. Кнігі “Па-

мяць” г.Гродна і Маларыцкага раёну змяшчае артыкулы пра В.С.Ланскога [70], Карэлічскага раёну – пра Мірскі бой [190], Кобрынскага раёну – пра бітву пад Кобрынам [191]. Змест і структура большай колькасці артыкулаў аб вайне 1812 г. аднолькавая: адыход рускіх войск і ар’ергардныя баі, французская акупацыя, рабаванні, дзеянні мясцовых уладаў ВКЛ, супраціўленне насельніцтва акупантам, вызваленне мясцовасці ад напалеонаўскіх войскаў, спусташэнні ў выніку вайны.

Нічога не гаворыцца пра вайну 1812 г. у кнізе “Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Баранавіч і Баранавічскага раёна”. Адсутнічае мясцовы і перавышае агульнарасійскі, усім вядомы матэрыял, у кнігах “Памяць” Гродзенскага, Дзятлаўскага, Жабінкаўскага, Іўеўскага, Ганцэвічскага раёнаў і г.Пінска. На наш погляд, можна адзначыць навізной матэрыялу, пастаноўкай праблем, добрым фактычным мясцовым матэрыялам, высокім навуковым узроўнем кнігі “Памяць” па г.Брэсту (аўтар П.І.Гарбуль) [184], Брэсцкаму (Я.С.Разянблат) [185], Бераставіцкаму (М.І.Пацэнка) [183], Навагрудскаму (С.Кузняева) [193], Іванаўскаму (Л.А.Павяльчук) [189] раёнах. Гарбуль звяртае пільную ўвагу на дзеянні 3-й Заходняй арміі Тармасава, праўда, лічыць, што “ваенныя дзеянні на паўднёвым флангу не былі непасрэдна звязаны са становішчам на цэнтральным напрамку і мелі самастойнае значэнне” [184, с.98]. Ён піша таксама аб палітычным настроі шляхты, сялян, мяшчан, інтэлігенцыі, якія арыентаваліся на Напалеона, за што ён зрабіў ім уступку і стварыў Вялікае княства Літоўскае. Адзначыўшы, што з Брэста былі набраны рэкруты ў рускую армію, аўтар лічыць магчымым назваць вайну 1812 г. грамадзянскай па характару [184, с.101]. Разянблат заўважыў, што разам з адыходам рускай арміі ў тыл адправілі з Брэстчыны ненадзейных прадстаўнікоў шляхты і прадвадзіцеляў дваранства, што яўрэі не прынялі “новы парадак” і “шпіёнілі на карысць непрыяцеля” (г.зн. Расіі), што на тэрыторыі Брэстчыны ваявалі ў час вайны 1812 г. будучыя дзекабрысты А.З.Мураўёў, К.А.Ахотнікаў, І.І.Сухінаў, В.К.Тызенгаўзэн, І.М.Хацяінцаў [185, с.61 – 62]. Аўтар цікава падмеціў, што рускія афіцыйныя крыніцы сцвярджаюць, што “причинили значительный урон жителям” рускія войскі, а напалеонаўскія толькі забіралі харчаванне [185, с.63].

Пацэнка ў сваім артыкуле адзначыў ад’езд памешчыкаў з Бераставіцкага краю ў Каралеўства Польскае, “разлічваючы на атрыманне высокіх пасад” [183, с.52], прыток моладзі ў польскае войска, рабаўніцтва расійскай і напалеонаўскай армій у 1812 г., маніфест Аляксандра І, які дараваў дваранаў, ваяваўшых на баку французаў. Кузняева апісала адыход арміі Баграціёна праз Навагрудак, знаходжанне тут Жэрома Банапарта, польскіх войск А.Ражнецкага і Юзэфа Панятоўскага, уражанні ад гэтага маладога А.Міцкевіча, напісала, як адзначылі дзень нараджэння Напалеона. Павяльчук галоўную ўвагу засяродзіў на дзеяннях атрада

А.П.Мелісіна з арміі Тармасава супраць Рэнье ў паласе Антопаль – Драгічын – Янава (Іванава) – Пінск і ўказаў на малавядомыя баі каля Людвінава, Янава, на дарозе з Драгічына ў Стараселле [189].

У кнізе "Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна" адзін з яе аўтараў (В.В.Швед) упершыню ўзняў шэраг праблем, якія цяпер даследуюцца ў гэтым выданні: прыезд у Літоўска-Гродзенскую губерню Аляксандра І, дзейнасць напалеонаўскай разведкі, намер Напалеона вырашыць лёс вайны на тэрыторыі Гродзеншчыны, эвакуацыя расійскіх уладаў, маёмасці, архіваў, заігрыванне Жэрома Банапарта з гродзенскай шляхтай, складванне актаў далучэння да польскай канфедэрацыі, структура і дзейнасць органаў ВКЛ, канкрэтныя прыклады стратаў па губерні і інш. [187].

Растлумачым сваю пазіцыю адносна тэрміна "Айчынная вайна 1812 г.", які мы не ўжываем, а выкарыстоўваем паняцце "вайна 1812 г.". Тэрмін "Айчынная вайна 1812 г." узнік у рускай публіцыстыцы 1813 г. для адрознівання і супрацьпастаўлення вайны 1812 г. замежным паходам расійскай арміі 1813 – 1814 г. Кніга Д.І.Ахшарумава, выдадзеная ў 1813 г., называецца "Историческое описание войны 1812 года", але тэрмін "айчынная" ён выкарыстоўвае. Карыстаецца ім і Ф.М.Глінка ў сваіх гісторыка-публіцыстычных сачыненнях 1814-1815 г. У архіўных справах да 1840 г. мы часцей знаходзілі тэрмін "вайна 1812 г.", а тэрмін "айчынная" ўсталяваўся з выданнем кнігі А.І.Міхайлоўскага-Данілеўскага "Описание Отечественной войны в 1812 г." (другая яго кніга называлася "Описание войны 1813 г." – як бачым, гісторык выкарыстаў розныя тэрміны для супрацьпастаўлення войнаў). Абедзве кнігі, відаць, у абавязковым парадку распаўсюджваліся па ўсёй Расійскай імперыі, што спрыяла ўкараненню назвы "Айчынная вайна 1812 г.". Вось, напрыклад, віленскі генерал-губернатар Ф.Я.Міркавіч у 1840 г. пісаў аб неабходнасці набыцця названых кніг генерал-лейтэнанта Міхайлоўскага-Данілеўскага гродзенскаму губернатару Г.Г.Допельмейеру [36, а.1]. У архіўных дакументах 1862 і 1911 – 1912 г., калі адзначалася 50-годдзе і 100-годдзе вайны 1812 г., паўсюдна выкарыстоўваецца паняцце "айчынная" [39, 41, 45, а.107, 122].

Тэрмін "айчынная" стаў знікаць з Першай сусветнай вайны ("другой айчыннай") і падзення царызму, калі "гісторыкі ленінскага прызыву" адверглі гэты тэрмін "апалагітычнай афіцыйнай гістарыяграфіі" [162, с.10]. У Малой Савецкай Энцыклапедыі 1929 – 1932 г. можна прачытаць: "Айчынная вайна – руская нацыяналістычная назва...". Адрадзілі забытую назву вайны 1812 г. гісторыкі часоў І.В.Сталіна: у 1938 г. яе ўвялі ва ўжытак, а ў гады Айчыннай вайны 1941 – 1945 г. канчаткова зацвердзілі [162].

Такім чынам, тэрмін "Айчынная вайна 1812 г." не заўсёды выкарыстоўваўся для вызначэння характару вайны адносна рускага народа. Што

ж тычыцца іншых народаў, якія насялялі Расійскую імперыю, дык мы не можам пагадзіцца са сцвярджэннем выдатнага даследчыка А.З.Манфрэда: "Для ўсіх, для ўсёй Расіі вайна гэтая была справядлівай, народнай, сапраўды Айчыннай вайной" [164, с. 610]. У прыватнасці, для беларускага народа, які ваяваў і на баку французаў, і на баку рускіх гэтую вайну лічыць Айчыннай няма падстаў. Айчыну сваю – Вялікае княства Літоўскае – ліцвіны = беларусы страцілі ў выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Расійская імперыя за 17 гадоў яшчэ не стала іх Радзімай: шляхта марыла аб адраджэнні ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай і Расія ўспрымалася як захопнік, сялянства было незадаволена паншчызнай і рэкрутчынай, невядамай да гэтага часу. Думаем, што слушна сказаў польскі даследчык М.Кукель: "Там, за мяжою, якая была перад падзеламі Рэчы Паспалітай, пачынаўся для Напалеона і яго войскаў непрыяцельскі край. Там роўна і для Расіі вайна станавілася народнай" [290, т.1, с. 399].

Мы не падзяляем погляду на вайну 1812 г. як на грамадзянскую вайну беларускага народа. [197] Тыя, хто ваяваў на баку Францыі (шляхта, сяляне, гараджане, уніяцкае і каталіцкае духавенства), змагаліся за нацыянальнае адраджэнне, але разумелі яго як адраджэнне Польшчы. У вогнішчы імклівых баёў не было часу ўдакладніць, якой будзе Польшча: унітарнай нацыянальнай дзяржавай, накшталт рэвалюцыйнай ці імператарскай Францыі, ці федэрацыяй, у якой знойдзецца месца і для ліцвінаў – беларусаў ды літоўцаў. Трапіўшыя ў расійскія палкі беларусы ўвогуле не вылучылі нейкіх ідэй аб сваім разуменні лёсаў Бацькаўшчыны. Хаця іх значны ўклад у перамогу Расіі сведчыць, што для гэтых людзей уваходжанне беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі было зразумелым і прывабным. Выступленні сялян супраць французаў, рускіх ды шматлікіх напалеонаўскіх саюзнікаў варта разглядаць як барацьбу за захаванне сваёй маёмасці і сям'і.

Цікавы погляд на характар вайны для палякаў выказалі расійскі і польскі даследчыкі. Кандыдат філасофскіх навук С.Экштут: "Вайна 1812 года была Айчыннай не толькі для рускіх, але і для палякаў. Адныя ваявалі за вольнасць і незалежнасць Расіі, другія – за адраджэнне Польшчы. Трагедыя была ў тым, што яны ваявалі адзін супраць другога" [263, с.128]. Польскі гісторык А.Неўважны адзначыў: "Для большасці палякаў вайна 1812 г. таксама была Айчыннай – толькі пагром Расійскай імперыі мог адрадзіць Рэч Паспалітую" [176, с.132]. У такім сэнсе, мы думаем, можна гаварыць пра Айчынны характар вайны і для беларусаўліцвінаў, якія паспрабавалі выкарыстаць барацьбу еўрапейскіх гігантаў для адраджэння сваёй дзяржаўнасці.

# ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ Ў 1805 – ПАЧАТКУ 1812 г.

## ПЕРШЫЯ ЎПЛЫВЫ ІДЭАЛАЎ І ВОБРАЗАЎ НАПАЛЕОНАЎСКАЙ ЭПОХІ НА ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ

Заходні рэгіён Беларусі адчуў на сябе подых напалеонаўскіх войнаў задоўга да 1812 года. Весткі з захаду прыносілі новыя ідэі ды звескі, якія не адпавядалі традыцыям ды стэрэатыпам грамадства "старога рэжыму" – феадальнай па сваёй сутнасці супольнасці, дзе асветніцкі рацыяналізм ды барочная эстэтыка яшчэ больш замацоўвалі непахіснасць саслоўных межаў. Гэта асвечаная стагоддзямі, адзіная магчымая карціна свету раптам пачала распадацца. У Гродне мог знайсці прытулак будучы французскі кароль Людовік XVIII, які не трапіў на трон не па рашэнню сваіх калег-манархаў (як гродзенскі вязень Станіслаў-Аўгуст Панятоўскі), а па жаданню рэвалюцыйнага народа. Ператварыўшыся ў "франтавыя тылы" пад час войн III і IV антыфранцузскіх кааліцый, заходні рэгіён Беларусі нечакана даведаўся, што ў гэтых "новых" войнах перамагае не механічная дысцыпліна ды арыстакратычны гонар славутых армій Прусіі ці Аўстрыі, а ініцыятыва ды асабістая мужнасць французскіх салдат, кожны з якіх "насіў у ранцы маршальскі жэзл". У Гродне пэўны час жыў расійскі галоўнакамандуючы М.Ф.Каменскі – яскравы прыклад неадпаведнасці арыстакратычных нормаў XVIII ст. новай эпохе. Супрацьстаяць французам маглі толькі людзі, для якіх асабістыя якасці былі вышэйшыя за саслоўныя нормы. І яны з'явіліся ў заходнім рэгіёне Беларусі ў асобах ваяра-паэта Д.Давыдава ды знакамітай расійскай амазонкі Надзеі Дуравай. Гэтак у ваенных звестках, дзе пастаянна ўзгадваўся Напалеон, на Беларусь насоўваўся Новы час.

### *Граф дэ Ліль з дынастыі Бурбонаў*

Даследчык Французскай рэвалюцыі Томас Карлейль не мог абмінуць падзей уцёкаў караля Людовіка XVI з Парыжу 20 чэрвеня 1791 г. Вось што ён піша аб тым, што здарылася ў вёсцы Сэн-Менеульд: "Не дрэмле ў гэты час і пачмайстар Друэ: ён уваходзіць і выходзіць у сваім даўгаполым халаце, унікаючы пры святле закату ў тое, што бачыць... Гэтая дама ў нацягнутай на лоб цыганскай шляпе, хаця ж і сядзіць на передку ў экіпажы, аднак падобна на адну асобу, якую мы калісці бачылі ці на свяце Дзідаў, ці ў іншым месцы. А гэты Grosse-Tete ў круглай шляпе і парыку, які, час ад часу высоўваючыся, глядзіць назад; здаецца мне, што ён падобны?.. Жвавей, сіэр Гіём, пісец Дырэкторыі, прынясіце мне новую асігнацыю! Друэ разглядае новую асігнацыю, параўноўвае партрэт на крэдытным білеце з вялікагаловым чалавекам у круглай шляпе: "Клянуся днём і ноччу, гэта, можна сказаць, змякчаная выява таго.

Дык вось, што азначае гэтае перасоўванне войскаў, гэтае фланіраванне і перашэптванне. Разумею!" [139, с.286].

Адданыя патрыёты Жан Батыс Друэ і Гіём яшчэ не зусім перакана765ныя, але ўжо "маральна ўпэўненыя" паскакалі за берлінай баранэсы Корф, якая паехала ў бок Клермона. У вёсцы Варэнн разам з гаспадаром таверны "Залатая рука" Баніфацыем Лебланам яны паднялі нацыянальных гвардзейцаў і прымусілі караля вярнуцца ў Парыж. Гэта адбылося 21 чэрвеня 1791 г., а 21 студзеня 1793 г. адбылося яго смяротнае пакаранне на гільяціне.

Людовіку XVI не пашанцавала, а вось ягонаму брату лёс прынёс удачу – у гэтым жа 1791 г. ён уцячэ з рэвалюцыйнай Францыі, а пасля падзення Напалеона, пры рэстаўрацыі Бурбонаў, стане каралём (1814 – сакавік 1815, ліпень 1815 – 1824). Гаворка ідзе пра графа Прованскага (1755 – 1824), Станіслава Ксаверыя, ці графа дэ Ліля (па-руску Лільскага), як называлі ў эміграцыі будучага караля Людовіка XVIII. Цікава, чаму манарх, які збег ад рэвалюцыі, узяў сабе прозвішча, якое насіў знакаміты спявак французскай рэвалюцыі, аўтар "Марсельезы" Ружэ дэ Ліль? У рэшце-рэшт граф дэ Ліль знайшоў прытулак у Мітаве, былой сталіцы Курляндскага герцагства". Мітава, сёння Елгава ў Латвіі, з 1795 г. была далучана да Расійскай імперыі. Дакладна вядома, што тут граф дэ Ліль жыў пры Паўле І і ў 1805 – 1807 г. Ён пасяліўся ў замку герцагаў Біронаў. Нягледзячы на "пенсію" расійскага цара (пры Паўле 200 000 рублей асігнацыямі), двор будучага караля Францыі жыў вельмі бедна: світа не грэбавала браць ад мясцовых жыхароў бочку салакі ці воз падмёрзлай бульбы. Прыдворныя хронікі даносяць, што графу Праванскаму нават не было за што завесці сабе фаварытку.

У цыркуляры расійскім пасланнікам і міністрам ад 11.01.1802 г. гаварылася, што лёс графа Лільскага "не можа быць абыякавым для ўсіх манархаў Еўропы", што Аляксандр І "не можа адзін выносіць цяжар такіх выдаткаў. Ён спадзяваецца, што іншыя манархі пажадаюць раздзяліць яго ... запрашае іх забяспечыць добраахвотнымі ўзносамі гэтаму няшчаснаму прынцу бязбеднае існаванне" [РИО, т.70, с.328 – 329]. 4 ліпеня 1802 г. пасланнік у Францыі Маркаў пісаў міністру ўнутраных спраў Качубею, што ў размове з Талейранам запытаўся, "ці першы консул (Напалеон) наогул мае намер аказаць грошавую дапамогу гэтаму няшчаснаму сямейству. Ён адказаў, што першы консул не супраць гэтага, што ён, можа быць, толькі чакае, каб гэтая сям'я сабралася дзе-небудзь далей ад Францыі". І, як здагадаўся Маркаў, галоўнай умовай з'яўляецца фармальнае адрачэнне Бурбонаў ад сваіх правоў на прастол [РИО, т.70, с.464]. Калі граф Праванскі жыў у Варшаве, бургамістр Мейер ад імя Напалеона прапаноўваў яму за адрачэнне Луку і Карару ў Італіі з 6 млн. штогадовага прыбытку. Граф адказаў, што лепш будзе есці чорны

хлеб. Усе Бурбоны, якія жылі ў эміграцыі, падпісалі тады асобны акт нязгоды на адрачэнне.

28 жніўня 1804 г. Райневаль даносіў Талейрану з Пяцярбурга аб тым, што тут шмат гавораць аб прыбыцці графа Лільскага ў Гродна: "Цяпер гавораць, што ён пасяліўся там не канчаткова, а будзе чакаць усіх членаў свайго сямейства, каб разам скласці аб'яву, болей урачыстую, чым тую, якая складзена раней, супраць імператарскай спадчыннасці ў сям'і Напалеона. За гэтай аб'явай будзе нешта накшталт маніфеста да французскага народа, у якім, сярод выкладання таго, што ён называе сваімі правамі, будзе апісанне ягоных прынцыпаў і паводзін, якіх ён намераны прытрымліваацца ў выпадку, калі ўступіць на прастол Францыі. Боязнь, што французскі кароль не адобрыць гэтага сходу і тым болей заявы, якая павінна атрымацца з яго, а таксама спадзяванне і, верагодна, нават тайнае пацвярджэнне Расіі, што ў цяперашніх умовах яна не выставіць былых перашкод, прымусілі графа Лільскага прыняць, ва ўсялякім разе на гэтую хвіліну, зробленае яму запрашэнне перабрацца на рускую зямлю" [РИО, т.77, с.703].

У магчымым пераездзе графа дэ Ліля ў Гродна не было нічога дзіўнага. Тут у 1795-1796 г. ужо жыў няшчасны манарх – былы польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Праўда, ён страціў карону ў выніку не рэвалюцыі (як будучы Людовік XVIII), а контррэвалюцыі – падзелаў Рэчы Паспалітай і падаўлення паўстання Касцюшкі. Невялікі ўтульны Гродна меў свой адмоўны бок – блізасць да Напалеона, перамогі якога ў 1805 – 1807 г. прывялі "карсіканскую пачвару" да Нёмана. Граф дэ Ліль памятаў лёс свайго сваяка – маладога герцага Луі Антуана Энгіенскага, які ў 1804 г. быў выкрадзены па загаду Напалеона ў памежнай Германіі і расстраляны.

Пасля гэтага граф дэ Ліль і пераехаў з Варшавы ў Мітаву. У 1807 г. ён яе, відаць, пакінуў, перасяліўшыся ў Стакгольм – за морам, на якім панаваў англійскі флот, было яшчэ больш надзейна. З ліста генеральнага консула і паверанага ў справах Францыі Лесепса да міністра замежных спраў Талейрана ад 23.08.1807 г. даведваемся, што шведскі кароль пісаў Аляксандру I, каб той угаварыў дэ Ліля пераехаць у Стакгольм. Расійскі імператар пераслаў ліст у Мітаву, і яе губернатар прыслаў кур'ера са звесткаю, што граф дэ Ліль збіраецца ехаць у Швецыю. Аляксандр I адказаў, што граф "не палонны яго , што я прапанаваў яму гасціннасць, але, калі яна стала яму цяжкай, дык ён вольны шукаць яе ў іншым месцы" [РИО, т.88, с.127]. Жыць у эміграцыі дэ Лілю засталося яшчэ сем гадоў...

### *На мяжы неспакойна*

Пакуль вядомы выгнанец жыў у Тыльзіце, адбылося дзве вайны III і IV антыфранцузскіх кааліцый: франка-аўстра-расійская 1805 г. і франка-пруска-расійская 1806 – 1807 г. Рыхтуючыся да вайны, Напалеон раз-

гарнуў у памежных раёнах, у тым ліку ў заходнім рэгіёне Беларусі, сетку тайных агентаў і эмісараў. Яны збіралі звесткі аб расійскім войску і яго забеспячэнні, падбухторвалі насельніцтва, вялі агітацыю сярод землеўладальнікаў і ўгаворвалі іх не плаціць падаткі і зборы, хаваць ад рускіх запасы і рыхтаваць іх для будучага "выратавальніка ад рускага ярма".

У 1806 г. шляхціц Лідскага павета з мястэчка Шчучын Гінейка распаўсюджваў на польскай мове "бязглуздныя пункты, быццам бы заключанага паміж Расіяй і Францыяй перамір'я". Створаны па гэтай справе камітэт завочна прыгаварыў Гінейку да арышта "на хлеб і ваду на адзін месяц". Пазней яго знайшлі і з 13 верасня па 13 кастрычніка 1807 г. Гінейка сядзеў у афіцэрскім арыштанцкім пакоі Гродзенскай паліцыі [6, а.1, 2, 4].

31 студзеня 1807 г. літоўска-гродзенскі губернатар В.С.Ланскі папярэдзіў Валынскага губернатара аб тым, што ад Высока-Літоўска ідуць тры шпіёны, якія раскідваюць пракламацыі і распаўсюджваюць "неприязненные слухи". 5 красавіка 1807 г. нейкая асоба з Замбрава (цяпер горад у Падляшскім ваяводстве Польшчы) даносіла Ланскому аб пяці лазутчыках, якія збіраюцца перабрацца праз расійскую мяжу. Ланскі разаслаў прыкметы земскім спраўнікам. Гэтыя пяць чалавек былі палякамі (ураджэнцамі Літоўска-Гродзенскай губерні?) на французскай службе, ішлі ў бок Брэст-Літоўска з пашпартамі аб звальненні. 12 чэрвеня 1807 г. літоўскі мытны інспектар Багаеўскі даносіў В.С.Ланскому, што паслаў на ўсе мытні і заставы звесткі і прыкметы гэтых лазутчыкаў [4, а.10].

У царскім указе 28.11 (10.12).1806 г. гаварылася, што ўсе падданыя Францыі і краін, залежачых ад яе (Каралеўств Італіі, Неапалітанскага, Галандыі, Генуі), павінны быць у дзесяцідзённы тэрмін высланы з тэрыторыі Расійскай імперыі. Купцам, прафесарам, хатнім настаўнікам, усім тым, хто працуе на розных пасадах на прыватнай службе, трэба было прынесці прысягу, што не будуць кантактаваць з французамі. Галандскія купцы, былыя афіцэры Каралеўскай Французскай службы, людзі вядомых прозвішчаў, якія не мелі акрэсленых заняткаў, павінны былі звярнуцца да начальства губерні за "пасведчаннем на вольнае ў Расіі жыхарства". Акцёры і музыканты, падданыя Францыі і краін, залежачых ад яе, прыносілі прысягу, што на працягу вайны не будуць мець непасрэдных або ўскосных зносін з Францыяй і абласцямі, ёй падуладнымі. Усе названыя пры не выкананні ўказа высылаліся за мяжу з пашпартам, дзе ўказваўся тэрмін, у які яны павінны пакінуць Расію. Калі ў такіх людзей былі даўгі, то іх трэба было заплаціць, а калі ім былі вінаваты, дык спагнаць з даўжнікоў [2, а.7 – 8].

У сталіцах і губернскіх цэнтрах ствараліся спецыяльныя камісіі для разгляду спраў замежнікаў. У іх уваходзілі губернатар (старшыня камісіі), два сябры думы або магістрата, паліцмайстар ці гараднічы. Яны скла-

далі спіс замежнікаў, якія пражывалі  на іх тэрыторыі, прымалі прысягу, выдавалі пасведчанні і пашпарты. У НГАБ у Гродне захавалася справа аб рэгістрацыі замежнікаў, якія пражывалі ў г.Гродна і губерні. Гродзенская камісія склала спіс і ў студзені-лютым 1807 г. выяўляла тых, хто не з'явіўся. У рапартах гараднічых і земскіх спраўнікаў гаварылася, што нез'явіўшыхся няма ці наогул замежнікі ў іх не пражываюць [3].

На тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні распаўсюджваліся прысланыя з-за мяжы лісты. У пачатку 1807 г. шляхціц Вайцяхоўскі паслаў з прускага мястэчка Браньск (цяпер Падляшскае ваяводства Польшчы) ліст да сына брэсцкага падкаморыя Каяшэўскага, які жыў у Камянецк-Літоўску. Як высветліў брэсцкі земскі спраўнік, у Бельскім павеце, месцы размеркавання рускага корпуса генерала Эссэна 1-га, рыхтавалася змова: падчас французскага наступлення на корпус у яго тыле пачнецца страляніна, каб выклікаць паніку. У Каяшэўскага, па чутках, адбываліся сходкі змоўшчыкаў, але земскі спраўнік, які сакрэтна наглядаў за ім, не заўважыў іх. Толькі аднойчы збіраліся на імяніны чатыры чалавекі. Яшчэ спраўнік адзначыў распаўсюджванне з-за мяжы варшаўскіх газет. Губернскі сакратар Харытонаў займаўся "перлюстрацыяй" (праверкай ды цэнзурай) карэспандэнцыі, якая прыходзіла з-за мяжы. 18 жніўня 1807 г. ён паслаў губернатару Ланскому копіі двух лістоў, якія прыйшлі былому апеляцыйнаму суддзі Сакалоўскаму ад гродзенскіх палякаў, служачых у французскім войску: адно з Прагі (прадмесця Варшавы) ад Панятоўскага, другое – з Варшавы ад Крэйтца. У абодвух з "цалкавітай перакананасцю" заяўлялася, што "хутка атрымае іх войска загад выступіць у паход да расійскіх межаў, і менавіта на Гродна". У пачатку 1807 г. расійскім уладам удалося раскрыць "здрадніцкія дзеянні" тытулярнага дарадцы Юзэфа Падчашынскага (Паджарынскага?), які служыў унтэрцолнерам на Брэсцкай мытні. Лісты ад яго былі знойдзены ў палоннага француза.

У вышэйназваным указе 1806 г. гаварылася таксама аб забароне гандлю паміж Расіяй і Францыяй. У дзесяцідзённы тэрмін консулы, віцэконсулы і агенты французскага гандлю высяляліся з Расіі. Інспектар Багаеўскі 14 мая 1807 г. рапартаваў Ланскому, што паводле яганых распараджэнняў ён прыняў меры па забароне "выпуску за аўстрыйскую мяжу рагатай жывёлы з тым, каб ніводнай рагатай жывёліны ні пад якім-небудзь выглядам прапушчана за мяжу не было" [4, а. 1, 14, 17, 47 – 48]. Але, відаць, праз такіх, як Падчашынскі, гандлярам удавалася правесці з-за мяжу жывёлу і правезці харчовыя прыпасы, нягледзячы на намаганні ўладаў. 19 лютага 1807 г. брэсцкі земскі спраўнік Канстанцінаў рапартаваў Ланскому, што яўрэі вязуць за мяжу хлеб, жывёлу, прыпасы, розныя тавары праз Белавежскую пушчу Пружанскага павета пад выглядам дастаўкі перапічанага корпусу Эссена і ў рухомыя шпіталі. 12 красавіка Канстанцінаў ізноў даносіў, што варшаўскія і аўстрыйскія яўрэі

з Галіцыі пераганяюць з Валынскай і Падольскай губерняў для войск Банапарта валоў праз мытні гэтых губерняў, а таксама праз Владаўскую заставу Брэсцкага павета Літоўска-Гродзенскай губерні. Ад владаўскага купца яўрэя Беркі, які вярнуўся з Варшавы, Канстанцінаў даведаўся, што ў Брэст і вёску Казловічы з Валынскай губерні прыбылі і разгрузіліся некалькі судоў з пшаніцай (каля 6 тыс. чвэрцей). Спраўнік пісаў, што гандляры гавораць, што прывезлі гэта на продаж, але яму гэта здаецца падазроным, бо ў Брэсцкім павеце заўсёды сваёй хапала на харчаванне, нават вывозілі частку ў Данцыг [4, а.37, 53 адв., 56 адв.].

Гандляры-яўрэі не толькі гандлявалі, але і прыносілі навіны і распаўсюджвалі розныя чуткі з Княства Варшаўскага. У "Пане Тадэвушы" А.Міцкевіча яўрэй Янкель, намеснік рабіна месцячковай абшчыны, гаварыў на шляхецкай нарадзе ў Даджыне:

> Я іншавер, але скажу, граху не будзе,
> Калі я быў па нейкіх справах у Бяліцы,
> Сустрэў сваіх адзінаверцаў з-пад граніцы,
> Яны й шапнулі мне, што да вясны з Ласосны
> уз не прыплыве. Хоць вам і не выносны
> Тут царскі лад, алФранце цярпіце! Спадзяванні
> Ускладайце на вясну...

Напалеон хацеў выкарыстаць яўрэяў у сваіх мэтах. Да Літоўска-Гродзенскай губерні дайшлі звесткі аб адбыўшымся ў лютым-сакавіку 1807 г. Сінедрыёне па ўзору яўрэйскага Сінедрыёна старажытнасці. Роўна месяц 71 чалавек засядалі ў парыжскай ратушы з мэтаю падпарадкаваць яўрэйскую нацыю дзяржаўным законам, удасканаліць яе і веру. Напалеон шчыра пісаў: "Я ўзяў на сябе працу выправіць яўрэяў, але ніколі не спрабаваў прыцягнуць новых у мае краіны. Больш таго, я пазбягаў усяго, што магло бы сведчыць аб павазе да самых занядбалых з людзей" [137, с.67 – 69]. Паведаміўшы гродзенскаму гараднічаму аб Сінедрыёне, губернатар Ланскі 13 сакавіка 1807 г. прасіў звярнуць увагу на мясцовых яўрэяў і іх унутраныя і знешнія кантакты, бо, на яго погляд, ёсць іншыя "сокровеннейшие" мэты яўрэйскага сінода, "каб сродкамі сувязі, больш ці менш заўсёды існуючай паміж усімі рассеянымі яўрэямі, дастаўляць французскаму ўраду спосабы мець уплыў у тых абласцях, дзе жывуць яўрэі" [4, а.66].

І напрыканцы ўзгадаем выражэнне В.Пікуля "грошы таксама страляюць". Не раз успамінаемы намі брэсцкі земскі спраўнік Канстанцінаў 19 лютага 1807 г. даносіў Ланскому, што браньскія яўрэі выкупляюць ад расійскіх штаб і обер-афіцэраў у вялікай колькасці асігнацыі для таго, каб увесці ў Расійскую імперыю і абмяняць іх на золата або серабро па больш выгаднаму курсу. У чэрвені Ланскі папярэджваў мясцовыя ўлады, каб сачылі за тым, каб ніхто не абменьваў расійскія асігнацыі [4, а.9, 36].

## *“Блаженная была эпоха для храбрости!”*

Напярэдадні вайны Напалеона з ІІІ антыфранцузскай кааліцыяй у 1805 г. частка расійскіх войск была сканцэнтравана ў заходнім рэгіёне Беларусі. Паводле “Ведамасці часовым кватэрам, прызначаным для палкоў для збліжэння іх да межаў”, войскі 1-й арміі пераходзілі наступным чынам: 1-я конна-артылерыйская рота 1-га батальёна 1-га корпуса з Гродна ў Крамянец, 6-ы егерскі полк – з Ваўкавыска ў Пачаеў і Вішнявец, з Брэст-Літоўска адна палова пантоннай роты – у Астрог, другая – у м.Меджыбож [154, т.2, с.1920]. У пачатку кампаніі ў Гродне і Брэст-Літоўску была сканцэнтравана частка арміі І.І.Міхельсона: корпусы Л.Л.Бенігсена, Ф.Ф.Буксгеўдэна, І.М.Эсэна 1-га. Па падліках гісторыка А.У.Ерашэвіча, толькі ў Брэсцкім павеце на кантанір-кватэрах было размешчана 23 батальёны, 52 эскадроны, 4 казачыя палкі, рота коннай артылерыі, 2 піянерныя роты – усяго 29 тыс. чалавек [121, с.192]. У пачатку кастрычніка 1805 г. Міхельсон выступіў на злучэнне з арміяй М.І.Кутузава, які выйшаў з Радзівілава яшчэ 25 жніўня. Кампанія 1805 г. прайшла пад знакам перамог Напалеона і ягоных маршалаў і генералаў. 4 снежня Аўстрыя капітулiравала. Найбольш значныя бітвы расійскіх войск адбыліся пад Крэмсам (11.11.1805), Шэнграбэнам (16.11.1805) і Аўстэрліцам (2.12.1805).

У верасні 1806 г. склалася IV антыфранцузская кааліцыя: Англія, Расія, Прусія, Швецыя. 9 кастрычніка Прусія аб’явіла вайну Францыі. 14 кастрычніка пруская армія была разбіта ў баях пад Йенай і Ауэрштэдтам. 28 кастрычніка капітулiравала пруская армія князя Гагенлоэ каля Прэнцлаў, на наступны дзень – гарнізона Штэціна. Пруская армія аказалася больш слабейшай, чым аўстрыйская. Як пісаў расійскі гісторык У.П.Фёдараў: “На жаль, дух прускага караля быў мацней, чым ягоная армія, якая даўно не працавала на палях бітваў, маючая на чале старых генералаў, не падрыхтаваных да барацьбы з такім праціўнікам і не меўшых у руках нават дастатковай колькасці карт тэатра чакаючых ваенных дзеянняў”. 26 кастрычніка капітулiраваў Берлін. Напалеон рушыў на ўсход, насустрач расійскай арміі, якая пасяшалася на дапамогу саюзніку.

Яшчэ 10 кастрычніка паводле царскага рэскрыпта М.І.Кутузаў быў прызначаны Кіеўскім ваенным губернатарам і здаў свае дывізіі: 6-ю – генералу ад кавалерыі барону Л.Л.Бенігсену (галоўная кватэра ў Гродне), 7-ю і 8-ю – Ф.Ф.Буксгеўдэну (Брэст-Літоўск) [154, т.2, с.423]. Адзначым цікавы факт – Бенігсэн быў жанаты на дачцы Тадэвуша Анджэйковіча, пісара і падстарosты Гродзенскага павета, Марыі. Гэта сястра будучага Літоўска-Гродзенскага губернатара М.Ф.Бутаўта-Анджэйковіча (1818 – 1824). Пра гэтае вяселле, якое адбылося ў 1803 г., нейкі В.Навінскі нават распавядаў у сваёй брашуры. Корпус Бенігсэна (60 000 чал. і 276 гармат) перайшоў мяжу Расійскай імперыі каля Гродна і Алі-

ты 3 лістапада 1806 г. [178, с.224]. Ён пасунуўся ў напрамку на Пултуск, а Буксгеўдэн з-пад Брэста рухаўся да Віслы ў напрамку Астралэнкі. Задача іх – затрымаць рух французскай арміі да межаў Расійскай імперыі.

Бенігсэн і Буксгеўдэн цярпець не маглі адзін аднаго, таму патрэбен быў чалавек над імі – галоўнакамандуючы дзеючай арміі. 16 лістапада 1806 г. на гэтую пасаду быў прызначаны генерал-фельдмаршал граф Міхаіл Фядотавіч Каменскі. Калісьці ён ваяваў пад кіраўніцтвам А.В.-Суворава, імя якога гіпнатызавала Напалеона. Відаць, гэта і вырашыла выбар цара. Ф.Булгарын у сваіх успамінах пісаў: "Усе губляліся ў дагадках, і вопытныя людзі гаварылі, што гэта зроблена для ўзбуджэння народнага духу, для таго, каб прыпомніць слаўны час Кацярыны Вялікай, памяць якой была свяшчэнна для народа... Каменскага выкарысталі ў тым сэнсе, як туркі выкарыстоўваюць сцяг Магаметавы – толькі для выгляду" [86, с.250].

56 гадоў запар Каменскі ствараў сабе рэпутацыю лепшага палкаводца Расіі. "Асабістая храбрасць Каменскага, – пісаў Ф.Булгарын,– даходзіла да асляплення, і нават ворагі яго пацвярджалі справядлівасць ягоных слоў, калі ён гаварыў аб сабе, што быў бы рады даведацца, што такое страх смерці! Розум ягоны быў глыбокі і праніклівы; але ўсе яго станоўчыя якасці азмрочваліся незвычайнаю запальчывасцю, празмернасцю ў гневе, даводзіўшым яго да жорсткасці, незвычайнай ганарлівасцю, неразважлівасцю, нецярплівасцю ў зносінах з людзьмі, якіх ён абражаў вельмі часта, без усялякай на тое прычыны, па натурыстасці. Сябры і падначаленыя не любілі Каменскага і баяліся сустрэчы з ім" [86, с.249]. Гэтую характарыстыку дапаўняюць і наступныя словы: "Гэта быў чалавек недаверлівы дробна-самалюбівы: ён ніколі не рашыўся ні на адзін рызыкоўны крок, прапускаў такім чынам усе зручныя выпадкі, цярпеў няўдачу там, дзе мог бы быць пераможцам – і заўсёды ў непаспяховасці аказваліся вінаватымі або іншыя генералы, або сляпая выпадковасць".

З Пецярбурга Каменскі выехаў 22 лістапада 1806 г. Да Вільні ён дабіраўся аж тры тыдні. Адсюль напісаў імператару: "Я пазбавіўся амаль апошняга зроку: ніводнага горада на карце сам адшукаць не магу... Боль у вачах і галаве, не магу я доўга вярхом ездзіць, дайце мне, калі магчыма, настаўніка, сябра вернага, сына Айчыны, каб здаць яму каманду і жыць пры ім у арміі. Сапраўды адчуваю сябе нездольным да камандавання такім вялізным войскам..." [260, с.158]. 19 снежня Каменскі прыехаў у Пултуск, адкуль пісаў Аляксандру I у гэтым жа духу: "Стары я для арміі; нічога не бачу; ездзіць вярхом амаль не магу, але не ад лянoты, як іншыя; местаў на ландкартах адшукаць зусім не магу, а зямлі не ведаю... адважваюся прасіць сабе перамены. Падпісваю не ведаю што" [260, с.159].

Каменскі "знайшоў усе распараджэнні свайго прадмесніка дурнымі, без уважлівага роздуму даў новы напрамак палкам і шмат нарабіў блы-

таніны". Французкія выданні надрукавалі карыкатуру аб дзеяннях расійскай арміі: генерал Бенігсэн сядзіць вярхом на раку, пад ім подпіс: "Мы набліжаемся". За ім на чарапахах рушыць расійская армія. Кароль прускі ляціць у паветры і губляе карону; ён заклікае: "Прашу, прашу, прыдзіце мне на дапамогу!" [260, с.287]. Каменскі, не давяраючы сваім падначаленым, аддаваў дробязныя распараджэнні, асабіста пісаў маршруты, ездзіў ад адной дывізіі да другой, аддаваў загады, якія часта супярэчылі загадам непасрэдных вайсковых начальнікаў. Такое камандаванне на працягу сямі дзён прывяло да таго, што ніхто з начальнікаў не меў уяўлення, дзе знахозіцца армія, што з ёю і нават ці існуе яна ўвогуле. Нечаканым вынікам гэтага беспарадку было тое, што Напалеон у дзівацкіх манеўрах Каменскага ўбачыў нейкія хітрыя хады і аддаў загад адвесці сваю армію, не ведаючы, што такі ж загад атрымала і расійская армія. Ноччу 26 снежня Каменскі выклікаў Бенігсена і ўручыў яму пісьмовы загад аб адыходзе да межаў Расійскай імперыі, а сам паехаў у Астраленку, сказаўшы, што "не хоча губляць сваёй былой славы і амывае сабе рукі" [260, с.159].

Непасрэднай нагодай пакінуць армію Каменскі выставіў сваю хваробу. Ён сапраўды меў "каменную хваробу", якая даводзіла яго да непрытомнасці. Сучаснікі казалі, што Каменскі "быў апантаны якойсьці разумовай хваробай" [86, с.255].  З Астраленкі ён напісаў імператару: "Звольніце старога (Каменскаму было 78 гадоў) у вёску, які і так  абясслаўлены застаецца, што не змог выканаць вялікага і слаўнага жрэбію, да якога быў выбраны... такіх, як я, у Расіі тысячы" [86, с.255]. З Астраленкі Каменскі паехаў у Ломжу (цяпер абодва гарады ў Польшчы), а адтуль – у Гродна. Тут ён прабыў пяць дзён і дачакаўся вырашэння свайго лёсу. У рэскрыпце ад 24 снежня 1806 г. (5 студзеня 1807 г.) між іншым гаварылася: "Хаця і з жалем, але павінен я сказаць вам, што такі заганны ўчынак, калі б ён зроблены быў бы кім-небудзь іншым, трэба было бы аддаць найстражайшаму ваеннаму суду, немінучым вынікам якога было бы пазбаўленне жыцця" [260, с.288]. Аляксандр I загадаў яму спачатку не  пакідаць Гродна, а затым дазволіў ехаць у сваю вёску ў Арлоўскай губерні. Тут Каменскі і пражыў астатак свайго жыцця і быў забіты 12 жніўня 1809 г. адным са сваіх дваравых.

Бенігсэн не паслухаў Каменскага, перамог французаў пад Пултускам і стаў, дзякуючы гэтаму, галоўнакамандуючым расійскай арміі. У гэтым баю быў смяротна паранены палкоўнік, камандзір 1-га егерскага палка Якаў Якаўлевіч Давыдоўскі (1758 – 1806). Свой подзвіг ён здзейсніў яшчэ 23 снежня каля мястэчка Сяроцк (цяпер Польшча), дзе, атрымаўшы дзве раны (у нагу і скронь), не спыніў супраціўленне французам. Шэсць разоў яны на паромах, плытах і па масту спрабавалі перайсці раку Вкру пры зліцці яе з Бугам. Пры Пултуску Давыдоўскі атрымаў трэцяе раненне скрозь надплечную костку куляй, якая спынілася

ў грудзях. Яго адвезлі ў Гродна, дзе ён 31 студзеня 1806 г. (12 студзеня 1807 г.) памёр і быў пахаваны на праваслаўных могілках. Давыдоўскі быў сынам кіеўскага памешчыка, пачаў вайсковую службу на чатырнаццатым гаду жыцця ў Маскоўскім карабінерным палку. З прычыны беднасці бацькоў (яны мелі толькі 18 душ) не змог атрымаць адукацыю, а таму ведамі авалодваў самастойна, дзякуючы літаратуры і вайсковай практыцы. Чытаў і разумеў добра французскую і нямецкую мовы. Будучы паручнікам Беларускага егерскага корпуса, адзначыўся ў бітве пры Рымніку, за што атрымаў павышэнне ў чыне – стаў капітанам. Пасля бою пры Ізмаіле А.В.Сувораў даў Давыдоўскаму пісьмовае пасведчанне на назначэнне секунд-маёрам, у якім было напісана: “Давыдоўскі займеў асаблівую да сябе павагу подзвігам сваім пры ўзяцці крэпасці і горада Ізмаіла і знішчэнні там шматлікай арміі турэцкай і вылучыў сябе адважнай храбрасцю”. За Дунаем Давыдоўскі ваяваў пры Бабадагу і Мачыне. У 1802 г. быў ужо палкоўнікам і шэфам 1-га егерскага палка, які давёў да дасканалай і меткай стральбы. Ён любіў сваіх падначаленых, як сваіх дзяцей, і афіцэры пераняли ад яго гэтую павагу да салдата. А павагу да яго самаго яны выказалі ў 1812 г., калі апынуліся ў Гродне [232, с.143, 218, 220-221, 333].

Калі пачалася вайна 1806 – 1807 г., на поле баявых дзеянняў вельмі хацеў трапіць малады паручык лейб-гвардыі гусарскага палка Дзяніс Давыдаў. Перад ад’ездам з Пецярбурга фельдмаршала Каменскага ён нават прабраўся ноччу ў яго кватэру, каб прасіцца ў дзеючую армію. Граф быў не супраць, але, як ён расказваў потым Давыдаў, “мне было адмоўлена пад зачэпкаю, што табе трэба яшчэ паслужыць на фронце. Прызнаюся табе, што па словах і па твару гасудара я бачу немагчымасць выпрасіць цябе туды, куды табе хацелася бы”. Выпадак дапамог Давыдаву. У “Военных записках” ён піша: “Здавалася, што прысуд мой быў падпісаны і што лёс рашуча адмовіўся ажыватварыць мяне сваёй усмешкай. Што ж здарылася? Прыязджае кур’ер Валуеў са звесткай аб хваробе фельдмаршала і аб адбыцці яго з арміі. Пасля двух дзён з’яўляецца другі кур’ер, граф Васільеў, з данясеннем Бенігсэна аб перамозе пры Пултуску, і гасудар прызначае князя Пятра Іванавіча Баграціёна камандзірам авангарда дзеючай арміі, якую даручае генералу Бенігсэну”. Баграціён зайшоў да Марыі Антонаўны Нарышкінай, каб запытацца, ці не хоча яна, каб ён узяў з сабой яе брата Б.А.Чацвярцінскага. Апошні быў эскадронным камандзірам і сябрам Давыдава. І вось, ведаючы ягоную праблему, Нарышкіна папрасіла Баграціёна, каб разам з братам ён узяў у ад’ютанты і Дзяніса Давыдава. Так ён апынуўся на вайне.

15 студзеня 1807 г. Давыдаў выехаў з Пецярбурга, дабраўся да Вільні. Адтуль шлях ляжаў праз Літоўска-Гродзенскую губерню. У “Военных записках” ён напісаў: “Праездам праз Скідзель я заязджаў у Азяркі [сучасныя Азёры] да Шэпелева, які тады быў палкоўнікам і фарміраваў

Гродзенскі (цяпер Клясціцкі) гусарскі полк; там знайшоў я эскадронных камандзіраў палка яго і маіх прыяцеляў Сцяпана Бібікава, Аляксандра Давыдава, вечнага маёра, але слаўнага ў будучым генерала Кульнева, Гарголія, пазнаёміўся са знакамітым у будучым Ф.В.Рідзігерам, бацькай-камандзірам маім у вайну 1831 года, цалкам справядліва яго праславіўшую; ён быў тады, здаецца, штаб-ротмістрам Гродзенскага палка. У Гродне я заязджаў да жонкі палкоўніка Бараздзіна (што памёр генералам ад кавалерыі); ён таксама, як Шэпелеў, скончыўшы фарміраванне палка Фінляндскага драгунскага, быў ужо за мяжой у Ліке". Туды ж адправіўся і Давыдаў: спачатку ў Аўгустова, потым у Ліку, Рэйн, Гутштадт, Лібштадт. Пасля Тыльзіта ён ізноў некалькі дзён будзе жыць у Гродне – вось чаму ў 1812 г. ён ужо меў тут знаёмых [106, с. 44 – 46].

Крывавая барацьба Французскай і Расійскай імперый за панаванне ва Усходняй Еўропе ў 1805 – 1807 г. скончылася Тыльзіцкім мірам, які быў заключаны недалёка ад паўночных межаў Літоўска-Гродзенскай губерні ў Тыльзіце (цяпер Савецк Калінінградскай вобласці). Тут адбыліся франка-расійскія перамовы. Напалеон пасля цяжкай кампаніі 1807 г. адмовіўся ад задуманага раней марша на Гродна, а Аляксандр I не мог весці вайну, застаўшыся без дапамогі саюзнікаў. На перамовы, акрамя афіцыйных прадстаўнікоў, з'явілася ліцвінская дэлегацыя ў складзе Юзэфа Серакоўскага (ураджэнец в.Аполе Брэсцкага павета), Тадэвуша Тышкевіча (са Свіслачы), Людвіка Плятэра (з Віцебшчыны), Казіміра Любамірскага, Францішка Ксаверыя Любецкага (жыў у Чарлёне і Шчучыне). Яны абяцалі Напалеону падняць на былой тэрыторыі ВКЛ паўстанне пры ўмове падтрымкі з боку Францыі. Размовы з начальнікам Галоўнага штаба напалеонаўскай арміі Л.А.Берцье, дзяржаўным сакратаром імперыі Г.-Б.Марэ, герцагам Басана нічога не далі: паўплываць на рашэнне так званага "польскага пытання" ліцвіны не змаглі – беларускія землі не ўвайшлі ў створанае паводле мірнага трактату ад 8.07.1807 г. Вялікага герцагства Варшаўскага [122, с.549].

Адным з важнейшых артыкулаў заключанага 21 чэрвеня і ратыфікаванага на наступны ж дзень Напалеонам перамір'я было вызначэнне дэмаркацыйнай лініі па сярэдзіне Нёмана. Да Тыльзіта мяжа паміж Расійскай імперыяй і Прусіяй паводле рашэння сумеснай камісіі ад 16.01.1796 г. пралягала па вусцю р.Нараўка – м.Гарадок – м.Кузніца – р.Ласосна – р.Нёман і далей да м.Паланга. Пасля Тыльзіта да Расійскай імперыі была далучана Беластоцкая вобласць, якая ўвайшла ў склад Літоўска-Гродзенскай губерні. Апошнюю закранула і далучэнне Расіі да кантынентальнай блакады Велікабрытаніі, бо праз гродзенскія мытні ішоў жвавы гандаль. У НГАБ у Гродне захавалася справа "О заключении мира между Россией и Францией". Гараднічыя і ніжнія земскія суды, гродскія суды павінны былі аб'явіць насельніцтву спачатку аб перамір'і, а потым – аб заключаным трактаце, ва ўсіх касцёлах і царквах "пры-

несці богу падзяку за такое шчаслівае здарэнне” [5, а.42]. Гродзенцы, як і расіяне, не маглі зразумець, чаму цяпер Аляксандр I сябруе з Напалеонам, хаця зусім нядаўна ў гэтых жа храмах абвяшчалі анафему “богапраціўнаму” французскаму імператару.

### *“Улан-панна” Надзея Дурава*

У ліпеньскія дні 1807 г. у Тыльзіце жыла знакамітая Надзея Андрэеўна Дурава – дачка небагатага рускага двараніна, які свой радавод вёў ад беларускага шляхецкага роду Тураўскіх [130, с.5]. Вось што яна пісала ў сваіх “Запісках кавалерыст-дзявіцы”: “Тыльзіт. Тут мы злучыліся з нашым палком; усё, што толькі ў сілах трымаць зброю, усё у строі! Кажуць, што адсюль мы пойдзем у Расію, такім чынам, кампаніі канец! Канец і маім спадзяванням, марам; замест бліскучых подзвігаў я нарабіла дзівацтваў! Ці буду калі мець выпадак загладзіць іх!” [116, с.90].

Пра якія “дзівацтвы” гаворыць Дурава мы скажам пазней, а цяпер трэба растлумачыць, чаму і як яна апынулася ў арміі. З дзяцінства, не зведаўшы ласкаў маці, Надзея цягнулася да вайскоўца-бацькі, які моцна яе кахаў і прыставіў да яе выхавання гусара. Два мужчыны і выхавалі ў яе любоў да вайсковай службы. Ад маці Надзея пачула аб падняволеным становішчы тагачаснай жанчыны, якая “павінна нарадзіцца, жыць і памерці ў рабстве; што вечная няволя, цяжар залежнасці і ўсялякага роду прыгнёт ёсць яе доля ад калыскі да магілы; што яна напоўнена слабасцю, пазбаўлена дасканаласцяў і не здольна ні да чаго; што, адным словам, жанчына – самая няшчасная, самая нікчэмная і самая агідная істота ў свеце!..” [116, с.14]. Надзея задумала “зрабіцца воінам, быць сынам для бацькі свайго і назаўсёды адрачыся ад полу, лёс якога і вечная залежнасць пачалі страшыць мяне” [116, с.47]. А яшчэ гнала яе з дому “чароўная свабода”. Вось яе адчуванні ў той дзень, калі яна збегла з дому: “Такім чынам, я на волі! Вольная! Незалежная! Я ўзяла мне належачае, маю вольнасць: вольнасць! Каштоўны падарунак неба, неад’емна належачы кожнаму чалавеку! Я умела ўзяць яе, абараніць ад усіх дамаганняў на будучы час, і цяпер да магілы яна будзе і доляй маёй і ўзнагародай!” [116, с.54].

Дурава пакінула бацькоў у дзень свайго нараджэння. У “Запісках” яна піша, што 15 верасня 1806 г. ёй было 16 гадоў, але, паводле біяграфічных звестак, яна нарадзілася ў 1783 г., а значыць, у дзень уцёкаў ёй споўнілася 23 гады. Гэтая розніца ў 7 гадоў будзе сустракацца на працягу ўсіх “Запісак”. Відаць, таму нічога не напісала Дурава і пра свой шлюб ў 1801 г., і пра нараджэнне сына ў 1803 г. Апрануўшыся ў казацкую ўніформу, Надзея Дурава дабралася да казацкага палка, які напярэдадні выйшаў з яе роднага горада, а цяпер меў днёўку ў 50 вярстах. Некаторыя аўтары пішуць, што яна збегла з каханкам-афіцэрам [151]. З казакамі Дурава меркавала дайсці да месца кватаравання рэгулярных

вайсковых частак. Так і адбылося, але не адразу – прыйшлося спачатку пабываць на Дану, жыць у Раздорскай станіцы і ўжо адтуль разам з Атаманскім палком вясной 1807 г. трапіць у Літоўска-Гродзенскую губерню. У м.Дружкаполь, на беразе Буга, размеркаваўся на кватэрах Бранскі пяхотны полк генерала Лідэрса. Але Дурава не жадала служыць у пяхоце, дачакалася, калі  Атаманскі полк прыйшоў у Гродна і тут пакінула яго.

"Гродна. Я адна! Цалкам адна! Жыву ў пастаялай карчме, – піша Дурава ў "Запісках",– Алкід мой бесперапынна ржэ і б'е капытам аб зямлю; ён таксама застаўся адзін. З вакна майго бачу я праходзячыя натоўпы ўлан з музыкаю і пляскаю; яны па-сяброўску запрашаюць усіх маладых людзей прыняць удзел у іх весялосці. Пайду даведацца, што гэтае такое. Гэта называецца "вербунак"! Выратуй божа, калі няма іншай дарогі ўступіць у рэгулярны полк, як толькі праз "вербунак"! Гэта было бы надта не прыемна" [116, с.62 – 63]. Тым не менш, Дурава стала вайскоўцам менавіта праз "вербунак", які ўзнік па маніфесту цара ад 30.11. (12.12) 1806 г. Яна пазнаёмілася з партупей-юнкерам, які на наступны дзень прывёў яе да ротмістра Конна-Польскага палка Казіміроўскага. Апошні займаўся фармаваннем названага палка і дапамог Дуравай паступіць у яго юнкерам.

Афіцэрам можна было стаць толькі пры прад'яўленні дваранскага пасведчання. Па наказу камандзіра Дурава напісала дадому ліст, каб выслалі гэты дакумент. Што з гэтага атрымалася, "улан-панна" піша ў "Запісках": "...Бацька мой атрымаў ад мяне ліст з Гродна і, убачыўшы з гэтага ліста, што я ўступіла ў Конна-польскі полк таварышам, спалохаўся такога незвычайнага кроку майго; не ведаючы, як дапамагчы гэтаму і што рабіць, ён адаслаў ліст мой да маці. Вынікі гэтай неасцярожнасці былі пагібельны. Я мела неразважлівасць пісаць, што празмерная строгасць маці выгнала мяне з хаты бацькоўскай! Што я прашу бацьку, у выпадку, калі я буду забітая, прабачыць той смутак, які прынясе яму смерць мая. Маці ляжала цяжка хворая ў ложку і была вельмі слабая, калі ёй прынеслі  гэты ліст; яна ўзяла яго, прачытала; маўчала з хвіліну; потым, сказаўшы з уздыхам: "Яна вініць мяне!" – павярнулася да сцяны і памярла!.." Ліст вярнуўся да бацькі, які пераслаў яго брату ў Пецярбург, каб той даведаўся, ці жывая дачка. Праз знаёмых генералаў пошукі дайшлі да Аляксандра I, які загадаў адшукаць Дураву і, калі водгукі аб ёй будуць добрыя, прадставіць яму асабіста [116, с.119 – 120].

Да сустрэчы з імператарам у жыцці "улан-панны" адбылося шмат падзей. Карнэту Дураву прыйшлося авалодваць уланскім майстэрствам: "маршыраваць, рубіцца, страляць, валодаць дзідаю, сядлаць, рассёдлываць, в'ючыць і чысціць каня", пераскокваць з канём праз бар'еры [116, с.65].  Пасля вучобы яе прызначылі ў першы ўзвод паручыка Башнякова, які кватараваў у нейкай небагатай памешчыцкай вёсачцы, абкружа-

най дрыгвою. У “Запісках” застаўся запіс: “Які галодны край гэтая Літва! Жыхары такія бедныя, бледныя, хударлявыя і запужаныя, што без спачування нельга глядзець на іх. Гліністая зямля, усеяная каменямі, дрэнна ўзнагароджвае цяжкія намаганні ўдабраць і апрацоўваць яе; хлеб іх такі чорны, як вугаль, і, зверх гэтага, змешаны з нечым калючым (дрэсва); немагчыма есці яго, прынамсі, я не магу з’есці ніводнага кавалку” [116, с.67]. Дурава хадзіла на поле і выкопвала бульбу, якая засталася ў зямлі пасля збору ўраджаю. Гаспадыня з неахвотай варыла яе, а, калі аднойчы Надзея папрасіла да бульбы малака, дык твар жанчыны “перадзёрнуўся злобаю і нянавісцю”.

З гэтай вёскі Дурава адправілася ў Прусію. Перад адыходам яна зноў напісала дадому ліст. “Пішу да бацькі, дзе я і што я цяпер; пішу, што, падаючы да ног яго і абдымаючы калені, малю яго прабачыць мне уцёкі маі, даць благаслаўленне і дазволіць ісці шляхам, неабходным для майго шчасця. Слёзы мае падалі на паперу, калі я пісала, яны будуць гаварыць за мяне бацькоўскаму сэрцу” [116, с.69]. У Прусіі Дуравай давялося прыняць удзел у бітвах пад Гутштадтам (5 – 6. 06. 1807), Гейльсбергам (10 – 11. 06. 1807), Фрыдландам (14. 06. 1807). У першым баю Дурава, негледзячы на небяспеку, выратавала жыццё драгунскаму паручыку Паніну. Пазней імператар асабіста прасуне ў пятліцу яе мундзіра Георгіеўскі крыж. Пад Фрыдландам Дурава дапаможа параненаму ўлану свайго палка [116, с.73, 87 – 91]. Як бачым, за чужыя плечы “улан-панна” не хавалася, праявіла мужнасць і адвагу.

Пасля трагедыі Фрыдланда яна трапіла на камедыю Тыльзіта, з якога мы і пачалі аповед пра Надзею Дураву. Далейшы лёс яе склаўся наступным чынам. Сустрэча з Аляксандрам І прывяла да змены прозвішча на Аляксандрава і пераводу карнэтам у Марыўпальскі гусарскі полк, “адзін з найхрабрэйшых, і корпус афіцэраў з лепшых сямействаў”. З гэтым палком Дурава яшчэ раз пабывала на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні. У Слоніме яна занатавала: “Нарэшце я дачакалася палка; эскадроны разышліся па кватэрах, якія ўсе амаль у чароўных, рамантычных мясцінах. Якая мілая Польшча (так уяўляла сабе Дурава тагачасную Беларусь) па шматлікаму! вясёлыя, гасцінныя палякі! цудоўныя і ласкавыя полькі! Цудоўны клімат! Карцінныя месцы і пакорны, услужлівы народ!” [116, с.167].

У красавіку 1811 г. Дурава была пераведзена ў Літоўскі уланскі полк, з якім ізноў была ў Слоніме, калі полк у 1813 г. ішоў у замежны паход. У вайну 1812 г. “улан-панна” атрымала чын паручыка, удзельнічала ў бітве пад Мірам (9 – 10.07), Смаленскам (16 – 18.08), Барадзіно (7.09), была ардынарцам М.І.Кутузава. У замежны паход яе полк ішоў праз Брэст-Літоўск, пра які Дурава пакінула ўспаміны: “У Брэсце-Літоўскім, перад выступленнем за мяжу, патрэбна нам было вытрымаць інспектарскі агляд. Амаль дзве гадзіны праліўны дождж абліваў нас з галавы да ног.

Нарэшце, прамокшыя да касцей, перайшлі мы рубеж Расіі; сонца выйшла з аблокаў і ярка заблішчала; прамяні яго і цёплы летні вецер хутка высушылі нашыя мундзіры" [116, с.254].

У 1816 г. Дурава выйшла ў адстаўку ў чыне штабс-ротмістра з правам насіць мундзір. Жыла на вайсковую пенсію і грошы, атрыманыя ад літаратурнай працы. Як калісьці прарвалася яна на вайсковае поле, цяпер уварвалася на поле літаратурнае, якое таксама было перш усяго прывілегіяй мужчын (тут я пагаджаюся з мінскай даследчыцай С.Кузняевай). Дэбюціравала Дурава сваімі запіскамі "Кавалерыст-дзяўчына: Здарэнне ў Расіі" ў 1836 г. у "Современнике" А.С.Пушкіна. Апошні ва ўступе да іх пісаў: "Прачыталі мы прызнанне жанчыны, такой незвычайнай; са здзіўленнем убачылі, што пяшчотныя пальчыкі, калісьці сціскаючыя акрываўленую рукаяць уланскай шаблі, валодаюць і пяром хуткім, жывапісным і палымяным". Аповесці Дуравай напісаны ў ультра-рамантычным стылі, яна была схільна да вельмі заблытанага сюжэта і таямнічасці.

Смерць напаткала яе ў 1866 г., на 83 годзе жыцця. На магільнай пліце напісалі: "Надзея Андрэеўна Дурава, з бласлаўлення імператара Аляксандра – карнэт Аляксандраў, кавалер ваеннага ордэна" [151, с.5]. Ёй прысвечаны кнігі, вершы, паэмы, п'есы, беларуская опера, кінафільм Э.Разанава "Гусарская баллада".

## ДЭМАГРАФІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ДЫ РЭКРУЦКІЯ НАБОРЫ

Вайна з'яўляецца цяжкім выпрабаваннем для краіны, асабліва калі яна знаходзіцца ў благім стане. Панямонне і Пабужжа напярэдадні 1812 г. толькі пачыналі прызвычайвацца да новай расійскай улады, якая ўсталявалася тут у 1795 г. Падобная перабудова заўжды дрэнна адбіваецца на насельніцтве. Паводле польскага гісторыка пачатку XX ст. Я.Івашкевіча, колькасць насельніцтва гістарычнай Літвы (усходняя частка сучаснай Літоўскай рэспублікі, Гродзенская і Брэсцкая вобласці Рэспублікі Беларусь) за першае дзесяцігоддзе XIX ст. зменшылася амаль на 20 % [277, с.6]. Разгубленасць людзей у новых грамадска-палітычных умовах, пастаянная пагроза вялікай вайны з напалеонаўскай Францыяй былі ўзмоцнены страшэнным неўраджаем 1805 – 1807 г. ды некалькімі эпідэміямі.

Дадзеныя сучасніка напалеонаўскай эпапеі І.Э.Лахніцкага куды менш жахлівыя. Ён даводзіць, што ў 1803 г. насельніцтва Літоўска-Гродзенскай губерні складала 591 060 чалавек, а ў 1810 г. – 586 836 чалавек. Спад насельніцтва склаў 4 224 чалавека, што менш за 1 % [292, с.53]. Дарэчы, створаная пад час французскай акупацыі Адміністрацыйная камісія Гродзенскага дэпартамента ў сваёй працы карысталася дадзе-

нымі рэвізіі 1795 г. з папраўкамі 1800 г. Паводле іх насельніцтва Гродзенскай губерні ў пачатку XIX ст. складала 585 594 чалавекі, што амаль супадае з дадзенымі Лахніцкага на 1810 г. [58, а.48 ад. – 49]. Такім чынам, больш правільна было б казаць не аб крызісе, а аб дэмаграфічнай стагнацыі на Гродзеншчыне ў 1795 – 1811 г.

Відавочна, што пэўны спад насельніцтва назіраўся ў гарадах, але кампенсаваўся ў вёсках. Напрыклад, насельніцтва Гродна ў 1794 г. (апошнім "паспалітым" годзе ў гісторыі горада) складала 6 431 чалавек. З іх хрысціян – 56,7 %, іўдзеяў – 43,2 % [276, с.170]. Паводле ведамасці 1813 г., у 1811 г. ў Гродне пражывала 1 201 хрысціянін і 1 875 іўдзеяў. Разам гэта складае 3 076 чалавек [16, а.8]. Паколькі гаворка ідзе аб рэвізскіх мужчынскіх душах, гэту лічбу варта падвоіць, што дае каля 6 000 чалавек (па прычыне смяротнасці пры родах колькасць жаночага насельніцтва на пачатку XIX ст. крыху саступала мужчынскаму). Атрымліваецца, што пад час расійскага панавання да 1812 г. Гродна страціла 7 % насельніцтва. Пры гэтым доля хрысціянскага насельніцтва скарацілася з 56,7 % да 39 %, а іўдзейскага павялічылася з 43,2 % да 61 %. Скарачэнне гарадскога хрысціянскага насельніцтва магло адбывацца за кошт ад'езду "іншаземных цэхавых рамеснікаў", якіх напрыканцы XVIII ст. налічвалася ў Гродзенскай губерні 1 008 чалавек, альбо 41 % ад усёй колькасці рамеснікаў. Пазней у справаздачах губернскіх канцылярый мы ўжо не сустракаем гэтую сацыяльную групу.

Іншая карціна магла назірацца ў вёсках. Напрыклад, у вёсцы Бершты, што схавалася ў спрадвечных лясах Гродзенскай пушчы, за 1795 – 1811 г. мужчынскае насельніцтва павялічылася з 233 да 273 душ, ці на 17 % [227, с.59]. На жаль, тагачасная статыстыка не дазваляе нам прасачыць усю дынаміку насельніцтва. Мала дадзеных па шляхце і яўрэях. Затое захаваліся дакладныя звесткі аб колькасці мужчынскіх рэвізскіх душ падатных саслоўяў: сялян і мяшчан хрысціянскага веравызнання. У пачатку XIX ст. яны складалі прыкладна 85 % ад агульнай колькасці насельніцтва Гродзенскай губерні, што дазваляе з даволі высокай верагоднасцю экстрапаліраваць гэтыя дадзеныя на ўсё насельніцтва Гродзеншчыны. У 1800 г. налічвалася 9 140 мяшчанскіх і 258 151 сялянская рэвізская душа. Разам гэта складае 267 291 мужчыну. У 1811 г. адпаведныя лічбы дасягалі 4 005 мяшчан і 262 298 сялян. Разам 266 303 мужчыны.

Такім чынам, агульная колькасць рэвізскіх душ істотна не змянілася, але пры гэтым саслоўе беларускіх "месцічаў" спасцігла сапраўдная катастрофа – колькасць мяшчан-хрысціян скарацілася больш чым напалову, у той час як сялянскае насельніцтва павялічылася на 4 147 мужчын. У чатыры разы памяншылася колькасць хрысціян-мяшчан у Брэсцкім і Лідскім паветах, у два з паловай разы ў Ваўкавыскім і Слонімскім паветах. Наўрад "дэпапуляцыя" мяшчан хрысціянскага ве-

равызнання ў 1795 – 1811 г. была выклікана “натуральнымі прычынамі”, але куды разбеглася беларускае мяшчанства – пакуль застаецца таямніцай. Цікава адзначыць, што прырост сялянскага насельніцтва ў Гродзенскай губерні ў першае дзесяцігоддзе XIX ст. быў дасягнуты за кошт аднаго павета – Лідскага. Тут колькасць сялянскіх рэвізскіх душ узрасла за 1800 – 1811 гг. на 6 361 чалавека! На 509 сялян павялічылася колькасць насельніцтва Навагрудскага павета. Ва ўсіх астатніх паветах колькасць сялян ці засталася без зменаў, ці паменшылася на 200 – 500 чалавек. Найбольшае скарачэнне сялянскіх рэвізскіх душ назіралася ў Брэсцкім павеце – на 883 чалавека. Дэмаграфічную сітуацыю пачатку XIX ст. нельга лічыць ідэальнай, але казаць, падобна польскаму гісторыку Янушу Івашкевічу, аб скарачэнні насельніцтва гістарычнай Літвы на 20 % нельга [58, а.137 – 137ад.].

У якасці галоўных прычын негатыўных тэндэнцый у дынаміцы насельніцтва варта адзначыць неўраджаі 1805 – 1807 г., ваенныя пастоі ды адыход пэўнай часткі насельніцтва. Але найбольш значны ўплыў на дэмаграфічныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі мелі рэкруцкія наборы. У 1793 – 1834 г. салдаты царскай арміі служылі 25 гадоў і рэдка дажывалі да адстаўкі. З ацалелых яшчэ менш жадала вяртацца да забытага сялянскага жыцця. Рэкрута можна разглядаць як выкрэсленага з грамадства чалавека. Не дзіўна, што провады рэкрута сумна нагадвалі хаўтуры. Беларусь не адразу адчула на сабе ўсе жахі рэкрутчыны. Пры Паўле І (1796 – 1801) руская армія скарацілася з 500 тысяч да 335 тысяч чалавек. Рэкруцкія наборы былі значна зменшаны, а ў 1796 і 1800 г. увогуле не праводзіліся. Можа таму насельніцтва Літоўска-Гродзенскай губерні крыху павялічылася ў 1795 – 1803 г. – з 585 594 да 591 060 чалавек.

Паводле П. Баброўскага, вялікія рэкруцкія наборы пачаліся ў Гродзенскай губерні з 1802 г. На жаль, архівы захавалі справы толькі з 1808 г. У 1802 – 1806 г. у расійскую армію з Гродзенскай губерні было ўзята 7 742 рэкрута. З іх 5 019 прызвалі ў 1805 – 1806 г., калі Расія вяла крывавую барацьбу з Напалеонам (Аўстэрліц, Прэйсіш-Эйлаў, Фрыдланд). Наўрад гэтыя хлопцы дажылі да 1812 г. Нават калі яны не загінулі ў баях з французамі ў Багеміі, Польшчы ці Усходняй Прусіі, іх чакалі руска-турэцкая вайна 1806 – 1812 г. ды руска-шведская вайна 1808 – 1809 г. Больш шансаў прыняць удзел у вайне 1812 г. мелі рэкруты, набраныя ў 1808 – 1811 г. (1807 г. рэкруцкага набору не было). Іх налічвалася 9 501 чалавек. Дадзеныя афіцэра Генеральнага штаба П.Баброўскага, Гродзенскага губернскага архіву і сучаснага даследчыка А.У.Ерашэвіча не супадаюць.

Сталічныя дадзеныя на 1 064 чалавека больш за колькасць асоб у губернскіх фармулярах. Асабліва вялікая разніца тычыцца па 1809 г. – 612 чалавек. Гэта быў другі запар вялікі рэкруцкі набор па 10 рэкрутаў

| Год рэкруцкага набору | Колькасць рэкрутаў з 1 000 душ | Колькасць рэкрутаў паводле НГАБ у Гродне | Колькасць рэкрутаў паводле П. Баброўскага | Колькасць рэкрутаў паводле А.У. Ерашэвіча |
|---|---|---|---|---|
| 808 | 110 | 2 589 | 2 792 | 2 792 |
| 1809 | 10 | 2 190 | 2 802 | 2 808 |
| 1810 | 6 | 1 418 | 1 675 | 1 675 |
| 1811 | 8 | 2 240 | 2 232 | 2 534 |
| Усяго | 34 | 8 437 | 9 501 | 9 809 |

ад кожнай 1 000 рэвізскіх (мужчынскіх) душ. Насельніцтва, відаць, ратавалася ўсімі магчымымі і немагчымымі сродкамі. Паводле Я.Івашкевіча, многія давалі хабар земскім іспраўнікам ды царскім афіцэрам альбо ўцякалі за мяжу. Шляхта замест добрых сялян пастаўляла слабых, хворых, калек. Часам лавілі ды здавалі замест сябе дэзерціраў з расійскай арміі ды валацугаў. Таму сапраўдная колькасць рэкрутаў з Гродзенскай губерні была меншай за канчатковую лічбу, якая дасягалася шляхам розных махінацый ды хітрыкаў. Каб забяспечыць армію добрымі салдатамі, улады з 1811 г. перанеслі рэкруцкія пункты толькі ў губернскія гарады і даручылі іх надзейным афіцэрам. Невыпадкова, што дадзеныя абедзвюх крыніц за 1811 г. найбольш блізкія. Нават губернскія на 8 чалавек большыя за сталічныя.

Заможныя людзі маглі дазволіць сабе афіцыйна адкупіцца ад рэкрутчыны. Напрыклад, у “Фармуляры прынятых у рэкруты па набору 1808 г.” насупраць 25-гадовага гродзенца Міхала Хрыстанава пазначана: “уплочана за яго грошамі”. Астатнія дзевяць гродзенцаў ва ўзросце ад 21 да 31 года папоўнілі царскія палкі: Ю.Арцішэўскі, І.Галубоўскі, А.Каваліцкі, П.Касугонвіч, М.Малевіч, М.Мірановіч, А.Станевіч, Ф.Стольвін, Ю.Шмялёў [46, а.52 – 54]. Увогуле грашовая рэкруцкая павіннасць у 1808 – 1811 г. у Гродзенскай губерні прынесла 330 601 рубель асігнацыямі і 12 459 рублёў серабром [165, с.306 – 309].

Вялікую цікавасць уяўляюць фармулярныя спісы рэкрутаў за 1808 – 1810 г., якія маюць разбіўку па паветах. Паводле іх у 1808 г. з Літоўска-Гродзенскай губерні было набрана 2 589 рэкрутаў. Больш за ўсіх далі Навагрудскі павет – 495 хлопцаў, Гродзенскі – 435, Кобрынскі – 360, Брэсцкі – 351, Слонімскі – 317, Лідскі – 280, Пружанскі – 221, Ваўкавыскі – 130 чалавек. Межы паветаў маглі парушацца. Некаторыя кобрынскія хлопцы ішлі праз брэсцкі і пружанскі спісы, а ваўкавыскія і лідскія – праз гродзенскі спіс [46]. Невядома, ў якія рэкруцкія дэпо трапілі гродзенскія рэкруты 1808 г.

Рэкруцкі набор 1809 г. даў 2 190 чалавек. З Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў – 434, Навагрудскага – 433, Кобрынскага – 309, Слонімскага – 302, Лідскага – 255, Брэсцкага – 244, Пружанскага – 213 [47].

Яны трапілі ў Глухаўскае дэпо 15-й пяхотнай дывізіі, Бранскае дэпо 16-й пяхотнай дывізіі, Каргопальскае дэпо 17-й пяхотнай дывізіі, Аланецкае дэпо 21 пяхотнай дывізіі, Ахтырскае дэпо 22 пяхотнай дывізіі.

Рэкруцкі набор 1810 г. павялічыў царскую армію на 1 418 хлопцаў з заходняга рэгіёну Беларусі. З Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў (другі раз лічыліся разам) – 338 чалавек, Навагрудскага – 270, Брэсцкага – 200, Слонімскага – 191, Лідскага – 162, Кобрынскага – 136, Пружанскага – 121 чалавек [48]. 1 070 гродзенскіх рэкрутаў былі накіраваны ў Бранскае дэпо 16 пяхотнай дывізіі. Паводле А.У.Ерашэвіча ў 1811 г. 1 000 гродзенскіх рэкрутаў трапіла ў Рослаўскае дэпо 11-й пяхотнай дывізіі і 1 534 – у Арлоўскае дэпо 7-й пяхотнай дывізіі.

У сакавіку 1812 г. цар Аляксандр I загадаў правесці дадатковы набор, але дакладных звестак аб ім у дачыненні да Літоўска-Гродзенскай губерні знайсці не ўдалося. Выключэнне складае вельмі няпоўная ведамасць ад 1813 г. з падлікам агульных страт рэвізскіх душ паміж 1811 і 1813 г. Паводле гэтага дакумента ў рэкруты з Гродзенскай губерні было ўзята 937 чалавек (без Кобрынскага і Лідскага паветаў, якія не далі дадзеных). П.Баброўскі сцвярджае, што афіцыйны набор у снежні 1812 г. даў 533 рэкруты з Заходней Беларусі. Значыць, яшчэ каля 500 чалавек магло быць прызвана вясной 1812 г. [50]. Дарэчы, абодва наборы – і ў красавіку, і ў снежні 1812 г. – адбываліся паводле нормы 2 рэкруты ад 1 000 душ. Гэта павінна было даваць па 520 – 530 чалавек. А.У.Ерашэвіч якраз і прыводзіць лічбу ў 1 049 чалавек, прызваных з Гродзенскай губерні ў сакавіку 1812 г. , але толькі за адзін прызыў. Пра снежаньскі прызыў гэты даследчык не ўзгадвае. Такім чынам, агульная колькасць рэкрутаў, набраных у заходнім рэгіёне Беларусі ў расійскую армію напярэдадні вайны 1812 г., павінна дасягаць 9 000 чалавек.

Да іх варта дадаць людзей, дабраахвотна завербаваўшыхся ў войска. Звычайна да падобнай формы камплектавання звярталіся кавалерыйскія палкі. Тут вялікае значэнне мелі ініцыятыўнасць, кемлівасць ды пэўны жыццёвы вопыт салдат, таму гвалтоўна прыцягнутыя рэкруты не заўжды адпавядалі кавалерыі. Ва ўспамінах Н.Дуравай захавалася апісанне вярбоўкі рэкрутаў у Конна-польскі ўланскі полк, якая адбывалася ў Гродне ў пачатку 1807 г. Па вуліцах горада хадзіў натоўп уланаў з музыкай, спевамі ды танцамі, якія запрашалі ўсіх маладых хлопцаў далучыцца да разгульнага жыцця. Завербаваўшыхся частавалі гарэлкай у карчме, дзе хлопцы і ўланы танцавалі мазурку. Свята хутка скончвалася, пачыналася цяжкая і небяспечная служба [116, с.62 – 63].

Такім чынам, заходні рэгіён Беларусі ў 1808 – 1811 гг. даў расійскай арміі каля 9 000 рэкрутаў, якіх хапіла б для ўкамплектавання цэлай пяхотнай дывізіі пяціпалковага складу. Увогуле ў 1802 – 1811 гг. рэкрутчына каштавала Літоўска-Гродзенскай губерні больш за 16 тысяч чалавек,

і натуральны прырост насельніцтва ўжо не паспяваў аднаўляць гэтыя страты.

## ВАЕННЫЯ ПАСТОІ ДЫ ГАСПАДАРЧЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Подых вайны адчуваўся ў Заходняй Беларусі задоўга да 1812 года. Памежны характар Літоўска-Гродзенскай губерні ў складзе Расійскай імперыі абумовіў знаходжанне тут вялікіх воінскіх злучэнняў. У 1802 г. у Гродне ўзгадваецца Мурамскі пяхотны полк. Магчыма, ён займаў кватэры ў Грандзічах і на Гарадніцы, дзе ў 1792 – 1795 г. часта размяшчаліся ліцвінскія ды расійскія войскі. Калі ў 1805 г. Расія ўмяшалася ў агульнаеўрапейскую барацьбу з Напалеонам, колькасць расійскіх войскаў на заходніх межах імперыі пачала імкліва ўзрастаць. Спачатку гэта былі асобныя часці генерала І.І.Міхельсона, якія прызначаліся для арміі М.І.Кутузава і збіраліся пераважна ў паўднёвай частцы Літоўска-Гродзенскай губерні. Пасля таго, як гэтае войска рушыла на дапамогу аўстрыйцам, на тэрыторыі Заходняй Беларусі адразу пачала канцэнтравацца новая расійская армія.

Першым у 1805 г. у Гродне з'явіўся расійскі корпус генерал-лейтенанта барона Ф.В. фон дэр Остэн-Сакена. З восені 1805 г. ў раёне Гродна пачала разгортвацца 40-тысячная Паўночная армія генерала ад кавалерыі Л.Л.Бенігсена. Яна з'яўлялася своеасаблівым стратэгічным рэзервам III антыфранцузскай кааліцыі (Англія, Аўстрыйская імперыя Габсбургаў, Неапалітанскае каралеўства Бурбонаў ды Расія). Пасля капітуляцыі аўстрыйцаў пад Ульмам (17 кастрычніка 1805 г.) расійская армія стала галоўнай сілай саюзнікаў. Войскі ў раёне Гродна налічвалі на той момант каля 20 тыс. чалавек. Яшчэ каля 30 тыс. расійскіх салдат рыхтаваліся фарсіраваць Нёман каля Юрбарка. Яны атрымалі загад рухацца ў Аўстрыю на дапамогу Кутузаву, але прускі кароль не дазволіў Паўночнай расійскай арміі прайсці праз сваю тэрыторыю – Беластоцкую акругу, якая адышла да Прусіі па выніках падзелаў Рэчы Паспалітай. Бенігсен страціў два тыдні на акольны шлях і не паспеў далучыцца да М.І.Кутузава напярэдадні няшчаснай для расіян бітвы пад Аўстэрліцам (2 снежня 1805 г.). Пасля перамогі Напалеона Бенігсен пацягнуўся назад пад Гродна, а рэшткі "аўстэрліцкай" расійскай арміі адыходзілі на Валынь і ў Брэсцкі павет, дзе іх узначаліў генерал Ф.Ф.Буксгеўдэн [121, 128, с.72 – 73, 108].

Неўзабаве, ў 1806 г. у вайну супраць Напалеона ўступіла Прусія, але яе "ўзорна-паказальная" армія была знішчана за адзін дзень – 14 кастрычніка 1806 г. у дзвюх бітвах пад Йенай і Аўэрштэдтам. Ізноў войска Бенігсена ператварылася ў галоўныя сілы антыфранцузскай кааліцыі. Яно налічвала чатыры дывізіі: А.І.Остэрман-Талстога, Ф.В. фон дэр Остэн-Сакена, Д.І.Галіцына і Седмарацкага разам – 67 тыс. чалавек пры 276

гарматах. 22 кастрычніка 1806 г. Бенігсен пачаў пераправу праз Нёман каля Гродна, Юрбурга і Аліты. Авангардам, які ішоў праз Гродна да Варшавы, камандаваў генерал-маёр Барклай дэ-Толі – будучы фельдмаршал і самы трагічны герой 1812 г. Напрыканцы лістапада 1806 г. расіяне дасягнулі Віслы і прадмесцій Варшавы. Праз паўночную частку Літоўска-Гродзенскай губерні – Брэсцкі павет – у Польшчу ўступалі расійскія корпусы Буксгеўдэна і Эссена, якія складаліся з палкоў, змагаўшыхся пад Аўстэрліцам. Усяго восенню 1806 г. праз заходні рэгіён Беларусі на захад прайшло каля 160 тыс. вайскоўцаў. З іх як мінімум 50 тыс. чалавек прыкладна год (восень 1805 – восень 1806) правялі на тэрыторыі Гродзенскай губерні. Утрыманне такой ваеннай армады абыходзілася не танна, асабліва калі ўзгадаць трохгадовы неўраджай 1805 – 1807 г.

Давялося Заходняй Беларусі ўбачыць і рэшткі расійскай арміі, якая пакідала Усходнюю Прусію пасля паражэння пад Фрыдландам (14 чэрвеня 1807 г.). Паводле ўдзельніка той кампаніі А.П.Ярмолава, пасля Фрыдланда “армія наша была нешматлікай і страціўшай парадак. Яе вельмі аслаблялі людзі, якія адхіліліся ад палкоў пры адступленні ад Фрыдланда і на шляху да Нёмана. Збіраючыся вялікімі натоўпамі, яны прыходзілі рознымі шляхамі, здабываючы рабаваннем сабе харчаванне, і ў колькасці некалькіх тысяч перайшлі Нёман у Юрбургу, Аліце, Мерачы і асобныя нават у Гродне” [124, с.98]. Адпачыць у Панямонні расійскай арміі не давялося. Паводле Ф.Булгарына пяхотныя палкі былі ў вельмі благім стане і, акрамя таго, страцілі шмат людзей у выніку эпідэмічных хваробаў, якія лютавалі ў галоднай “Літве”. Ужо ў снежні 1807 г. большасць расійскіх палкоў была перакінута з Панямоння на новую вайну са шведамі ў Фінляндыю. Праз Санкт-Пецярбург войскі праходзілі ўначы, каб не палохаць абывацеляў жудасным выглядам і асабовым некамплектам [86, с.243].

Падпісаны ў 1807 г. на плоце пасярэдзіне Нёмана Тыльзіцкі мір і Расія, і Францыя разглядалі як чарговую перадышку. Неўзабаве з восені 1809 г. Расія пачала павялічваць сваю вайсковую прысутнасць у заходнім рэгіёне Беларусі. Ваенны міністр Варшаўскага герцагства Ю.Панятоўскі 1 студеня 1810 г. пісаў французскаму маршалу Н.Даву аб размяшчэнні ў раёне Гродна трох расійскіх палкоў. Мурамскі пяхотны полк размясціўся ў Гродне, два іншых па навакольных мястэчках і вёсках. Салдат было так шмат, што яны жылі па 6 чалавек у хаце. З Вільні ў Слонім была пераведзена артылерыя. Летам 1810 г. гэтыя часці былі адведзены з Панямоння да Дзвіны і Дняпра, дзе рускія актыўна будавалі ўмацаванні Дынабурга, Бабруйска і Мазыра [286, т.3, с.117].

У пачатку 1811 г., паводле Ю.Панятоўскага, небяспека з боку Расіі зноў узрастае. У лісце да саксонскага караля і па сумяшчальніцтву варшаўскага герцага Фрыдрыха-Аўгуста І ён пісаў, што ад Лібавы на Балтыйскім моры да Гродна разгорнута звыш 70-тысячная расійская армія, якая забяспечана ўсім неабходным для далейшага руху. Расіяне нядаўна

падцягнулі тры дывізіі, адна з якіх размешчана ў Навагрудку. Для забеспячэння гэтай арміі Віленская і Гродзенская губерні паставілі 108 576 пудоў іржаной мукі і 73 107 пудоў аўса. У сакавіку 1811 г. колькасць расіян дасягнула 80 тыс. чалавек, і яны пачалі канцэнтравацца ў трохкутніку Вільна-Гродна-Беласток. Панятоўскі вельмі баяўся, што гэта армія за "2 – 4 добрых перахода" ад Гродна дасягне Варшавы і літаральна праглыне невялікае 30-тысячнае войска Варшаўскага герцагства [286, т.3, с.167 – 168].

Сапраўдны стан рэчаў быў крыху іншым. У маі 1811 г. на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні з'явілася першае вялікае расійскае вайсковае злучэнне – корпус генерал-лейтэнанта Эссена 1-га, які перамясціўся з Вільні ў Слонім. У кастрычніку 1811 г. у Брэсцкі павет з Валыні перамясціўся корпус генерала Дохтурава. Гэтыя часці знаходзіліся ў стане перафарміравання і папаўнення і не ўяўлялі пакуль сапраўднай небяспекі [290, т.1, с.185 – 187]. Панятоўскаму не трэба было турбавацца. Відавочна, расійскае камандаванне само не ведала сваіх планаў і размяшчала войскі ўздоўж усёй заходняй мяжы. Вось як выглядаюць перамяшчэнні Маларасійскага кірасірскага палка:

а) пачатак 1809 г. – зімовыя кватэры ў мястэчку Біржы (Літва);

б) лета 1809 г. – ваколіцы Рыгі, на падножным корме;

в) восень 1809 г. – марш у Гродзенскую губерню;

г) зіма 1809-1810 г. – зімовыя кватэры ў мястэчку Зэльва, дзе эскадроны кірасір былі расцягнуты ўздоўж ракі Зяльвянкі ажно да вёскі Пескі (зараз у Мастоўскім раёне);

д) вясна 1810 г. – Маларасійскі кірасірскі полк перакінуты ў Іўе;

е) лета 1810 г. – ваенны лагер каля Ашмянаў, дзе на працягу шасці тыдняў ішлі бясконцыя страявыя вучэнні, агляды і каравулы. У верасні ў Ашмянах полк аглядалі камандзір корпуса граф Пален і камандзір дывізіі Канаўніцын;

ж) восень 1810 г. – полк размясціўся на адпачынак ад Іўя да Бакштаў (зараз вёска ў Іўеўскім раёне);

з) пачатак 1811 г. – полк атрымаў загад зімою перайсці ў Кіеўскую губерню;

і) люты 1812 г. – Маларасійскі кірасірскі полк перадыслацыруецца з Кіеўскай у Валынскую губерню да аўстрыйскай мяжы;

к) май 1810 г. – полк рушыў у Гродзенскую губерню, дзе ў мястэчку Янава (Йонава ў Літве) уліўся ў склад 2 кірасірскай дывізіі генерала Кнорынга, пасля чаго праз Навагрудак – Слонім накіраваўся у Пружаны на злучэнне з 2-й рускай арміяй [232, с.363 – 369].

Гэтыя бесперапынныя ды бессэнсоўныя маршы мелі свае станоўчыя бакі. У 1812 г. рускія войскі аказаліся больш манеўранымі за французаў і добра ведалі тэатр ваенных дзеянняў.

Пастоі і паходы вялікіх вайсковых злучэнняў вельмі абцяжарвалі мясцовую гаспадарку. Н.Дурава ўзгадвае, з якой неахвотай вясной 1807

г. тутэйшае сялянства частавала сваіх нечаканых пастаяльцаў з царскіх палкоў ды хавала бульбу і збожжа. Пры гэтым Н.Дурава адзначала: “Які галодны край гэта Літва! Жыхары настолькі бедныя, бледныя, худыя ды запалоханыя, што без жалю немагчыма на іх глядзець” [116, с.56]. Вясной 1812 г. часта адзначаліся выпадкі, калі тутэйшыя паны адмаўлялі вайскоўцам у харчаванні і фуражу. Наўрад гэта было выклікана толькі антырускімі настроямі шляхты. Сказвалася галеча пасля няўраджаю 1811 г. Паводле ўспамінаў капітана І.Т.Радажыцкага, ў сакавіку 1812 г. пад час маршу 2-й артылерыйскай брыгады праз Пружаны – Слонім – Ваўкавыск – Масты – Ліду – Вільна правіянт здабывалі пагрозамі і сілай. Капітану запомніўся нейкі стары пан харунжы ў Беняконях Лідскага павета, які ніяк не жадаў забяспечваць расіян фуражом [205, с.25 – 27]. Асабліва цяжкае становішча склалася ў ваколіцах Зэльвы. Некалькі гадоў запар тут размяшчаліся на пастой кавалерыйскія часці, а гэта не толькі людзі, але і коні, якіх трэба было забяспечыць усім неабходным. У выніку вясной 1812 г. у раёне Зэльвы пачаўся сапраўдны голад, таму што зімаваўшы тут IV кавалерыйскі корпус генерал-маёра графа К.К.Сіверса (32 эскадроны, каля 4 500 кавалерыстаў і 12 гармат) з’еў усе збожжа. Сяляне харчаваліся бардою. Аляксандр І нават загадаў раздаць хлеб з дзяржаўных запасаў, каб выратаваць насельніцтва ад галоднай смерці [177, с.9].

Армія патрабавала не толькі правіянту і фуражу. У маі 1812 г. Літоўска-Гродзенская губерня была абавязана паставіць расійскай арміі 750 “парных фур з коньмі і людзьмі”. Для галоўных сіл – 600 фур у Свянцяны, для VI корпуса ў Слонімскім і Лідскім паветах – 150 фур, “куды пажадае яго камандзір”. Да гэтага абоза трэба было дадаць 187 чалавек, 93 каня і 46 фурманак у якасці запасных. Хутка з’явілася новае патрабаванне – дадаткова да асноўных паставак даставіць з Гродзенскай губерні (пажадана з паветаў, дзе не былі раскватараваны расійскія войскі) 800 валоў і 10 тыс. вёдраў віна. Кожнае вядро ў 80 чарак. Для галоўнай арміі ў Вільна і Свенцяны, для VI корпуса ў Гальшаны Ашмянскага павета [89, с.96 – 99]. У красавіку 1812 г. сіламі мясцовага насельніцтва рамантаваліся масты і дарогі. Паводле скаргі камандзіра Таўрычыскага грэнадзерскага палка палкоўніка Сулімы, горш за ўсё гэтая праца ішла ў Ашмянскім павеце. Грашовыя запасы з Гродзенскай губерні ў чэрвені 1812 г. вывезлі ў Вільню. Гэта сума складалася з 1 650 замежных і 80 рускіх чырвонцаў (золата), 16 500 піястраў і 80 494 руб. 84 кап. (серабро), 148 925 руб. асігнацыямі і 2 251 руб. (медзь). Заўважым, што ўсе медныя грошы – звыш 3 000 руб. у 1812 г. вывесці не ўдалося. Яны важылі каля 200 пудоў, і для іх не знайшлося транспарта [89, с.49 – 50].

Дзякуючы каласальным намаганням расійскае войска на заходніх межах імперыі было забяспечана ўсім неабходным. Паводле сведчання

начальніка Галоўнага штаба 1-й расійскай арміі А.П.Ярмолава, ў пачатку 1812 г. у Беластоцкай вобласці, Віленскай і Гродзенскай губернях меліся "агромістыя магазіны", якія былі эвакуіраваны ці знішчаны летам 1812 г. Для іх напаўнення ў мясцовага насельніцтва збіралі хлеб у лік падатных нядаімак [128, с.124]. Карысная ў іншых умовах справа пакінула тэрыторыю літаральна без збожжа. Тым больш неверагодна, што напярэдадні вайны 1812 г. заходні рэгіён Беларусі забяспечваў правіянтам не толькі расійскую, але і французскую армію.

Галоўнай базай Напалеон абраў Данцыг (сучасны Гданьск), дзе ствараліся вялізныя магазіны. Уздоўж ракі Одэр была расцягнута сетка меншых складоў. Напалеон добра плаціў сваім пастаўшчыкам – у 2 – 2,5 раза больш чым у Расіі. Для памежнай Літоўска-Гродзенскай губерні гэта стварала вялікія спакусы. Бык у Панямонні каштаваў 10 – 12 чырвонцаў, а ў Варшаўскім герцагстве – 25 – 30 чырвонцаў (дукатаў). Зразумела, што хутка знайшліся кемлівыя людзі, якія выкарысталі гэтую спрыяльную кан'юнктуру. Хлеб і буйны рагаты скот з Заходней Беларусі ў вялікай колькасці "рушыў" на захад. Уздоўж Буга ў Беластоцкай вобласці і ў паўднёвай частцы Гродзенскай губерні пышна актывізавалася кантрабанда. У яе былі ўцягнуты памешчыкі, мытныя чыноўнікі, гандляры яўрэі і нават казакі з аванпастоў расійскай арміі. Своеасаблівай "Меккай" кантрабандыстаў сталі мястэчка Крынкі і горад Драгічын на Бугу [129].

Незаконны гандаль набыў такі размах, што аб ім праз тайную паліцыю стала вядома імператару Аляксандру І. Цар загадаў гродзенскаму губернатару В.С.Ланскому ды кіраўніку Беластоцкай вобласці Шчарбініну прыняць неадкладныя меры па спыненню кантрабанды, але ў мясцовай улады нічога не атрымалася. Тады ў Гродзенскую губерню быў накіраваны палкоўнік В.І.Левенштэрн з двума эскадронамі Марыўпальскага гусарскага палка. У выніку аперацыі было арыштавана 27 чалавек – шляхціцаў, чыноўнікаў ды яўрэяў, якія замест падкупленых казакаў нечакана сутыкнуліся на мяжы ўздоўж Буга з гусарамі Левенштэрна. Царскі эмісар размясціўся ў маёнтку князя Адама Чартарыйскага ў Волчыне, куды дзесяткамі звозілі кантрабандыстаў ды сотнямі збягаліся іхнія сваякі. Мытныя чыноўнікі прапанавалі Левенштэрну 5 000 чырвонцаў ды "яўрэі-фактары польскіх паноў" прапанавалі ад сябе 4 000 чырвонцаў, каб закрыць гэтую справу. Аднак Левенштэрн вырашыў пакараць кантрабандыстаў як дзяржаўных злачынцаў. Яны былі закаваны ў кайданы і пад канвоем адпраўлены ў Вільню. Гэта на нейкі час прыпыніла кантрабандны гандаль з будучым праціўнікам. Вялікую дапамогу Левенштерну аказаў драгічынскі гараднічы Цігорскі і чыноўнікі Беластоцкага гарадскога кіравання [129, 177, с.7 – 8].

## ПОЛЬСКАЕ ПЫТАННЕ Ў ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ Ў ЧАСЫ НАПАЛЕОНАЎСКІХ ВОЙНАЎ

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай з палітычнай карты Еўропы знікла Вялікае княства Літоўскае. Загінулі дзве дзяржавы, якія складалі канфедэрацыю "ад мора да мора", але не загінулі народы гэтых краін – палякі і ліцвіны. У вельмі папулярнай з 1797 г. песне польскіх легіёнаў у Італіі "Мазурка Дамброўскага" (аўтар Ю. Выбіцкі, музыка народная; з 1926—афіцыйны гімн Польшчы "Яшчэ Польска не загінула") ёсць такія словы (пераклад В.Шведа):

Яшчэ Польшча не загінула,<br>
Пакуль мы жывем.<br>
Што чужая моц вырвала,<br>
Шабляй адаб'ем.<br>
У першапачатковым тэксце песні спявалася:<br>
Немец, Маскаль не асядзе,<br>
Калі, ўзяўшы палаша,<br>
Дэвізам нашым згода будзе<br>
І Айчына наша.

Мэтай польскага нацыянальнага руху, у якім удзельнічалі і ліцвіны, было адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах да першага падзелу ў 1772 г. Аўтары брашуры "Ці могуць палякі дабіцца незалежнасці?" Ю. Паўлікоўскі, К. Князевіч, А.-Т. Касцюшка пісалі: "Мы павінны разглядаць Польшчу ўвесь час у яе першапачатковых межах, бо дабрадзейны грамадзянін ніколі не павінен забываць, што падзел быў несправядліваю справай, таму трэба заўсёды спадзявацца, што гэтыя скупыя ваўкі (як назваў Мірабо манархаў, якія падзялілі Польшчу) не ўтрымаюць у сваіх пашчах захопленай здабычы... Няўжо мы думаем, што ў землях, захопленых аўстрыйскімі і расійскімі манархамі, няма польскіх сэрцаў, няма шляхетных душаў, якія любілі бы вольнасць і шчасце сваіх сабраццяў" [132, с.154, 155 – 152, 156].

Яны, несумненна, былі, бо большасць ліцвінаў марыла аб адраджэнні ВКЛ у складзе адроджанай Рэчы Паспалітай, аб рэстаўрацыі уніі Польшчы і Літвы. Падаўленне паўстання 1794 г., якое скончылася штурмам прадмесця Варшавы (забіта 13 340, патанула ў Вісле падчас пераправы 8 тыс., трапіла ў палон 10 тыс. чалавек), выклікала ў палякаў і ліцвінаў нянавісць да Расіі і жаданне адпомсціць заваёўніку іх агульнай дзяржавы [118, с.137, 299, с.14]. Польскі даследчык Ф.Канечны на гэты конт пісаў: "Перамога такая, як Суворава, надзвычай апладняе зямлю... але чым? Гэта пасеў абражанага пачуцця чалавечай годнасці; ад такога пасеву мусіць паўстаць заклік аб помсце да нябёс, не перастаючы, пакуль не дачакаецца плоду і выканання пакараньня, адпаведнага подласці злачынства. Хто спазняецца з помстаю за такія жахі, як разня Прагі, той

спакушае Бога; а хто да такога злачынства дадае яшчэ новыя, нараджае барацьбу не дзяржавы з дзяржаваю, народа з народам, а барацьбу дабра са злом на зямлі...” [258, с.334].

Гродзенскі губернатар В.С.Ланскі, на падставе сваіх назіранняў і рапартаў мясцовай улады напісаў у лютым 1807 г. аб палітычным становішчы ў Літоўска-Гродзенскай губерні наступнае: “...азнаёміўшыся з мясцовым настроем, нельга не заўважыць усяляк схаваную схільнасць да перамены; мэтаю яе ёсць адна летуценная вольнасць; жаданне; не сцёртае яшчэ з памяці народнай былое праўленне, якога цэлая сістэма, заснавана на гэтай вольнасці... Пазнанне маё вобраза думак тутэйшых без сумнення ўпэўнівае мяне, што бяздзейнасць, падстракаемая спакушэннямі непрыяцеля вядомымі пракламацыямі, за мяжой распаўсюджанымі, мацнейшая на большую частку жыхароў гэтага краю, у ім агонь крыецца пад попелам, мае ўплыў, чым благадзенства, якімі цешуцца яны пад скіпетрам Расіі” [4, а.42 – 42 адв.].

Літва чакала Напалеона. Вайна супраць Расійскай імперыі ў некаторым сэнсе была для палякаў і ліцвінаў Айчыннай – толькі разгром Расіі мог вызваліць іх Радзімы і аднавіць Рэч Паспалітую. Пра гэта цудоўна напісаў ліцвін Адам Міцкевіч у “Пане Тадэвушы”:

> ...Калі камета
> З’явілася, народ чакаў: што ж будзе –
> Сканчэнне свету ці, пры нейкім цудзе,
> Здзяйсненне запаветнай мары – воля?

І не проста чакала. Яшчэ да 1812 г. :

> ...хлапцы ўначы знікалі
> З двароў, засценкаў. Лесам, балатамі,
> Праз тоні – самаробнымі плытамі,
> Крадком ішлі к рацэ і, покуль цёмна,
> Старалісь адолець строму Нёмна.
> Калі ж такі, нырнуўшы з хваль, на бераг
> Выходзіў, першае, што бачыў, – шэраг
> Легіянераў “Ксенства Варшаўскега”.

Міцкевіч нават называе некалькі прозвішчаў тых, хто “перасёк Нёмана глыбіні”: два Межаеўскія, Абуховіч, Гарэцкі, Абалеўскі, Пац, Яновіч, Ражыцкі, Бернатовічы, Губіч, Купсць, Гедымін. Польскі гісторык Г.Масціцкі пісаў, што за некалькі гадоў перад Панам Тадэвушам прабіраліся ліцвіны да легіёнаў Дамброўскага. Неўміручай славаю пакрылі сябе ў баях ад Апенінаў да Сан Дамінга ліцвіны Рымкевіч і Казімір Малахоўскі [302, с.14]. Расійскія ўлады не былі гатовы шчыльна перакрыць мяжу. Брэсцкі гараднічы Логін Панцэрбітар 12 кастрычніка 1810 г. дакладваў гродзенскаму губернатару В.С.Ланскому аб тым, што “зносіны спыніць немагчыма... бо мытныя служачыя ... амаль усе польскай

нацыі і спрыяльная спружына злоўжывання”. Ён параіў замяніць усіх палякаў рускімі мытнікамі, на вернасць якіх можна будзе спадзявацца [8, а. 20 – 20 адв.].

У 1812 г. 14-гадовы Міцкевіч спрабаваў запісацца ў войска, але яму адмовілі. А ён вельмі чакаў гэтую вясну 1812 г.:

> О, і вясна той год была табе, мой краю,
> Вяшчункаю вайны і шчодрага ўраджаю,
> Цяжарнаю надзеяй, што ўжо блізка мэта.
> Каму пашчасціла тады ўсё бачыць гэта –
> І ў квецені лугі, і жыта красаванне:
> І фэст на вуліцах, і ўпотай хваляванне:
> Што ж будзе? – той яе запомніць да магілы.
> Яна і мне з’яўлялася вяснянкай мілай.
> Няволю зведаўшы, я і цяпер смуткую,
> Што на вяку спазнаў адну вясну такую.

Чаму з Напалеонам звязвалі свае надзеі ліцвіны і палякі? Бо справа Напалеона была для іх справай чалавечай вольнасці. У 1849 г. Міцкевіч напіша: “Што ж значыць гэтае імя? Яно азначае тыя асновы, якія народ абагасляў у асобе Напалеона: веру ў вялікі народ; веру ў прынцыпы, якія ён абвясціў; веру ў перамогу гэтых прынцыпаў; адзінства слова і справы; кароткае слова і далёка гучны подзвіг” [180, т.VI, с.205]. Напалеон быў для Міцкевіча і яго сучаснікаў-ліцвінаў носьбітам сацыяльнага і нацыянальна-палітычнага вызвалення.

Пры гэтым ліцвіны хацелі толькі выкарыстаць дапамогу Напалеона. Вось як тлумачыў на нарадзе шляхты ў Дабжыне міцкевічаўскі персанаж паэмы “Пан Тадэвуш” Герваз:

> Стуль француз, адгэтуль рускі
> Гыр-гырр – і ў бой! Пачнуцца ператрускі,
> Цар – на цара, карона – на карону,
> А нам тут што чыніць? Сядзець варонай?
> Пакуль з вялікіх двух адзін другога
> Сагне, то мы, з благаслаўлення Бога,
> Біць будзем па слабейшых. Дзе не стрэнем –
> У горах, долах – чужака прыстрэлім:
> Слабак – слабейшага, сілач – бамбізу.
> Так спадцішка пад іх прыгнёт спаднізу
> Падточымся, спіхнем з сябе – і квіта!
> Зноў зажывем у Рэчы Паспалітай.

І як казаў другі персанаж паэмы Мацька:

> Польшчы трэба свой, з палякаў,
> Кароль патомны, скажам, з Пястаў, нашых ляхаў,
> А не французскі ці аўзонскі хлюсцік бацькаў.
> Давай такога з нашых Юзафаў ці Мацькаў.

Такі погляд на Напалеона замацаваўся нават у анекдоце, які занатаваў у “Кароткай гісторыі Беларусі” В.Ластоўскі: “Расказваюць, што калі Напалеон ішоў пад Маскву, ён нейдзе па дарозе сустрэў беларускую бабу і загадаў затрымаць яе і выпытаць, як яна хоча: ці каб француз пабіў расейца, ці каб расеец пабіў француза? Баба, паскрэбаўшыся ў галаве, сказала: “Ды я б, кажа, хацела, каб француз, заняўшы Маскву, пагнаў, пагнаў, ды і сам не вярнуўся!...” [156, с.95].

## ФРАНЦУЗСКАЯ І РАСІЙСКАЯ РАЗВЕДКА Ў ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ НАПЯРЭДАДНІ ВАЙНЫ 1812 г.

Абставіны ў Літоўска-Гродзенскай губерні напярэдадні вайны 1812 г. добра перадаў у сваёй шляхецкай гісторыі “Пан Тадэвуш” А.Міцкевіч. Вось, што ён пісаў пра тыя чуткі, якія распаўсюджваліся паміж насельніцтвам Навагрудчыны:

Не раз навіны, як каменне з неба,
Валіліся ў Літву. То ўбогі – хлеба,
То даць “капеечку на міласць” просіць
Бязрукі ці бязногі. Бог іх носіць
Па свеце, беспрытульных. З асцярогі
Той самы ўбогі ці дзяцюк бязногі
Аглянецца: хаця б свае ў суполцы
І не стаіўся дзе “слуга” ў ярмолцы,
І не прайшоў “мундзір чырвонашыі” –
Служака верны матухны-Расіі –
Паблізу, і пачне звычайна шчыра:
“Я з Польшчы і да вас ад камандзіра
Прысланы з легіёна...
... генерал Дамброўскі
Імкнецца ў Польшчу ды ў край літоўскі
З Італіі, дзе ён даўно з палякаў
Збірае легіёны...”

Распаўсюджвалі чуткі таксама бернардыны, пранікшыя праз мяжу:

Асвойтаўшыся, прапагандавалі
Той тайны друк, які ім там давалі
Перад адпраўкай. Мніх там выкалупваў
Газетку з ладанкі і ўсім праз лупу
Чытаў навіны ўголас. Там пісалі
Пра польскі ўдзел у ходзе ўсіх баталій,
Пра лік салдатаў, доблесць легіёнаў,
Давалі поўны пералік імёнаў
Герояў – і паўзводна, і паротна, –
Адзначаных, з іх многіх – пасмяротна.

Ад Юзэфа Панятоўскага, галоўнакамандуючага войск Княства Варшаўскага, "не раз употайкі здалёку, з-за кардону" прыходзіў да наваградцаў ксёндз Робак, відаць, былы легіянер. Ён атрымліваў з-за мяжы навіны, шаптаўся са шляхціцамі, прыхаджанамі, "распытваў, услухоўваўся і перапіску вёў з многімі, але да лістоў нават блізка не падпускаў нікога", "цішком ідзе ў двары, нясе надзею ў сэрцы панам і засцянкоўцам", заходзіў у карчму да праваслаўных сялян, "каб расказаць халопам, што і як на свеце", казаў "змятайце смецце рознае і прыбірайце свой дом, рыхтуючы дастойную сустрэчу гасцям чаканым". Думаю, што Адаму Міцкевічу як маладому сведку падзей можна давяраць і ягоная кніга – сапраўдны дакумент напалеонаўскай эпохі.

А для недаверлівых спашлюся на знойдзеную ў НГАБ у Гродне справу "Па даносу памешчыка Цукербекера (фон Бушэна) на ксёндза Нарбута". Названы памешчык валодаў Мілейчыцамі і ў прашэнні на імя гродзенскага губернатара В.С.Ланскога скардзіўся, што ксёндз 29 мая 1809 г. гаварыў яго сялянам, што палякі, якія "цяперашнія саксонцы", у дзень Св. Яна "абавязкова будуць у названым мястэчку Мілейчыцы". Брэсцкі спраўнік Канстанцінаў правёў следства і даведаўся, што памешчыку данёс на Нарбута пісар Станіслаў Далубовіч, які ад сваіх слоў адмовіўся. Тое ж самае зрабіў аканом Трускоўскі, а таму следства было спынена і аб гэтым было адрапартавана літоўскаму генерал-губернатару М.І.Кутузаву [7, а.2, 10, 12].

Важным элементам падрыхтоўкі да вайны з Расійскай імперыяй Напалеон лічыў разведку. У 1810 г. у Варшаве было створана разведвальнае бюро, на чале якога спачатку быў Серрай, а потым дыпламат і гісторык барон Л.-П.-Э.Біньён. Паводле інструкцыі імператара, у яго кампетэнцыю ўваходзілі такія пытанні, як: ваенны шпіянаж, перлюстрацыя і пераклад перахопленых папер, дапрос дызерціраў і палонных, гандляроў, вандроўнікаў. У бюро было тры афіцэры, адзін з якіх адказваў за разведку на тэрыторыі Літвы (цяперашняя Заходняя Беларусь) і Белай Русі (цяперашняя Усходняя Беларусь) і меў у падпарадкаванні 12 агентаў. Апошнія сачылі за перадыслакацыяй, перасоўваннем расійскіх войск у заходніх губернях, назіралі за будаўніцтвам і дзейнасцю крэпасцей, збіралі інфармацыю аб настроях насельніцтва, органах улады, аб становішчы гаспадаркі, статыстычныя і тапаграфічныя дадзеныя, а потым прадстаўлялі вынікі ў бюро. Тут яны суміраваліся, запісваліся ў кнігі і перасылаліся Напалеону [73, с. 87 – 88].

Можа, сярод гэтых агентаў былі граф Плятэр і ягоныя сябры, якіх арыштавалі ў кастрычніку 1812 г. аж у Кагальніцкай станіцы на Дану? На допытах Плятэр паказаў, што з'яўляецца польскім палкоўнікам, які па загаду свайго ўрада ў 1811 г. разам з некалькімі чыноўнікамі выехаў у Расію пад выглядам бедных расійскіх афіцэраў. Маршрут пралягаў праз Радзівілаў, Маскву, Архангельск, Волагду, а адтуль – у розныя ўнут-

раныя губерні. Пабывалі яны ў Разанскай і Ніжагародскай губернях. Усюды Плятэр "здымаў стан гарадоў, рэк, пераправаў, рабіў іх мадэлі; назіраў, дзе ёсць умацаванні, ці маюць сяляне зброю, ці знаходзяцца па вёсках добрыя запасы хлеба і іншае". Звесткі аб тым, "што ў Расіі бачыў і чуў", адпраўляў Я.Дамброўскаму (з 20.03.1810 па 1.03.1812 камандуючы 2-й ваеннай акругі ў Познані, а потым – камандуючы 2-й польскай пехотнай дывізіі) праз свайго сябра Крэткоўскага [10, а.1].

Тэрыторыю Літвы запаланілі польска-французскія агенты пад выглядам артыстаў, настаўнікаў, музыкантаў, дактароў, вандроўных манахаў, землямераў (у Гродне, Смаленску, Мінску, Магілёве і інш.). Палітычнымі агентамі французаў былі Аляксандр Сапега, Франц Патоцкі, ад'ютант маршала Даву Шыдлоўскі, брыгадны генерал Лабунскі, брат каноніка віленскага. Згодна з афіцыйнымі рапартамі, усе яны агітавалі на карысць Напалеона, абвяшчаючы аб хуткім аднаўленні ім Каралеўства Польскага [277, с.54].

Паводле А.У.Ерашэвіча, А.Сапега арганізаваў у заходнім рэгіёне Беларусі сапраўдную шпіёнскую сетку. Так, тытулярны саветнік Брэсцкай мытнай заставы Ю.Паджарынскі ўжо напрыканцы 1806 – пачатку 1807 г. дастаўляў разведвальную інфармацыю напалеонаўскай арміі. Напярэдадні вайны 1812 года на Брэсцкай мытні дзейнічала цэлая група французскіх і польскіх агентаў [121, с.194].

Напярэдадні вайны разведвальныя функцыі выконваў генерал-ад'ютант Напалеона М.Ж.А. дэ Нарбон-Лара. 18-20 мая 1812 г. ён быў у Вільні, дзе меў тры сустрэчы з Аляксандрам І, каб зняць напружанасць, узнікшую ад расійскага ультыматума (патрабаванне вывесці французскія войскі з Прусіі) [88, с.381]. Але галоўнай мэтай была разведка: даведацца аб колькасці і дыслакацыі расійскай арміі, настроях мясцовага насельніцтва [126, с.601]. Нарбон сустрэўся з апазіцыянерамі з літоўскага (беларускага) і польскага дваранства. З дапамогаю сваіх польскамоўных ад'ютантаў (капітана Себасцьяні і лейтэнанта Раган-Шабо) і кур'ера Ф.Гара ён здолеў перадаць Напалеону каштоўную інфармацыю аб расійскай арміі [73, с.90].

Неацанімую паслугу аказаў Напалеону Міхал (Мішэль) Сакальніцкі (1760 – 1816), які перад вайной 1812 г. узначаліў спецыяльнае бюро пры Галоўным штабе арміі, створанае на падставе інструкцыі Напалеона міністру замежных спраў Г.Марэ ад 20.12.1811 г. Маючы вопыт разведвальнай працы, Сакальніцкі кіраваў вярбоўкай і працай агентаў у Прыбалтыйскіх губернях, Беларусі і Украіні [126, с.640]. У 1811 г. ён напісаў два мемарыялы: "Погляд на сілы, якія Расія можа выставіць да бою і на адпор, да якога можа быць здольная", "Погляд на тэатр вайны і на рухі, якія з аднаго і другога боку могуць надысці". Галоўную ўвагу Сакальніцкі звярнуў на "рускія правінцыі" былой Рэчы Паспалітай, якія, на яго погляд, павінны ўвайсці ў адроджаную Польшчу. Ён прапанаваў падняць

тут паўстанне (партызанскі рух), а асноўныя баі французскай арміі разгарнуць на тэрыторыі Літвы: на Нёмане, Бярэзіне, Смаленску. 10 лютым 1812 г. датаваны "Запіскі Мішэля Сакальніцкага, дывізіённага генерала на службе Яго Вялікасці Караля Саксонскага, графа Варшаўскага, афіцэра ордэна Ганаровага Легіёна, камандора польскага ордэна "За вайсковыя заслугі" [212, с.8 – 9].

Урывак з іх апублікавалі ў "Беларускім гістарычным часопісе" французскі даследчык Фернанд Бакур і беларускі гісторык Алег Яноўскі пад назваю "Выкладанне матываў з наступным выкладаннем агульных меркаванняў наконт палітыкі Расіі і Англіі ў адносінах да Еўропы". Як і ў мемарыялах 1811 г., Сакальніцкі лічыць Літву асноўным тэатрам будучай вайны, а таму звяртае ўвагу Напалеона на яе сінаптычную карту. Напрыклад, піша пра раку Нёман: "...рака даволі вялікая і звілістая. Месцамі яна цячэ спакойна, але месцамі яе плынь адрозніваецца стромкасцю. Берагі Нёмана, як, напрыклад, у раёне Гродна, зрэзаны глыбокімі ярамі. У раёне Мерача правы бераг ракі дамінуе. Гэта адзін з самых важных плацдармаў. У другіх месцах звычайна ўзвышаецца левы бераг, як, напрыклад, у Коўне ды вусці Дубіча. Нёман часта шырока разліваецца. Падысці да яго ў прынцыпе нескладана, але бываюць перыяды на працягу года, калі мясцовасць становіцца непраходнай". Сакальніцкі пісаў аб важнасці Гродзенскай гавані для забеспячэння французскай арміі пасля пераходу ракі, аб тым, што Літва не ведае недахопу ў фуражы і харчаванні, што літоўскія дамы невялікія і не абсталяваны для размяшчэння арміі (а таму трэба будзе разбіваць бівакі).

Сакальніцкі прапаноўваў Напалеону тактыку малой вайны на тэрыторыі Літвы, насельніцтва якой будзе спачуваць яму. "Не выключана, – піша ён, – што нават не паспеўшы ўступіць у бой, рускія ў гэтых умовах змогуць страціць большую частку Літвы, адчыніўшы Вялікай арміі шлях на Пінск, Слонім, Нясвіж, кінуўшы ўсе свае склады і ўступіўшы камунікацыі, якія звязваюць іх не толькі з Валынню і Украінай праз Мазыр, але і з цэнтрам краіны праз Рагачоў". На Літве разгарнецца партызанскі рух, і за два тыдні можна будзе сфармаваць 15-тысячны армейскі корпус і 6-тысячнае апалчэнне (цікава, што ў 1812 г. войска ВКЛ будзе прыкладна такой колькасці). Партызанскі рух, на погляд Сакальніцкага, можа арганізаваць і ўзначаліць князь Міхаіл Радзівіл – глава знакамітага роду. Месцам групоўкі апалчэння могуць стаць Валожынскія лясы, дзе збяруцца "ўсе слаі грамадства і ўсе тэрыторыі аж да Падняпроўя". [211; с.28, 30] З вышэйсказанага бачна, якую ролю павінен быў адыграць у вайне 1812 года заходні рэгіён Беларусі.

Каб нейтралізаваць дзейнасць напалеонаўскай агентуры і не дапусціць страты інфармацыі, па ініцыятыве ваеннага міністра М.Б.Барклая дэ-Толі ў пачатку 1812 г. была створана Асобная канцылярыя,

якая займалася супрацьдзеяннем французскай (і польскай) разведкі. Ажыццяўляўся збор і аналіз разведвальнай інфармацыі, выпрацоўваліся рэкамендацыі для камандавання расійскай арміі. Канцылярыя дзейнічала ў трох напрамках: стратэгічная разведка – пошук звесткаў за мяжой; тактычная разведка – збор ваенна-палітычнай інфармацыі аб войску праціўніка на мяжы; контрразведка – выяўленне і нейтралізацыя шпіёнаў (агентаў варожай краіны). Адносна Літоўска-Гродзенскай губерні нас больш цікавяць тактычная разведка і контрразведка. Тактычную разведку вялі як спецыялісты (рэзыдэнты, ваенныя каменданты памежных гарадоў, афіцэры расійскай арміі, размеркаванай каля межаў), так і насельніцтва памежных раёнаў (гандляры, артысты, яўрэі). Працу з агентамі вялі ў Беластоку палкоўнікі І.І.Турскі і К.П.Шчыц, у Брэсце – У.А.Анохін і барон Шанцэнбах, у 2-й арміі – І.В. дэ Вітт.

Найбольшым поспехам расійскай контрразведкі было выкрыццё групы напалеонаўскіх шпіёнаў з ліку чыноўнікаў Брэсцкай мытні: аб'ездчыка Бурджынскага, служыцеля Язерскага і сакратара Саковіча. Для ўладаў Варшаўскага герцагства яны актыўна збіралі інфармацыю ваеннага характару. Шпіёны былі арыштаваны ў чэрвені 1812 г. і накіраваны ў штаб 1-й заходняй расійскай арміі. Цікава, што мытны сакратар Станіслаў Саковіч з'яўляўся класічным двайным агентам. Адначасова ён збіраў звесткі на тэрыторыі Варшаўскага герцагства, за што быў прадстаўлены да павышэння ў чыне. Гонар выкрыцця гэтай шпіёнскай групы належаў ваеннаму каменданту Брэста Васілю Аляксеевічу Анохіну і брэсцкаму земскаму спраўніку, калежскаму асэсару Іллі Фёдаравічу Канстанцінаву [121, с.194 – 195].

Найбольшых поспехаў у разведвальнай дзейнасці расійскіх афіцэраў дасягнулі былы палкоўнік польскага войска Юзаф Турскі і маёр Шчарбінін, якія дзейнічалі ў Беластоку. Дзякуючы беластоцкаму хасіду Гіршу Гальперыну, які працаваў на карысць Расіі з ідэйных прычын і не атрымліваў грошаў, рускія даведаліся аб умацаваннях Замосця, Модліна, Сяроцка, варшаўскага прадмесця – Прагі і Гданьска. Сярод іншых яўрэяў-разведчыкаў варта нагадаць брэсцкіх заможных гандляроў: А.Вінаграда, Л.Зіскамавіча, З.Фрыдэнталя. Пэўную інфармацыю рускім прадаставіла пруская разведка, хаця фармальна Прусія лічылася саюзнікам Напалеона і выставіла ў склад “Вялікай арміі” дапаможны корпус [268, с.266 – 267]. Дзякуючы менавіта тактычнай разведцы, расійскае камандаванне загадзя даведалася аб пачатку вайны 24 чэрвеня 1812 г., аб канцэнтрацыі напалеонаўскіх войск паміж Коўна і Гродна. Расійскія камандуючыя атрымалі своечасова інструкцыі і трымалі войскі ў баявой гатоўнасці [73, с. 90, 74, с.22 – 25].

## СТАЎЛЕННЕ РАСІЙСКАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ЭЛІТЫ ДА ЗАХОДНЯГА РЭГІЁНУ БЕЛАРУСІ

Набліжэнне вайны і адсутнасць адзінага камандвання рабілі неабходнай асабістую прысутнасць цара на заходніх межах імперыі. 26 красавіка 1812 г. Аляксандр I з вялікай світай і асабістым штабам прыбыў у Вільню. Галоўныя мэты візіта – інспекцыя арміі і заваяванне сімпатый тутэйшай шляхты. Пачаліся бясконцыя вайсковыя агляды, нарады ды балі. У сярэдзіне мая ўсерасійскі імператар праз Лідскі павет рушыў у Гродна. Фактычна гэта быў агляд IV пяхотнага корпусу генерал-ад'ютанта графа П.А.Шувалава, галоўныя сілы якога размяшчаліся ў Лідскім павеце, а авангард генерал-маёра І.С.Дорахава – у Гродзенскім павеце. У Эйшышках, на сумежжы Віленскай і Гродзенскай губерній, Аляксандр I зрабіў смотр 23-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра А.М.Бахмецьева 2-га, якая ў значнай ступені была ўкамплектавана рэкрутамі набора 1811 г. з Віленшчыны. Потым цар наведаў маёнтак Воранава Клары Александровіч. 70-гадовая пані зрабіла выгляд, што не пазнала цара, называла яго паручнікам і скардзілася на лідскага правадыра дваранства Аляксандра Нарбута. Па яе словах ён абцяжарваў яе маёнтак падаткамі ды пастоямі, у тым ліку забраў на патрэбы арміі 6 коней. Звестак аб царскіх мерах на гэтую скаргу не захавалася. Раніцай 17 мая ў Ішчална ў маёнтку Карла Лясковіча Аляксандр I "пажадаў піць чай і снедаць". Дачка гаспадара Францішка зачаравала цара прыгожай ігрой на арфе ў спецыяльна абсталяванай круглай дываннай з высокім зводам па ўсіх правілах акустыкі. За гэта Францішка Лясковіч атрымала ад Аляксандра I каштоўны падарунак – брыльянтавую стралу. Паводле ўспамінаў барона А.Я.Разэна, ў 20-х гг. XIX ст. у вялікай зале маёнтка Ішчална ў залатой раме вісеў надпіс на пергаменце: "Такога года, месяца і чысла Аляксандр I Благаславенны ўдастоіў сваёй прысутнасцю замак Ішчалну". У Шчучыне Аляксандр I аглядаў тры палкі і тры артылерыйскія роты 11-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра М.М.Бахмецьева 1-га. Гэта дывізія была ўкамплектавана вялікай колькасцю гродзенскіх рэкрутаў набора 1811 г. [40, а.78; 153, с.40 – 41, с.69].

Увечары 17 мая 1812 г. Аляксандр I прыбыў у Гродна. Ля Скідзельскай заставы яго сустракалі выконваючы абавязкі галоўнакамандуючага М.Б.Баркалай дэ-Толі, шматлікі генералітэт. Ад заставы да дома губернскага правадыра дваранства цара праважалі мяшчане з харугвамі. Відавочна, гэта было ўрачыстае шэсце гродзенскіх цэхаў. Велізарны натоўп запоўніў вуліцы горада. Для забеспячэння парадку ў Гродна напярэдадні быў уведзены 1-шы егерскі полк палкоўніка М.І.Карпенкі. Вячэраў імператар у доме гродзенскага губернатара тайнага саветніка В.С.Ланскога. Потым адбылася нарада з ваенным міністрам, генераламі ды саноўнікамі, якая доўжылася да 2 гадзін ночы. Аляксандр I адпачываў у Гродне

ўсяго тры гадзіны. Ён загадаў разбудзіць сябе ў 5 гадзін раніцы 18 мая і пасля лёгкага снедання (кава і бісквіты) пачаў працу. Спачатку імператар аглядаў Ізюмскі гусарскі полк, потым 1-шы і 18-ты егерскія палкі. З 7.30 да 10.00 цар ездзіў за Нёман. У 12.00 ён ужо пакінуў Гродна і ад'ехаў у Вільню. Увечары 18 мая толькі шыкоўная ілюмінацыя нагадвала гродзенцам аб імклівым візіце гасудара [153, с.40 – 41; 232, с.172].

Дарэчы, гэта быў не першы візіт Аляксандра I у Гродна. Ён ужо наведваў горад 21 – 22 чэрвеня 1802 г. Тады цар прыняў парад Мурамскага пяхотнага палка, агледзеў кадэцкі корпус, пераведзены ў Гродна са Шклова, ды ўзнагародзіў гродзенскага губернатара Д.Р.Кашалёва і губернскага правадыра дваранства залатымі табакеркамі са сваім вензелем.

Шчыра кажучы, вялікага эфекту паездкі Аляксандра I не далі. Пытанні аб адзіным камандаванні і дакладных планах на выпадак вайны так і не былі вырашаны. Царскія візіты былі прыемнымі для панскага гонару, але шматлікая дробная шляхта з большай цікавасцю паглядала на захад і была ўпэўнена ў новай гучнай перамозе Напалеона.

Ды што казаць пра шляхту, калі нават расійскія саноўнікі не спадзяваліся захаваць Беларусь і Літву. Шмат хто імкнуўся пазбавіцца ад тутэйшых маёнткаў, атрыманых пасля падзелу Рэчы Паспалітай і падаўлення паўстання Касцюшкі. Асабліва паказальны ў гэтым сэнсе лёс маёнтка Кобрынскі Ключ, пажалаванага ў 1795 г. Кацярынай II фельдмаршалу Аляксандру Васільевічу Сувораву (6 922 душы мужчынскага полу альбо 13 279 душ абодвух палоў). Гэта было другое па велічыні "жалаванае ўладанне ў Літве" пасля 28 445 душ, падараваных Кацярынай II свайму фаварыту князю П.А.Зубаву. У снежні 1806 г. Напалеон фарсіраваў Віслу і пачаў на подступах да Усходняй Прусіі барацьбу з расійска-прускімі войскамі. 25 студзеня 1807 г. нашчадкі легендарнага генералісімуса жонка Варвара і сын Аркадзь пачалі распрадаваць свае беларускія ўладанні. Паколькі знайсці аднаго пакупніка на такі вялікі маёнтак было немагчыма, то Кобрынскі Ключ прадавалі па частках: Казіміру і Ганне Шэметам – два маёнткі, адзінаццаць вёсак і 413 душ, Данілу Мандрыкіну – шэсць вёсак і 285 душ, Антону Радзевічу – адзін маёнтак, тры вёскі і 282 душы, Густаву Гельвігу – адзін маёнтак, пяць вёсак і 664 душы. Тыльзіцкі мір 8 ліпеня 1807 г. не супакоіў Суворавых. Распрадажа працягвалася. 19 мая 1808 г. Густаў Гельвіг набыў уласна маёнтак Кобрынскі Ключ, дзесяць вёсак, зямлю ў Кобрыне "Падзамча" і 996 душ за 109 560 руб. асігнацыямі. 19 мая 1809 г. брэсцкі маршалак Ян Урсын-Нямцэвіч купіў у Суворавых маёнтак Ключ Чарвачыцкі, шэсць вёсак і 857 душ за 128 550 руб. асігнацыямі. Нарэшце, 11 кастрычніка 1810 г. Суворавы пазбавіліся апошняй часткі былой латыфундыі – шляхціц пружанскага павета Франц Врэйт за 105 600 руб. асігнацыямі набыў мястэчка і маёнтак Гарадзец ды дзве вёскі [35, арк.456 – 465].

Стаўленне Суворавых да сваёй беларускай маёмасці не было выключэннем. 18 красавіка 1812 г. граф Ілля Безбародка, брат вядомага кацярынінскага канцлера Аляксандра Безбародкі, прадаў Геранёны і Ліпнішкі за 534 тыс. рублёў слонімскаму маршалку графу Войцэху Пуслоўскаму. Яшчэ раней В.Пуслоўскі набыў у фельдмаршала графа П.А.-Румянцава ўрочышчы Плянту і Гарадзечна са складу Пружанскай воласці, якую Кацярына II падарыла Румянцаву ў 1795 г. Каб неяк заспакоіць сваіх паплечнікаў, Аляксандр I у апошнія гадзіны побыту ў Вільні летам 1812 г. дэманстратыўна купіў у генерала Л.Л.Бенігсена яго віленскі маёнтак Закрэты за 12 тыс. рублёў. Будучы начальнік штаба М.І.Кутузава пазбавіўся ад літоўскай маёмасці з вялікім задавальненнем. Яшчэ раней – у 1808 – 1810 г. – Бенігсен прадаў 250 рэвізскіх душ, якія ён атрымаў у “Літве” за ўдзел у падаўленні паўстання Касцюшкі.

Толькі генерал А.П.Тармасаў не паддаўся паніцы і захаваў за сабой пажалаваныя яму 6 жніўня 1796 г. Кацярынай II Жытомлю, Няменчын і Чырвоны Двор, усяго – 3 201 душу абодвух палоў [56, а.52 адв.]. Можа, па гэтай прычыне ў 1812 г. 3-я расійская армія на чале з А.П.Тармасавым гэтак упарта трымалася за паўднёвую частку Гродзенскай губерні і імкнулася прарвацца да Нёмана? Не жадалі адмаўляцца ад беларускіх уладанняў Ланскія. Гэты рускі дваранскі род займаў дзяржаўныя пасады ў Гродзенскай губерні і валодаў тут Збаражскім ключом Брэсцкай эканоміі – 1 760 рэвізскіх душ.

Пералічаныя асобы належалі да эліты Расійскай імперыі. Іх уладанні ў вялікарускіх губернях значна перавышалі беларускія маёнткі. Шмат простых служачых пакінулі свае беларускія фальваркі – адзіную ўласнасць, якую яны мелі – і ўпарта змагаліся з Напалеонам. У Гродзенскай губерні ў 1812 г. невялікія маёнткі мелі расійскія генералы Рубанаў, дэ Ласі, Дзіваў, Брыскорн, Сен-Пры, О’Рурк. Для гэтых людзей барацьба з Напалеонам і лёс заходніх губерній былі асабістай справай [56].

# БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ Ў ЧЭРВЕНІ-ЛІПЕНІ 1812 г. У ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ

## ПАМІЖ ІМПЕРЫЯЛІЗМАМ І НАЦЫЯНАЛІЗМАМ: СПАДЧЫНА РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ У ПАЛІТЫЦЫ І ПЛАНАХ НАПАЛЕОНА

22 чэрвеня 1812 г. французскім вайскам перад пераходам праз Нёман і ўварваннем на тэрыторыю былога ВКЛ зачыталі загад Напалеона, у якім ён падкрэсліваў, што вядзе вайну дзеля аднаўлення Польшчы ў межах 1772 года: “Салдаты! Другая польская вайна пачалася. Першая скончылася ў Фрыдландзе і ў Тыльзіце [...] Пойдзем жа наперад, пярой-

дзем Нёман […] Другая польская вайна будзе для французскай зброі такой жа славутай, як і першая”. Варта прывесці і прамову Панятоўскага перад адпраўкай польскага корпуса з Варшавы: “Сябры па зброі, ідзем ваяваць пад штандарамі цэсара. Памятайце, пераходзячы праз мяжу Княства, што ўваходзіце не на чужую зямлю, а на польскую. Нясіце зброю помсты ворагу і апеку суайчыннікам. Ідзем не заваёўваць, а вызваляць. Хопіць гэтага для палякаў! Няхай жыве цэзар!” [269, с.327].

Па словах польскага даследчыка М.Гандэльсмана, Напалеон з 1805 г. “уступіў на шлях, які вёў праз Польшчу. З гэтага часу “польская справа” будзе займаць ў яго палітыцы значнае месца і стане адным з пытанняў міжнароднай палітыкі” [279, с.165]. 19.11.1806 г. у прамове да польскіх дэпутатаў у Берліне Напалеон заявіў: “Ніколі Францыя не прызнавала падзелу Польшчы, бо ніколі гэты падзел з яе інтарэсамі не пагаджаўся... Хутка ўбачу 30 – 40 тысяч узброеных людзей, аб’яўлю ў Варшаве вашу незалежнасць, якая ад гэтага часу будзе стаяць нерухома... Хачу ведаць погляд усяго народа. Гэта ёсць адзіны момант для вас цяпер, калі яшчэ раз зможаце стаць народам”. Гэтую думку паўтарыў Напалеон і ў прамове да польскіх дэпутатаў у Познані 28.11.1806 г. [300, с.88 – 89].

7 ліпеня 1807 г. у Тыльзіце паміж Францыяй і Расіяй былі заключаны мірная дамова (з асобнымі і сакрэтнымі артыкуламі) і дамова аб наступальным і абаронным саюзе. У час перамоваў гаварылі аб польскіх землях пасля другога і трэцяга, часткова і першага падзелаў – яны пяройдуць пад панаванне саюзніка Францыі саксонскага герцага Фрыдрыха I (унука польскага караля Аўгуста III). Аляксандр I атрымаў Беластоцкую акругу, але не згадзіўся на ўжыванне слова “Польшча” ў назве створанай Напалеонам новай дзяржавы – таму назвалі яе Герцагства (Княства) Варшаўскае. Яно займала 140 тыс. кв. км і налічвала 2,6 млн. насельніцтва [307, с.390]. Як тут не ўзгадаць слоў гісторыка Гандэльмана: “Княства Варшаўскае ад самога свайго заснавання было зародкам дзяржавы для народа, які пасля страты незалежнасці на вузкай тэрыторыі збіраў свае сілы і рыхтаваўся да адбудовы цэласнасці. Пад апекай, амаль што пад куратарствам чалавека, які доўгі час выглядаў Усемагутным, Княства магло, Княства павінна было стаць П’емонтам Рэчы Паспалітай Польскай” [279, с.23].

Аб знаходжанні французскай арміі ў Княстве пісаў 16 верасня 1807 г. у “Запісцы аб становішчы дзяржаў у 1807 г.” невядомы аўтар: “Гэта, несумненна, цудоўная пазіцыя, калі разглядаць яе як аванпост для новых аперацый, у любым іншым выпадку яна з’яўлялася б вельмі абцяжарваючай. Такім чынам, нельга выкідаць з поля зроку яўную мэту, да якой імкнецца французская палітыка, а менавіта: аднавіўшы Польшчу на поўначы і захапіўшы Грэцыю на поўдні, тым самым канчаткова замацаваць сваё панаванне ў Еўропе”. Аб гэтым жа даносіў 14 студзеня 1808

г. кіраўніку Міністэрства замежных спраў М.П.Румянцаву пасол у Парыжы П.А.Талстой. На эрфурцкай сустрэчы Напалеона і Аляксандра I была падпісана 12 кастрычніка 1808 г. "саюзная канвенцыя", але Напалеон адмовіўся пісьмова пацвердзіць абяцанне вывесці французскія войскі з Варшаўскага герцагства. Другім пытаннем у дачыненні да Княства было пытанне аб яго межах. Напалеон за дазвол павялічыць тэрыторыю Княства за кошт Галіцыі згаджаўся на далучэнне да Расіі Дунайскіх княстваў [90, т.4, с.71, 150, 359, 361 – 363, 560, 647].

25 лістапада 1809 г. Каленкур атрымаў ад міністра замежных спраў Францыі Шампані паўнамоцтвы на заключэнне франка-рускай канвенцыі па Польшчы, і 4.01.1810 г. у Пецярбурзе яна была падпісана. У першым артыкуле яе гаварылася, што Каралеўства Польскае ніколі не будзе адроджана; у другім – што тэрмінамі "Польшча" і "палякі" ніколі не назавуць ніякія вобласці, якія ўваходзілі ў склад былога Каралеўства Польскага, ні для вызначэння яе жыхароў ці войскаў. Быў пункт-абавязацельства не павялічваць тэрыторыю Княства Варшаўскага за кошт абласцей, якія некалі належалі Польшчы [237, с.114]. Гарантам пагаднення павінен быў стаць шлюб Напалеона з вялікай княгіняй Ганнай, чуткі аб якім распаўсюджваліся ва ўрадава-дыпламатычных колах з канца 1809 г. Па палітычна-дынастычных меркаваннях шлюб не адбыўся [164, с.570; 225; с.222 – 223; 269, с.418]. Канвенцыя з гэтай нагоды не была ратыфікавана.

Пра будучае Польшчы Напалеон гаварыў паўнамёкамі і патрыятычны ўздым палякаў хацеў выкарыстаць у сваіх мэтах. Яму патрэбна была не адноўленая Польшча, а толькі польская армія Ю.Панятоўскага і польскія эканамічныя рэсурсы, база для разгортвання наступальных дзеянняў. Напалеон праводзіў дваістую палітыку: хацеў мець палякаў на сваім баку на выпадак вайны, а пазбегнуць яе праз занядбанне іх справы. Адначасова падштурхоўваў палякаў да вайны з Расіяй, патаемна пастаўляў ім зброю. Літоўскі гісторык Б.У.Дундуліс у кнізе "Літва ў час напалеонаўскай агрэсіі. 1807-1812" слушна піша: "Дэмагагічнымі заявамі па польскім пытанні ён (Напалеон) імкнуўся замаскіраваць сапраўдную мэту – перамагчы Расію і дабіцца поўнай гегемоніі ў свеце. Напалеонаўская Францыя мела сваю палітыку і стратэгію. Дэвіз гэтай палітыкі – "Францыя вышэй за ўсё". Напалеон не збіраўся ахвяраваць інтарэсы сваёй імперыі на карысць інтарэсаў Польшчы і Літвы... У прыгнечанай ім Еўропе не засталося б месца ні для вольнай Польшчы, ні для Літвы" [60, с.200].

У 1811 г. Напалеон паслаў у Варшаву барона Л.-П.-Э.Біньёна, які спачуваў палякам. На яго былі ўскладзены абавязкі "даць ураду Герцагства напрамак, які б падрыхтаваў яго да вялікіх перамен, якія маюць быць ажыццёўлены імператарам на карысць польскага народа". У Познані 30 мая 1812 г. Напалеон у сваёй прамове сказаў, што дапускае ства-

рэнне Генеральнай канфедэрацыі, якая звернецца да яго з просьбаю аднавіць былую Польшчу і затым закліча насельніцтва ўсёй былой Рэчы Паспалітай (акрамя Галіцыі) да паўстання і аб'яднання з Княствам Варшаўскім. Перш за ўсё Напалеон меў на ўвазе Літву (пад ёй ён разумеў усё былое ВКЛ у межах першага падзелу), паўстанне якой супраць Расіі было яму вельмі выгадна [288, с.9].

26 чэрвеня 1812 г. у Варшаве адкрыўся сейм, які выканаў "вышэйшы загад" Напалеона – 28 чэрвеня абвявіў сябе Генеральнай канфедэрацыяй Каралеўства Польскага і прыняў "Акт аднаўлення і незалежнасці старажытнага Каралеўства Польскага" ў межах, зразумела, да падзелаў Рэчы Паспалітай. 7 ліпеня была апублікавана "Адозва да палякаў", якія жывуць на тэрыторыі заходніх губерняў Расіі: "Зробім жа так, каб радзіма ўбачыла ўсіх сапраўдных сыноў сваіх, злучаных адзіным духам, адзінаю мэтаю і адзінымі непарыўнымі сувязямі. Агульны вораг разарваў вечныя саюзы братэрства; мы павінны спадзявацца, што агульны вызваліцель аб'яднае іх. Пададзім адзін аднаму рукі і вырашым аднадумствам, даверам, руплівасцю і агульным імкненнем да адной мэты падтрымаць святую справу – адраджэнне айчыны".

"Напалеон уваходзіў на Літву, – піша польскі гісторык Кукель, – з непрыкрытым радасным пачуццём, што з'яўляецца ў гэтыя хвіліны вызваліцелем вялікага народа, які свой лёс аддаў у ягоныя рукі, а разам з тым, што нясе права чалавека мільёнам людзей, агорнутых цяжкай няволей. Што ідзе ваяваць за гэта, паўтараў усім, сваім цывільным і вайсковым паплечнікам, французам і палякам, свайму войску, людзям, якія былі адданыя яму, і чужым, прадстаўнікам Літвы ў брам Вільні і прадстаўнікам цара ў самой Вільні. Але ў пачуцці, што ваюе за Польшчу, жадаў ад палякаў, асабліва ад палякаў з Літвы, аднадумнага, агульнага пад'ёму да барацьбы" [288, с. 389 – 390].

11 ліпеня Напалеон у Вільні прыняў Выбіцкага – главу дэлегацыі з адрасам ад Генеральнай польскай канфедэрацыі, але быў асцярожным, даў "вядомы адказ, афарбаваны словамі добразычлівасці да палякаў, абяцаннямі падтрымкі з дабаўленнем калі, калі, калі" [287, с.312]. А гаварыў Напалеон наступнае: "Калі б я панаваў у час першага, другога і трэцяга падзелаў, я ўзброіў бы ўвесь мой народ, каб падтрымаць вас... Я люблю вашу нацыю... Няхай Літва, Самагіцыя, Віцебск, Полацк, Магілёў, Валынь, Украіна і Падолія натхняюцца тым жа духам, які я сустрэў у вялікай Польшчы, і Вышэйшая воля поспехам святую вашу справу". Такім чынам, Напалеон адкрыта сказаў, што Літва і Беларусь могуць увайсці ў адроджаную Польшчу.

Усіх натхніла надзея далучыць значную частку, якая ўжо належала Расійскай імперыі. Гісторык Пічэта слушна пісаў, што польскае грамадства ў той час "...амаль не сумнявалася ў канчатковым выніку задуманага пахода і радасна ўглядалася ў бліжэйшую будучыню. Перад яго вачы-

ма не ў мроях і снах, а ў рэальных абрысах пастаянна стаяла адноўленая Польшча, у тым выглядзе, у якім яна знаходзілася да падзелаў... Усе жылі толькі Напалеонам. Толькі ён панаваў над розумамі. Яго лічылі апосталам вольнасці, аднавіцелем новай Польшчы" [180, т.VI, с.159]. Але Францыя часоў Напалеона Банапарта (дарэчы, як і часоў Бурбонаў, рэвалюцыі (Канвента, Дырэкторыі) захоўвала свае інтарэсы і не аказвала разумення захавання дзяржаўнасці Польшчы. Як напісаў польскі гісторык В.Фелдман: "У Парыжы змяняюцца ўрады, лагеры, геніі, сістэмы, не змяняецца толькі палітычны пастулат, паводле якога Польшча прызнаецца козырам у міжнароднай гульні, і больш нічым". Напалеон сам прызнаў у сваім дзённіку, напісаным на востраве св. Алены што дзейнічаў у польскім пытанні на сваю карысць – трымаў яго за страшыдла ў сваёй палітыцы да Расійскай імперыі [316, с.88]. Беларусь жа ў "польскай карце" Напалеона наогул была толькі разменнай манетай.

## ПАДСТАВА ВАЙНЫ: ПРАПОЛЬСКІЯ ДЭКЛАРАЦЫІ І КРОКІ НАПАЛЕОНА

"Праз тры гады я буду ўладаром света: застаецца адна Расія, але я раздаўлю яе", – гэты выраз Напалеона стаў хрэстаматыйнай ілюстрацыяй яго драпежніцкіх планаў у вайне 1812 г. Аднак часы нарманскіх конунгаў мінулі амаль тысячу гадоў таму. У пачатку XIX ст. для арміі ды грамадскасці трэба было абвясціць іншую, больш высакародную мэту кампаніі. Такой мэтай стала ідэя аднаўлення Польшчы. Большасць еўрапейцаў, нават варожыя Напалеону англічане, лічылі ганьбай падзелы Рэчы Паспалітай. Шмат хто з палякаў ажно з 1796 г. спадзяваўся на шчаслівую зорку Напалеона. Напалеон з 1803 г. пачаў разыгрываць у знешнепалітычнай дзейнасці "польскую карту", шантажуруючы ўдзельнікаў падзелаў Рэчы Паспалітай, асабліва Расію, ідэяй "аднаўлення Польшчы".

У выніку Тыльзіцкага міра ў ліпені 1807 г. на палітычнай карце Еўропы з'явілася новая дзяржава – Варшаўскае герцагства. Гэты прававобраз будучай Польшчы быў створаны з польскіх зямель, захопленых у 1772 – 1795 г. Прусіяй. Намінальным правіцелем герцагства быў прызначаны саксонскі кароль Фрыдрых-Аўгуст І (унук польскага караля Аўгуста ІІІ (1733-1764)). Сапраўдная ўлада была ў руках французскіх прадстаўнікоў у Варшаве, апошнім з якіх з'яўляўся Дамінік Прадт. Вайсковыя справы кантраляваў маршал імперыі Луі-Нікаля Даву. Пры гэтым Варшаўскае герцагства мела Канстытуцыю, складзеную па французскаму ўзору, Савет міністраў складаўся з польскіх грамадзян, двухпалатны Сейм і шэраг іншых дэмакратычных рысаў, самай галоўнай з якіх з'яўлялася асабістая вольнасць сялянства (атрыманая імі на 54 гады раней, чым у Расіі). У выніку перамогі над Аўстрыяй у 1809 г. Напалеон

павялічыў герцагства за кошт аўстрыйскай часткі 3 падзела Рэчы Паспалітай – "Новай Галіцыі" ("Старая Галіцыя" – вынік 1 падзела – пакуль заставалася ў Аўстрыі). Напярэдадні 1812 г. Варшаўскае герцагства мела 154 тыс. кв. км тэрыторыі, каля 4 млн. насельніцтва і амаль 70 тыс. войска для вайны з Расіяй (48 тыс. пяхоты, 17,2 тыс. кавалерыі і 1,5 тыс. артылерыі пры 104 гарматах). Большасць польскіх патрыётаў спадзявалася, што вайна 1812 г. прывядзе да разгрому апошняга "разбёрцы" – Расіі і аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. як польскай дзяржавы [308, с.179 – 187]. Паводле дэ Сегюра, "польскае пытанне" прысутнічала як напярэдадні, так і пад час "кампаніі 1812 г.". Шосты пункт перадваеннай тайнай дамовы паміж Францыяй і Аўстрыяй прадугледжваў магчымасць перадачы пасля вайны Польскаму каралеўству Галіцыі (дакладней – "Старой Галіцыі" са Львовам). У якасці кампенсацыі Аўстрыя павінна была атрымаць "Ілірыйскія правінцыі" на Балканах. У Віцебску ў жніўні 1812 г міністр Дарю раіў Напалеону не працягваць вайну. "Мяркую, што яна не нацыянальная – казаў Дарю, – увоз нейкіх англійскіх тавараў у Расію і нават ***заснаванне польскага каралеўства*** [курсіў аўтараў] не могуць з'яўляцца дастатковымі прычынамі для такой аддаленай вайны" [209, с.19 – 20, 53].

Мяжа Расійскай імперыі і вассальнай напалеонаўскай дзяржавы Варшаўскага герцагства пралягала ў некалькіх вярстах на захад ад Гродна па рацэ Ласосна. Шмат хто з паноў ды маладых шляхціцаў Літоўска-Гродзенскай губерні з захапленнем глядзелі на захад і чакалі далейшага пашырэння Польшчы. Вядомыя ў заходнім рэгіёне Беларусі магнаты: Дамінік Радзівіл, Людвіг Міхал Пац, Аляксандр Сапега, Тадэвуш Тышкевіч яшчэ да вайны 1812 г. падаліся ў Варшаўскае герцагства ды ўзялі ўдзел у працы яго ваенных ды грамадзянскіх устаноў. Вясной 1812 г. Л.М.Пац камандаваў 15-м уланскім палком арміі Варшаўскага герцагства, а ў кампаніі 1812 г. у якасці брыгаднага генерала знаходзіўся ў штабе Напалеона. Д.Радзівіл у 1811 г. за свой уласны кошт узброіў 8-мы ўланскі полк на чале якога ён прыняў удзел у вайне 1812 года. Усяго Д.Радзівіл ахвяраваў на патрэбы польскай арміі 216 тыс. злотых, з якіх 54 тыс. пайшлі на карысць 8 уланскага палка. Т.Тышкевіч у траўні 1812 г. быў прызначаны брыгадным генералам і камандзірам кавалерыйскай брыгады ў V (польскім) корпусе "Вялікай арміі". Але пад час адступлення з Масквы генерал Т.Тышкевіч трапіў у палон. У пачатку вайны 1812 г. Напалеон далучыў да французскай кавалерыйскай брыгады Бардэсуля са складу сваёй гвардыі 50 польскіх уланаў, большасць якіх добра ведала дарогі паміж Вільна – Ашмянамі – Гродна і, відавочна, паходзіла з гэтай тэрыторыі [288, т.1, с.311].

Паводле Ф.Булгарына, яшчэ ў 1810 г. камунікацыі паміж Расіяй і Варшаўскім герцагствам былі вольнымі. Губернатары без перашкод выдавалі пашпарты ў Варшаву: "Мноства шляхціцаў, багатых і бедных,

служылі ў польскім войску герцагства Варшаўскага, і ледзь не трэцяя частка афіцэраў былі з рускіх правінцый. Некаторыя багатыя людзі прыводзілі з сабой па некалькі соцен чалавек шляхты, абмундзіроўвалі ды ўзбройвалі іх за свой кошт, фарміравалі роты, эскадроны, батальёны і нават цэлыя палкі". Булгарын трапна заўважыў шляхецкі характар напалеонаўскай істэрыі ў Польшчы. Кандыдатаў у афіцэры (зразумела – шляхціцаў) ў Варшаўскім герцагстве хапіла б на войска ў 300 тыс. чалавек, але з наборам салдат былі вялікія праблемы [86, с.657].

У заходнім рэгіёне Беларусі нарадзіліся яшчэ некалькі генералаў арміі Варшаўскага герцагства. Найбольш вядомым з іх з'яўляўся брыгадны генерал Сікстус Эстко (1776 – 1813) – пляменнік Т.Касцюшкі. Ён паходзіў з Брэста і ў 1812 г. не трапіў на Беларусь, а камандаваў польскім палком у Іспаніі. Больш "пашанцавала" ўраджэнцу Навагрудка Каралю Чэславу Пакашу (1776 – 1812). Пад час вайны 1812 г. гэты былы ад'ютант Дамброўскага і варшаўскага герцага Фрыдрыха-Аўгуста камандаваў пяхотнай брыгадай у 17-й (польскай) дывізіі ля Бабруйска. Паранены пад Барысавым К.Ч.Пакаш трапіў у рускі палон, дзе хутка памёр [267]. Сярод менш вядомых польскіх вайскоўцаў часоў Варшаўскага герцагства захаваліся імёны гродзенцаў Юзафа Гарэцкага, Юзафа Бжазіны, Яна Валовіча, Карла Грыгаровіча, Яна Загурскага, Юзафа Кунцэвіча, Станіслава Ласковіча, Юзафа Хабжыньскага. Усе гэтыя людзі мелі сваякоў ды знаёмых у Панямонні, праз іх Гродзенская губерня вельмі хутка і дакладна даведвалася аб падзеях у Варшаве.

Далёка не ўсе палякі спадзяваліся на Напалеона. Скептычна адносіўся да імператарскай Францыі і застаўся ў баку ад напалеонаўскай эпапеі першы сапраўдны нацыянальны герой Польшчы Тадэвуш Касцюшка (яго малая радзіма знаходзілася ў Кобрынскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні, а сам Касцюшка заўжды падкрэсліваў: "Нарадзіўся я ліцвінам"). Напярэдадні вайны пакінуў Вільню разам з рускімі Тамаш Ваўжэцкі – апошні камандуючы войскам пад час паўстання 1794 г. Але іх крытычныя заўвагі былі заглушаны магутным хорам прыхільнікаў Напалеона, якія славілі "Напалеона Вялікага", "Пасланца Нябёс", "Уваскрасіцеля Польшчы", "Вялікага Пераможцу" і гэтак далей.

Як бы там ні было, а польская карта была абрана Напалеонам як найлепшая для ідэалагічнага абгрунтавання вайны з Расіяй. Яна надавала вайне справядлівы характар у вачах Еўропы, натхняла яго польскіх саюзнікаў і знаходзіла французскаму імператару новых сяброў у заходніх губернях Расіі. Напярэдадні пераправы праз Нёман 22 чэрвеня 1812 г. Напалеон звярнуўся з Адозвай да "Вялікай арміі": "Салдаты! Другая польская вайна пачалася. Першая скончылася ў Фрыдландзе і Тыльзіце. У Тыльзіце Расія прысягнула быць у вечным саюзе з Францыяй [...]. Другая польская вайна будзе слаўнай для французскай зброі, як і першая. Але мір, які мы заключым, будзе забяспечан і пакладзе канец гібель-

наму ўплыву, які Расія ўжо 50 гадоў аказвае на справы Еўропы" [226, с.44]. "Польскі" характар пахода Напалеон і яго падначаленыя будуць усяляк падкрэсліваць у першыя тыдні вайны. Вось як ад'ютант Напалеона граф Ф. дэ Сегюр перадае дыялог паміж першымі французкімі сапёрамі і раз'ездам казакаў на правым беразе Нёмана ў ноч з 23 на 24 чэрвеня 1812 г.:

– Што вам трэба, – запытаўся рускі афіцэр, – і навошта вы прыйшлі ў Расію?

Адзін з сапёраў адказаў яму рэзка:

– Ваяваць з вамі! Узяць Вільню! Вызваліць Польшчу! [209, с.33].

Тры роты польскіх стралкоў першымі пераправіліся праз Нёман каля Коўна напачатку вайны. 28 чэрвеня 1812 г. першым з напалеонаўскіх палкоў у Вільню ўступаў 8-мы польскі уланскі полк на чале з князем Дамінікам Радзівілам. Сам Напалеон уязджаў у старадаўнюю сталіцу Вялікай Літвы акружаны польскімі гвардзейскімі палкамі. 29 чэрвеня 1812 г. першымі ў Гродна таксама ўваходзілі польскія часці Тадэвуша Тышкевіча і Казіміра Малахоўскага (абодва ліцвіны) з V польскага корпуса "Вялікай арміі". Маршал Даву 8 ліпеня 1812г. у Мінску аб'явіў жыхарам, што "непераможная армія Напалеона прыйшла для вяртання палякам айчыны".

Іншая справа, наколькі французскі імператар збіраўся рэалізаваць сваю праграму. Часам з вуснаў Напалеона чуліся цалкам супрацьлеглыя словы: "Няўжо думаюць, што я ахвярую амаль дзвюмастамі тысячамі французаў дзеля аднаўлення Польшчы?". Але ў пачатку вайны 1812 г. большасць салдат "Вялікай арміі" ды мясцовых жыхароў верыла, што пасля непазбежнай перамогі будзе адноўлена сапраўдная Польшча і самыя прадбачлівыя пыталіся аб тым, хто будзе насіць карону польскага караля.

Нягледзячы на абяцанні Напалеона, значная частка шляхты засталася абыякавай да барацьбы, а часта нават падтрымала Расію. Магчыма, гэтак адбіўся на настроях шляхты жах страціць прыгонных сялян. В.В.Вяземскі паведамляе аб сотнях памешчыкаў, якія ўцякалі з Брэсцкага павета на Украіну летам 1812 г. У Заходняй Беларусі з вядомых магнатаў гарачымі прыхільнікамі Расіі былі Міхаіл Клеафас Агінскі і Францішак Ксаверый Друцкі Любецкі. У баявых дзеяннях на тэрыторыі Гродзенскай губерні добра праявілі сябе палякі, якія служылі афіцэрамі ў рускай арміі: А.П. Ажароўскі (яго атрад вызваляў Лідскі павет і першым дасягнуў Гродна) і Я.І. Чапліц (які ўшчэнт разбіў у Слоніме літоўскі гвардзейскі кавалерыйскі полк Канопкі, дзе служыла шляхецкая моладзь Літвы і Беларусі). Гэты раскол вельмі непакоіў Напалеона, але штосьці змяніць ён не мог і не паспяваў.

## ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ Ў ВАЕННЫХ ПЛАНАХ ПРАЦІЎНІКАЎ. ГРОДЗЕНСКАЯ КРЭПАСЦЬ

У Расіі шырокая падрыхтоўка да будучай вайны з Напалеонам пачалася ў 1810 г. Акрамя рэкруцкіх набораў, канцэнтрацыі войскаў ды інтэнданцкай працы, яна прадугледжвала і распрацоўку планаў вайны. Зараз вядома каля 40 разнастайных праектаў: Аляксандра І, Баграціёна, Барклая дэ-Толі, Бенігсена, Вальцогена, Толя, Фуля ды іншых. З іх больш-меньш дакладным быў толькі адзін, распрацаваны ў запісцы ваеннага міністра Барклая дэ-Толі "Аб абароне заходніх межаў Расіі" (сакавік 1810). Ён прадугледжваў актыўную абарону галоўнымі сіламі і контрудары на флангах супраць слабых корпусаў Напалеона. Дрысенскі лагер Фуля быў своеасаблівым дапаўненнем цара да гэтага праекта. Адступаць да Смаленска, а тым больш – крый Божа – да Масквы, ніхто з рускіх генералаў не збіраўся [72, с.130 – 131; 206, с.38 – 39].

Абарончыя планы ў рускай арміі ўспрымаліся вельмі балюча. Як казаў Баграціён: "Спосаб вядзення вайны ва ўласных межах увогуле вельмі некарысны". Руская армія жадала наступаць. Яшчэ ў ліпені 1811 г. маршал Даву даносіў Напалеону: "Нам пагражае хуткая і непазбежная вайна. Уся Расія рыхтуецца да яе. Армія ў Літве значна ўзмацняецца. Туды падыходзяць палкі з Курляндыі, Фінляндыі і аддаленых правінцый. Некаторыя падышлі нават з арміі, якая ваявала супраць турак. У рускай арміі моцны баявы дух, а яе афіцэры хваляцца, што хутка яны будуць у Варшаве..." [176, с.19]. Самы кароткі шлях у Польшчу пралягаў праз Гродна, дзе можна было злучыць палкі як з поўначы (вольныя пасля вайны са Швецыяй), так і з вялікарускіх губерній. Хуткі разгром Варшаўскага герцагства абяцаў пазбавіць Напалеона польскіх саюзнікаў ды падняць на барацьбу з ім Аўстрыю і Прусію. У выніку няўдачы можна было адступіць у межы Гродзенскай губерні, "бязлітасна разарыўшы герцагства". Гэтак раілі цару Баграціён, Бенігсен, Сен-Пры, д'Аланвіль ды іншыя. Яшчэ 20 чэрвеня 1812 г. за некалькі дзён да вайны Баграціён у лісце з Ваўкавыска прапанаваў Аляксандру І сканцэнтравацца ў Гродне ды ўдарыць першымі. Тады аўстрыйцы нібыта падтрымаюць Расію [234, с.9].

Як гэта ні дзіўна, але падобныя планы Напалеон лічыў найлепшымі. Усе яго разлікі на вайну вясной 1812 г. будаваліся на тым, што рускія першымі пачнуць наступленне на Варшаву. Французскі імператар спадзяваўся даць рускім як мага глыбей прасунуцца ў Польшчы (можа, нават здаць Варшаву), а самому хутка правесці галоўныя сілы праз багатую і шматлюдную Прусію на ўсход ды абрынуцца на рускія тылы. Такім чынам, можна было б не лезці ўглыб Расіі, а знішчыць рускую армію паміж Віслай і Нёманам. Вось ліст Напалеона свайму начальніку штаба маршалу Берцье з Гданьска 10 чэрвеня 1812 г.: "...У той час, як праціўнік пачне наступацельныя аперацыі, якія не дадуць яму ніякіх выгад, таму

што па цвярозым меркаванні ён уткнецца ў Віслу, ён прайграе некалькі маршаў; левы фланг нашай арміі, які пяройдзе Нёман, наваліцца на яго правае крыло раней, чым ён здолее прадпрыняць контрмеры. Калі праціўнік не зробіць ніякіх перамяшчэнняў, кароль [вестфальскі кароль Жэром Банапарт, малодшы брат Напалеона] павінен пагражаць Гродна і Беластоку. …Але галоўны план усё роўна такі, каб саступіць ім тэрыторыю на нашым правым фланзе, высоўваць левае крыло наперад…" [210]. Як бачым, у выніку, калі рускія так і не рашацца пачаць вайну, іх акружэнне і знішчэнне планавалася рабіць на тэрыторыі Заходняй Беларусі манёўрам левага крыла "Вялікай арміі" з поўначы. Прыцягваць на сябе ўвагу рускіх павінен быў з захаду Жэром Банапарт. Ён камандаваў правым крылом "Вялікай арміі" і канцэнтраваўся ў раёне Варшава-Модлін.

Такім чынам, план Барклая дэ-Толі прадугледжваў адступленне з тэрыторыі Заходняй Беларусі і ар'ергардныя баі ў Панямонні. План Баграціёна разглядаў Літоўска-Гродзенскую губерню як плацдарм для ўварвання ў Варшаўскае герцагства. Напалеон бачыў у заходнім рэгіёне Беларусі патэнцыяльны тэатр баявых дзеянняў, дзе будзе знішчана расійская армія. Цікава, што ўсе сусветна вядомыя палкаводцы памыліліся, але лягчэй ад гэтага насельніцтву Заходняй Беларусі не стала.

Нягледзячы на адсутнасць дакладнага плана вайны, у Расіі лічылі неабходным умацаваць сваю заходнюю мяжу. Гэта праца значна актывізавалася з прызначэннем у студзені 1810 г. на пасаду ваеннага міністра М.Б.Барклая дэ-Толі. Ён ліквідаваў старыя крэпасці ў Фінляндыі ды Прычарнамор'і, а крэпасную артылерыю, гарнізонныя ды інжынерныя часці пачаў перабрасваць у цэнтральны сектар заходняй мяжы імперыі. Тут хуткімі тэмпамі ўзмацняліся Рыга, Дынабург, Дрыса, Бабруйск, Барысаў, Кіеў. У 1807 г., пасля франка-рускай вайны, інжынер-генерал Сухцэлен па даручэнню Аляксандра I пачаў працы па ўмацаванню Брэста і заходняй мяжы Расійскай імперыі. Быў складзены праект вялікай Брэсцкай крэпасці, але недахоп сродкаў, выкліканы руска-турэцкай і руска-шведскай войнамі, так і не дазволіў рэалізаваць гэтыя планы. Цікава, што праект Брэсцкай крэпасці падтрымліваў брэсцкі маршалак Нямцэвіч.

Пад кіраўніцтвам саксонца на царскай службе палкоўніка Ф.Ф. Даўрэ пачалася вялікая картаграфічная ды тапаграфічная праца. За 1810 – пачатак 1812 г. былі складзены дасканалыя карты заходніх губерній Расійскай імперыі, мноства планаў пазіцый і падрабязная рэкагнасцыроўка мясцовасцей. Не абмінула гэтая праца і заходні рэгіён Беларусі. Летам 1811 г. французская разведка данасіла аб трох расійскіх афіцэрах, якія грунтоўна аглядалі мяжу па рацэ Буг [286, т.1, с.19]. У маі 1812 г. тапаграфічную працу ў Гродне праводзілі палкоўнікі рускага Генеральнага штаба палкоўнікі Мураўёў і Мішо. Агульную зводку ўсіх гэтых матэрыялаў ажыцяўлялі начальнік ваенна-тапаграфічнага дэпо генерал Опперман, флігель-ад'ютант І.Б.Барклай дэ-Толі (старэйшы брат ваеннага

міністра) і Л.Вальцоген (вядомы ў свой час нямецкі ваенны тэарэтык). Вясной 1812 г. пачалі рабіць прадмостныя ўмацаванні на рэках Нёман і Ясельда, але праца гэта так і не была зроблена [72, с.115 – 118].

Менавіта ад 1810 г. паходзіць расійскі план умацавання Гродна. Яго аўтарам, хутчэй за ўсё, быў нейкі маёр фон Кецк. Праект павінен быў цалкам змяніць аблічча горада і яго ваколіц. Ён уключаў у сябе цытадэль, прадмостнае ўмацаванне, чатыры фарты (у тым ліку два высунутых за лінію гарадскіх умацаванняў ) і кола валоў і бастыёнаў, якія апаясвалі ўвесь горад. Моцная цытадэль размяшчалася на поўнач ад горада на незабудаваным узвышшы дзе зараз раскінуўся гарадскі парк імя 40-годдзя ЛКСМБ. Цытадэль была вельмі моцным ваенным лагерам, які дамінаваў над усёй навакольнай прасторай, у тым ліку горадам і іншымі ўмацаваннямі. Гэта быў своеасаблівы абарончы вузел нанава спраектаванай Гродзенскай крэпасці. Другім па значэнню з'яўлялася моцнае прадмостнае ўмацаванне на левым беразе Нёмана – “Tete de pont”, якое прыкрывала Гродна з захаду. Трэцім па магутнасці лічыўся форт на ўсход ад горада. Яго форма нагадвала карону, адсюль і адпаведная назва. Гэта ўмацаванне закрывала дарогу на Коўна-Рыгу і абараняла горад і цытадэль на выпадак варожага акружэння і ўдара з усходу. На поўдні ад горада, на месцы старых каталіцкіх могілак, праектаваўся яшчэ адзін форт, форма якога нагадвала “хвост ластаўкі” (другая назва – “бакавы форт”). Ён абстрэльваў магчымую пераправу вышэй па цячэнню Нёмана і дарогу на Мінск-Смаленск. Два невялікія форты на правым, “гарадскім” беразе Нёмана вышэй і ніжэй маста праз раку ахоўвалі мост і падтрымлівалі сваім агнём умацаванні на левым беразе. Нізінныя землі паміж крэпасцю і фальваркам Станіслававова планавалася заліць вадой і стварыць дадатковую перашкоду непрыяцелю [315, с.231 – 233].

Гэта была не адзіная пагроза для Гродна ў выпадку рэалізацыі ваенна-інжынернай думкі маёра фон Кецка. Знішчэнню падлягалі б каталіцкія могілкі і большая частка каралеўскага палаца (сучасны Новы замак). Планавалася захаваць толькі левае, заходняе крыло, а цэнтральная частка і правае крыло падлягалі разбурэнню. У выніку пабудовы Гродзенская крэпасць магла стаць як важным вузлом абароны на заходніх межах Расійскай імперыі, так і базай для паспяховага наступлення на Варшаву. Але гаспадарчыя праблемы, бесперапынныя войны ды адсутнасць адзінага плана вайны не дазволілі царскім генералам рэалізаваць гэты вялікі ваенны праект [250, с.233 – 235].

## ДЫСЛАКАЦЫЯ РАСІЙСКАЙ АРМІІ НА ПАЧАТАК ВАЙНЫ

У пачатку 1812 г. ў Літоўска-Гродзенскай губерніі было толькі два расійскія корпусы: генерал-лейтэнанта І.М.Эссена 1-га ў Слонімскім павеце і генерала Д.С.Дохтурава ў Брэсцкім павеце. 1 красавіка 1812 г.

расійскія войскі на захадзе імперыі былі арганізаваны ў дзве арміі: 1-ю заходнюю армію генерала М.Б.Барклая дэ-Толі і 2-ю заходнюю армію генерала П.І.Баграціёна. З дзвюх дывізій корпуса Эссена 1-га ў Слонімскім павеце быў арганізаваны IV корпус генерал-лейтэнанта графа П.А.Шувалава (трэцюю дывізію перавялі ў Вільню ў склад III корпуса Тучкова). Эссен узначаліў нанава арганізаваны ў Пружанскім павеце VI корпус з дзвюх дывізій корпуса Дохтурава, пераведзеных з Брэсцкага павета. Побач з VI корпусам стаў III кавалерыйскі корпус генерал-маёра П.П.Палена 2-га. Усе гэтыя часці ўваходзілі ў склад 1 расійскай арміі [290, т.1, с.185 – 187, 278 – 279].

20 мая 1812 г. Аляксандр I унёс істотныя змены ў гэты расклад. Генерал Капцэвіч быў прызначаны камандзірам VI корпуса. IV корпус Шувалава рушыў да Шчучына і Ліды. У Беластоку збіраўся казачы корпус М.І.Платава. 2-я расійская армія атрымала загад з Валыні ісці на Кобрын – Пружаны. Пры гэтым з яе складу забралі VIII корпус Каменскага і IX корнус Маркава, якія пайшлі на фарміраванне новай 3 расійскай арміі Тармасава.

У пачатку лета 1812 г. па колькасці войскаў на сваёй тэрыторыі Гродзенская губерня саступала ў Расійскай імперыі хіба што толькі Віленскай. Асноўныя сілы 1-й заходней расійскай арміі пад камандаваннем Міхаіла Багданавіча Барклая дэ-Толі сцягваліся на поўнач ды канцэнтраваліся каля Вільні. З гэтай мэтай у пачатку чэрвеня 1812 г. са Слоніма ў Лідскі павет паміж Васілішкамі і Эйшышкамі быў пераведзены VI корпус. Пры гэтым корпус змяніў падпарадкаванне – з 2-й расійскай арміі быў пераведзены ў склад 1-й арміі, ды камандзіра – замест генерал-лейтэнанта П.М.Капцэвіча корпус узначаліў генерал Д.С.Дохтураў [114, с.31]. У склад VI корпуса ўваходзілі дзве дывізіі па чатыры пяхотныя і два егерскія палкі кожная: 7-я і 24-я. 7-ю пяхотную дывізію ўзначаліў генерал-лейтэнант П.М.Капцевіч, а 24-ю пяхотную дывізію – генерал-маёр П.Г.Ліхачоў (у Барадзінскім сражэнні ён трапіць у палон). Артылерыяй VI корпуса – 72 гарматы – камандаваў генерал-маёр В.Г.Касцянецкі, чалавек вялікага росту і велізарнай моцы, якога Напалеон ведаў яшчэ па Аўстэрліцу [198, с.213 – 216; 199].

IV корпус генерал-ад’ютанта П.А.Шувалава, які займаў раней Лідскі павет, адыходзіў у Літву да Алькенік. Авангард IV корпуса пад камандаваннем генерал-маёра І.С.Дорахава ў складзе Ізюмскага гусарскага, 1-шы і 18-ты егерскіх палкоў да пачатку чэрвеня 1812 г. займаў Гродна. Потым Дорахаў па загаду камандавання таксама “перасунуўся” на поўнач і заняў аванпасты на правым беразе Нёмана ад Мерачы да Аліты [232, с.175]. Пры гэтым авангард IV корпуса быў узмоцнены двума казацкімі палкамі са складу кавалерыйскага корпуса Платава. У заходняй частцы Лідскага павета ўздоўж ракі Лебяды, дзе ў XIX ст. было шмат заможных шляхецкіх фальваркаў, размясціўся III кавалерыйскі корпус

генерал-маёра графа П.П.Палена 2-га. Ён складаўся з чатырох драгунскіх палкоў і аднаго гусарскага. Разам – 24 эскадроны і 12 гармат.

З поўдня падыходзіла 2-я заходняя расійская армія генерала Пятра Іванавіча Баграціёна. 15 – 16 чэрвеня яго штаб-кватэра яшчэ знаходзілася ў Пружанах. Толькі 18 чэрвеня 1812 г. штаб 2-й расійскай арміі з'явіўся ў Ваўкавыску [114, с.32]. Сам Баграціён пасяліўся ў доме каталіцкай плебаніі. Акрамя штабс-афіцэраў у горадзе і ваколіцах размясціўся VIII корпус генерал-лейтэнанта М.М.Бараздзіна 1-га. У Новым Двары на поўдні Ваўкавыскага павета размясціўся VII корпус генерал-лейтэнанта М.М.Раеўскага. Каля Зэльвы сканцэнтраваўся IV кавалерыйскі корпус генерал-маёра графа К.К.Сіверса 1-га.

VII корпус складаўся з 12-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра П.М.Калюбакіна і 26-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра І.Ф.Паскевіча – у будучым генерал-фельдмаршала, які падавіў паўстанне 1830 – 1831 г. на землях былой Рэчы Паспалітай і рэвалюцыю 1848 – 1849 г. у Венгрыі. Кожная дывізія налічвала чатыры пяхотныя і два егерскія палкі. VIII корпус яшчэ знаходзіўся ў стадыі фарміравання. Ён меў 2-ю грэнадзёрскую дывізію генерал-маёра прынца Карла Мекленбург-Шверынскага ды несфарміраваную Зводную грэнадзёрскую дывізію генерал-маёра графа М.С.Варанцова. Сюды былі ўключаны зводна-грэнадзёрскія батальёны з 7-й, 12-й, 24-й і 26-й пяхотных дывізій, што магчымасць сфарміраваць дзесяць паўнавартасных батальёнаў. У склад VIII пяхотнага корпуса ўваходзіла таксама 2-я кірасірская дывізія генерал-маёра О.Ф.Кнорынга, якая налічвала пяць кірасірскіх палкоў [198, с.216 – 217]. Такі арыгінальны і нетыповы склад – толькі кірасірскія ды грэнадзёрскія палкі – сведчыць, што VIII пяхотны корпус прызначаўся расійскім камандаваннем у якасці галоўнай ударнай сілы па флангах напалеонаўскага войска. На падыходзе да 2-й расійскай арміі была 27-я пяхотная дывізія генерал-маёра Д.П.Невяроўскага, якая павінна была ўвайсці ў склад VIII корпуса. Дывізія Невяроўскага фарміравалася зімой 1811 – 1812 г. у Маскве з лепшых рэкрутаў. Сучаснікі называлі яе "маскоўскай гвардыяй". 27-ю дывізію накіроўвалі ва ўсе значныя баі 1812 г.: пад Красным, Смаленскам, Шэвардзіно, Барадзіно. Пасля Барадзіно ў страю засталося толькі 30 % салдат і дывізію накіравалі на перакамплектаванне, але ўжо у снежні 1812 г. Кутузаў ізноў пакінуў у Вільні 27-ю дывізію на даўкамплектаванне як панёсшую вялікія страты. Сам Невяроўскі загінуў восенню 1813 г. пад Лейпцыгам.

У склад IV кавалерыйскага корпуса Сіверса 1-га ўваходзілі чатыры драгунскія, два гусарскія і адзін уланскі полк. Неўзабаве гусарскія палкі былі вылучаны са складу кавалерыйскага корпуса і далучаны для разведкі і прыкрыцця да пяхотных корпусаў.

Гродна з 16 па 22 чэрвеня быў заняты кавалерыйскім атрадам ад графа Палена ў складзе Сумскага і Марыўпальскага гусарскіх палкоў,

якія забяспечвалі сувязь паміж 1-й і 2-й арміямі. Толькі 25 чэрвеня ў Гродна з Беластоцкай вобласці прыбыў са сваім Лятучым казачым корпусам генерал Мацвей Іванавіч Платаў, які фармальна падпарадкоўваўся штабу 1-й расійскай арміі. Яго месца ў ваколіцах Беластока заняў казачы атрад генерал-маёра Іллавайскага 5-га са складу 2-й заходняй арміі. Першапачаткова Платаву падпарадкоўваліся восем палкоў данскіх казакаў, два палкі бугскіх казакаў, два татарскія, башкірскі ды калмыцкі палкі. Іллавайскі 5-ы камандаваў васем'ю данскімі казацкімі палкамі і адным палком бугскіх казакаў. Яго казакі стаялі на аванпастах ад Беластока да Брэста.  Неўзабаве 14 чэрвеня 1812 г. усе казацкія палкі абедзвюх расійскіх армій былі падначалены Платаву. Палкі данскіх казакаў не мелі нумарацыі і называліся па імёнах сваіх камандзіраў – Сысоева 3-га, Іллавайскага 11-га і гэтак далей. Кожны полк меў пяць соцен данцоў, але ў рэчаіснасці яго колькасць вагалася ад 400 да 450 казакаў. Выключэнне складаў Атаманскі полк падвоенага складу – 1 000 чалавек [169]. Сюды адбіралі лепшых казакаў з добрым узбраеннем. Звычайна Атаманскі полк падтрымлівала артылерыя. Атаманцы, татары, башкіры ды калмыкі з'яўляліся галоўнай ударнай сілай Платава. Дарэчы, Перакопскі ды Сімферопальскі конна-татарскія палкі, Стаўрапольскі калмыцкі і Башкірскі палкі прыцягвалі да сябе найбольшую ўвагу і часам выкарыстоўваліся Платавым як своеасаблівая "псіхічная зброя".

Такім чынам, напярэдадні вайны 1812 г. у заходнім рэгіёне Беларусі знаходзілася ўся 2-я расійская армія Баграціёна: VII, VIII пяхотныя корпусы і IV кавалерыйскі корпус, а таксама VI пяхотны, III кавалерыйскі і казачы корпус Платава са складу 1-й расійскай арміі. Разам гэта складала звыш 70 тысяч чалавек і каля 300 гармат. У тым ліку каля 45 тысяч чалавек – 2-я расійская армія, каля 20 тысяч чалавек – са складу 1-й расійскай арміі. Астатнія прыходзіліся на нерэгулярную кавалерыю Платава. Што тычыцца расійскіх войскаў, то ў чэрвені 1812 г. ніхто з салдатаў VI, VII і VIII корпусаў не ведаў, што менавіта гэтыя злучэнні цалкам загінуць праз тры месяцы на Барадзінскім полі, дзе VII і VIII корпусы абаранялі Сямёнаўскія флешы, а VI – батарэю Раеўскага. Пакуль жа яны адпачывалі апошнія мірныя дні. Большасць расійскіх войскаў у межах Літоўска-Гродзенскай губерні былі сканцэнтраваны ў Ваўкавыскім і Лідскім паветах. Выключэнне складалі корпус Платава ў Гродне ды 27-я пяхотная дывізія Невяроўскага, якую вайна напаткала на маршы ў Навагрудку. Яна далучылася да арміі Баграціёна пад час яе адступлення 2 ліпеня 1812 г [114, с.42].

Петр Іванавіч Баграціён і Мацвей Іванавіч Платаў былі самымі вядомымі рускімі камандзірамі ў заходнім рэгіёне Беларусі напярэдадні вайны 1812 г. Сваяк грузінскіх цароў князь Баграціён пачынаў службу ў 1782 г. у світах расійскіх арыстакратаў: святлейшага князя Пацёмкіна-Таўрычыскага ды фельдмаршала графа Салтыкова. Толькі ў 1794 г. ён

упершыню прыняў удзел у баявых дзеяннях – штурме прадмесця Варшавы – Праге. З гэтага часу пачынаюцца яго поспехі ў ваенных кампаніях. Напярэдадні 1812 г. Баграціён быў добра вядомы ў грамадстве, карыстаўся падтрымкай арыстакратыі – Галіцыных, Далгарукіх, Салтыковых, Трубяцкіх ды меў папулярнасць у арміі. Салдаты так расшыфроўвалі прозвішча галоўнакамандуючага 2 заходней расійскай арміі: "Бог раці ён" і бачылі ў Баграціёне нашчадка сувораўскіх традыцый. Атаман Войска Данскога Платаў у свой час лічыўся старыком. У 1811 г. яму споўнілася 60 гадоў. Вайсковую службу Платаў пачаў у 13 гадоў, а ў 1774 г. за перамогу над ардой крымскіх татар на рацэ Калалах у гонар Платава быў адбіты першы залаты медаль. Гэта быў, безумоўна, самы вопытны камандзір сярод усіх генералаў 1812 г і найбольш зацікаўлены ў вайне. Паводле А.Ярмолава, Баграціён абяцаў Платаву ў выніку перамогі графскі тытул, якога казачы атаман прагнуў больш за ўсё на свеце. Дарэчы, вайна 1812 г. ажыццявіла мары Платава. 29 снежня 1812 г. М.І.Платаў стаў графам [124].

Расійская армія напярэдадні 1812 г. мела шмат новых рэкрутаў, якія складалі да 50 % асобных палкоў. Але яе касцяк утваралі старыя вопытныя ветэраны. Моцным бокам расійскай арміі была яе этнічная маналітнасць. На 80 % яна складалася з рускіх, звыш 90 % праваслаўных. Гэта добра адчуваў грузінскі князь Багрёціён, які ў першыя дні вайны загадаў: "Гаспадам начальнікам давесці да салдат, што ўсе войскі непрыяцельскія не інакш як сволач, сабраная з усяго света. Мы ж рускія і адзінаверцы…". Гэта правіла не распаўсюджвалася на генералітэт і афіцэрскі корпус расійскай арміі. Гэта ж была армія Расійскай імперыі. Акрамя шматлікіх нямецкіх сваякоў цара і прыбалтыйскіх немцаў: герцага Аляксандра Вюрцімбергскага, прынца Яўгена Вюрцімбергскага, прынца Мекленбургскага, Барклая де-Толі, фон дэр Остэн-Сакена, Гейденрэйха, Штэйнгеля, Энгельгардта, тут служылі і французкія эмігранты-раялісты, прыхільнікі Бурбонаў: Далон, Ламберт, Ланжэрон, Рот, Сен-Пры. Графы Сен-Пры нават атрымалі ў доўгатэрміновае карыстанне Астрынскае стараства ў Гродзенскай губерні. Для гэтых людзей вайна з Напалеонам у 1812 г. была працягам барацьбы з ненавіснай французскай рэвалюцыяй. Хапала ў расійскай арміі і польскіх арыстакратаў, якім было ўтульна пры двары ўсерасійскіх самадзержцаў і якія не збіраліся страчваць сваіх прыгонных: Браніцкі, Влодек, Патоцкі, Ажароўскі, Чапліц.

Дыслакацыя расійскай арміі ў заходнім рэгіёне Беларусі напярэдадні вайны 1812 г. адпавядала плану Фуля. Галоўныя сілы – 1-я расійская армія Барклая дэ-Толі павінна была абараняцца ў Дрысенскім лагеры. У гэты час 2-я расійская армія Баграціёна пачала б дзейнічаць у фланг і тыл ворага. Ніхто не спадзяваўся, што Напалеон прывядзе такую вялікую армію, што ў яго хопіць сіл шукаць генеральнай бataліі з 1-й расійскай арміяй, і лавіць сіламі маршала Даву і вестфальскага караля Жэ-

рома войскі Баграціёна па Беларусі. Апошняму, нягледзячы на ўсю ягоную ваяўнічасць заставалася толькі адступаць ад такога магутнага ворага. У лісце да начальніка штаба 1-й расійскай арміяй А.П.Ярмолава ад 15 ліпеня 1812 г. Баграціён зрабіў несуцяшальныя высновы па дыслакацыі рускай арміі напярэдадні вайны: "Прыгналі нас на мяжу, растыкалі, як шашкі, стаялі, рот раззявіўшы, забрудзілі ўсю мяжу і пабеглі" [167]. Здаецца, што слова "пабеглі" тут не вельмі падыходзіць. Нягледзячы на дрэнную, дакладней кажучы, выпадковую дыслакацыю, адступленне расіян больш нагадвала хуткі адыход, пад час якога яны далі войскам Напалеона ў Заходняй Беларусі шэсць баёў і сутычак. І гэта без уліку баявых дзеянняў 3-й (абсервацыйнай) расійскай арміі Тармасава на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні.

## НАПАЛЕОНАЎСКАЯ АРМІЯ НА ЗАХОДНІХ МЕЖАХ БЕЛАРУСІ

Для баявых дзеянняў на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні і далей углыб Беларусі Напалеон прызначыў войскі правага крыла "Вялікай арміі" пад агульным камандваннем свайго малодшага брата вестфальскага караля Жэрома Банапарта. Начальнікам штаба і дарадчыкам Жэрома Банапарта быў вопытны французскі генерал Жан-Габрыэль Маршан. Гэта войска складалася з трох корпусаў і асобнага кавалерыйскага корпуса. Аднак вайна ўнесла свае карэктывы, таму ў Заходняй Беларусі апынуліся яшчэ два напалеонаўскія злучэнні – большая частка І корпуса маршала Даву і аўстрыйскі саюзны корпус Шварцэнберга.

Аснову войскаў Жэрома Банапарта, як у якасным, так і ў колькасным плане, складаў V корпус пад камандваннем ваеннага міністра Варшаўскага герцагства князя Юзафа Панятоўскага. У яго ўваходзілі тры пяхотныя і адна кавалерыйская дывізіі: 16-я генерала Ю. Заёнчака (11 089 штыкоў), 17-я генерала Я. Х. Дамброўскага (11 187 штыкоў), 18-я генерала Камянецкага, якога ў Гродна на пачатку вайны змяніў генерал К.О. Князевіч, (7 514 штыкоў) ды лёгкая кавалерыйская дывізія І.Каміньскага (3552 шаблі) [267, 289, т.2, с.15 – 17; 290, т.1, с.29 – 31; 296, с.29-31].

Усе дывізіі былі ўкамплектаваны рэкрутамі з тэрыторыі Варшаўскага герцагства і мелі толькі польскіх афіцэраў, таму V корпус "Вялікай арміі" часта называлі польскім. Да корпуса была дадзена кавалерыйская дывізія генерала Ігнацыя Каміньскага – тры конна–егерскія і два ўланскія палкі, таксама з польскіх рэкрутаў. Колькасць V корпуса дасягала 35 тыс. чалавек і 70 гармат. Паколькі два палкі былі пакінуты ў якасці тылавых, фактычная колькасць V польскага корпуса складала каля 32 тыс. салдат. Касцяк польскага корпуса складалі салдаты і афіцэры, якія ваявалі яшчэ ў кампаніях XVIII ст.: 1792 г. – з рускімі, 1794 г. – пад

час паўстання Касцюшкі, 1799 г. – у Паўночнай Італіі з рускімі і аўстрыйцамі. Але амаль палову корпуса набралі ў 1810 – 1811 г. Паводле М.Кукеля, з кожных 10 польскіх салдат 4 былі прызваны ў пачатку 1812 г. Для гэтых маладых рэкрутаў цяжкая маскоўская кампанія стала першай і апошняй у жыцці. 28 снежня 1812 г. перад палацам Панятоўскіх будзе пастроены ўвесь польскі корпус, дакладней кажучы, усё, што ад яго засталося – 160 афіцэраў і 220 салдат, цудам ацалелых у напалеонаўскай авантуры. Агульная колькасць польскіх часцей у напалеонаўскай арміі была значна большай. Польскія палкі ўваходзілі ў склад імператарскай гвардыі, кавалерыі Мюрата, II корпуса Удзіно, IX корпуса Віктора і X корпуса Макдональда (пяхотная брыгада Міхала Радзівіла). Па-за "Вялікай арміяй" ваявалі польскія палкі ў Іспаніі і "Валынскае" ці "Надбужаньскае" злучэнне генерала А.Касіньскага (нарадзіўся на Палессі) каля Замосця, якое прыкрывала Варшаву з боку Валыні [267].

Сярод камандзіраў V корпуса вылучаліся Юзаф Панятоўскі і Ян Хенрык Дамброўскі. Пляменнік апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764 – 1795) князь Юзаф Панятоўскі пачынаў ваенную кар'еру ў аўстрыйскай арміі ў войнах з туркамі. У 1792 і 1794 г. змагаўся разам з Касцюшкам супраць інтэрвентаў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Ю. Панятоўскі адышоў ад ваенна-палітычнага жыцця, але ў час аднаўлення польскай дзяржаўнасці ў 1807 г. быў прызначаны Напалеонам на пасаду ваеннага міністра Варшаўскага герцагства. Фактычна Ю.Панятоўскі стаў стваральнікам польскай арміі ў напалеонаўскі час. У 1809 г. Ю.Панятоўскі паспяхова правёў самастойную ваенную кампанію супраць аўстрыйцаў у Галіцыі. За свае заслугі перад Французскай імперыяй Ю.Панятоўскі ў 1813 г. на полі бітвы пад Лейпцыгам атрымае маршальскую булаву і трагічна загіне на наступны дзень. Я.Х.Дамброўскі пачынаў вайсковую службу ў саксонскай кавалерыі ў 1770 г. Ён заняў сваё пачэснае месца ў гісторыі тым, што пачаў у 1796 г. стварэнне польскіх легіёнаў у Італіі. Тагачасная ваенная песня "Мазурка Дамброўскага" і сёння з'яўляецца гімнам Польшчы.

Блізкім саюзнікам для войскаў Ю.Панятоўскага Напалеон, напэўна, лічыў VII корпус, які складаўся з саксонцаў (усходніх немцаў). Саксонскі кароль Фрыдрых-Аўгуст I у 1807 – 1812 г. быў адначасова герцагам Варшаўскім. Гэта быў ужо трэці саксонскі манарх на польскім троне. Саксонцы ўкамплектавалі дзве пяхотныя дывізіі "Вялікай Арміі": 21-ю генерал-лейтэнанта Эдлера фон Лекока (7 002 штыка) у складзе пяхотных брыгад генерал-маёраў фон Штэйндаля і фон Носціца ды 22-ю генерал-лейтэнанта фон Гутшмідта (6 746 штыкоў) у складзе пяхотных брыгад генерал-маёраў фон Кленгеля і фон Сара. У пачатку вайны 1812 г., пасля раптоўнай смерці генерала Гутшмідта, камандзірам 22-й саксонскай дывізіі быў прызначаны генерал К.В.Функ. Разам з 23-й саксонскай лёгкай кавалерыйскай брыгадай барона Г.А. фон Габленца (2 183 шаблі)

яны стварылі VII (саксонскі) корпус агульнай колькасцю ў 17 тыс. чалавек і 50 гармат [198, с.226; 273, с.33; 275; 290, т.1, с.147].

Саксонскія войскі былі добра абучаны і ўзброены паводле французскага ўзора, але не вельмі імкнуліся на гэтую вайну. У 1806 г. саксонцы разам з прусакамі змагаліся супраць Напалеона пад Йенай. У 1809 г. ужо ў якасці французскіх саюзнікаў саксонцы пад Ваграмам не вытрымалі аўстрыйскай атакі і пабеглі з поля бою. Саксонскі кароль быў шчырым прыхільнікам Напалеона, але сярод яго салдат узмацняўся агульнанямецкі нацыяналізм, і змагацца за французскага імператара ды аднаўленне Польшчы яны не збіраліся. Напалеон разумеў гэта, таму камандзірам VII корпуса прызначыў француза – дывізійнага генерала Жана-Луі Рэнье. Ваенная кар’ера Рэнье пачыналася ў 1796 г. у Егіпце. Потым ён служыў у арміі шчырага рэспубліканца Ж.В. Моро – праціўніка Напалеона. Можа, таму толькі ў 1809 г. Рэнье быў прызначаны камандзірам корпуса, спачатку ў вайне з Аўстрыяй, потым на Пірэнейскім паўвостраве. Асаблівасцю саксонскага корпуса былі два начальнікі штаба: французскі – Грэсо і саксонскі – Лангенаў.

VIII корпус “Вялікай арміі” складаўся з падданых Жэрома Банапарта – вестфальцаў (заходніх немцаў). Вестфальскае каралеўства было створана Напалеонам у 1807 г. з прырэйнскіх нямецкіх зямель, якія раней належалі Прусіі, Браўншвейгу і Гановеру, для свайго малодшага брата Жэрома Банапарта. Сталіцай гэтай “нямецкай копіі Францыі” з 2 млн. насельніцтва стаў утульны Кассэль. У пачатку 1812 г. Вестфалія мела 27 тыс. войска, з якога каля 20 тыс. чалавек прызначаліся для вайны з Расіяй. У склад VIII (вестфальскага) корпуса “Вялікай арміі” ўвайшлі 23-я пяхотная дывізія генерала барона Ж.В.Тарро (10 112 штыкоў), 24-я пяхотная дывізія генерала барона А.Л. фон Окса (5 199 штыкоў) і 24-я лёгкая кавалерыйская брыгада графа фон Хамерштайн-Экуарда – два гусарскія і адзін гвардзейскі конна-егерскія палкі (2 034 шаблі). Разам гэта складала 17 тыс. чалавек і 34 гарматы [198, с.226; 290, т.1, с.147].

Камандаваць вестфальцамі Напалеон таксама прызначыў француза – генерала Дамініка-Рэнэ Вандама. Гэта быў непрадуманы выбар. Генерал Вандам і кароль Жэром Банапарт варагавалі паміж сабой з 1806 г. Грубы служака, які ганарыўся тым, што ён не баіцца ні Бога, ні д’ябла, Вандам адкрыта пацяшаўся над самаўпэўненымі паводзінамі легкадумнага брата Напалеона. У сваю чаргу Жэром Банапарт на правах караля ўмешваўся ў справы вестфальскай арміі [111, с.157 – 158]. У выніку вестфальцы не разумелі, што ад іх жадаюць. Створаная на французскі ўзор вестфальская армія мела толькі адзін недахоп – яна ніколі не ўдзельнічала ў вайне, а трапіла ў самае пекла “рускага пахода”: Смаленск, Барадзіно, Масква, Бярэзіна. Напярэдадні вайны 1812 г. у Вестфаліі таксама ўзмацніўся агульнанямецкі нацыяналізм. Ва універсітэтах адкрыта

лаялі французаў і быў нават выкрыты план выкрадання караля Жэрома [135, с.102].

У склад правага крыла "Вялікай арміі" ўваходзіў таксама IV кавалерыйскі корпус пад кіраўніцтвам французскага дывізійнага генерала, барона імперыі Віктора-Нікаля маркіза дэ Латур-Мабура. Гэты патомны арыстакрат эміграваў з Францыі пад час рэвалюцыі, але прызнаў уладу Напалеона і ўступіў у імператарскае войска. Граф дэ Сегюр характарызаваў Латур-Мабура як спакойнага, стараннага і сумленнага чалавека які ў першую чаргу імкнуўся добра выканаць свае абавязкі. У IV кавалерыйскі корпус увайшлі 4-я лёгкаконная кавалерыйская дывізія А. Ражнецкага, укамплектаваная толькі польскімі ўланамі (4 846 шабель), і 7-я цяжкая кавалерыйская дывізія барона Ж.Т.Г.Лоржа (3 114 шабель). Апошнюю ўтваралі дзве кірасірскія брыгады: саксонская генерал-лейтэнанта фон Цільмана і вестфальская брыгаднага генерала графа Лепель фон Грамбава. Разам IV кавлерыйскі корпус налічваў 7,9 тыс. чалавек і 24 гарматы. Падчас праследвання Баграціёна Латур-Мабур атрымаў пад сваё камандванне ўсю кавалерыю V (польскага) і VIII (вестфальскага) корпусаў, што давяло колькасць IV кавлерыйскага корпуса да 15,7 тыс. чалавек – тры дывізіі і адна асобная брыгада [169, с.14; 198, с.226; 290, т.1, с.149].

Напярэдадні вайны V (польскі) і VIII (вестфальскі) корпусы былі сканцэнтраваны ў раёне Варшава-Модлін, а VII (саксонскі) корпус каля Радомя ў Польшчы. Паводле штабных папер, агульная колькасць "прызначанага" для Літоўска-Гродзенскай губерні правага крыла "Вялікай арміі" складала прыкладна 76 137 чалавек, 24 477 коней (разам з артылерыяй) і 159 гармат. Гэтую магутную групоўку паслаблялі два фактары – яе камандзір Жэром Банапарт ды абыякавае стаўленне вестфальскіх і саксонскіх салдатаў да вайны. Жэрома Банапарта традыцыйна абвінавачваюць у тым, што ён быў "самым бяздарным з усіх бяздарных сваякоў Напалеона". Гэта не зусім дакладна. Жэром Банапарт сапраўды любіў шыкоўнае жыццё і прыгожых жанчын, але пры гэтым ён быў мужным і адданым брату чалавекам. Так ужо склалася, што Напалеон ніколі не даваў свайму малодшаму брату самому вырашыць свой лёс. Спачатку ён накіраваў Жэрома на флот, дзе той "даслужыўся" да контрадмірала, потым у войска і, нарэшце, зрабіў вестфальскім каралём. У выніку самаўпэўненасць Жэрома Банапарта ўзрасла да неверагодных памераў, а сапраўднага вопыту ды ўмення ладзіць з людзьмі ён так і не набыў [111].

Што тычыцца нямецкіх падначаленых Жэрома Банапарта, то варта нагадаць асобу камандзіра саксонскіх кірасіраў Іёгана Адольфа Цільмана. Як толькі стала зразумела паражэнне Напалеона, Цільман з задавальненнем перайшоў на расійскую службу і на чале асобнага атрада змагаўся з французамі ў Саксоніі ў 1813 г. Потым займаўся рэфармаваннем саксонскай арміі, каб яна ў 1815 г. разам з прусакамі паспела пад

Ватэрлоо. Зразумела, што з такімі генераламі Жэрому Банапарту было цяжка разлічваць на поспех. Летам 1812 г. сярод салдатаў саксонскага корпуса распаўсюджвалася сатырычная "Адозва да саксонскіх быкоў" ад імя дзікага быка з жывадзёрні. Па форме яна нагадвала напалеонаўскія адозвы да "Вялікай арміі" і нібыта звярталася да 300 быкоў, якія ішлі ў абозе саксонскага корпуса. Быкоў віншавалі з тым, што хутка іх заб'юць, здзяруць скуру ды з'ядуць, што прынясе ім вялікую славу [109, с.104]. Кожны разумеў, што пад "саксонскімі быкамі" разумеюцца салдаты саксонскага корпуса, якіх як жывёлу прыгналі на незразумелую вайну з рускімі. Французскі начальнік штаба саксонскага корпуса палкоўнік Грэсо з сумам адзначаў напярэдадні вайны: "Нам на хапае самага важнага, таго духа, таго запалу, той энергіі, якая робіць армію непераможнай" [290, т.1, с.46].

З поўдня войскі Жэрома Банапарта павінен быў падтрымаць аўстрыйскі корпус князя Карла Піліпа Шварцэнберга, які канцэнтраваўся ў Львове. Фактычна армію Шварцэнберга можна разглядаць як XII корпус "Вялікай арміі". У аўстрыйскі корпус уваходзілі тры пяхотныя дывізіі: дывізія цэнтра фельдмаршал-лейтэнанта (адпаведнік генерал-лейтэнанта) барона Ф.Б'янкі (14 батальёнаў), дывізія левага фланга фельдмаршал-лейтэнанта барона Г.Берзіна фон Зігенталя (7 батальёнаў і 8 эскадронаў), дывізія правага фланга фельдмаршал-лейтэнанта барона Л.Траўттэнберга (6 батальёнаў і 12 эскадронаў) ды кавалерыйская дывізія фельдмаршал-лейтэнанта барона І.М.Фрымона (24 эскадроны). Разам аўстрыйскі корпус Шварценберга налічваў 31 тыс. чалавек і 60 гармат, у тым ліку 24 634 пяхоты і 6 270 кавалерыі [198, с.226 – 227; 281; 290, т.1., с.150 – 151] Яго склад і структура сведчаць, што ён ствараўся як невялікая армія, прыдатная для вырашэння самастойных задач. Гэта была добра абучаная і ўзброеная імперская армія, дзе служылі людзі з усіх падуладных Габсбургам тэрыторый. З дванаццаці пяхотных, сямі кавалерыйскіх палкоў, двух грэнадзёрскіх і двух егерскіх батальёнаў, якія князь Шварцэнберг у 1812 годзе прывёў на Беларусь, дзевяць палкоў і два батальёны былі набраны ў Венгрыі, чатыры палкі і адзін батальён – у Галіцыі, тры палкі – у Чэхіі, два – у Аўстрыі і адзін полк і адзін батальён – на Балканах сярод паўднёвых славян. Фактычна гэта была на 50 % вянгерская і на 20 % украінская армія, але над яе апранутымі ў белыя мундзіры палкамі луналі сцягі аўстрыйскіх Габсбургаў – чорны двухгаловы арол на жоўтым полі [267, с.37]. Паводле аўстра-французскага дагавора, Габсбургі павінны былі на працягу вайны падтрымліваць колькасць корпуса Шварцэнберга на ўзроўні 30 тыс. чалавек, а Напалеон – не накіроўваць аўстрыйцаў на галоўны тэатр ваенных дзеянняў.

Напалеон сам настаяў на прызначэнні генерала князя Карла Піліпа Шварцэнберга камандуючым аўстрыйскім корпусам. Пад час капітуляцыі аўстрыйцаў пад Ульмам у 1805 годзе толькі Шварцэнберг са сваёй

кавалерыйскай дывізіяй здолеў прарвацца скрозь французскую аблогу. Напярэдадні вайны Шварцэнберг праявіў сябе як дыпламат і здолеў спадабацца Напалеону. Але ў 1812 годзе Шварцэнберг не збіраўся праяўляць сваю энергію. Яшчэ да пачатку вайны аўстрыйская дыпламатыя давяла да рускага цара, што "па-сапраўднаму" Аўстрыя ваяваць не будзе. Паслаць супраць Расіі 30-тысячны корпус Шварцэнберга – гэта толькі вымушаная саступка нялюбаму саюзніку – Напалеону. Аўстрыйская армія з 1793 г. прывыкла ваяваць супраць французаў, а не за іх. Напярэдадні вайны 1812 г. у Любліне на прыёме ў прэфекта Ябланоўскага аўстрыйскі генерал Ф.Б'янкі не падняўся з месца пры тосте за Напалеона і гучна абвясціў, што жадае ваяваць з Напалеонам, тыранія якога вартая таго, каб яе пакаралі кінжалам [290, т.2., с.47].

Толькі восенню 1812 г. у заходнім рэгіёне Беларусі з'явіліся сапраўдныя французы – 32-я пяхотная дывізія генерала барона П.-Ф.Дзюрутта са складу XI корпуса маршала Ажаро. Да верасня 1812 г. гэта дывізія называлася 4-й рэзервнай. Яна была сфарміравана з французскіх гарнізонных часцей у Германіі, дзе Дзюрутт быў камендантам Берліна і прызначалася для ўмацавання VII (саксонскага) корпуса Рэнье. Самыя французы прызнавалі дрэнную якасць гэтай стракатай дывізіі, якая складалася з "дэзерціраў, трусаў, неабучаных рэкрутаў, палонных іспанцаў і немцаў з Вюрцімберга". Неўзабаве, калі становішча на ўсходзе стала катастрафічным, дывізіі Дзюрутта далі нумар чарговай дывізіі "Вялікай арміі" – 32-я пяхотная – і кінулі яе на ўсход [166, с.217; 198, с.227; 273, с.127].

Такім чынам, пасля пастояў 70-тысячнай расійскай арміі Заходняя Беларусь павінна была вытрымаць нашэсце звыш 100-тысячнага напалеонаўскага войска. Дзіўная гэта была армія. Яна падпарадкоўвалася французскаму імператару, і большасць гісторыкаў упарта называе яе французскай, але ў ёй ледзь можна было налічыць сотню французаў – генералаў ды дарадчыкаў. У большасці сваёй напалеонаўская армія ў заходнім рэгіёне Беларусі складалася з немцаў і палякаў, хапала тут венграў ды ўкраінцаў ("русінаў" з Галіцыі). 2/3 гэтай арміі не жадалі і не збіраліся ваяваць з рускімі. Толькі вера ў непераможнасць Напалеона ды надзея абрабаваць "рускіх" рухала гэту армаду ўперад. Дарэчы, большасць нямецкіх салдатаў лічыла, што рускія жывуць адразу за Нёманам, а гэта не абяцала нічога добрага для беларускага сялянства.

## БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ ПАД ЧАС АДЫХОДУ РАСІЙСКАЙ АРМІІ

26 чэрвеня 1812 г. у тры гадзіны ночы па ціхіх вулачках Гродна пранёсся царскі кур'ер. Ён абвясціў аб пераходзе Напалеона праз Нёман каля Коўна і загадаў казакам Платава дзейнічаць ва фланг і тыл непрыяцеля. Платаў неадкладна пачаў канцэнтраваць раскіданыя па навакол-

лю казацкія палкі. Асаблівую занепакоенасць выклікаў лёс палка казакаў І.Д.Ілавайскага 4-га ў Беластоку і зборнага атрада з усіх палкоў корпуса колькасцю ў 500 чалавек, які быў расцягнуты ўздоўж мяжы Беластоцкай вобласці. 27 – 28 чэрвеня 1812 г. Платаў уважліва сачыў за мяжой і займаўся эвакуацыяй Гродна. Вывозіліся зброя і амуніцыя гарнізоннага батальёна, хворыя салдаты царскай арміі (“бывших в здешнем госпитале немалого числа”), аптэка і асабліва харчовыя запасы. Гужавога транспарту не хапала, і Платаў накіраваў у вёскі спецыяльныя каманды, якія канфіскоўвалі ўсё патрэбнае для корпуса. Паводле атамана Войска Данскога ў эвакуацыі “губернскага горада Гродна” было задзейнічана звыш 1 000 фурманак. Я.Арлоўскі ў пачатку XX ст. з эпічным размахам пісаў нават аб 3 000 фурманках і колах, адпраўленых з Гродна. 28 чэрвеня город пакінулі чыноўнікі з губернатарам і гродзенскі гарнізонны батальён. Гэты абоз цягнуўся на ўсход праз Шчучын – Беліцу – Навагрудак – Мір – Кайданава – Мінск [114, с.59 – 60; 177, с.10].

27 чэрвеня 1812 г. у чатырох вярстах на захад ад Гродна на рацэ Ласосна адбылася першая перастрэлка казакаў з польскай кавалерыяй і пяхотай, якія збліжаліся да горада. Гэта былі войскі правага крыла “Вялікай арміі”, якія рухаліся ад Віслы праз Пултуск-Астраленку-Навагруд-Ломжу-Аўгустоў-Галынку. На сваім шляху палякі сустрэлі толькі чатыры паста казакаў, якія хутка адыходзілі на ўсход. 28 чэрвеня авангард V (польскага) корпуса “Вялікай арміі” на чале з фаварытам Жэрома Банапарта шэфам артылерыі і інжынерных войскаў VIII вестфальскага корпуса дывізійным генералам Ж.-А.-Ф. Аліксам дэ Во паспрабаваў захапіць мост і ўварвацца ў Гродна. Гэта былі лепшыя палкі Варшаўскага герцагства: 1-й полк конных стралкоў К.Пшэбендоўскага і 12-ты уланскі полк Г.Ржышчэўскага з 19-й лёгкай кавалерыйскай брыгады Тадэвуша Тышкевіча, 1-шы пяхотны полк К.Малахоўскага (нарадзіўся ў Вішневе на Беларусі) ды саперы V корпуса [277, с.44]. Жэром Банапарт не шкадаваў сваіх польскіх палкоў. Апошні пераход да Гродна войскі авангарда рабілі фарсіраваным маршам, які працягваўся 36 гадзін!

Палякі хутка занялі Занёманскае прадмесце. Размешчаная там сотня казакаў была атакавана 50 уланамі і адышла за Нёман. Платаў разгарнуў свае войскі на высотах правага берагу Нёмана і адкрыў гарматны агонь. У перастрэлцы з палякамі, акрамя данскіх казакаў, прымаў удзел паўбатальён унутранай стражы на чале з гродзенскім паліцмайстарам Высочыным. Пасля імклівай кавалерыйскай сутычкі казакаў з уланамі ўперад пайшла польская пяхота, якую Платаў адбіваў праз Нёман агнём 12 гармат роты данской артылерыі. У баі загінуў прапаршчык гродзенскага гарнізоннага батальёна Іўшын, а плавучы мост праз Нёман быў спалены, што на нейкі час стрымала націск палякаў [40, а.41]. Вестфальскі генерал Алікс дэ Во “здалёк прыглядаўся да гэтай справы”, якую фактычна правёў польскі генерал Каміньскі [290, т.1, с.62].

Паводле рапарта Ю.Панятоўскага, палякі страцілі 3 чалавекі параненымі і 2 коней забітымі, а рускія – 15 чалавек забітымі і 1 палоннага [286, т.IV, с.192].

Увечары 28 чэрвеня галоўныя сілы Платава – элітны Атаманскі полк падвоенай колькасці, два казацкія палкі, перакопскія татары, башкіры і калмыкі – пацягнуліся на ўсход. Каля Гродна застаўся атрад у 100 казакаў, якія павінны былі сачыць за непрыяцелем. Другі атрад разведчыкаў быў адпраўлены ў Літву да Алькенік. Палкі казакаў, якія сцераглі Нёман ад Гродна да Мерачы, павінны былі адыходзіць на Марцінканцы-Дубічы-Ліду. Казакі Ілавайскага 4-га з Беластока адыходзілі праз Бераставіцу – Беліцу да Ліды. Тут Платаў збіраўся сабраць увесь свой корпус. Атаман Войска Данскога асабліва не спяшаўся. 28 чэрвеня ў 23.00 яго корпус размясціўся на адпачынак у вёсцы Мількаўшчына (зараз на сумежжы Гродзенскага ды Шчучынскага раёнаў). Тут Платаў атрымаў ад флігель-ад’ютанта князя Валконскага царскі загад ісці праз Ліду на злучэнне з 1-й заходняй расійскай арміяй [114, с.59].

Ноччу невядомы жыхар Гродна пераправіўся праз Нёман і паведаміў напалеонаўскім генералам аб адступленні рускіх. Раніцай 29 чэрвеня польская пяхота ўброд, а ўланы пад камандаваннем Т.Тышкевіча на платах і барках фарсіравалі раку і занялі Гродна. Кавалерыя прасунулася на адну мілю на ўсход ад горада, дзе наступленне спынілася. Платаў за 29 чэрвеня дайшоў да вёскі Ішчална, дзе таксама спыніўся на два дні: 30 чэрвеня – 1 ліпеня. Прычына – моцныя бесперапынныя дажджы, якія сапсавалі ўсе дарогі і скавалі нават рухлівых казакаў [114, с.63].

У Гродна ў гэты час магутным патокам уліваліся палкі V і VIII пяхотных і IV кавалерыйскага корпусаў “Вялікай арміі”. Раніцай 30 чэрвеня 1812 г. у горад урачыста ўвайшла 17-я польская дывізія Я.Х.Дамброўскага, на чале якой ехаў вестфальскі кароль, малодшы брат Напалеона Жэром Банапарт. Каб як мага хутчэй трапіць у Гродна Жэром Банапарт прымусіў 17-ю дывізію зрабіць начны марш пад праліўным дажджом. Гэты “манёўр” каштаваў дывізіі Дамброўскага 20 загінуўшых коней. Потым ішлі польская, саксонская і вестфальская кавалерыі з IV кавалерыйскага корпуса В.Н.Латур-Мабура. 1 ліпеня падышлі 16-я і 18-я польскія пяхотныя дывізіі. 2 – 3 ліпеня падцягваўся VIII (вестфальскі) корпус Д.Р.Вандама. У Гродне таксама ішлі моцныя дажджы, але салдаты былі задаволены тым, што нарэшце трапілі ў адносна вялікі і прыстойны горад, дзе можна адпачыць. Паводле лістоў Прота Лелявеля (ад’ютанта Дамброўскага ў 1812 г. і брата вядомага гісторыка Іаахіма Лелявеля), жыхары Гродна віталі напалеонаўскую армію вельмі радушна, але салдатам не спадабалася, што ў горадзе без важкіх прычын адразу падняліся цэны на ўсе тавары [301, с.52]. Вестфальцы былі незадаволеныя тым, што ўсе лепшыя будынкі ў Гродне паспелі заняць палякі [295, с.46 – 47]. 1 ліпеня Жэром Банапарт накіраваў кавалерыйскую брыгаду

з Гродна на Мерач, каб устанавіць сувязь з галоўнымі сіламі Напалеона, а 2 ліпеня адправіў тры кавалерыйскія палкі ў накірунку Ліды, каб даведацца, што робіць Платаў. Паводле Кукеля, гэта былі два гусарскія вестфальскія палкі і 11-ты польскі ўланскі на чале з вестфальскім генералам Хамерштайн-Экуардам. Аднак удзельнік тагачаснай вайны польскі афіцэр П.Лагоўскі даводзіць, што першай з Гродна на ўсход пайшла 28-я кавалерыйская брыгада Дзеваноўскага ў складзе 2-га і 11-га польскіх уланскіх палкоў, і здарылася гэта толькі 2 ліпеня [305, с.16 – 17].

У гэтыя дні ў ваколіцах Гродна каля Дамброўкі-Беластоцкай (зараз у Польшчы) польскі атрад у складзе 25 уланаў і 12-й роты сапёраў сутыкнуўся з расійскім харчовым магазінам пад аховай узвода салдат і сотні казакаў. Палякі знянацку атакавалі праціўніка, які пасля непрацяглага супраціўлення паклаў зброю. У палон трапіла 30 рускіх салдат і 90 казакаў, у тым ліку 3 афіцэры. Захопленае харчаванне было дастаўлена ў Гродна [286, т.IV, с.193]. Паводле ўспамінаў вестфальскага афіцэра Лосберга пад час руху VIII корпуса на Гродна уздоўж корпусу вялі каля 70 казакаў, трапіўшых у палон у ваколіцах горада, якіх з цікавасцю разглядалі вестфальскія салдаты [295, с.46].

Вестфальскі кірасір Рункель адзначаў у лісце да родных, што ўвесь Гродна выйшаў сустракаць караля Жэрома з падзякамі і ўшанаваннямі Напалеона. Дэпутаты ад Гродна паднеслі Жэрому ключы ад горада [135, с.106]. Вестфальскі кароль са світай, якая налічвала 80 чалавек, заняў дом віцэ-губернатара Максімовіча (зараз стары будынак аблвыканкама па вул. Э.Ажэшкі, 3). Штаб размясціўся ў доме Валіцкага (зараз лабараторны корпус медыцынскага універсітэта па вул. М.Горкага, 2), а Ю.Панятоўскі заняў губернатарскі дом (знішчаны пазней палац Тызенгаўза на сучаснай плошчы Тызенгаўза). Каб узняць баявы дух вестфальскіх салдат, у Гродне ім паказвалі мёртвых і палонных казакаў. Каля 100 казакаў у Беластоцкай вобласці і пад Гродна трапілі ў палон. Паводле слоў вестфальца Рункеля: “Палонныя казакі бедна апрануты, дрэнна ўзброены, відаць, яны з нерэгулярных войскаў” [135, с.106 – 107]. Першым часовым гродзенскім губернатарам быў прызначаны камандуючы 4-й лёгкай кавалерыйскай дывізіі польскі генерал Аляксандр Ражнецкі, якога хутка змяніў на гэтай пасадзе другі польскі генерал Людвіг Камянецкі. Для падтрымання парадку ў Гродне пакінулі адзін польскі батальён 14-га палка са складу V корпуса.

У Гродне Жэром Банапарт даведаўся, што ў Варшаве 28 чэрвеня 1812 г. утварылася Генеральская Канфедэрацыя Польскага Каралеўства, і яму прапанавалі пасаду рэгіментара канфедэрацыі. Шляхам далучэння да Генеральнай Канфедэрацыі асобных паветаў Беларусі і Літвы палякі планавалі законным шляхам інкарпарыраваць у склад Польшчы тэрыторыі, вызваленыя ад царскай улады. Гэта адпавядала і планам самога Жэрома Банапарта, які марыў замест маленькай і ненадзейнай вестфаль-

скай кароны атрымаць карону вялікага і ўдзячнага Польскага каралеўства. 3 ліпеня ў Гродне ў прысутнасці Ю.Панятоўскага гродзенская шляхта ўрачыста далучылася да Варшаўскай канфедэрацыі. Гэтак першая частка Беларусі "вярталася" ў Польшчу. З гэтай нагоды ў Гродне праводзілася багата балоў ды прыёмаў. Віно лілося рэкамі. Жэром Банапарт часта нагадваў шляхце аб велічнай постаці Баляслава Храбрага, якога ён, відаць, збіраўся імітаваць у якасці польскага караля. У адказ уздымаліся тосты за непераможнае адзінства залатых арлоў Францыі ды сярэбраных арлоў Польшчы.

Ваенны тэарэтык і ўдзельнік вайны 1812 г. Карл Клаўзевіц у свой час выказаў вельмі слушную думку: "Вайна ёсць працяг палітыкі іншымі сродкамі". Галоўнай палітычнай мэтай вайны 1812 г. Напалеона абвясціў аднаўленне Польшчы. На трон будучага вялікага Польскага каралеўства, галоўнага саюзніка Францыі ва Усходняй Еўропе, Напалеон збіраўся пасадзіць свайго малодшага брата Жэрома Банапарта. Паводле Армана дэ Каленкура, Напалеон у пачатку чэрвеня 1812 г. казаў пра Польшчу: "Я пасажу туды Жэрома, ствару яму выдатнае каралеўства, але трэба, каб ён зрабіў што-небудзь, таму што палякі любяць славу. А Жэром любіць толькі раскошу, жанчын, вайсковыя парады ды святы". Лепш за ўсё, калі б Жэром разбіў ці затрымаў Баграціёна – "старога паплечніка", "правую руку старога Суворава" [145, с.83]. Такі ўчынак зняў бы ўсе пытанні наконт польскай кароны для Жэрома і быў бы вельмі дарэчы для палякаў. Заставалася дробязь – знайсці Баграціёна.

27 чэрвеня 1812 г. 2-я заходняя расійская армія Баграціёна сканцэнтравалася ў Ваўкавыску. Як даводзіў Баграціён Платаву, ён 28 чэрвеня планаваў пачаць адыход на Слонім-Нясвіж. 29 чэрвеня 2 расійская армія рушыла на ўсход. Свой марш Баграціён прыкрываў двума ар'ергардамі: кавалерыйскім генерал-маёра Іларыёна Васільевіча Васільчыкава 1-га (Ахтырскі гусарскі, Літоўскі уланскі адзін казачы палкі і конна-артылерыйская рота) і пяхотным генерал-маёра графа Міхаіла Сямёнавіча Варанцова (Зводная грэнадзёрская дывізія і конна-артылерыйская рота). Яны рухаліся з невялікім інтэрвалам, каб падтрымаць адзін аднаго [167]. 30 чэрвеня ў 14.00 на маршы ў Зэльве Баграціёна дагнаў флігель-ад'ютант Бенкендорф, які прывёз царскі загад ісці на злучэнне з 1-й расійскай арміяй праз Навагрудак – Вілейку. Калі гэты шлях будзе заняты ворагам, дазвалялася рухацца праз Мінск – Барысаў. Выконваючы царскі загад, Баграціён разгарнуў армію на паўночны ўсход. Да Нёмана была паслана рота сапёраў з задачай правесці разведку ракі каля вёсак Крывічы, Мікалаева і Дзелятычы і да 3 ліпеня пабудаваць маставую пераправу ў абраным месцы [167]. 1 ліпеня Баграціён ужо дасягнуў Слоніма, 2 ліпеня – мястэчка Дварэц. Адсюль абоз 2-й арміі быў накіраваны на Нясвіж, каб не затрымліваць рух палкоў. 3 ліпеня Баграціён быў у Навагрудку, дзе далучыў да сябе 27 пя-

хотную дывізію Невяроўскага. Перадавыя часці 2-й расійскай арміі выйшлі да Дзелятыч і Мікалаева. Усе пяць дзён 2-я расійская армія ўпарта ішла наперад пад праліўнымі дажджамі каб як мага больш адарвацца ад праціўніка [114, с.56, 59].

28 чэрвеня 1812 г. у Лідзе камандзір IV расійскага корпуса Дохтураў атрымаў загад рухацца на Вільню. Аднак хутка даведаўшыся, што Напалеон заняў сталіцу Літвы, ён узяў накірунак на паўночны-ўсход: Гальшаны – Смаргонь – Данюшава, дзе апынуўся ўжо 30 чэрвеня. За Дохтуравым з-пад ракі Лябеды адыходзіў III расійскі кавалерыйскі корпус графа П.П.Палена 2-га, які каля Ашмянаў сустрэўся ў імклівым баі з французскай кавалерыйскай брыгадай К.П.Пажоля. Раніцай 30 чэрвеня кавалерыя Пажоля, якая ішла з боку Вільні, атакавала пад Ашмянамі атрад прыкрыцця корпуса Дохтурава – сібірскіх драгун, марыўпальскіх гусар і два казацкія палкі пад камандаваннем палкоўніка Крэйца. Апошні прыкрываў марш расійскага корпуса з Гальшан на Ашмяны і Смаргонь. Абодва бакі ўзялі патроху палонных і абвясцілі аб сваёй перамозе. Неўзабаве абодва расійскія корпусы паспелі праскочыць перад вялікімі французскімі войскамі, якія Напалеон кінуў з Вільні на поўдзень – на адсячэнне Баграціёна [169, с.33].

29 чэрвеня 1812 г. у Вільні французскі імператар зразумеў, што 1-я расійская армія пачала хуткае адступленне і не будзе даваць генеральнай баталіі. Але недзе на поўдні ад Вільні засталася 2-я расійская армія. Каб знайсці яе, Напалеон пачаў стратэгічную разведку сіламі I корпуса маршала Даву. Дывізія Ш.А.Марана і польскія гвардзейскія ўланы рушылі на Міхалішкі. Дывізія Ж.Д.Кампана і кавалерыйская брыгада К.П.Пажоля – на Ашмяны, а кавалерыйская брыгада Э.Т. дэ Бардэсуля – на Ліду. 31 чэрвеня пасля 12.00 маршал Даву з пяхотнымі дывізіямі Кампана, Марана і кірасірскай Валенсі заняў Ашмяны. Аднак расійскі корпус Дохтурава паспеў праскочыць пад носам у Даву і спаліць масты ў Данішаве і Смаргоні [169, 290, т.1].

30 чэрвеня ды 1 ліпеня французскія генералы паведамілі Напалеону, што на Лідскай і Ашмянскай дарогах бачны значныя сілы рускіх з усіх трох радоў войскаў: пяхоты, кавалерыі, артылерыі. Гэта былі адступаючыя з-пад Ліды VI пяхотны і III кавалерыйскі корпусы 1-й расійскай арміі. Напалеон жа вырашыў, што гэта адыходзіць 2-я расійская армія. 1 ліпеня французскі імператар аддаў загад: I корпусу “Вялікай арміі” маршала Даву ў складзе пяці дывізій (53 тыс. чалавек) наступленнем на Вялікія Салешнікі (зараз Шальчынінкай у Літве) – Гальшаны – Валожын – Мінск адрэзаць войскі Баграціёна, а арміі Жэрома Банапарта з Гродна – бесперапынна праследаваць Баграціёна. Разам Даву і Жэром мелі амаль 120 тыс. чалавек, якіх павінна было хапіць для разгрому 45-тысячнай арміі Баграціёна, нават калі б той злучыўся з атаманам Платавым.

1 ліпеня 1812 г., калі пачалося сапраўднае паляванне на Баграціёна, войскі былі раскіданы наступным чынам. Баграціён знаходзіўся ў Слоніме, Платаў – у Ішчална. У Гальшанах з'явіўся невялікі атрад расійскага генерала Дорахава [2-гі і 18-ты егерскія палкі, Ізюмскі гусарскі і два казацкія палкі – разам каля 4 тыс. чалавек]. Гэта быў авангард IV корпуса, які вайна застала каля Аран у Літве. Па нядбайнасці расійскага камандавання Дорахаву "забыліся" паведаміць аб пачатку вайны, і ён сам пачаў як мага хутчэй прабірацца на ўсход. Спачатку Дорахаў рухаўся на Міхалішкі, але 30 чэрвеня каля Вялікіх Салешнікаў ён сутыкнуўся з кавалерыяй Пажоля і вымушаны быў павярнуць на Гальшаны-Валожын. Дорахаў адступаў у такім тэмпе, што ў егераў замест поту выступала кроў. Пад час гэтага марша Дорахаў страціў ад стомы 60 чалавек. Частку адстаўшых расійскіх егераў злавілі тутэйшыя сяляне і адвялі ў Вільню французам. Жэром Банапарт з трыма корпусамі стаяў у Гродне. VII (саксонскі) корпус Рэнье быў яшчэ ў Беластоку і Сакулцы. Толькі ўпарты Нікаля Даву, якога Напалеон лічыў лепшым сваім маршалам, ужо маршыраваў на лініі Вялікія Салешнікі – Ашмяны. Днём 2 ліпеня кавалерыя Даву заняла Гальшаны.

3 ліпеня 1812 г. усё заварушылася. Жэром Банапарт у Гродне атрымаў вымову ад брата і жорсткі загад рухацца за Баграціёнам. Платаў, перачакаўшы вялікія дажджы, дзвюма калонамі дасягнуў Іўя і Беняконь. Ён яшчэ спадзяваўся злучыцца з 1-й расійскай арміяй. Баграціён павінен быў пераправіцца праз Нёман у Беліцы. Платаў папярэдзіў Баграціёна, што мост і баркі з правіянтам, якія ішлі па Нёману ад Гродна да Беліцы, не будуць знішчаны і пакідаюцца "на волю вашага сіяцельства". У мястэчку Воранава казакі знянацку атакавалі французскі атрад, які ў беспарадку адыйшоў да Палецкішкаў. Было забіта і паранена 30 французаў. У Багданаве і Вішневе разведка Платава выкрыла вялікія сілы непрыяцеля – пяхоту, кавалерыю і артылерыю з I корпуса Даву. З імі казакі цягацца не маглі. Платаў вырашыў адыходзіць на Бакшты, што на рацэ Бярэзіне, правым прытоку Нёмана [114, с.61 – 63]. Баграціён 3 ліпеня дасягнуў Навагрудка, а Дорахаў – Валожына, які быў заняты французамі. Гэта прымусіла Дорахава адступаць упрост на поўдзень. Атрад Дорахава злучыўся з арміяй Баграціёна 7 ліпеня каля Стаўбцоў (зараз Мінская вобласць). Саксонцы 3 ліпеня заставаліся ў Беластоку.

У адступленні Баграціёна далёка не ўсё было ідэальна. На яго абозы нападалі атрады, створаныя тутэйшымі шляхціцамі – прыхільнікамі Напалеона. 28 чэрвеня памешчык Павел Рафіновіч адбіў у расіян у вёсцы Вішнеўка бліз Зэльвы звыш 300 ружжаў. Падобным чынам быў захоплены абоз з мундзірамі для Сумскага гусарскага палка, а ў вёсцы Зэльвяны адбіта ў рускіх 10 вазоў медыкаментаў. У Кобрынскім павеце быў створаны атрад канфедэратаў, які адбіў у Дзівіне расійскі харчовы

магазін. Усе трафейныя рэчы звозіліся ў Гродна на патрэбы новай адміністрацыі. Каля Мастоў рускія вымушаны былі патапіць шмат амуніцыі. Сапраўднае паўстанне адбылося ў Пінску. Тут пры набліжэнні кавалерыі Шварцэнберга быў створаны атрад на чале з Фабіянам Горнічам і Твардоўскім, які захапіў ваенную касу, харчовы магазін, 18 вазоў амуніцыі і 80 палонных! 11 ліпеня ўсё гэта было перададзена вянгерскім гусарам Шварцэнберга, у гонар якіх пінскі павятовы маршалак Скірмунт даў баль [290, т.1, с.378 – 379].

Мясцовая шляхта шпіёніла на карысць Напалеона. У Гродне Міхал Дзяконьскі і Юндзіл прадставілі Жэрому Банапарту падрабязны рапарт аб праціўніку. У Навагрудку павятовы маршалак Хрызастом Рдултоўскі далажыў Ражнецкаму ўсе дадзеныя аб Баграціёне. Камісар з Навагрудка Казімір Узлоўскі, вывезены рускімі, збег з-пад канвою і, дасягнуўшы Ашмян, расказаў французам усё, што бачыў у рускіх. У Магілёве да французаў далучыліся дзейсны брэсцкі маршалак Ян Грабоўскі, былы брэсцкі маршалак Станіслаў Нямцевіч і слонімскі маршалак Пуслоўскі. Яны таксама былі вывезены рускімі, але збеглі да Панятоўскага з каштоўнымі звесткамі аб праціўніку.

Галоўныя падзеі ў заходнім рэгіёне Беларусі ў першы перыяд вайны 1812 г. пачалі разгортвацца 4 ліпеня. У гэты дзень у 10 гадзін раніцы Жэром Банапарт, нарэшце, рушыў з Гродна на ўсход. IV кавалерыйскі і V (польскі) корпусы  “Вялікай арміі” ішлі па дарозе Скідаль – Шчучын – Жалудок – Беліца. У авангардзе імчаліся кавалерыйскія дывізіі Камінька і Ражнецкага. Пасля пераправы праз Нёман Ражнецкі звярнуўся да сваіх уланаў з палымянай прамовай і прымусіў усіх даць клятву, што яны сваёй крывёю аднавяць радзіму і адпомсцяць рускім за знішчэнне сваёй дзяржавы – Польшчы ў 1795 г. Кожны ўлан узяў прынёманскую зямлю ў якасці маўклівага сведка сваёй клятвы [169, с.62 – 63]. VII (саксонскі) корпус Рэнье пачаў рухацца з раёна Беласток – Сакулка ў накірунку Вялікая Бераставіца – Ваўкавыск – Зэльва – Слонім. VIII (вестфальскі) корпус Вандама пакуль застаўся адпачываць у Гродне.

Кавалерыя Каміньскага 4 ліпеня заняла Скідаль. Каля Мастоў польскія ўланы захапілі баркі з аўсом, якія эскартавалі казакі. Некалькі данцоў (па іншых звестках –  татараў) трапілі ў палон. Кавалерыя Ражнецкага рухалася паралельна Каміньскаму паўночным шляхам: на Паперню – Ліду – Беліцу [290, т.1, с.72]. Гэта быў не толькі імклівы, але і вельмі цяжкі марш. Падафіцэр 7-га польскага ўланскага палка Дмахоўскі ўспамінаў: “Пад вечар (4 ліпеня) ... рушылі ў нечаканы паход, ішлі дзень і ноч, толькі некалькі гадзін адпачынку дазволілі каля Беліцы на Нёмане, дзе каля 15.00 пераправіліся ўплаў праз раку; ізноў ішлі ўсю ноч як мага хутчэй, коні ўжо падалі па дарозе ад голаду і гарачкі; уланы неслі сёдлы і ўзбраенне на плячах, але не доўга гэта працягвалася, і яны заставаліся на дарозе” [314, с.34].

Баграціён 4 ліпеня пераходзіў праз Нёман па двух мастах: каля Мікалаева – армія, каля Калодзіна – абозы. Штаб Баграціёна знаходзіўся ў вёсцы Мікалаева. Да 22 гадзін пераправа была скончана, і войскі атрымалі загад пачаць начны марш, каб раніцай 5 ліпеня дасягнуць Бакштаў. 2-я расійская армія ішла дзвюма калонамі: першая – у складзе VIII корпуса Бараздіна і двух кавалерыйскіх палкоў, другая – у складзе VII корпуса Раеўскага, аднаго кавалерыйскага і аднаго казацкага палка. У авангардзе – казакі Платава, у ар'ергардзе – казакі Ілавайскага 5-га. Відавочна, Баграціён разлічваў заняць Бакшты, а пасля разведкі канчаткова вырашыць накірунак прарыву – альбо праз Валожын, альбо праз Мінск [167].

Аднак 5 ліпеня да камандуючага 2-й расійскай арміі прыходзілі толькі несуцяшальныя звесткі. Платаў адправіў атрады казакаў ва ўсіх магчымых накірунках: на Расолішкі – Валожын, на Даўнары – Іўе, на Юрацішкі, на Вішнева (вёска на захадзе ад Валожына) ды ўздоўж правага берага Бярэзіны. Паўсюды казакі натыкаліся на французскія раз'езды, а ў Валожыне былі выкрыты вялікія сілы I (французскага) корпуса "Вялікай арміі". Неўзабаве да Баграціёна зноў з'явіўся царскі флігельад'ютант Бенкендорф, які давёў, што французскі маршал Даву знаходзіцца ў адным пераходзе ад Мінска. Абодва накірункі адыхода былі перарэзаны. Хутка зарыентаваўшыся, Баграціён у гэты ж дзень (5 ліпеня 1812 г.) аддаў загад адступаць на поўдзень – на Дзелятычы – Нягневічы – Карэлічы – Мір – Нясвіж. Каб прыкрыць адыход, Платаў пакінуў атрады казакоў у Іўі, Гудзянятах (вёска ў Іўеўскім раёне), Заковічах, каля Вішнева і Бакштаў. Да 16.00 5 ліпеня Баграціён знаходзіўся ў Мікалаеве, адкуль папярэдзіў Платава, што тутэйшая пераправа будзе знішчана ў поўдзень 6 ліпеня. Увечары 5 ліпеня 2-я расійская армія дасягнула Карэлічаў. Польская кавалерыя 5 ліпеня заняла Шчучын, а яе авангард – брыгада Дзеваноўскага – дасягнуў Паперні [114, 169, 290, т.1, 314].

6 ліпеня Баграціён быў у Карэлічах. Пасля кароткага адпачынку расійскія палкі адразу рухаліся на Мір. Баграціён да 20.00 чакаў у Карэлічах звестак ад Платава. Платаў на сваю рызыку арганізаваў казачы рэйд у накірунку Мінска. Атаман Данскога войска спадзяваўся на падыход з усходу казачых палкоў Быхалава і Камісарава ды на слабасць і стомленасць французскага авангарда ў Мінску. Казакі дайшлі да Кайданава (зараз Дзяржынск), калі стала зразумела, што выбіць французаў не атрымаецца. Неўзабаве казакі данеслі, што ўланы Ражнецкага ўжо захапілі Беліцу. Тутэйшыя жыхары дапамаглі ўланам узяць у палон расійскага афіцэра, які павінен быў знішчыць паромы праз Нёман [114, с.78]. Дзякуючы гэтаму дывізія Ражнецкага хутка фарсіравала Нёман і працягвала рухацца наперад.

V (польскі) корпус Панятоўскага толькі цягнуўся ад Скідаля да Шчучына. 5 ліпеня польскі корпус напалеонаўскай арміі быў у Жыдомлі

і Скідалі. 6 ліпеня палякі дасягнулі Каменкі. 7 ліпеня – расцягнуліся паміж Шчучынам і Жалудком. Паводле лістоў Прота Лелявеля, настрой палякаў быў бадзёры, ежы хапала, а вось з вадой былі праблемы – адчуваліся дажджы ды папярэдні праход вялікай масы кавалерыі (спачатку казакі, а потым уланы) [301, с.53]. VII (саксонскі) корпус Рэнье рухаўся на Ваўкавыск – Зэльву. Нарэшце, 6 ліпеня з Гродна на ўсход рушыў VIII (вестфальскі) корпус Вандама. Каб забяспечыць салдат харчаваннем, Жэром загадаў вестфальцам ісці іншым шляхам – на Азёры – Астрыну – Васілішкі – Лябёду – Беліцу. Сам Жэром Банапарт увечары 6 ліпеня пераехаў у Шчучын, дзе вестфальскі кароль адпачываў увесь наступны дзень. Армія рухалася далей – на Жалудок. У гэты час – увечары 6 ліпеня – першы эскадрон 16-га польскага ўланскага палка Марціна Туроўскага дасягнуў Навагрудка. Саксонцы 6 ліпеня занялі Вялікую Бераставіцу [290, т.1, с.79].

7 ліпеня 1812 г. армія Баграціёна пакінула тэрыторыю Літоўска-Гродзенскай губерні і сканцэнтравалася ў Нясвіжы. Расійскія салдаты ўжо 10 дзён бадзяліся па Панямонню пад праліўнымі дажджамі. Адступленне ажыццяўлялася па "сувораўскай методыцы": пяць вёрст марша – адна гадзіна адпачынку, дзесяць вёрст – дзве гадзіны адпачынку, ранцы аблегчыць, крок шырокі – "распашны". Людзі ледзь трымаліся, а коні падалі дзесяткамі. Вуліцы Нясвіжа ў сярэдзіне ліпеня былі завалены памёрлымі і забітымі канямі. Баграціён быў вымушаны даць сваёй арміі трохдзённы адпачынак у Нясвіжы [135, с.105]. Таму 7 ліпеня Платаў атрымаў загад любым коштам некалькі дзён утрымліваць авангард непрыяцеля: "Затрымліваць непрыяцеля, не падаваць яму ні якіх знакаў аб нашым адступленні". Атаман Данскога войска размясціўся ў лагеры каля Міра і пачаў збіраць раскіданыя па наваколлю казацкія палкі. Уланы Ражнецкага ў гэты час канцэнтраваліся ў  Навагрудку. Вестфальскі корпус толькі дасягнуў Васілішак, а саксонскі – Ваўкавыска.

Жэром Банапарт раніцай 7 ліпеня атрымаў у Шчучыне ліст ад свайго брата. Напалеон быў раз'юшаны: "Немагчыма манеўраваць горш […] Усе вынікі маіх манёўраў і найлепшая магчымасць, якая толькі можа здарыцца на вайне, зруйнаваны, таму што былі забытыя элементарныя правілы вайны". Напалеон цікавіўся, чаму яго загад даручыць авангард Панятоўскаму не выкананы. Вестфальскі кароль на працягу 7 ліпеня адказаў двума лістамі. У першым ён прызнаваў сваю віну, абяцаў выправіцца. У другім, атрымаўшы інфармацыю ад Латур-Мабура, дакладваў, што каля Карэлічаў выяўлены ар'ергард Баграціёна. Жэром Банапарт абяцаў загнаць Баграціёна ў Бабруйск, але сам так і не зварушыўся з месца – увесь дзень 7 ліпеня вестфальскі кароль адпачываў у Шчучыне [290, т.1]. Уланская дывізія Ражнецкага ўвечары 7 ліпеня перайшла Нёман у брод каля Беліцы і рушыла на Навагрудак [286, т.IV, с.212 – 213 заўв.].

Днём 8 ліпеня 1812 г. адбылася сутычка паміж данскімі казакамі і польскімі ўланамі каля Карэлічаў. 29-я (польская) лёгкая кавалерыйская брыгада Казіміра Турно сутыкнулася з двума казацкімі палкамі Ілавайскага 5-га і Карпава 2-га. Абодва бакі бадзёра адрапартавалі аб сваёй перамозе. На самай справе гэта была “разведка боем”, а ў Карэлічах засталіся палякі. Увечары 8 ліпеня кавалерыя праціўнікаў размеркавалася наступным чынам. Галоўныя сілы IV кавалерыйскага корпуса Латур-Мабура – дывізіі Каміньскага, Лоржа і брыгада Дзеваноўскага – размясціліся ў Навагрудку. Брыгада Турно знаходзілася ў Карэлічах, а брыгада Хамерштайн-Экуарда – ў Валеўцы. У найлепшым стане былі ўланы Ражнецкага: брыгады Дзеваноўскага і Турно. Яны рухаліся ў авангардзе і з’ядалі ўсё прыпасы, якія заставаліся пасля казакаў. Цяжкай кавалерыі Лоржа літаральна не хапала прывіянту і фуражу [169, с.82]. V (польскі) корпус 8 ліпеня дасягнуў Беліцы. 9 – 10 ліпеня палякі пачалі пераправуляцца праз Нёман і рухацца на Навагрудак. У гэты ж час – 9 ліпеня – Беліцы дасягнулі калоны вестфальцаў. Ваколіцы мястэчка былі перапоўнены войскамі. Настрой у напалеонаўскіх салдат быў выдатны. Вестфальскія і польскія афіцэры разам пілі за будучую перамогу [295, с.52].

Раніцай 9 ліпеня Лорж данёс Латур-Мабуру, што коні цалкам абяссілелі і дывізія не можа зварушыцца з месца. Латур-Мабур не чакаў бою. 9 ліпеня ён загадаў дывізіі Ражнецкага заняць Мір, дывізіі Каміньскага – перайсці ў Карэлічы, дывізіі Лоржа і корпуснай артылерыі – адпачываць у Навагрудку, а брыгадзе Хамерштайн-Экуарда – разведаць мясцовасць на паўднёвы – ўсход ад Валеўкі. Жэром Банапарт фактычна страціў кіраўніцтва сваім авангардам. 8 ліпеня ён знаходзіўся ў Жалудку – далёка ад месца баёў. Саксонскі авангард 8 ліпеня быў у Зэльве. Увечары 8 ліпеня французскі маршал Даву ўвайшоў у Мінск.

У гэты ж час Платаў з паловай Атаманскага палка, двума казацкімі палкамі ды 12 гарматамі стаяў каля Міра. Генерал-маёр Д.Я.Куцейнікаў з брыгадай казакаў (палова Атаманскага і тры казацкія палкі), разам – каля 1 600 чалавек, размясціўся ў Камні (у Мінскай вобласці на ўсход ад Міра). Палкоўнік А.Карпаў 2-гі з трыма казацкімі палкамі агульнай колькасцю 1 300 чалавек знаходзіўся каля вёсак Сноў і Паланечкі. Уначы з 8 на 9 ліпеня Платаў атрымаў ад Баграціёна яшчэ тры палкі казакаў: Краснова 1-га, Ілавайскага 10-га ды Ілавайскага 11-га і яго сілы ўзраслі да 2 600 чалавек. Разам у трох злучэннях Платаў меў 5 500 шабель ірэгулярнай кавалерыі (казакі, татары, башкіры, калмыкі). У адрозненне ад Латур-Мабура, Платаў добра падрыхтаваўся да бою. Галоўныя сілы былі размешчаны каля вёскі Сімакова ў гаі Ябланоўшчына ў 5 км на поўдзень ад Міра. У мястэчку Мір размясціўся казацкі полк Сысоева 3-га. За Мірам па дарозе да Карэлічаў з’явілася сотня казакаў “для заманкі”. Бліжэй да Міра па абодвух баках дарогі ылі схаваны засады – па 100 лепшых каза-

каў кожная. Атаман данцоў збіраўся прымяніць класічнае заманіванне ў засаду – “вентэр” [114, с.66 – 67; 169].

Раніцай 9 ліпеня 29 кавалерыйская брыгада К.Турно рушыла ўперад. У авангардзе ішоў 3-ці уланскі полк Яна Радзімінскага. Настрой у польскіх уланаў быў вельмі добры: паводле М.Кукеля, “смеласць і добры гумар” панавалі ў дывізіі. Каля Міра першы эскадрон падпалкоўніка Яна Сумінскага ўбачыў заставу казакаў і адразу пайшоў у атаку. Казакі хутка кінуліся наўцёкі. Каля 9.00 гадзін раніцы Сумінскі ўварваўся ў Мір, дзе местэчкавыя яўрэі заявілі, што казакаў вельмі мала. Тады першы эскадрон кінуўся далей. Пагоня працягвалася каля 2 гадзін. За Мірам, дзе ўланы расцягнуліся ўздоўж плаціны на рэчцы Міранка, іх раптоўна атакаваў увесь полк Сысоева 3-га. Ад разгрома Сумінскага выратавалі два іншыя эскадроны 3-га уланскага палка, якія хутка прыйшлі на дапамогу сваім. Завязаўся кавалерыйскі бой з пераменным поспехам. Зыход яго вырашыла з’яўленне галоўных сіл Платава. Уланы падаліся назад, і тут з тылу ўдарылі абедзве засады. Радзімінскі здолеў прарвацца, але адыход яго палка ператварыўся ў сапраўдныя ўцёкі.

Пакуль у ваколіцах Міра адбываўся жорсткі кавалерыйскі бой, генерал К.Турно з двума іншымі палкамі сваёй брыгады заняў вёску Пясочную і, пакінуўшы на масту праз раку Ушу 15-ты уланскі полк, з 16-ым уланскім палком Марціна Тарноўскага рушыў на дапамогу сваім байцам. З’яўленне новага праціўніка на нейкі час спыніла націск казакаў, але Платаў неадкладна ўвёў у бой новыя сілы. Казакі гналі ўланаў на працягу 8 км ад Міра да ракі Ушы. Частка ўланаў была адрэзана ад маста, прыжата да забалочаных берагоў рэчкі Ушы і трапіла ў палон. Турно ўвёў у бой свой апошні 15-ты полк уланаў Аўгусціна Тшэцескага і пачаў адыходзіць да вёскі Турэц (паміж Мірам і Карэлічамі). Ад канчатковага разгрому брыгаду Турно выратаваў Ражнецкі. Раніцай 9 ліпеня ён з другой паловай сваёй дывізіі – 28-й лёгкай кавалерыйскай брыгадай Дамініка Дзеваноўскага – выйшаў з Навагрудка ў накірунку Карэлічы-Мір. У Карэлічах Ражнецкі нечакана сустрэў адступаючы абоз брыгады Турно. За мястэчкам ужо з’явіліся асобныя ўцекачы з 3-га і 16-га ўланскіх палкоў. Ражнецкі павярнуў салдат насустрач ворагу, разгарнуў брыгаду Дзеваноўскага і рушыў да вёскі Пясочнай. Яго з’яўленне паклала канец прачследаванню Турно. Казакі павярнулі назад да Міра.

Платаў пакінуў у Міры тры казацкія палкі, а астатнія сілы адвёў за Мір да вёскі Сімакова. У гэтым баю перавага была на баку Платава. Супраць брыгады К.Турно ў 1 500 чалавек ён задзейнічаў 2 600 казакаў. Прычым Турно ўводзіў свае войскі па частках, а Платаў у адпаведны момант кінуў у бой галоўныя сілы, а потым упарта развіваў поспех. Вобразна кажучы, Турно біўся растапыранымі пальцамі супраць платаўскага кулака. Атаман Данскога войска далажыў, што страты праціўніка склалі 8 афіцэраў і каля 300 салдат забітымі і параненымі ды 6 афіцэ-

раў і 250 салдат палоннымі. У рэчаіснасці палякі страцілі забітымі і параненымі каля 500 чалавек. Наконт палонных Платаў пісаў Баграціёну: "...а што ўсе яны параненыя, то гэта ад таго, што па ўпартасці іх яны не здаваліся". Дарэчы, звыш 30 цяжкапараненых уланаў памёрла ўначы пасля бою. Палонныя палякі трымалі сябе з гонарам і заяўлялі, што іх мэтай з'яўляецца Масква [169, с.70; 232, с.370]. Платаў абвясціў свае страты ў колькасці 25 чалавек. У гэта цяжка паверыць, улічваючы зацяжны характар і ўпартасць бою, а таксама манеру Платава хаваць свае страты. Нагадаем, што аб стратах казакаў у Беластоцкай вобласці і пад Гродна Платаў ніколі не ўзгадваў. Вялікая колькасць параненых тлумачыцца тым, што праціўнікі выкарыстоўвалі толькі халодную зброю: коп'і і шаблі.

Ражнецкі сабраў сваю дывізію ноччу з 9 на 10 ліпеня ў вёсцы Турэц, пасля чаго рушыў да Пясочнай. Тут польскі генерал звярнуўся да сваіх уланаў з прамовай, у якой, як пасля манёўраў, разгледзеў станоўчыя і адмоўныя якасці сваіх кавалерыстаў. Ражнецкі пахваліў мужнасць, самаахвярнасць ды імкненне ісці на дапамогу сваім сябрам па зброі і асудзіў манеру ўвязвацца ў бой без адпаведнай разведкі. Палякі адчувалі сябе хутчэй зманутымі, чым разбітымі [314, с.40].

Неверагодна, але нават пасля таго, як стала зразумела, што каля Міра знаходзіцца ўвесь корпус Платава, Латур-Мабар не сканцэнтраваў свой корпус! Раніца 10 ліпеня 1812 г. застала дывізію Ражнецкага ў вёсцы Пясочная, дывізію Каміньскага – ў Карэлічах, дывізію Лоржа – ў Навагрудку, а брыгаду Хамерштайн-Экуарда – ў Валеўцы. Паводле расійскага ваеннага гісторыка і кавалерыста В.А.Мірнага, на канцэнтрацыю гэтай кавалерыі хапіла б 6 – 8 гадзін, але гэта так і не было зроблена. 10 ліпеня польска-саксонска-вестфальская кавалерыя атрымала ад свайго французскага генерала наступны загад: Ражнецкаму рухацца на Мір – Нясвіж, але калі ворагаў будзе шмат – бою не даваць і чакаць дапамогі; Каміньскаму і Хамерштайн-Экуарду – ісці на Мір, а Лоржу – заняць Карэлічы.

Відавочна, Латур-Мабур вырашыў, што ар'єргардныя баі скончыліся і рускія будуць працягваць адступленне. Але Баграціён меркаваў інакш. Ён лічыў, што яго арміі патрэбен яшчэ адзін дзень адпачынку, і загадаў Платаву працягваць баі. Акрамя загада, у ноч з 9 на 10 ліпеня Платаў атрымаў істотнае падмацаванне: казацкі полк Ілавайскага 12-га і атрад генерал-маёра І.В.Васільчыкава 1-га (5-ты егерскі, Кіеўскі драгунскі, Ахтырскі гусарскі і Літоўскі ўланскі палкі). Апоўдні 10 ліпеня павінна была падыйсці з-пад Камня казацкая брыгада Д.Я.Куцейнікава. Тым самым сілы Платава павінны былі дасягнуць 9 000 чалавек пры 12 гарматах, у тым ліку 1 000 штыкоў і 2 500 шабель рэгулярных войскаў [169, с.72]. Латур-Мабур у выніку канцэнтрацыі ўсіх сваіх палкоў мог мець, як мінімум 12 тыс. чалавек. Але ён выкарыстаў толькі 4-ю лёгкую

кавалерыйскую дывізію Ражнецкага, якая пасля страт 9 ліпеня наўрад мела ў сваіх шэрагах больш за 3 500 чалавек.

Раніцай 10 ліпеня 1812 г. А.Ражнецкі зноў перапраўіўся праз нешчаслівую для яго дывізіі раку Ушу і рушыў на Мір. Тут уланы нечакана знайшлі расійскі склад з фуражом і пачалі карміць коней. Мясцовы ксёндз расказаў польскім генералам, што ў 3 – 4 вярстах за Мірам у засадзе знаходзіцца ўвесь корпус Платава. Ваенны савет ператварыўся ў спрэчку. Д.Дзеваноўскі раіў пакарміць коней, адпачыць і дачакацца дывізію Камінськага з артылерыяй. Ражнецкі не пагадзіўся і на правах старэйшага загадаў наступаць. Каля 12.00 польскія ўланы пакінулі мястэчка і рушылі далей за казакамі. Хутка разведка данесла, што ў 5 вярстах на поўдзень ад мястэчка ля лясочка і на захад ад вёскі Сімакава відаць казакаў. Ражнецкі высунуў на ўзлесак 7-мы ўланскі полк Аўгусціна Завадскага, а асноўныя сілы 4-й лёгкай кавалерыйскай дывізіі разгарнуў на паўночны захад ад Сімакава ў дзве лініі: спачатку – 29-я брыгада К.Турно, потым – 28-я брыгада Д.Дзеваноўскага.

Спачатку казакі лавай атакавалі 7-мы ўланскі полк. Яны імкнуліся падманлівымі атакамі выманіць палякаў з выгаднай пазіцыі. Палкоўнік А.Завадскі ўжо пачаў выводзіць полк для атакі, але з'явіўся Ражнецкі і загадаў вярнуцца на старую пазіцыю. Было зразумела, што тут увесь корпус Платава колькасцю звыш 5 000 чалавек (рэгулярныя палкі Платаў пакуль не паказваў). Але Ражнецкі ўпарта лічыў, што колькасць сіл Платава засталася на ўзроўні 9 ліпеня – 2 600 чалавек. Каля 15.00 казакі сталі павольна адыходзіць, але Ражнецкі не папаўся на хітрык і застаўся на пазіцыі. Неўзабаве ворагі страцілі адзін аднаго з поля зроку. Уланы спешыліся і пачалі гатаваць ежу. Раптам Завадскі паведаміў, што на яго 7-мы полк наступаюць вялікія сілы рускіх з усіх трох радоў войска: кавалерыі, пяхоты, артылерыі. Ражнецкі неадкладна паслаў ад'ютанта 29-й брыгады капітана Кліхоўскага за дапамогай да дывізіі Камінськага і вырашыў прыняць бой [114, 169, 290, т.1, 313, 314].

План Платава быў даволі простым – уцягнуць праціўніка ў сустрэчны бой і нанесці галоўны ўдар па праваму флангу палякаў, каб адцягнуць туды ўсю ўвагу і рэзервы. За гэты час павінна была падысці брыгада Куцейнікава і абрынуцца на супрацьлеглы фланг Ражнецкага. Потым узятага "ў клешчы" ворага заставалася б толькі канчаткова знішчыць. Існавала адна праблема – 7 уланскі полк А.Завадскага, які быў нябачны ў сваім лясочку для расійскіх рэзерваў і мог у сваю чаргу ўдарыць у фланг Куцейнікаву. Таму 10 ліпеня сражэнне узнавілася каля 18.00 упартымі атакамі на 7-мы ўланскі полк. Толькі з трэцяй атакі пры моцнай артылерыйскай падтрымцы ахтырскія гусары палкоўніка Д.В.Васільчыкава 2-га з дапамогай кіеўскіх драгун і казакаў выбілі ўлан з лесу і адцяснілі да асноўнай пазіцыі Ражнецкага. Адступаючы 7-мы уланскі полк "збіў" з пазіцыі 11-ты полк. Становішча выправіла контратака 16-га ўлан-

скага палка, які затрымаў казакаў і калмыкаў. Пачалося зацятае сражэнне. Атаку галоўных сіл казакаў на правы фланг уланы Турно адбілі. Паводле Лагоўскага, надвор'е ў той дзень было вельмі сухое. Ад кавалерыйскіх манёўраў падняліся густыя клубы пылу, так што часам за тры крокі было цяжка ўбачыць вершніка [305, с.20]. Часам кавалерысты збіваліся гэтак цесна, што не было магчымасці размахнуцца шабляй і праціўнікі білі адзін аднаго кулакамі. Спачатку ворагі, кідаючыся ў атакі, аднолькава крычалі “Ура!”. Неўзабаве каб адрозніць сябе ад гэтак жа пакрытых пылам ворагаў, палякі сталі крычаць “напшуд!”, а казакі – “вперёд!”. У 18 гадзін вечара Платаў кінуў у бой пяхоту – 5-ты егерскі полк, а Ражнецкі – брыгаду Дзеваноўскага. Ніхто не жадаў адступаць.

Адпраўлены за дапамогай польскі капітан Кліхоўскі знайшоў у Міры шэфа штаба IV кавалерыйскага корпуса французскага палкоўніка Серона. Той заявіў, што да Міра падыходзіць 1-шы полк конных стралкоў з 6 гарматамі, а ў Пясочнай ужо знаходзіцца ўся кавалерыйская дывізія Каміньскага. Серон паабяцаў як мага хутчэй выслаць гэтыя палкі на дапамогу Ражнецкаму. З гэтай навінай Кліхоўскі вярнуўся на поле бою, і заспакоены Ражнецкі вырашыў далей упарта трымаць пазіцыю [314, с.46].

У 21 гадзіну, значна пазней, чым планавалася, замест дывізіі Каміньскага ў тылу палякаў з'явілася казачая брыгада Куцейнікава. Яе правёў самым кароткім шляхам беларускі селянін Дзяніс з вёскі Сімакова. Брыгада Куцейнікава разгарнулася паміж вёскамі Падлесся і Азёрскае і лавай ўдарыла ў левы фланг Ражнецкага. Уланы адказалі атакай на атаку. Дамінік Дзеваноўскі асабіста павёў у бой 11-ты ўланскі полк Адама Патоцкага. Сражэнне ўступіла ў вырашальную фазу. Ражнецкі насіўся ўздоўж строю ўланаў, заклікаючы іх мужна трымаць пазіцыю. Стары Платаў асабіста ўстаў на чале данцоў. У рэшце рэшт колькасная перавага і падыход свежых сіл вырашылі лёс кавалерыйскага сражэння. Спачатку падаўся назад 11-ты, потым 7-мы ўланскія палкі. Левы фланг палякаў рухнуў, а за ім павярнулі і астатнія. Казакі гналі праціўніка да Міра. Тут у бой уступіла кавалерыйская брыгада Т.Тышкевіча. Агнём артылерыі і контратакай двух эскадронаў ён спыніў казацкую пагоню. Увогуле ўжо станавілася цёмна. Двухдзённае кавалерыйскае сражэнне каля Міра скончылася [114, 169, 290, т.1, 313, 314]. Дзённая спякота ў ноч з 10 на 11 ліпеня 1812 г. змянілася страшнай навальніцай. Нібыта сама прырода праз маланкі і лівень імкнулася выказаць сваё абурэнне ды змыць з беларускіх палеткаў салдацкую кроў.

У другі дзень баёў Платаў выкарыстаў адзінаццаць палкоў і дванаццаць гармат. Ражнецкі – шэсць палкоў ды Тышкевіч – два эскадроны і тры гарматы. Ражнецкі па гарачых слядах рапартаваў, што такога ўпартага і страшэннага кавалерыйскага бою ён яшчэ не бачыў, а свае страты ацаніў у 500-600 чалавек. Сучасная польская гістарыяграфія лічыць, што

4-я кавалерыйская дывізія страціла 1 600 чалавек, што складае 30 % асабовага складу дывізіі Аляксандра Ражнецкага. 9 ліпеня – 500 забітых і параненых ды 250 палонных. 10 ліпеня – каля 800 забітых і параненых ды 120 палонных. Сярод палонных было 16 афіцэраў, у тым ліку два шэфы эскадронаў – падпалкоўнікі Ян Сумінскі і Вінцэнт Радзімінскі. Паводле расійскіх дадзеных у палон трапіла каля 30 афіцэраў і звыш 350 салдат.

Паводле польскага гісторыка Я.Сташэўскага, колькасць параненых уланаў вагалася паміж 600 – 800 чалавек. Спачатку параненых размясцілі ў яўрэйскіх карчмах у Міры, дзе яны ў жудасных умовах дзесяткамі ляжалі на сталах ды падлогах. Потым параненых польскіх уланаў звозілі ў Навагрудак. Іх было так шмат, што не хапала месцаў у шпіталях і параненых размяшчалі па кватэрах і ў будынку дамініканскага кляштара [102, с.27, 169, 267, 314].

Трэба адзначыць, што ў вайне 1812 г. праціўнікі яшчэ прытрымліваліся пэўных шляхетных правілаў. 12 ліпеня праз парламенцёра палякі адаслалі палонным суайчыннікам іх асабістыя рэчы, а Платаў давёў пра стан палонных: прозвішчы і званні, хто паранены і г.д.

Наконт сваіх страт Платаў адрапартаваў сцісла: “урон малы”. І гэта пасля трохразовай атакі ды шматдзённага бою! Гэта платаўская байка па сённяшні дзень захоўваецца ў расійскай гістарычнай свядомасці. На мрамарных дошках у храме Хрыста Спасіцеля ў Маскве страты Платава пад Мірам пазначаны наступным чынам: “Паранены: палкоўнік Эмануэль і прапаршчык Дземідзенка. Выбыла з шэрагаў ніжніх чыноў: 8”. Мясцовыя жыхары пасля бітвы пад Мірам пахавалі каля 1 000 чалавечых цел і звыш 500 конскіх трупаў [40, а.75]. Калі дапусціць, што страты забітымі і параненымі сярод польскіх уланаў былі аднолькавыя, то атрымліваецца, што Платаў мог страціць прылізна 200 – 300 чалавек. Але ўдакладніць гэтыя лічбы немагчыма.

Ю.Панятоўскі ў рапарце ад 13 ліпеня 1812 г. з Нясвіжа да начальніка штаба “Вялікай арміі” маршала Берцье, ратуючы гонар польскай кавалерыі, пісаў, што казакі страцілі 1500 чалавек забітымі і параненымі, у тым ліку генерала Грыгор’ева (дарэчы, гэты казачы генерал увогуле не ўзгадваецца ў расійскіх крыніцах). Нібыта ў абозе Платава з’явілася 100 вазоў, на кожным з якіх было па 10 параненых. Шмат рускіх у адных рубашках, каб іх не пазналі, разбегліся па навакольных лясах! Паводле Панятоўскага, Літоўскі ўланскі полк рускія ўвогуле не рызыкнулі ўвесці ў бой, таму што ён збіраўся перайсці на бок палякаў. Яшчэ больш фантазіі праявіў генерал Ражнецкі. У сваім рапарце да камандзіра IV кавалерыйскага корпуса “Вялікай арміі” Латур-Мабура ён пісаў, што рускія страцілі забітымі генерала Палена, палкоўнікаў Адрыянава і Ілавайскага, вялікія страты панеслі Кіеўскі драгунскі і Ахтырскі гусарскі палкі, а “поле сражэння было пакрыта цяламі казакаў, калмыкаў, башкіраў і та-

тар”! Але падману Панятоўскага і Ражнецкага ў французскім штабе ніхто не верыў. Усе разумелі, што рускія выйгралі першае сражэнне ў вайне 1812 г. [286, т.IV, с.204 – 205, 212 – 214 заўв.].

За перамогу пад Мірам ордэн Св.Георгія 4 ступені атрымалі падпалкоўнік Кірсанаў і маёр Давыдаў, амаль усе афіцэры Атаманскага палка былі ўзнагароджаны, сямёра былі павышаны ў воінскіх званнях, чацвёра ўраднікаў сталі харунжымі.

Здзівіў 10 ліпеня Каміньскі, які чуў стрэлы, але без прыказа так і не рушыў на дапамогу Ражнецкаму. Дзе знаходзілася ў гэты дзень вестфальская брыгада Хамерштайн-Экуарда, так і застаецца таямніцай. Адзначым толькі, што шлях ад Камня да Міра складае 46 км і мае адну пераправу праз Нёман каля Беражнога, але данскія казакі Куцейнікава паспелі на поле бою. Ад Валеўкі да Міра – 38 км без перапраў, але вестфальскія гусары Хамерштайна так і не з’явіліся пад Мірам. Незразумела, чаму Латур-Мабур не выкарыстаў сваю цяжкую кавалерыю: саксонскіх ды вестфальскіх кірасіраў Лоржа. Пад Барадзіном менавіта гэтыя “закаваныя ў жалеза людзі на вялізных канях” першымі ўварваліся на батарэю Раеўскага. Але 9 – 10 ліпеня яны не з’явіліся на полі бою.

Што тычыцца ацэнкі дзейнасці камандзіра 4-й дывізіі Аляксандра Ражнецкага, то трэба заўважыць, што ў польскай ваеннай літаратуры гэта вельмі непапулярная постаць. Палякі не даравалі яму паражэння пад Мірам і здрады пад час паўстання 1830 – 1831 г., калі Ражнецкі захаваў вернасць цару. Але трэба памятаць, што ў свой час Ражнецкі лічыўся добрым кавалерыстам. Ён з 1792 па 1813 г. прымаў актыўны удзел ва ўсіх войнах за незалежнасць Польшчы. Магчыма, прычыны безразважлівасці польскага генерала пад Мірам трэба шукаць у ягоным мінулым. Для Ражнецкага гэта была другая бітва пад Мірам. У 1792 г. пад час польска-расійскай вайны як паручык кавалерыі ён ужо змагаўся тут з рускімі. Тады ліцвінская і польская кавалерыя павольным рухам сапсавала магчымасць знянацку атакаваць праціўніка, а потым пабегла з полю бою не вытрымаўшы расійскіх гармат. Верагодна, што з улікам гэтага дасведчання Ражнецкі ўвесь час імкнуўся ўперад, а потым упарта трымаўся за нязручную пазіцыю [317].

Сам Латур-Мабур з’явіўся “на перадавой” толькі на наступны дзень. 11 ліпеня ён на чале эскадрона 2 уланскага палка асабіста правёў разведку і ўпэўніўся, што казакі адыходзяць. Нібыта каб загладзіць сваю віну, Латур-Мабур зараз імкнуўся быць у авангардзе разам з разведкай. Гэта амаль не каштавала яму жыцця. 12 ліпеня каля вёскі Качановічы за Нясвіжам французскі генерал на чале 80 польскіх уланаў напаткаў 100 казакаў. Данцы спачатку пасунуліся назад, пацягваючы ўланаў за сабой, але раптам з’явіліся яшчэ 200 казакаў. Ад палона ці гібелі Латур-Мабура выратаваў 2-гі ўланскі полк, які, не шкадуючы сябе, кінуўся на дапамогу. Уланаў можна зразумець – пасля паражэння пад Мірам страціць

свайго камандзіра корпуса – большай ганьбы цяжка было б сабе ўявіць [305, с.24; 314, с.61]!

10 ліпеня 1812 г. Баграціён пачаў марш на Слуцк. За ім пацягнуліся і казакі Платава. 13 ліпеня V (польскі) корпус Панятоўскага дасягнуў Нясвіжа. На тыдзень вайна пакінула Літоўска-Гродзенскую губерню, каб хутка ўварвацца ў яе межы з поўдня.

У навуковай і папулярнай літаратуры стала ўжо хрэстаматыйным крытыкаваць Жэрома Банапарта за чатырохдзённы прастой у Гродне. Дзякуючы гэтаму Баграціён нібыта пазбег акружэння. Загад Напалеона свайму брату ад 24 чэрвеня (на пачатку вайны) патрабаваў фарсіраваць Нёман каля Гродна і затрымаць Баграціёна: "Рухайце ўперад палякаў, даручыце авангард Панятоўскаму, падначальце яму ўсе лёгкія войскі [уланаў, гусараў, егераў] і будзьце падрыхтаваны ва ўсялякі час падтрымаць яго" [226, с.42]. Гэты імператарскі загад-параду было цяжка выканаць як па аб'ектыўных, так і суб'ектыўных прычынах.

Па-першае, Баграціён не збіраўся ісці на поўнач ні праз Гродна, ні праз Масты, ні праз Беліцу. Падлічыўшы, што ад Ваўкавыска (штаб 2-й рускай арміі) да Барысава праз Мінск 339 вёрст, а ад Коўна (месца пераправы Напалеона) да Барысава праз Мінск 321 вярста, Баграціён вырашыў рухацца на ўсход: Слонім – Нясвіж – Слуцк – Бабруйск. У гэтым выпадку яго ніколі не дагналі б ні Жэром, ні Даву [114, с.52]. Толькі атрыманы на маршы ў Зэльве царскі загад прымусіў Баграціёна зрабіць няўдалую спробу прарвацца праз Валожын на поўнач ды страціць каштоўны час.

Па-другое, вайна – не шахматы, а салдаты – не пешкі. Чамусьці Напалеону можна было 18 дзён стаяць у Вільні "каб прывесці ў парадак баявы арганізм сваёй вялізнай арміі", а Жэрому ніхто не даруе нейкія 4 дні! І гэта пры тым, што шлях Жэрома ад Варшавы да Гродна ў тры разы даўжэйшы за шлях Напалеона ад Коўна да Вільні.

Па-трэцяе, варта звярнуць увагу на надвор'е. Яно было жудаснае. Агульнавядомая спякота лета 1812 г. усталявалася толькі ў другой палове ліпеня – жніўні. У пачатку чэрвеня, калі войскі Напалеона збліжаліся да мяжы, спякота чарадавалася з моцнымі навальніцамі. Вось вытрымка з ліста вестфальскага кірасіра Рункеля: "Наш марш сюды [у Гродна] ад Варшавы быў добры і дрэнны, стаялі пад адкрытым небам [...] навальнічны дождж часам нас здорава паліваў, за 4 дні на мне ніткі сухой не было..." [135, с.106]. Прот Лялевель у лістах 1 ліпеня з Гродна і 11 ліпеня з Навагрудка скардзіўся на частыя дажджы і халодныя ночы [301, с.52 – 53]. Калі супаставіць гэта з сведчаннямі Баграціёна і Платава, то атрымліваецца, што ў Панямонні з 29 чэрвеня па 8 ліпеня кожны дзень ішлі дажджы. Прычым 30 чэрвеня – 1 ліпеня ішоў бесперапынны двухдзённы лівень. У пазнейшым рапарце да Аляксандра І Баграціён адзначаў, што пераправа праз Нёман была вельмі цяжкай па прычыне моц-

ных дажджэй, якія ўзнялі ўзровень вады [167]. Не толькі Жэром у Гродна, але і звышлёгкая кавалерыя Платава ў Ішчална не маглі зварушыцца з месца. Зараз лёгка крытыкаваць Жэрома Банапарта, але нават паўлегендарныя Баграціён і Даву вымушаны былі даваць адпачынак сваім войскам у Нясвіжы і Мінску, бо яны камандавалі не алавяннымі салдацікамі, а жывымі людзьмі, якія ўсе маршы і манеўры рабілі пешшу – па 40 – 50 вёрстаў за суткі, у кроў сціраючы ды збіваючы ногі.

За што варта пакрытыкаваць Жэрома Банапарта, дык за яго непамернае славалюбства і зайздрасць. Ён ужо бачыў сябе польскім каралём, калі ўязджаў у Гродна на чале польскіх палкоў. Сярод ягоных ад'ютантаў быў былы ад'ютант Касцюшкі Станіслаў Патоцкі, які сваёй асобай павінен быў падкрэсліваць пераемнасць былога і новага вызваліцеля Польшчы. Напалеон не дагледзеў, што сярод генералаў, пасланых супраць Баграціёна, трое прэтэндавалі ці маглі прэтэндаваць на польскую карону: Жэром Банапарт, князь Юзаф Панятоўскі і маршал Луі Нікаля Даву.

Юзаф Панятоўскі прыходзіўся пляменнікам апошняму польскаму каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Ён меў законныя першасныя правы на польскую карону і вялікія заслугі перад Польшчай як ваенны міністр Варшаўскага герцагства. Сам Ю.Панятоўскі не даваў для гэтых падазрэнняў ніякіх падставаў. Перад вайной 1812 г. ён адвергнуў тайныя асабістыя прапановы Аляксандра І перайсці на рускую службу і атрымаць самую вышэйшую пасаду ў Польшчы, якая толькі будзе створана пасля вайны, нават каралеўскі трон [256, с.169]. Але сваякі Ю.Панятоўскага ледзь хавалі свае амбіцыі. Асабліва вылучаліся сёстры ваеннага міністра Марыя Тэрэза з Панятоўскіх Тышкевіч ды Канстанцыя з Панятоўскіх Тышкевіч. Аб іх празе да ўлады ведаў нават Напалеон [145, с.294]. Можа, гэтыя жаданні абумовілі пасіўнасць брыгады Тадэвуша Тышкевіча на другі дзень бітвы пад Мірам? Здаецца, што яго своечасовы падыход мог бы цалкам перакрэсліць удар казакаў Куцейнікава.

Жэром Банапарт вельмі моцна адчуваў небяспеку з боку Ю.Панятоўскага. Пад час маршу з Гродна на Навагрудак брат Напалеона ўвесь час знаходзіўся пры польскіх войсках і фактычна забараняў Панятоўскаму аддаваць якія-небудзь загады. Парада Напалеона падначаліць авангард правага прыла "Вялікай арміі" Панятоўскаму была адвергнута, бо Жэром Банапарт жадаў прыпісаць усю славу перамогі над Баграціёнам толькі сабе [265, с.232 – 233; 311, с.215].

Мала хто заўважыў летам 1812 г. трэцяга прэтэндэнта на польскі трон – французскага маршала Луі Нікаля Даву. Напалеон лічыў яго сваім лепшым маршалам. У актыве Даву была перамога, якой мог пазайздросціць сам французскі імператар – 27 кастрычніка 1806 г. каля Аўэрштэдта 26-тысячны корпус Даву ўшчэнт разбіў амаль 70-тысячную прускую армію на чале з каралём Фрыдрыхам-Вільгельмам III, генераламі

Блюхерам і Шметтаў. Гэта перамога паставіла Прусію на калені і паклала пачатак вызваленню Польшчы. Невыпадкова, што менавіта Даву ў 1807 г. быў прызначаны французскім генерал-губернатарам Польшчы. Восенню 1806 г. яго асоба была другой, пасля "кавалерыйскага генія" Мюрата, кандыдатурай на трон Варшаўскага герцагства. У 1808 – 1812 г. Даву быў галоўнакамандуючым усімі войскамі Французскай імперыі на ўсход ад ракі Лабы і яму падпарадкоўвалася польская армія. Даву ведаў палякаў гэтак жа добра, як і свой І корпус. Доўга польскія магнаты і шляхта ўспаміналі шыкоўны летні карнавал 1808 г. у Варшаве, на якім "каралявала жонка маршала Даву". Напярэдадні вайны 1812 г. рускі ваенны агент палкоўнік А.Чарнышоў характарызаваў Даву як "шчырага прыхільніка палякаў" і "вялікага ворага рускіх" [82, с.26; 268, с.68 – 69; 308, с.181].

Нешматслоўны, самаўпэўнены і жорсткі да грубасці маршал Даву добра хаваў свае амбіцыі. А тое, што яны ў яго былі вялікія, не выклікае сумненняў. Асаблівую нянавісць у Даву выклікаў маршал Мюрат, якога Напалеон у 1808 г. зрабіў неапалітанскім каралём. Граф дэ-Сегюр прыводзіць багата прыкладаў вострых канфліктаў паміж Даву і Мюратам пад час похода на Маскву. У марах Даву не было нічога дзіўнага для тых паўлегендарных часоў, калі людзі з народа рабілі сабе неверагодную кар'еру. Сын тракціршчыка маршал Мюрат стаў неапалітанскім каралём. Сын адваката маршал Бернадот – каралём Швецыі. Маршал Сульт марыў аб кароне Лузітаніі (Партугалія з часткай Іспаніі), маршал Сюшэ па-каралеўску кіраваў Валенсіяй і Каталоніяй, а маршал Мармон – Харватыяй. У Польшчы ў 1808 – 1811 г. хадзілі ўпартыя чуткі, што маршал Даву таксама мае вялікія надзеі на польскую карону [127, с.109].

Толькі аднаго чалавека – Напалеона – Даву прызнаваў вышэйшым за сябе і спадзяваўся ў 1812 г., нарэшце, заняць у напалеонаўскай Еўропе адпаведнае сваёй асобе месца. Нагадаем, што 8 ліпеня 1812 г., калі Баграціён толькі ўладкоўваўся на адпачынак у Нясвіжы, Даву ўжо паспеў заняць Мінск. І корпус Даву лічыўся лепшым у "Вялікай арміі". Ён складаўся толькі з французаў і меў шмат ветэранаў. Арман дэ Каленкур пісаў, што І корпус амаль не саступаў Старой гвардыі імператара. Заняўшы Мінск, Даву загадаў стварыць шпіталь на 200 ложкаў. Відаць, страты пад час маршу Вільна – Валожын – Мінск у 53-тысячным І корпусе былі невялікімі. Адкінуўшы Баграціёна ў рукі Жэрома Банапарта, Даву ніяк не падтрымаў брата Напалеона. Ён спакойна чакаў, як той правеліць усю справу. Пасля паражэння пад Мірам Ю.Панятоўскі атрымаў выгавар, а Жэром Банапарт быў адсунуты ад камандавання. Гэты загад прыйшоў у войскі правага крыла "Вялікай арміі" 17 ліпеня ў Нясвіж, дзе Жэром ізноў адпачываў у замку Радзівілаў. Не вытрымаўшы такой абразы, брат Напалеона самавольна пакінуў армію і вярнуўся

ў сваё Вестфальскае каралеўства. У польскіх палках вельмі радаваліся гэтым зменам. Усе войскі правага крыла "Вялікай арміі" былі падпарадкаваны Даву, камандаванне V (польскім) корпусам ізноў вярнулася да Панятоўскага, але польская карона стала недасягальнай ні для каго. Яна імкліва знікла разам з войскам Баграціёна, якое прарвалася на ўсход. Баграціён 19 ліпеня радасна паведаміў А.П.Ярмолаву: "Ледзь выпутаўся з пекла. Дурні мяне выпусцілі. Зараз пабягу да Магілёва, можа іх у клешчы пастаўлю" [155, с.48].

## ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ ПАД УЛАДАЙ ФРАНЦУЗСКАГА ЦЭСАРА

### ГРОДЗЕНСКІ ДЭПАРТАМЕНТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

На вызваленых ад расійскіх войскаў тэрыторыях былога Вялікага княства Літоўскага ствараліся розныя ўстановы кіравання польскай канфедэрацыі. Так, у Гродне да 17 ліпеня дзейнічала створаная губернатарам А.Ражнецкім канфедэрацыйная рада з 12 чалавек на чале з Панцэржынскім. Гэты губернскі ўрад быў падзелены на 4 аддзелы (прадуктовы, паліцыі, скарбовы, палітычны), якім падлягалі тэрыторыі дыстрыктаў па меры адыходу рускіх войск [277, с.86]. Інтэндантам паліцыі стаў былы прэзідэнт Гродна Казімір Крэйбіх, які падзяліў Гродна на 3 акругі. Дазорцамі ў іх былі прызначаны Антоні Жышкевіч, Стэфан Забэла, Station Макарэвіч. Сотнікамі выбралі Казіміра Бернадуні, Адама Янушкевіча, Ерухіма Яцковіча, Вінунтага Шчавінскага, Уладзіміра Войгаўскага, Ваўжэнца Барысевіча, Станіслава Бэдніцкага, Янкеля Пайбішовіча [54, а.1].

У Брэсце 3 ліпеня была заснавана Часовая ваенна-грамадзянская камісія для захавання парадку. У яе ўвайшлі памешчыкі Брэсцкага павета Юзаф Швыкоўскі, Казімір Каржанец (Каржанецкі), Рафаіл Чыжоўскі Чыж), Мікалай Кулеша, Антоні Турскі (Журскі), Вінцэнт Каміеўскі, Крынскі і іншыя, прадстаўнікі горада Антоні Гузэ, Ян Лунцкі, ваенныя прадстаўнікі – пляц-камендант (капітан польскіх войскаў) і аўстрыйскі афіцэр [40, а.77 адв., 78, 112 адв.]. Гараднічым Брэста прызначылі былога пачмайстра, якому дапамагалі сакратар Дабржанскі і купец-яўрэй Фішар [121, с.196]. Мясцовы орган кіравання ў Пружанах узначалілі генерал Франкоўскі і палкоўнік Грабоўскі.

Першага ліпеня выйшаў загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ў Літве і Беларусі:

"§ 1. Прызначаецца Часовы ўрад Вялікага княства Літоўскага, які складаецца з 5 членаў і генеральнага сакратара.

§ 2. Камісіі Часовага ўрада Вялікага княства Літоўскага давяраецца кіраванне фінансамі краю, дастаўка правіянта, арганізацыя мясцовага апалчэння, народнай гвардыі і жандармерыі.

§ 3. Пры Камісіі Часовага ўрада Вялікага княства Літоўскага будзе працаваць імператарскі камісар.

§ 4. Губерні Віленская, Гарадзенская, Мінская і Беластоцкая будуць у сваю чаргу падначалены асобным камісіям, якія складаюцца з 3 членаў пад кіраўніцтвам інтэнданта" [107, с.43].

"Перабольшыўшы сілы і ўплыў віленскіх палітычных летуценнікаў, – піша гісторык Ю.У.Тацішчаў пра Напалеона, – ён кінуў ім цацку, якая была яму нават часткова карысная, паколькі за дазвол вярцець яе ў руках і цешыцца яе прывідным бляскам Літва павінна даць яму ўсё, што ён ад яе патрабаваў".

Камісія Часовага ўрада ВКЛ замяніла ўстановы польскай канфедэрацыі сваімі органамі кіравання знізу да верху: ад вёскі да сталіцы ў Вільні. КЧУ стала вышэйшым урадавым органам, улада якога распаўсюджвалася на значную частку тэрыторыі былога ВКЛ да 1793 г. (гл. дадатак 1). Яна ахоплівала Віленскую, Гродзенскую, Мінскую губерні і Беластоцкую вобласць (яны сталі называцца на французскі ўзор дэпартаментамі) і складала 3 787 кв. міль тэрыторыю з насельніцтвам у 1 333 889 душ муж. полу (па другіх дадзеных 2,5 – 3,5 млн. чал.). ВКЛ 1812 г. мела 33 паветы (дыстрыкты), некаторыя з якіх былі заняты расійскімі войскамі на працягу ўсёй вайны, а частка Гродзенскага дэпартамента ў кастрычніку была занята войскамі адмірала П.В.Чычагава. Рэальна пад уладаю КЧУ ВКЛ было каля 17 паветаў, з якіх 4 ужо ў лістападзе былі заняты расійскімі войскамі [277, с.150; ЭГБ, т.2, с.209].

На ўзроўні дэпартамента дзейнічала адміністрацыйная камісія, якая была падпарадкавана КЧУ (гл. дадатак 2). Яна павінна была хутка выконваць усе даручэнні КЧУ і яе камітэтаў. Складалася з трох аддзелаў: унутраных спраў і паліцыі; вайсковых спраў і харчавання; фінансавых спраў і асветы. Галоўнымі задачамі камісіі былі збор харчавання; нагляд за зборам падаткаў і рэкрутаў; выданне пастаноў, распараджэнняў і загадаў урадавых органаў; кантроль за іх выкананнем; выкананне судовых прыгавораў і ўсіх даручэнняў КЧУ, прадастаўленне патрабуемай інфармацыі [58].

Гродзенская адміністрацыйная камісія сваё першае пасяджэнне правяла 25 (па іншым дадзеных 26) ліпеня. На ім прысутнічалі былы палкоўнік польскіх войск Ігнаці Ляхніцкі, былы маршалак Гродзенскай губ. Людвік Панцэржынскі і Тадэвуш Анджэйкавіч (да 28 жніўня замяшчаў адсутнага Яна Нямцэвіча) [277, с.86, 143]. Былы Брэсцкі павятовы маршалак і сябра павятовага камітэту ваенных патрэб да вайны 1812 г. выехаў з пачаткам ваенных дзеянняў з войскамі Баграціёна ў Навагрудак. Адтуль, з дазволу расійскага камандуючага, вярнуўся дадому, дзе шлях-

тай Кобрынскага павета быў выбраны дэлегатам канфедэрацыі і ездзіў у Варшаву. Адтуль і быў прысланы ў склад адміністрацыйнай камісіі [22, а.3 адв.]. Шэфам бюро паліцэйскага аддзелу стаў былы пісар Гродзенскага павета Антоні Тышкевіч, старшынёй (прэзідэнтам) аддзела застаўся Крэйбіх, а сябрамі былі Міхал Мароз, Мікалай Суржынскі, былы радны Гродна Ануфры Клава [54]. Восьмага жніўня пры адміністрацыйнай камісіі быў прызначаны дырэктар казённых маёнткаў і прыбыткаў. Ад яго таксама залежала рэкамендацыя і выбар большай часткі чыноўнікаў.

Вось якую характарыстыку даў сябрам Гродзенскай адміністрацыйнай камісіі нейкі расійскі служачы, які ў 1836 г. збіраў звесткі для гісторыка Міхайлоўскага-Данілеўскага: “З папер Камісіі бачны гатоўнасць і незвычайная стараннасць яе чыноўнікаў” [40, а.122]. Старшынямі адміністрацыйных камісій былі французскія інтэнданты, у Гродзенскай – Шассенон (Chassenon). Адносіны паміж ім і сябрамі Камісіі былі не найлепшыя. Ён пасылаў да іх ваенныя экзекуцыі, рваў пратаколы пасяджэнняў, прымусам забіраў з касы грошы [277, с.143]. Напалеонаўскія інтэнданты лічылі землі Беларусі непрыяцельскім і заваяваным краем і паводзілі сябе адпаведна.

Гродзенская адміністрацыйная камісія працавала да 18 снежня 1812 г., а з 20 снежня дзейнічала пад назваю “Гродзенская губернская выканаўчая камісія”. У склад яе па загаду Літоўскага генерал-губернатара Рымскага-Карсакава ад 6 (18) студзеня 1813 г. уваходзілі асобы, якія і пры Напалеоне фарміравалі мясцовыя ўлады [58, а.93,100].

На ўзроўні паветаў дзейнічалі павятовая камісія дыстрыкта і падпрэфектура. Па пастанове КЧУ ВКЛ ад 21 ліпеня ў функцыі падпрэфекта ўваходзілі абавязкі былога павятовага маршалка і кіраўніцтва павятовай паліцыяй. Інакш кажучы, ён выконваў тое, што ў дэпартаменце рабіла адміністрацыйная камісія: нагляд за парадкам, публічная бяспека маёмасці, збор падаткаў, ажыццяўленне экзекуцый. Гэтыя функцыі пацвердзіла кастрычніцкая пастанова КЧУ ВКЛ. Дапамагалі падпрэфекту два павятовыя радцы – асобы, якім давяралі жыхары павета і якія ведалі мясцовыя ўмовы. На пасаду падпрэфекта КЧУ выбірала галоўным чынам былых павятовых маршалкаў, або па іх адсутнасці ці няздатнасці падкаморых ці харунжых як асоб, выбраных жыхарамі. Падпрэфектура была падзелена на 3 аддзелы адпаведна аддзелам адміністрацыйнай камісіі дэпартамента: паліцыі, скарбовы, кватэрны. Яны павінны былі забяспечваць бяспеку жыхароў, дастаўку транспартаў, паштовую сувязь, памяшканні для войскаў, стваралі магазіны і наглядалі за імі, вырашалі фінансавыя справы, збіралі падаткі, адказвалі за развіццё асветы і рэлігіі, за ўтрыманне капіталаў і г.д. Паліцыя выконвала загады падпрэфектуры, трымала парадак, бяспеку, займалася рамонтам дарог, арыштоўвала асоб без пашпартоў, наглядала за сельскай гаспадаркаю, ахоўвала сялян ад прымусу і г.д.

Брэсцкую падпрэфектуру ўзначальваў падкаморы Аляксандр Бухавецкі, а сакратаром быў Тамаш Падгурскі [121, с.197]. Прэфектам Ваўкавыскай падпрэфектуры стаў былы павятовы маршалак Антоні Радавіцкі, яе сябрамі (камісарамі) – памешчыкі Ян Жалкоўскі і Аляксандр Алендзкі [40, а.59 адв.]. Гродзенскім прэфектам з’яўляўся Камінскі. У другой палове ліпеня была створана Навагрудская падпрэфектура ў складзе былога павятовага маршалка Рдултоўскага (прэфект), прэзідэнта павятовага суда Бярнарда (інш. Бенедзікта) Ганскага, суддзі Францішка Пілецкага і рэгента гэтага суда Адама Вольскага (сакратар). Мэрам горада быў прызначаны адвакат  Стэфан Паўловіч [193, с.154]. Пружанскую падпрэфектуру склалі Булгарын (прэфект), Трэмбіцкі, Швыкоўскі, Анджэйкавіч, Ляховіч (камісары) [40, а.99 адв.].

Слонімскім прэфектам быў Бронскі. Яму было даволі цяжка выконваць свае абавязкі, бо на працягу 1812 г. горад быў то пад уладаю напалеонаўскіх войскаў (саксонцаў і аўстрыйцаў), то рускіх. У Бронскага нават было два мундзіры –  павятовага маршалка і французскага прэфекта. У залежнасці ад сітуацыі ён апранаў то адзін, то другі. Бронскі хацеў ладзіць з рознымі ваеннымі ўладамі, каб захаваць насельніцтва свайго дыстрыкта ад небяспекі. Гісторык Е.Ф.Арлоўскі прыводзіць у сваёй кнізе такія факты: 15 жніўня, у дзень нараджэння Напалеона, Бронскі ў касцёле канонікаў са слязамі на вачах славіць французскага імператара, а праз некалькі тыдняў, калі расійскія войскі занялі горад, у тым жа касцёле пранікнёна і з захапленнем гаворыць пра Аляксандра І [177, с.22].

У гарадах па загаду КЧУ ад 17 жніўня 1812 г. павінна была існаваць муніцыпальная рада на чале з прэзідэнтам (мэрам). У дэпартаменцкіх гарадах рада падпарадкоўвалася адміністрацыйнай камісіі, у павятовых – падпрэфектам. Яна ажыццяўляла кіраванне горадам і яго прадмесцем: загадвала мясцовай паліцыяй, гарадскімі фінансамі, выконвала ўсе патрэбы французскіх войскаў. Верагодна, існавала толькі Гродзенская муніцыпальная рада, створаная 17 ліпеня [40]. У яе ўваходзілі былы паўстанец 1794 г. Францішак Мучынскі (мэр Гродна), Станіслаў Задарноўскі, Аляксандр Крыдзель, земскі судзя Ян Сакалоўскі і іншыя [277, с.150]. Штат муніцыпальнага праўлення быў даволі шматлікі, а месячнае яго ўтрыманне каштавала 1 000 руб. [136, с.434].

Рада мела тры аддзелы (па загаду КЧУ ВКЛ ад 17 жніўня, а да гэтага было 4): 1) мясцовай паліцыі (старшыня К.Крэйбіх), 2) скарбовы, 3) кватэрны. Паліцыя займалася аховай унутранай бяспекі, сачыла за тымі, хто прыязджаў і ад’язджаў з Гродна, а таксама за падазронымі асобамі, бадзягамі, выдавала пашпарты, вяла спіс коней, дастаўляла неабходную колькасць рабочых і рамеснікаў на грамадскія працы, адказвала за дастаўку харчавання, дапамагала праводзіць рэвізіі. Кватэрны аддзел  займаўся раскватараваннем войскаў, збіраў кватэрны падатак, заведваў дамамі горада [52, а.1 – 9; 54, а.1 адв.3].

Скарбовы дапамагаў адміністрацыйнай камісіі спагнаць падаткі. КЧУ ВКЛ вырашыла, што ўсе 4 дэпартаменты заплацяць падаткі, роўныя паўгадавому за 1812 г., без аплаты збожжам, забраным расійскай уладаю. Беластоцкі, Віленскі, Гродзенскі – серабром, Мінскі – асігнацыямі па норме серабра. Падаткі падзяляліся на:

1) пастаянныя – падымны, кварты са староstваў, розныя аплаты з духоўных і казённых маёнткаў, пагалоўнае ад яўрэяў;

2) непастаянныя – мытны і акцызны зборы (чапавы, сосавы), судовыя таксы, даходы ад гербавай паперы, продажу лесу, працэнты ад купецкіх капіталаў (2,25 % ад яўрэйскіх, 1,25 % – ад хрысціянскіх);

3) новыя – 22 жніўня КЧУ прыняла пастанову аб добраахвотным ахвяраванні для ўсіх, акрамя ваенных, хворых, не маючых даходаў дзяцей; падатак патэнтавы на духавенства (згодна з рашэннем Чатырохгадовага сейма), якое мае маёмасць, прывілеі;

4) надзвычайныя – напрыклад, КЧУ скасавала дамовы з тымі, хто трымаў акцызы, канфіскавала іх маёнткі і склады.

Збор пералічаных падаткаў адбываўся вельмі цяжка, але Гродзенскі дэпартамент, да заняцця яго войскамі П.В.Чычагава, пасылаў грошы даволі рэгулярна [53, а.8 – 44, 84,112, 114, 176; 277, с.202, 205].

Значныя сілы затрачвалі ўлады дэпартамента на харчаванне войск Напалеона. У пачатку вайны Гродна і Гродзенскі павет дастаўлялі прадукты для правага крыла напалеонаўскай арміі, у асаблівасці для войска караля Вестфальскага. Па загаду апошняга ў Гродне арганізавалі магазін (склад) на 500 000 рацыёнаў, якія складаліся з хлеба, ялавічыны, водкі і зяляніны. 24 і 31 ліпеня было загадана звозіць сюды хлеб з запасных магазінаў, пакінутых рускімі войскамі ў мястэчках Сталавічы, Любча і іншых. Вялікія харчовыя склады былі створаны ў Навагрудку і Лідзе. 8 жніўня КЧУ ВКЛ прадпісала арганізаваць магазіны ў заштатных гарадах Скідзелі, Берастаўіцы, Шчучыне, Беліцы, Навагрудку, Турцы – кожны на 10 000 порцый. Для ўтрымання гэтых магазінаў трэба было сабраць з кожнага дома 40 гарнцаў жыта (1 гарн.= 3,28 л.), 40 гарнцаў аўса, 2 гарнцы гароху, 80 фунтаў сена (1 ф.= 409,5 г.) і 80 фунтаў саломы. 13 жніўня гэтае распараджэнне змянілі: загадана было па магчымасці ўзмацніць магазіны ў Гродне, Лідзе, Навагрудку. У іншых паселішчах: Скідзелі, Шчучыне, Жалудку, Беліцы, Карэлічах і Міры – трэба было мець у гатоўнасці сена, салому, водку і жывёлу. Акрамя названага, на ўтрыманне дарожных магазінаў з кожнага дыстрыкта збіралі па 5 000 пудоў сена і столькі ж саломы, 4 000 гарнцаў водкі і 60 валоў.

29 верасня данеслі загад Напалеона для Гродзенскага дэпартамента – хутка сабраць рэзэрвовы магазін на 50 000 чвэрцей (1 чв.= 209,91 л.) жыта, 73 072 аўса, 6 500 беркаўцаў (1 бер.= 10 пуд.) сена, 6 500 саломы, а з Навагрудскага дыстрыкта – 12 500 чв. жыта, 16 814 чв. аўса, 625 берк. сена. У гэты час не занятымі расійскай арміяй заставаліся толькі

тры дыстрыкты, на якіх і ляглі цяжкасці арганізацыі гэтага магазіна. На працягу месяца амаль палова харчавання была сабрана. Французская армія патрабавала значнай колькасці мяса. Гродзенская канфедэрацыя вызначыла норму пастаўкі – 1 вол ад 20, адміністрацыйная камісія – 1 ад 50 валоў. За 5 месяцаў дэпартамент пазбавіўся трэцяй часткі сваёй жывёлы.

Значная колькасць коней таксама была забрана на патрэбы напалеонаўскай арміі. 700 коней даставілі ў Вільню, каля 2 000 – для Народнай кавалерыі. У Пружанскім і Навагрудскім дыстрыктах Шварцэнберг і Рэнье ў розныя часы патрабавалі па 100 – 300 коней, часта забіралі іх прымусам. Для транспарціроўкі харчавання, амуніцыі, гармат і людзей былі патрэбны вазы. Часам здаралася, што адначасова выкарыстоўвалася звыш 300 коней. 12 верасня для перавозкі харчавання ўжывалася 220 коней. У Гродне патрабавалася штодзённа 150 вазоў. Бывала, што ва ўсім дыстрыкце нельга было знайсці 13 вазоў. 26 кастрычніка было прадпісана з Ваўкавыскага, Лідскага, Слонімскага, Навагрудскага дыстрыктаў даставіць у Гродна з кожнай душы па 1 вазу; 15 снежня з Брэста патрабавалі 12 000 вазоў. Выкарыстоўвалі для перавозкі таксама каля 30 суднаў, забраных ад памешчыкаў. Цікава адзначыць, што ў Каралеўстве Польскім транспарт аплочваўся, а ў ВКЛ гэта лічылася абавязкам жыхароў.

Для выпякання хлеба, ацяплення будынкаў, шпіталяў патрабаваліся дровы. Летам толькі ў Гродне спальвалі штомесячна 4 500 вазоў дроваў для выпякання хлеба (было 100 пячэй, у якіх выпякалася 100 000 порцый хлеба), на абагрэў шпіталяў і інш. Адміністрацыйная камісія прадпісала даставіць з Гродзенскага дыстрыкта 3 000, з Лідскага – 4 000, Навагрудскага – 4 500, Слонімскага – 4 000, Ваўкавыскага – 3 500 кубічных сажаняў (1 саж.=2,13 м), усяго 19 000 сажаняў дроваў.

Турботай адміністрацыйнай камісіі і падпрэфектаў былі шпіталі. Па загаду вестфальскага караля ад 2 ліпеня ў Гродне ствараўся шпіталь на 1 200 чалавек (часам колькасць хворых дасягала 2 000, але менш за 700 не была). Спачатку ён утрымліваўся за кошт горада і дыстрыкта, а пазней французскі ўрад узяў яго пад сваё кіраванне: адміністрацыйная камісія пастаўляла бялізну і мэблю, а горад – іншыя рэчы. На ўтрыманне шпіталя, яго абсталяванне і рамонт было выдаткавана 500 000 руб. У якасці прыслугі працавалі расійскія палонныя, а таксама запрашаліся ўсе, хто хоча дапамагчы “сваім пакутуючым абаронцам”. 5 снежня было прадпісана сабраць усіх лекараў. Акрамя Гродна шпіталі адчыніліся ў Станіслававе каля Гродна на 200 саксонцаў, у Шчучыне – для аўстрыйцаў, у Навагрудку – на 600 вестфальцаў і палякаў, у Ваўкавыску, Ізабеліне, Слоніме, Брэсце і іншых мястэчках. Медыкаменты для іх бралі ў прыватных аптэках, прывозілі з Прусіі, выкарыстоўвалі захопленыя ў расійскіх войсках. Па распараджэнню адміністрацыйнай камісіі насель-

ніцтва збірала лекавыя расліны і дастаўляла іх у Гродна [136, с.438 – 441].

У дапамогу органам кіравання, створаным КЧУ ВКЛ, былі арганізаваны яшчэ шматлікія камісіі:

- ваенных шпіталяў у Гродне;
- грамадзянскіх шпіталяў, у кіраванні якой былі "богоугодные заведения";
- інтэнданства, якое наглядала за пакінутымі рускімі маёнткамі;
- правіянцкая для харчавання войскаў;
- для паскоранага збору падаткаў;
- для прыёму водкі;
- жандарская камісія;
- верыфікацыйная (праверачная) для разгляду стратаў у Гродзенскім дэпартаменце;
- камісія, якая вызначала, якія прадметы будзе пастаўляць для ваеннага шпіталя горад, а якія – дэпартаменты;
- скарбовая;
- лясная;
- мытная (мяжа паміж ВКЛ і Польшчай 28 ліпеня была скасавана).

У Гродзенскім дэпартаменце былі адчынены крымінальныя суды, у якіх справы вырашаліся па законах Рэчы Паспалітай, дзейнасць грамадзянскіх судоў 14 верасня была спынена. Грамадзянскія спрэчкі адміністрацыйная камісія і прэфекты маглі вырашаць толькі з дазволу КЧУ, якая прымала канчатковае рашэнне. Дробныя справы былі даручаны паліцыі. Ва ўсіх судах на розныя пасады і выкананне даручэнняў былі прыцягнуты каля 400 памешчыкаў [136, с.435].

Стварыўшы Камісію Часовага ўрада ВКЛ, Напалеон не далучыў Літву да Польшчы. Гэта вельмі расчаравала палякаў, але так патрэбна было Напалеону. Як правільна лічыў Я.Тарле, гэта "азначала, што ён не хоча рабіць нічога, што магло бы ў дадзены момант перашкодзіць міру з Аляксандрам" [225, с.261]. У такой сітуацыі Польшча пачала дзейнічаць самастойна. 11 ліпеня Рада Генеральнай канферэнцыі піша да КЧУ ВКЛ: "Агульны непрыяцель разарваў адвечныя ніці братэрства, і патрэбна нам падняць надзею, што агульны вызваліцель верне яго і адновіць. Пакажам яму, што захопнік толькі панаваў над зямлёю, а сэрцы не пераставалі заўсёды быць вернымі Айчыне, якая знаходзілася пад яго ўсеўладнай апекаю, і, узяўшыся за рукі, даверам, годнасцю і агульным да адзінай мэты намаганнем усталюем еднасць і даражэйшую справу адраджэння яе" [277, с.103 – 104].

14 ліпеня сябры КЧУ падпісалі акцэс (акт далучэння) да Генеральнай канфедэрацыі Княства Варшаўскага (новай польскай улады) для таго, каб "раз'яднаныя краіны Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае злучаны былі зноў у адзінае палітычнае цела і вярнуліся б да даў-

няй сваёй Айчыны, яе свабод і валоданняў” [277, с.95]. Падобныя “акцэсы” прымаліся таксама ў гарадах і дыстрыктах ВКЛ: Брэсце і Брэсцкім дыстрыкце (3.07), Слоніме (13.07); Гродзенскім дыстрыкце (27.07); Ваўкавыску і Ваўкавыскім дыстрыкце (13.07). Такім чынам, відавочна, што КЧУ ВКЛ не імкнулася да стварэння самастойнай, незалежнай ні ад Расіі, ні ад Францыі ліцвінскай дзяржавы. Вяртанне ў “адзінае палітычнае цела” азначала вяртанне да канстытуцыі 3 мая 1791 г., у якой было напісана амаль тое самае і вяло да ліквідацыі федэрацыі абодвух народаў.

У Брэсце акт канфедэрацыі склалі адстаўны генерал Войска Польскага Мацей Франкоўскі, былы палкоўнік ВП Станіслаў Грабоўскі і іншыя сябры павятовага і гродскага судоў. Вось што у ім гаварылася: “Мы, жыхары Брэст-Літоўскага павета і горада Брэста, пасля адыходу непрыяцельскіх войск з нашых ваколіц, падтрыманыя магутнымі рамёнамі Вялікага Напалеона і натхнёныя святым запалам – як мага хутчэй злучыцца з нашай Айчынай, у час як толькі Акт Генеральнай канфедэрацыі Польскай у Варшаве, 28.06.1812 г. датаваны, дайшоў да нас, добраахвотна сведчым і ўрачыста аб’яўляем, што адпаведна з арт. 5 і іншымі ў Акце гэтага саюзу ўпамянутымі злучаемся ў Канфедэрацыю, да ўзгадваемага некалькі разоў акту Генеральнай канфедэрацыі з найвышэйшым жаданнем прыступаем, акцэз робім, намеры гэтай жа Генеральнай канфедэрацыі аб вызваленні ўсіх частак даўняй нашай зямлі, непрыяцелем захопленай, падтрымліваць усімі сіламі і спосабамі, якія толькі чалавечая здольнасць дарадзіць можа, прысягаем, і гэтае за адзіную мэту нашых намаганняў лічым. Такі акт далучэння Нашага да Генеральнага Варшаўскага Саюзу подпісамі ўласных рук зацвярджаем [294, с.89 – 90].

Акт Слонімскай канфедэрацыі падпісалі былыя польскія вайскоўцы, служачыя судоў, чыноўнікі канцылярый, ксяндзы. Сярод іх, напрыклад, былі: смаленскі каштэлян Станіслаў Зянковіч, прэзідэнт земскага суда Фелікс Бранскі (абодвух выбралі дэлегатамі ў Варшаву), падкаморы Слонімскі Віктар Палубінскі, уніяцкі Брэст-Літоўскі біскуп Юзэфат Булгак, ксёндз Станіслаў Нарбут, суддзя Казімір Валовіч і яго брат Ігнат Валовіч, Міхаіл і Мікалай Радзівілы, маёр былых літоўскіх войск Канопка. У тэксце акцэса між іншым было запісана: “Моладзь ахвяруе здароўе і жыццё. Старэйшыя дадуць параду і маёмасць. Святары заахвочаць да аднадумнасці, узбудзяць энергіяй і малітвай да бога. Словам або жыццём спяшайцеся да выратавання Айчыны. У гэтым злучэнні братэрскага жадання, прысвячэння ўсяго радзіме давяраем творчаму генію і пратэкцыі Найяснейшага Цэсара Французаў Вялікага Напалеона” [40, а.88 – 89].

У акце Гродзенскай канфедэрацыі былі такія словы: “...Прыйшоў той такі жаданы момант, зніклі ўжо маскоўскія войскі, якія намі валодалі, абдымаем братоў нашых, гэтых мужных рыцараў Княства Варшаўскага, якія заслужылі столькі праў для ўсхвалення праз свае шматлікія

ахвяры для сумеснай нашай маці. З'яўляемся палякамі і пасля доўгага перыяду ў часе бачым палякаў. Даведаўшыся мэты іх прыходу і Варшаўскай канфедэрацыі, далучаемся пад прэзідэнствам Людвіка, з вялікаю павагаю да сучаснай Канфедэрацыі і паддаемся ўсім яе пастановам, пры гэтым перад Небам і зямлёй урачыста сведчым, што заўсёды будзем вернымі рэлігіі бацькоў нашых, прызнаем адзінай пануючай рэлігіяй каталіцка-апостальскую, што па прыкладу нашых продкаў будзем талерантныя да кожнага веравызнання, што шанаваць будзем годнасць і прывілеі трону, дзяржаўнае права, што навечна захаваем у чысціні і магутнасці гэты народны дух, які здолеў вытрымаць буры і праследванні тых, хто прыгнетаў нашу Айчыну, і што яго перальем нашым нашчадкам як прымету асаблівасці польскага характару. Нарэшце, сведчым, што прыкладзем усе сілы да дасягнення святой мэты, вызначанай нашай Канфедэрацыяй, што ў будучым будзем падтрымліваць тое, што магло бы аддаць па заслугах агульным намаганням, якія дабротна асвятлялі ў цемры, што ніколі не будзем успамінаць таго, што магло бы выклікаць паміж дзецьмі адной сям'і нязгоду. Адным словам, нічога не прапусцім, каб злучаныя Пагоня і Белы Арол суіснавалі на адным шчыце, і так паступаць будзем, каб радасныя воклікі "Няхай жыве Айчына, няхай жыве Польшча!" даляцелі аж да дальніх межаў нашага народа, і такі акт падпісваем

Ражнецкі, генерал дывізіі
Людвік Панцэржынскі, маршалак канфедэрацыі.
Далей 182 подпісы.
Згодна з арыгіналам. Юзаф Каменскі, сакратар канфедэрацыі" [294, с.43].

Як бачым, ні ў адным акце канфедэрацый не адракаліся ад расійскага імператара – такім чынам "не спальвалі за сабой масты". Усюды падкрэслівалася, што пры імкненні да еднасці тыя, хто падпісваў акты, памяталі пра сваю радзіму Літву. Аднак бачылася яна толькі пад апекай Польшчы.

## ГУБЕРНАТАРЫ ГРОДЗЕНСКАГА ДЭПАРТАМЕНТА

Тэрыторыя заходняга рэгіёну Беларусі ўвайшла ў склад Гродзенскага дэпартамента Вялікага княства Літоўскага, які фактычна паўтараў межы Літоўска-Гродзенскай губерні. За паўгода напалеонаўскага панавання на пасадзе губернатараў Гродзенскага дэпартамента змянілася тры чалавекі: паляк, ліцвін і француз. Прычым "затрымаўся" на гэтай пасадзе толькі апошні губернатар – французскі генерал граф Ан Шарль Лебрэн. Гэта паказвае, наколькі беспадстаўнымі былі польскія ды ліцвінскія мроі аб незалежнасці з дапамогай Напалеона.

Першым гродзенскім губернатарам 1812 года стаў Аляксандр Аляксандравіч Ражнецкі (12.02.1774–24.07.1849). 30 чэрвеня, калі ў Гродна ўвайшлі войскі вестфальскага караля Жэрома Банапарта, апошні прызначыў Ражнецкага на пост губернатара, відаць, для таго, каб падкрэсліць, што ў вызваленым "польскім горадзе" будзе кіраваць паляк. Ражнецкі за сваё 75-цігадовае жыццё прайшоў шлях ад паўстанца да жандара, ад удзельніка вайны з Расіяй да генерала расійскай арміі і члена Дзяржаўнай рады.

Пасля заканчэння корпуса кадэтаў у 1788 г. Аляксандр пачаў служыць у гвардзейскай каронай кавалерыйскай часці і ўдзельнічаў у польска-расійскай вайне 1792 г. (бітвы пад Мірам, Крэмянем, Гранна). Належаў да праціўнікаў Таргавіцкай канфедэрацыі і тайнага таварыства, якое рыхтавала касцюшкаўскае паўстанне. У 1794 г. ваяваў пад Казубавым, Іванішкамі, Рацлавіцамі, Шчэкоціным, Радошыцамі, абараняў г.Віланув, атрымаў чын віцэ-брыгадзіра, а потым каменданта брыгады. Пасля паражэння паўстання эміграваў у Дрэздэн, адкуль паехаў у Італію, дзе ў сакавіку 1798 г. запісаўся ў польскі легіён. Па жаданню камандуючага Італьянскай арміі Ж.В.Маро Ражнецкі напісаў "Запіскі аб расійскай арміі Суворава". Служыў пры штабах спачатку Дамброўскага, а потым Ж.Хампенэта, наступнага камандуючага арміі Італіі. У 1800 г. Ражнецкі прымаў удзел у арганізацыі Наддунайскага легіёна. Добрыя адносіны з Маро паўплывалі на прызначэнне Ражнецкага ў штаб арміі і членства ў Адміністрацыйнай радзе. Ён стаў шэфам коннай брыгады і камандзірам палка ўланаў і лёгкай артылерыі. У час знаходжання з ім у Фларэнцыі арганізаваў абучэнне салдат, заснаваў школу вальтыжэроўкі, наладзіў заняцці па чытанню і пісанню для падафіцэраў, заклаў друкарню. За заслугі атрымаў кавалерскі ордэн Ганаровага Легіёна і ордэн Жалезнай Кароны.

У 1805 г. Ражнецкі са сваім палком удзельнічаў у вайне супраць III кааліцыі (на італьянскім фронце) – бітва пад Кастэль-Франко. У 1806 г. у Каралеўстве Неапаль полк Ражнецкага, ўзмоцнены эскадронам гановерскіх стралкоў і ўзводам пяхоты, ахоўваў міжземнаморскае пабярэжжа паміж Осцыі і Тэрацiны ад англійскага дэсанта. Потым Ражнецкі вярнуўся ў Каралеўства і праз некаторы час адправіўся на вызваленыя польскія землі прускага захопу. На развітанне кароль Неапаля ўзнагародзіў яго ганаровай шабляй і даў яму рэкамендацыйны ліст да Напалеона, у якім падкрэсліў высокую кваліфікацыю і заслугі Ражнецкага. Напалеон даў яму чын брыгаднага генерала французскай арміі і прызначыў генеральным інспектарам польскай кавалерыі. У Княстве Варшаўскім Ражнецкі трапіў пад начальства князя Юзафа Панятоўскага, які быў зацікаўлены ў выкарыстанні яго для ўпарадкавання польскай кавалерыі. Не губляў Ражнецкі і сувязь з французскім штабам. Пасля візіту ў Кракаў ён напісаў генеральнаму губернатару Княства Варшаўс-

кага маршалу Даву рапарт (16.09.1807) аб палітычна-вайсковым становішчы ў Галіцыі. Рапарт быў перасланы Напалеону, а ў студзені 1808 г. Ражнецкі быў узнагароджаны кавалерскім крыжам Віртуці Мілітары. Пры арганізацыі польскай кавалерыі спрабаваў увесці традыцыі польскіх легіёнаў і рэвалюцыйнай французскай арміі, ствараў у палках школы для непісьменных і салдацкія бібліятэкі, патрабаваў ад афіцэраў, каб яны чыталі ваенную літаратуру, выпісвалі краёвыя і французскія газеты.

Заснаваўшы ў 1807 г. масонскую ложу "Злучаныя браты-палякі", Ражнецкі пачаў масонскую кар'еру: у 1810 г. стаў намеснікам Вялікага майстра, у 1816 г. атрымаў ступень Кавалера Ружовага Крыжа, у 1821 г. быў выбраны Вялікім Майстрам "Вялікага Усхода Польскага". Ён быў ганаровым сябрам шэрагу масонскіх ложаў Літоўска-Гродзенскай губерні: "Шчаслівага вызвалення" і "Сябры чалавецтва" ў Гродне, "Паўночнай паходні" ў Мінску, "Шчаслівага вызвалення" ў Нясвіжу.

У лютым 1809 г. Ражнецкі знаходзіўся ў Кракаве для таго, каб разведаць становішча ў Галіцыі. У складзеным рапарце для Даву апісаў грамадскія настроі, палітыку аўстрыйскіх уладаў і іх ацэнку сітуацыі ў Расіі, Прусіі, Княстве Варшаўскім, нямецкіх краінах. Выснова Ражнецкага, што Аўстрыя не пагражае Польшчы, аказалася вернай, бо хутка пачалася польска-аўстрыйская вайна. Ражнецкі ўдзельнічаў у вызваленні Любліна, Сандоміра, Яраслаўля, Львова. На вызваленай тэрыторыі арганізоўваў мясцовыя ўлады і фарміраваў новыя вайсковыя часці. У чэрвені 1809 г. Ражнецкі ўзначаліў усю польскую кавалерыю. Захапіў Радам, Кельцы, дзе арганізаваў упраўленне, падуладнае Напалеону. 15 ліпеня вызваліў Кракаў. Відаць, за пералічаныя заслугі быў узнагароджаны афіцэрскім ордэнам Ганаровага Легіёна і камандорскім крыжам Віртуці Мілітары.

У лістападзе 1810 г. прымаў удзел у працы дэмаркацыйнай камісіі па ўсталяванню мяжы з Аўстрыяй у раёне Падгужа. Пасля вярнуўся ў Варшаву, дзе выконваў абавязкі інспектара кавалерыі, але хутка перайшоў да дзейнасці ў вайсковай разведцы. Напярэдадні вайны 1812 г. яму ўдалося ўкараніць сваіх агентаў у корпус генерала Эссэна ды арганізаваць збор інфармацыі ад жыхароў Беларусі. Перад кампаніяй 1812 г. Ражнецкі атрымаў 4-ю кавалерыйскую дывізію ў IV рэзэрвовым корпусе ген. М.В.-Н.Латур-Мабура. Менавіта з гэтай дывізіяй, складзенай з 28-й (ген. Д.Дзеваноўскі) і 29-й (ген. К.Турна) брыгад уланаў, ён увайшоў 25 чэрвеня ў Гродна. Тут Ражнецкі, як вядома з папярэдняга нарыса, арганізаваў Гродзенскую канфедэрацыю і яе далучэнне да Генеральнай канфедэрацыі. Губернатарам Ражнецкі прабыў нядоўга. Ужо 4 ліпеня разам з дывізіяй ён адправіўся даганяць армію Баграціёна (8 ліпеня заняў Навагрудак).

Далейшы лёс Ражнецкага склаўся наступным чынам. У 1812 г. удзельнічаў у баях пад Мірам, Раманавым (усе на тэрыторыі Беларусі),

Барадзіно. Пасля ранення лячыўся ў Маскве, а потым служыў шэфам галоўнага штаба V корпуса. На гэтай пасадзе вёў перамовы з аўстрыйскімі ўладамі аб маршрутах руху корпуса, суправаджаў Ю.Панятоўскага на перамовах з Напалеонам у Дрэздэне. Восеньскую кампанію 1813 г. правёў таксама побач з князем, будучы шэфам штаба VIII (польскага) корпуса "Вялікай арміі". У баю пад Лейпцыгам ізноў быў паранены і трапіў у расійскі палон. Аляксандр I хутка вызваліў яго, і ў снежні 1813 г. Ражнецкі прыехаў у Варшаву. Дапамагаў арганізоўваць армію Каралеўства Польскага, але пасаду атрымаў толькі 8 верасня 1815 г. – камандуючы дзвюх дывізій кавалерыі. Атрымаў чарговыя ўзнагароды: ордэна св.Станіслава 1-й ступені (1.12.1815) і св. Ганны 1-й ступені (17.10.1817).

Дэкрэтам 28.10.1816 г. вялікі князь Канстанцін Паўлавіч выдаў інструкцыю аб стварэнні жандармерыі, згодна з якой яна падпарадкоўвалася камандуючаму кавалерыі Ражнецкаму. З гэтага часу ён адыходзіць ад вайсковых спраў і больш займаецца жандарскімі. Паступова атрымлівае ордэны: св.Уладзіміра 2-й ступені (6.05.1818), св.Ганны 1-й ступені з брыльянтамі (24.10.1819), св.Аляксандра Неўскага (18.10.1820). У студзені 1820 г. быў выбраны паслом у сейм. У гэты час Ражнецкага лічаць даносчыкам Канстанціна Паўлавіча і за гэта ненавідзяць. Акрамя службовых, выконваў абавязкі старшыні Таварыства сяброў музыкі ў Варшаве, з пачатку 1821 г. – старшыні ўрадавай дырэкцыі варшаўскіх тэатраў.

Будучы масонам, Ражнецкі ў 1821 г. прымае ўдзел у камісіі, якая займаецца ліквідацыяй польскага масонства згодна з указам Аляксандра I. Пішуць, што рабіў гэта не без матэрыяльнай карысці для сябе. У верасні 1826 г. атрымаў чын генерала кавалерыі і камандаванне жандарскім корпусам і тайнай паліцыяй. Спецыялізаваўся на разведцы на тэрыторыях прускага і аўстрыйскага захопаў, арганізацыі шырокай сеткі тайнай паліцыі ў Каралеўстве. Пры гэтым не грэбаваў запусціць рукі ў дзяржаўную казну, браў хабар, вымагаў грошы ў падначаленых і залежных ад сябе асоб. Канстанцін Паўлавіч яму давяраў, узнагародзіў ордэнам Белага Арла, а грамадства яго ненавідзела, патаемнае таварыства нават задумала забіць Ражнецкага. У час паўстання 1830 – 1831 г. збег у Пецярбург, а рэвалюцыйная ўлада зняла яго з вайсковых пасадаў. З 1832 па 1839 г. служыў генералам кавалерыі расійскага войска пры штабе Мікалая I, з 1832 па 1849 г. быў сябрам Дзяржаўнай рады. Памёр у Варшаве, дзе і пахаваны на Павонскаўскіх могілках [271, т.VII, с.276 – 277; 317, с.457 – 464].

Наступным гродзенскім губернатарам 1812 г. стаў Людвік Юзэфавіч Камянецкі (26.08.1758 – 20.04.1816). Цікава адзначыць, што ён, як і Ражнецкі, па службе быў звязаны з Юзафам Панятоўскім, а таксама належаў з 1808 г. да той жа франка-польскай масонскай ложы "Злучаныя

браты на Усходзе Варшавы" (быў прамоўцам). Камянецкі – сын ашмянскага чашніка – выхоўваўся пад апекай кіеўскага ваяводы Францішка Салезега Патоцкага. У 1778 – 1785 г. служыў у саксонскім войску, а калі перайшоў у каронную армію, дык хутка ад капітана дайшоў да падпалкоўніка. Ваяваў з расіянамі ў вайне 1792 г. пад Барушкаўцамі, Зелянцамі, Берэжцамі. Як ад'ютант Панятоўскага, адзначыўся ў бітве пад Уладзімірам Валынскім (7.07), за што атрымаў Крыж Віртуці Мілітары.

Камянецкага падазравалі ў шпіёнстве на карысць расіян, але спецыяльны пасланец з Варшавы нічога не выявіў. Напэўна, на рэпутацыю Камянецкага ўплывала дзейнасць яго братоў-таргавічан – Ігнацыя і Дамініка. Князь Панятоўскі яму давяраў і, выязджаючы з краю, даручыў кіраваць сваім маёнткам. Камянецкі быў у ліку тых, хто дэманстрацыйна падаў у адстаўку, а затым удзельнічаў у канспірацыі 1793 г. і ў паўстанні 1794 г. Служыў генерал-маёрам у дывізіі Панятоўскага, абараняў Варшаву. Пасля паражэння паўстання належаў да світы Панятоўскага, адстойваў інтарэсы князя ў 1798 – 1806 г. і ўваходзіў у клуб "залатой моладзі" пры палацы "пад Бляхай".

З лютага 1807 г. Камянецкі служыў ад'ютантам і шэфам штаба легіёна Панятоўскага, увайшоў у Вайсковую камісію ўрадавай камісіі Княства Варшаўскага. З 28.07 па 3.08.1807 г. удзельнічаў у пасяджэннях Генеральнага Дырыкторыя, выконваючы функцыі ваеннага дырэктара. Восенню 1807 г. узначаліў пяхоту корпуса Панятоўскага. Удзельнічаў у вайне з Аўстрыяй 1809 г. і заслужыў Крыж Ганаровага Легіёна. З 1.07.1809 па 20.04.1810 г. быў губернатарам Варшавы з шырокімі паўнамоцтвамі. Варшавяне на развітанне падаравалі Камянецкаму залаты пярсцёнак з надпісам "Удзячная Варшава губернатару". Потым кіраваў 3-й вайсковай акругай з сядзібай у Любліне, атрымаў чын генерала дывізіі. Удзельнічаў у працах масонскай ложы "Адшуканая вольнасць", у якой стаў майстрам кафедры.

Напярэдадні вайны 1812 г. атрымаў пад сваё камандаванне 18-ю пяхотную дывізію ў V корпусе і дзейнічаў у крэпасці Модлін, а ў маі – у Пултуску. Пад час "маскоўскай кампаніі" 1 ліпеня дайшоў да Гродна, дзе пры садзейнічанні Панятоўскага атрымаў пасаду губернатара. На ёй працаваў, верагодна, да 21 ліпеня. У час адыхода вярнуўся з Магілёва ў Варшаву (праўда, хворым), пазней прымаў удзел у рэарганізацыі рэштак польскай арміі ў Кракаве. У жніўні 1813 г. у Саксоніі атрымаў камандаванне 1-й дывізіяй VIII корпуса. У Лейпцыгскай бітве быў паранены і трапіў у расійскі палон (18.10). Аляксандр I адпусціў яго на лячэнне, таму ўжо ў снежні Камянецкі быў у Варшаве. Яго ўключылі ў спіс генералаў новафарміруемай арміі Каралеўства Польскага, але ён раптоўна памёр [267, с.247; 271, т.III, с.763; 304, с.515 – 516].

Доўгі час гродзенскім губернатарам у 1812 г. быў французскі генерал граф Ан Шарль Лебрэн (28.12.1775 – 21.01.1859). Першапачаткова

з-за недахопу інфармацыі мы лічылі, што трэцім па ліку губернатарам ваеннага часу быў маршал Гільём Мары-Ан ле Брун (13.03.1763 – 2.08.1815). У зман уводзілі сугучнасць і амаль аднолькавае напісанне прозвішчаў у перакладзе з французскага ле Брун (Brune) Лебрэн (Леб-рун) [Lebrun]. Да таго ж абодва былі графамі. Насцярожвалі, праўда, такія факты, як назва ле Бруна генералам, адсутнасць звестак пра яго за 1812 – 1814 г., паведамленне пра тое, што ён быў у дрэнных стасунках з Напалеонам у гэты час.

Ан Шарль Лебрэн быў сынам архіскарбніка імперыі Шарля Франсуа Лебрэна, з 1808 г. герцага дэ П’янчэнца. Сваё жыццё ён звязаў з вайсковай службай, калі 26.12.1799 г. стаў сублейтэнантам 5-га драгунскага палка. Удзельнічаў у Італьянскай кампаніі 1800 г. – быў у свіце Напалеона і адзначыўся ў бітве пры Марэнга. З мая 1801 г. знаходзіўся ў Генеральным штабе Консульскай гвардыі. У кампаніі 1804-1805 г. быў пры штабе маршала М.Нэя, а са снежня 1805 г. – у Стаўцы імператара (меў у гэты час чын палкоўніка). Вяяваў у бітвах пры Аўстэрліцы, Йене, Эйлау, Фрыдландзе. Першага сакавіка 1807 г. атрымаў чын брыгаднага генерала. У лістападзе 1808 г. суправаджаў Напалеона ў Іспанію, а ў маі 1809 г. – у Германію. Біўся пры Ваграме. Са жніўня 1811 г. знаходзіўся ў Страсбургу, дзе меў заданне вышукваць дызерціраў і рыхтаваць вайсковае папаўненне. Думаем, што гэты вопыт яму моцна спатрэбіўся на пасадзе гродзенскага губернатара.

Пад час вайны 1812 г. Лебрэн быў пры Напалеоне. Загадам ад 21 (па іншых дадзеных – 27) ліпеня былі прызначаны генерал-губернатар ВКЛ і губернатары па дэпартаментах. У Гродзенскі дэпартамент паслалі Лебрэна [40, а.123 адв.; 136, с.435 – 436]. Да якога часу ён заставаўся на пасадзе, дакладна не вядома, але згодна “Исторической записке о событиях в Гродненской губ. в 1812 г., составленной в 1836 – 1837 г. Гродненским Гражданским Губернатором”, 3 лістапада Лебрэн яшчэ быў у Гродне. У гэты дзень ён паслаў дэлегацыю насустрач Рэнье і Шварцэнбергу, якія ішлі з Беластока ў Свіслач. Памешчык Сільвястровіч, Міхаіл Анджэйкавіч, ксёндз Каржанеўскі і Булгарын павінны былі прывітаць іх ад усяго дваранства і прасіць абараніць жыхароў ад саксонскіх і аўстрыйскіх войскаў. З названага дакумента бачна, што Лебрэн апекаваў гарадзенцаў. Калі 26 верасня лідскі падпрэфект данёс у адміністрацыйную камісію аб рабаўніцтве французаў у м.Каменка, дык ён абяцаў вярнуць забранае [136, с.450; 443]. Зразумела, што галоўным у яго дзейнасці было забеспячэнне напалеонаўскай арміі ўсім неабходным – харчам, фуражом, вопраткай.

Пасля выгнання напалеонаўскай арміі з Гродзенскага дэпартамента Лебрэн у 1813 г. прызначаецца генерал-палкоўнікам гусар, пазней іншых вайсковых частак, а з 7.12.1813 г. – губернатарам Анвера. На гэты раз, відаць, дапамагаў гродзенскі вопыт губернатарства. Пасля адрачэння

Напалеона прызнаў Бурбонаў і быў прызначаны імі надзвычайным камісарам караля ў 14-й ваеннай акрузе. Потым стаў генерал-інспектарам гусар, але, калі Напалеон у 1815 г. вярнуўся ў Францыю пад час знакамітых "ста дзён", Лебрэн стаў на баку імператара. Пагром Напалеона пакінуў яго без працы аж да 30.12.1818 г., калі яго залічылі ў склад Генеральнага штаба. Ва ўзросце 76 гадоў Лебрена прызначылі сенатарам, а ў наступным 1853 г. – Вялікім канцлерам Ганаровага Легіёну [126, с.539 – 540].

Як бачым, усе тры ваенныя гродзенскія губернатары былі цікавымі асобамі. Не былі людзьмі выпадковымі – мелі ваенны і адміністрацыйны вопыт, выконвалі адну задачу – забеспячэнне арміі Напалеона. Шляхі іх часам перакрэсліваліся, але гэта патрабуе далейшага даследавання.

## ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ І АПОШНЯЯ АРМІЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Ідэя аднаўлення арміі Вялікага княства Літоўскага з'явілася не адразу. Паводле расійскіх шпіёнаў, у чэрвені 1812 г. у Гродне войскі Жэрома Банапарта захапілі 200 расійскіх рэкрутаў апошняга набора (вясны 1812 г.). Гэтых хлопцаў, набраных на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні, нібыта адпусцілі па хатах, таму што "неабходнасці ў іх няма" [109, с.115]. Але вайна з рускімі зацягнулася. Напалеон у Віцебску пачаў казаць аб новай кампаніі ў Расіі ў 1813 г., і ягонай імперыі спатрэбіліся новыя салдаты.

25 ліпеня Ваенны камітэт Камісіі Часовага Урада ВКЛ (гл. дадатак 3) прыняў пастанову аб наборы з 5 па 30 жніўня 1812 г. (пазней гэты тэрмін быў працягнуты да 15 верасня, нарэшце, да 10 кастрычніка) на шасцігадовую службу ў пяхоце 10 тысяч кантаністаў (рэкрутаў) з мужчын ва ўзросце 17 – 34 гадоў. Кожны з іх за кошт уладальніка павінен быў мецць вопратку з мясцовага сукна шэрага або цёмнага колеру, плацяныя штаны, бялізну, 2 кашулі, фуражку, 2 пары ботаў, правіянт на 15 дзён і наяўных грошай у суме 28 руб. [177, с.23; 277, с.164 – 165]. Пастановай прадпісвалася сабраць у Гродзенскім дэпартаменце 2 500 чал. Бралі 1 кантаніста са 119 мужскіх душ, а дзе не было адпаведнай колькасці душ дазвалялася ўнесці грашыма (за аднаго кантаніста 1 тысячу злотых). Яўрэі, караімы і іншыя, хто не падлягаў рэкрутчыне, плацілі па 2 тыс. злотых за аднаго кантаніста [89, ч.2, с.33; 277, с.165].

Набор у ВКЛ праходзіў марудна, але ў Гродзенскім дэпартаменце справа ішла больш-менш паспяхова – да канца вайны тут сабралі 2 495 кантаністаў. Найбольш было з Навагрудскага дыстрыкта – 411 чалавек, трохі менш – з Кобрынскага (373 чал.), Брэсцкага (329 чал.) і Слонімскага (317 чал.), па 293 кантаністы далі Гродзенскі і Лідскі дыстрыкты, 265 чал. было з Ваўкавыскага і 214 чал. – з Пружанскага дыстрыктаў

[136, с.438]. Навагрудзец Кярсноўскі ўспамінаў, што, калі аднаго з 15 кантаністаў, прыведзеных радцам Калпеніцы, ваенна-цывільная камісія не прыняла, дык ён плакаў [193, с.29]. Трэба адзначыць, што і браць кантаністаў асабліва не было з каго, бо апошнія гады расійскі ўрад праводзіў рэкруцкія наборы па два разы на год. Засталіся фізічна слабыя ды хворыя. Трэба ўлічваць і той факт, што шляхта перш за ўсё дбала пра свае інтарэсы і ў ліцвінска-беларускае войска спрабавала адпраўляць так, як і ў расійскае, найгоршых сялян, злачынцаў, лянівых, фізічна слабых, дызерціраў з расійскай або польскай арміяў [102, с.6; 277 с.167 – 168]. У большасці сяляне ішлі ў армію пад прымусам, бо ні Напалеон, ні новая польска-ліцвінская ўлада нічога не зрабілі для паляпшення іх становішча, а толькі абяцалі зрабіць гэта ў будучым. Шляхта, якая ішла галоўным чынам у кавалерыю, таксама складалася не з найлепшых, бо тыя, хто ірваўся ў бой, даўно паціху збеглі праз Нёман у Княства Варшаўскае. Напрыклад,8-мы полк уланаў князя Дамініка Радзівіла складаўся ў асноўным з занёманскіх уцекачоў. Хапала іх і ў іншых палках Княства.

Пяхотны полк ВКЛ часоў напалеонаўскіх войнаў па штату меў 2 487 чалавек  і складаўся з 3 батальёнаў па 6 рот у кожным. І.Ю. Кудрашоў называе больш верагодную лічбу ў 2 005 чалавек для пяхотнага палка [149]. Справа ў тым, што пры наборы 10 тыс. рэкрутаў проста немагчыма было б укамплектаваць пяць пяхотных палкоў па 2 500 чалавек кожны (іх агульная колькасць дасягала б 12 500 чалавек). Іншая справа, калі колькасць палка дасягае толькі 2 005 чалавек. Нумарацыю ліцвінска-беларускія палкі атрымалі чарговую пасля апошніх нумароў палкоў Княства Варшаўскага. Кантаністы з заходняга рэгіёну Беларусі трапілі ў 20-ты і 21-ты пяхотныя палкі, 19-ты і 20-ты ўланскія палкі. 20-ты пяхотны полк (цэнтр фармавання – Слонім, камандзір – барон Адам Бішпінг) складаўся з жыхароў Ваўкавыскага, Гродзенскага, Лідскага, Навагрудскага, Пінскага, Пружанскага, Слонімскага дыстрыктаў. 21-шы пяхотны полк (Беласток, Кароль Пшэздзецкі, пазней Антоні Гелгуд) фарміраваўся з кантаністаў Беластоцкага, Бельскага, Брэсцкага, Драгічынскага, Кобрынскага і Сакольскага дыстрыктаў. Хлопцы з Ашмянскага павета трапілі ў 18-ты пяхотны полк, які фарміраваўся ў Вільні [259; 274].

Пехацінцы былі абмундзіраваны па польскаму ўзору: у сінюю куртку з каўнерам сіняга колеру, абрамлёным чырвоным, з чырвонымі абшлагамі, белымі лацканамі і адваротамі, абрамлёнымі чырвоным, белыя клапаны абшлагаў, жоўтыя гузікі. Штаны, белыя летам і сінія зімой, апраналіся паверху гетраў. На блясеківера або канфедэратцы была выява "Пагоні", часам разам з "Белым Арлом" [259; 274].

13 жніўня 1812 г. з'явілася пастанова Ваеннага камітэта аб наборы чатырох тысяч чалавек на шасцігадовую службу ў кавалерыі. У тэрмін з

15 па 25 жніўня (потым ён быў працягнуты да 10 кастрычніка) з кожных 75 сельскіх і гарадскіх дымаў пастаўляўся адзін вершнік ва ўзросце ад 18 да 36 гадоў з канём. Такім чынам, на Гродзенскі дэпартамент прыпадала 1 228 чал. Сабралі 1 103 рэкруты. Па дыстрыктах гэта выглядае наступным чынам: Навагрудскі – 204 чал., Кобрынскі – 173, Гродзенскі – 142, Брэсцкі – 139, Слонімскі – 130, Лідскі – 128, Ваўкавыскі – 104, Пружанскі – 83 чал. На ўзбраенне збіраліся грошы – з 50 дымаў трэба было 486 злотаў 15 грошаў (295 руб. 60 кап.) [136, с.436, 438]. Хто не мог даставіць каня, той павінен быў заплаціць 500 злотых; малыя пасэсіі, дзе не было адпаведнай колькасці дымаў, плацілі па 1 000 злотых за аднаго кантаніста [177, с.23; 277, с.166]. Каб вырашыць фінансавыя праблемы, афіцэрскія пасады ў пяхоце і кавалерыі прадаваліся. Так, патэнт падпаручніка каштаваў 200 дукатаў, паручніка – 400 дукатаў, капітана – 900 – 1 000 дукатаў. Падафіцэры часам прысылаліся з польскай арміі [277, с.162]. У гэтым адлюстравалася пануючае палітычнае становішча шляхты. Фарміраванне афіцэрскага корпуса паводле названых прынцыпах прывяло да складання недасведчанага ў вайсковых справах кола камандзіраў, якія зрабілі не адну памылку ў арганізацыі і дзейнасці ліцвінска-беларускага войска.

Полк уланаў па штату павінен быў мець 823 чалавекі і складацца з чатырох эскадронаў па 2 роты ў кожным. 19-ты уланскі полк (Навагрудак, Канстанцін Раецкі) арганізоўваўся з кантаністаў Ашмянскага, Ваўкавыскага, Гродзенскага, Ковенскага, Лідскага, Навагрудскага, Слонімскага, Троцкага дыстрыктаў. Фарміраваннем палка займаўся капітан Ксаверы Рымша, маёрам быў прызначаны Напалеонам Камінскі, шэфамі эскадронаў – капітаны Раствароўскі і Падканскі. 20-ты уланскі полк (Пінск, Ксаверы Абуховіч) складаўся з кантаністаў Беластоцкага, Бельскага, Брэсцкага, Драгічынскага, Кобрынскага, Пінскага, Пружанскага, Сакольскага дыстрыктаў [277, с.368; 294, с.17 – 18].

Уланы былі апрануты ў сінія штаны і куртку з жоўтымі гузікамі, мелі белы пас і чорнага колеру канфедэратку з белаю бляхаю, на якой была выява “Пагоні”. Какарда і плюмаж – белага колеру. Канты на штанах, абшлагі і выпушка лацканаў – чырвона-малінавыя або аранжавыя [149, с.18].

Набор у войска ВКЛ так і не быў завершаны. Напрыканцы верасня 1812 г. 20-ты пяхотны полк, які фарміраваўся ў Слоніме, меў 1 014 салдат, а 21-шы полк у Беластоку – 1197 салдат замест амаль 2 500 па штатнаму раскладу. 12 лістапада 1812 г. “Камітэт унутраных спраў” Гродзенскага дэпартамента разглядаў пытанне аб армейскім наборы. Лічбы (прадстаўлены ў табліцы) былі несуцяшальныя.

Па пяхоце рэкруцкі набор быў выкананы на 77,8 %, па кавалерыі – ўсяго на 36,5 %. Зусім не адбыўся ваенны набор у Брэсцкім павеце. Вельмі дрэнна выглядаў Кобрынскі павет [5, а.129 – 130 адв.]. Прычына

| Павет (дыстрыкт) | Пяхота па плану | Пяхота па факту | Недахоп у пяхоце | Кавалерыя па плану | Кавалерыя па факту | Недахоп у кавалерыі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Гродзенскі | 293 | 293 | – | 142 | 107 | 35 |
| Слонімскі | 317 | 252 | 65 | 157 | 106 | 51 |
| Навагрудскі | 411 | 405 | 6 | 251 | 55 | 196 |
| Ваўкавыскі | 265 | 265 | – | 104 | 102 | 2 |
| Лідскі | 298 | 269 | 29 | 138 | 78 | 60 |
| Пружанскі | 214 | 211 | 3 | 54 | – | 54 |
| Кобрынскі | 373 | 248 | 125 | 213 | – | 213 |
| Брэсцкі | 329 | – | 329 | 169 | – | 169 |
| Усяго па дэпартаменту | 2500 | 1943 | 557 | 1228 | 448 | 780 |

гэтага – пастаянныя ваенныя дзеянні на поўдні Гродзенскай губерні паміж расійскай арміяй А.П.Тармасава і аўстра-саксонскімі саюзнікамі Напалеона. Толькі Ваўкавыскі і Гродзенскі паветы выканалі план рэкруцкага набора ў апошнюю армію Вялікага княства Літоўскага.

У мястэчку Жалудок Лідскага павета ў верасні – кастрычніку 1812 г. за асабісты кошт Рудольфа Тызенгаўза фарміравалася конна-артылерыйская рота. Яна налічвала 124 чалавекі і 131 каня і павінна была атрымаць на сваё ўзбраенне 12 гармат [57, а.66 – 66 адв.].

Частка гродзенцаў-татар трапіла ў  Татарскі эскадрон. Створаны ён быў наступным чынам. Капітан Мустафа Мірза Ахматовіч звярнууся да маршалка Генеральнай канфедэрацыі Княства Варшаўскага і ВКЛ з прапановай стварыць з літоўскіх татар за свае грошы конны полк. Генерал-губернатар Літвы граф Гагендорп дазволіў, і тады Ахматовіч апублікаваў некалькі адозваў “Да Народа Татарскага”, разаслаў афіцэраў збіраць добраахвотнікаў па Навагрудскаму, Мінскаму, Ашмянскаму, Лідскаму, Ковенскаму дыстрыктах. Адозву “Да літоўскіх татар” выдаў Ваенны камітэт. Значную ролю ў арганізацыі эскадрона адыгралі два ротмістры каралеўскіх войск Іяхім Мурза Карыцкі і Самуэль Улан [277, с.174].

Татарскія воіны былі апрануты ў цёмна-зялёную кашулю з чырвоным каўняром і абшлагамі, расшытую жоўтым галуном, такога ж колеру пагонамі; куртка ярка-чырвоная, абшытая жоўтым галуном; штаны цёмна-зялёныя з чырвонымі лампасамі. Чорны ківер з латуннаю бляхаю ў выглядзе шасці- або пяціканцовай зоркі і паўмесяца. Флюгер на дзідзе – чырвона-белы або цёмна-зялёны [149, с.19].

24 жніўня Ваенны камітэт вырашыў арганізаваць шэсць егерскіх (стралецкіх) батальёнаў з 2/3 гаёвых, стральцоў, палясоўшчыкаў па шэсць рот у кожным. У Гродзенскім дэпартаменце фарміраваўся чацвёрты батальён на чале з маёрам Курчэўскім, але да снежня 1812 г. завяршыць арганізацыю не паспелі [149, с.33; 277, с.171]. У Гродзенскім

дэпартаменце налічвалася 108 стралкоў, у Лідскім – 84, у Брэсцкім – 20, а ўсяго разам – 212 чалавек [136, с.438]. Даследчык І.Ю.Кудрашоў лічыць, што па сутнасці егерскія батальёны ўяўлялі сабой лёгкую ірэгулярную пяхоту. Абмундзіраваны яны былі ў зялёную сермягу з зялёным каўнярам і адваротамі, суконныя штаны, скураныя боты і шапку. Узбраенне складалася з сякеры і ружжа. Егеры атрымлівалі харчовы рацыён і штодзённую аплату ў памеры 10 грошаў (20 кап.).

Фарміраванне егерскіх батальёнаў таксама сутыкалася з вялікімі цяжкасцямі. 18 лістапада камандзір гродзенскіх “стральцоў” Курчэўскі скардзіўся гродзенскаму і лідскаму падпрэфектам, што набраныя ў гэтых паветах “стральцы” для вайсковай службы непрыдатныя, шмат з іх разбеглася. Камандзір прасіў мясцовыя ўлады знайсці і вярнуць “абаронцаў Айчыны”, а яшчэ лепш – даць новых рэкрутаў.

Першага ліпеня 1812 г. Камісія Часовага ўрада абвясціла аб стварэнні Народнай гвардыі ў дэпартаменцкіх цэнтрах і ў населеных пунктах, якія маюць магдэбургскае права. У Гродзенскім дэпартаменце гэта Брэст, Ваўкавыск, Гродна, Камянец-Літоўскі, Кобрын, Ліда, Навагрудак, Пружаны, Слонім. Служба ў Народнай гвардыі была абавязковаю для ўсіх мужчын ва ўзросце ад 20 да 50 гадоў, валодаўшых нерухомасцю і запісаных у гарадскую кнігу. Гвардзейцы жылі ў сваіх дамах, а ў нядзелю збіраліся на вайсковыя вучэнні, якія праводзілі польскія афіцэры [149, с.11; 277, с.175 – 176]. У Гродне Народная гвардыя налічвала дзве роты (валанцёры і вольтэжыры) агульнай колькасцю 236 чал. на чале з капітанам гвардыі Шастакоўскім. Рота падзялялася на 4 сяржанствы і 8 капральстваў. Трэцяя частка гвардзейцаў была абмундзіравана за кошт горада. 25 верасня гвардзейцы атрымалі 238 ружжаў, узятых у рускіх. Акрамя Гродна, Народная гвардыя была ў Слоніме – 54 чалавекі [136, с.436, 438]. Народная гвардыя прызначалася для аховы межаў ВКЛ, падтрымкі парадку ў гарадах, аховы грамадскай і прыватнай маёмасці, казны дэпартамента і Гродзенскага дыстрыкта, а таксама важных ваенных аб’ектаў.

Дэкрэтам ад 5 ліпеня Напалеон даручыў стварыць Імператарскую Літоўскую гвардыю колькасцю 1 000 чал. Арганізатарам яе быў генерал Ян Канопка – ураджэнец Сколдыч пад Слонімам. Да шляхты Гродзенскага дэпартамента была апублікавана пракламацыя. Удалося сабраць прыкладна 700 чал., у тым ліку з гродзенскай шляхты і вольных людзей, калі Канопка быў у Гродне (5.10) і Слоніме (да 18.10) [136, с.436, 449]. З іх арганізавалі 3-ці гвардзейскі лёгкаконны полк. Абмундзіраванне вершнікаў палка было падобна да ўніформы польскага 1-га гвардзейскага уланскага палка: яны мелі сінія курткі з малінавым коўнярам, белымі лацканамі і абшлагам, малінавай выпушкай уздоўж рукава і такога ж колеру адвароты. Сінія штаны мелі двайны малінавы кант. На сінім конскім чапраку з малінавым кантам і белай выпушкай быў вышыты

імператарскі арол або літара N. Флюгер дзіды быў малінавы над белым. Шапка – канфедэратка з малінавым верхам, белым кантам, сіня-чырвона-белая какарда з белым мальційскім крыжам, бляха з сярэбраным цэнтрам, дзе знаходзілася латунная літара N з жоўтымі праменямі [149, с.18].

Дэкрэтам ад 1 ліпеня 1812 г. Напалеон загадаў стварыць жандармерыю для паліцэйскай службы, аказання ўзброенай дапамогі адміністрацыйнай і грамадскай уладзе, грамадзянам. У Гродзенскім дэпартаменце прызначаліся начальнік жандармерыі ў чыне палкоўніка і старшы афіцэр у чыне эскадроннага шэфа. У кожным дыстрыкце арганізоўвалася жандарская рота на чале з капітанам. Яна павінна была налічваць 107 чалавек. Такім чынам, ва ўсім дэпартаменце – 856 жандараў на чале з князем Міхалам Радзівілам, але на службе было 57 чал., астатнія заставаліся дома. Усе жандары, акрамя афіцэраў, атрымлівалі фураж для коней  (15 фун. саломы і 10 фун. сена) і па 1 злотаму (60 кап.) за дзень службы [136, с.437, 438]. Афіцэры выбіраліся агульным галасаваннем з ліку мяшчан і землеўладальнікаў і служылі бясплатна “па прычыне павагі да чына, мундзіра і ганаровага абавязку ахоўваць уласнасць і бяспеку жыхароў таго павета, у якім яны служаць”. Адмовіцца ад службы было нельга, спісы жандараў складалі падпрэфекты.

Уніформа жандараў была па польскаму ўзору: штаны і мундзір сінія, гузікі жоўтыя, аксельбанты аранжавыя;  чорны ківер меў латунную бляху з надпісам “жандар” і белую какарду; сіні плашч з коўнярам, абрамлёным аранжавым кантам; чорная лядунка з латуннаю пласцінаю з выяваю “Пагоні”. Конскі чапрак – чорны з аранжавымі фэстамі; чамадан сіні з аранжавым кантам; дзіда з жоўта-сінім флюгерам [149, с.17].

Па адміністрацыйнай лініі ліцвінска-беларуская армія падпарадкоўвалася Ваеннаму камітэту Камісіі Часовага ўрада ВКЛ (за выключэннем палка Я.Канопкі). Па ваеннай лініі – свайму штабу, які быў складзены з прызначаных у канцы жніўня Напалеонам наступных асоб: князь Рамуальд Гедройц – дывізіённы генерал, генерал-інспектар; граф Ксаверы Несялоўскі – брыгадны генерал, інспектар пяхоты; Юзаф Ваўжэцкі – генерал, інспектар кавалерыі; Леанард Казлоўскі – маёр, шэф штабу Р.Гедройца; Антоні Кіркор – шэф батальёна пры штабе генерал-губернатара графа Гагендорпа; Ежы Белапятровіч – капітан, ад’ютант Гедройца; Альберт Ласкарыс – шэф эскадрона, ад’ютант Гедройца; Антоні Гандзюлевіч – капітан, ад’ютант генерала Несялоўскага; граф Станіслаў Плятар – ад’ютант генерала Ваўжэцкага; Нестар – падпаручнік пры штабе генерал-губернатара Гагендорпа. Штаб арміі ВКЛ быў звязаны непасрэдна з Галоўным штабам “Вялікай арміі” [277, с.181 – 182, 274].

Першым уступіў у бой 3-ці гвардзейскі лёгкаконны полк. Лёсам было наканавана Яну Канопцы прайграць бітву 20 кастрычніка 1812 г. у сваім родным горадзе Слоніме. Пасля гэтай нечаканай паразы было вырашана сканцэнтраваць ліцвінска-беларускае войска вакол двух стратэгічных

цэнтраў: Вільні (палкі з Віленскага, Гродзенскага і Беластоцкага дэпартаментаў) і Мінска (тут апынулася частка 20-га ўланскага палка). У гэты час камандуючы расійскай Дунайскай арміі П.У.Чычагаў выдаў праклямацыю да палякаў (маючы на ўвазе і ліцвінаў, якія ваявалі на баку Напалеона). Распаўсюджваемая ў вялікай колькасці яна заклікала пакідаць напалеонаўскія войскі і вяртацца да Аляксандра І. Падчас няўдач Напалеона такія заклікі яшчэ больш садзейнічалі ўпадку духу ліцвінаў і палякаў. Загады КЧУ ВКЛ не спяшаліся выконваць, а тыя, хто іх выконваў, слаба верылі ў перамогу справы.

Напрыканцы лістапада 1812 г. для забеспячэння камунікацый з войскамі Рэнье і Шварцэнберга з Вільні на поўнач былі пасланы тры пяхотныя палкі ліцвінска-беларускай арміі. 20-ты пяхотны полк заняў Ліду, 21-шы пяхотны полк – Воранава, а трэці полк размясціўся ў Рудзішках. Забеспячэнне гэтых салдат было настолькі дрэннае, што расіяне ў снежні 1812 г. знайшлі ў Лідзе 350 хворых салдат 20-га палка ВКЛ, з якіх 60 чалавек памёрла [89, ч.1, с.164].

Пад час Бярэзінскай катастрофы 1 снежня 1812 г. князь Басана ў імя Напалеона аб’явіў “паспалітае рушэнне” ліцвінскай шляхты ва ўзросце ад 18 да 45 гадоў. Разлічвалі ўзняць 15 тысяч вояроў, потым яшчэ столькі ж. Ад Гродзенскага дэпартамента ў першы прызыў павінна было стаць 2 200 шляхціцаў. Кожнаму ўдзельніку “паспалітага рушэння” трэба было мець свайго каня, а шаблі і пікі французы абяцалі раздаць. Замест 30 тысяч чалавек “у Літве” сабралося 500 – 600 амаль не ўзброеных шляхціцаў, якімі ніхто не цікавіўся. Большасць з іх разышлася па хатах [277, с.303].

28 лістапада мінскі губернатар генерал Бранікоўскі вывеў з горада рэшткі войска (каля 1 000 чалавек), сярод якіх была частка 20-га ўланскага палка. Пасля бітвы на Бярэзіне ён напалову зменшыўся. 22 снежня ў баю пад Вільняй ўдзельнічаў Татарскі эскадрон. Часці арміі ВКЛ, якія засталіся пасля абароны Вільні, адышлі да Варшавы і Кёнігсберга. У Варшаве знаходзіліся 20-ты і 21-ты пяхотныя палкі; сюды ж ішлі 20-ты ўланскі полк і 4-ты егерскі батальён, падраздзяленні конных жандармаў і Народнай гвардыі. У Кёнігсбергу размеркаваўся 19-ты ўланскі полк на чале з Раецкім (смяртэльна хворы Тышкевіч застаўся ў Літве). Пяхота адсюль хутка адправілася ў Варшаву [274].

У сярэдзіне студзеня 1813 г. Напалеон узяў беларуска-літоўскае войска на сваё ўтрыманне. 18-ты і 21-шы пяхотныя палкі былі далучаны да корпуса Юзафа Панятоўскага і ўвайшлі ў склад гарнізона крэпасці Модлін, які з лютага 1813 г. да студзеня 1814 г. вытрымаў асаду расійскіх войскаў, якія па колькасці пераўзыходзілі абаронцаў у 10 разоў. З 2 280 абаронцаў было забіта або паранена 1 333 чалавека. 20-ты пяхотны полк фактычна быў расфарміраваны, а яго салдаты пайшлі на даўкамплектаванне польскіх палкоў VIII корпуса (камандзір – Ю.Панятоўскі) новай

напалеонаўскай арміі. 19-ты ўланскі полк дайшоў да Гамбурга і ўвайшоў у склад XIII армейскага корпуса Н.Даву, быў у Гальштыніі і Шлезвігу. 31 сакавіка 1813 г. 19-ты ўланскі полк пасьпяхова выканаў задачу аховы Напалеона пад час асабістай разведкі імператара. 20 красавіка 1813 г. гэты полк аб'ядналі з рэшткамі 17-га ліцвінскага ўланскага палка, захаваўшы парадкавы нумар апошняга [274]. 20-ты і частка 19-га ўланскага палка далучыліся да 9-га польскага ўланскага палка пры X корпусе Макдональда ў Гданьску. Ад Татарскага эскадрона Ахматовіча пасля бою пад Слонімам і абароны Вільні засталася толькі рота (3 афіцэры і 15 радавых), якая ў 1813 г. далучылася ў якасці 15-й роты да 1-га гвардзейскага ўланскага палка і ваявала на тэрыторыі Германіі (баі пад Люцэнам, Баўцэнам, Дрэздэнам, Альтэнбургам, Веймарам, Ханаў). Загадам ад 21 снежня 1813 г. рота Ахматовіча ўвайшла ў склад 3-га палка гвардзейскіх разведчыкаў і прыняла ўдзел у кампаніі 1814 г. у Францыі.

6 красавіка 1814 г. Напалеон адрокся ад прастола на карысць свайго сына. Дзевятнаццаты пункт гэтага дакумента абвяшчаў, што польскія войскі, якія былі на службе Францыі, могуць вярнуцца на радзіму са зброяй і пад сваімі сцягамі, а афіцэры і салдаты захаваюць свае чыны і заробкі, якія ім належаць. Але гэтае ўжо не залежала ад Напалеона, а, як слушна напісаў гісторык Ф.Скарбек, ад "новага пана палякаў" Аляксандра I. 24 сакавіка 1814 г. у палацы Сен-Дэні Аляксандр I прыняў вялікую групу магнатаў і шляхты былой Рэчы Паспалітай і выбачыў ім падтрымку Напалеона. 17 красавіка 1814 г. у французскім горадзе Сен-Дэні Аляксандр I разам з вялікім князем Канстанцінам Паўлавічам прымаў парад польскага корпуса, у якім у ліку іншых былі рэшткі 20-га ўланскага палка. Было вырашана, што корпус увойдзе ў склад арміі новай Польшчы – Каралеўства Польскага. Гэта і было зроблена пасля Парыжскага міру 1815 г. 29 верасня 1814 г. польскія войскі ганарова ўвайшлі ў Варшаву. 19-ты ўланскі полк далучыўся да іх трохі пазней. У 1818 г. закончыўся тэрмін службы, і апошнія вайскоўцы ВКЛ вярнуліся дадому [144, 259].

## "НЯХАЙ ЖЫВЕ ЦЭСАР!": НАПАЛЕОНАЎСКІ КУЛЬТ У ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ

Мясцовыя ўлады Гродзенскага дэпартамента, як і іншых, не забываліся па магчымасці ўшаноўваць свайго вызваліцеля Напалеона Банапарта і ягоных паплечнікаў. Пры падыходзе напалеонаўскіх войскаў высылаліся дэпутацыі для ганаровай сустрэчы, урачыста адзначаліся святы Французскай імперыі (напрыклад, гадавіна каранацыі Напалеона 2 снежня), перамогі над расійскімі арміямі. Напрыклад, мэр Гродна сустракаў за горадам Жэрома Банапарта, а чыноўнікі віталі яго ў доме віцэ-губернатара Максімовіча, дзе размяркавалася кватэра. У верасні Гродна быў

ілюмінаваны з нагоды ўвахода Напалеона ў Маскву [40, а.134 адв. – 135]. Але найбольшыя ўрачыстасці адбыліся на святкаванні дня нараджэння Напалеона – 15 жніўня. Пра гэта наш чарговы нарыс.

У Гродне свята пачалося стрэламі гармат і гукамі званоў на золку. Прыкладна ў 9.00 гадзін цывільныя ўлады пайшлі да інтэнданта Шасэнона і прэзідэнта адміністрацыйнай камісіі. У Старым замку чыноўнікі выслухалі выступ, у якім гучала падзяка "аднавіцелю Айчыны". У 10.00 гадзін чыноўнікі адправіліся да губернатара Лебрэна, дзе выказалі падзяку і ўшанаванне "герою стагоддзяў, які вяртае нам найдаражэйшае дабро, Айчыну" [277, с.276]. У 11.00 гадзін гродзенскі гарнізон быў пастаўлены ў ганаровы каравул – дзве лініі ад Старога замка да дома губернатара: па вуліцах Замкавай, Дамініканскай, праз мураваны мост на Гараднiцу. Са Старога замка мясцовыя ўлады, губернатар, ягоны штаб, афіцэры пайшлі да парафіяльнага касцёла на Рынку (езуіцкага). Тут пабудавалі трон з вобразам Напалеона, адбылася мша, прагучала выступленне аднаго з сябраў адміністрацыйнай камісіі, у гонар імянінніка спявалі "Te deum". Пасля набажэнства адбыўся ваенны парад, чыноўнікі і ваенныя ўлады снедалі ў губернатара, дзе гучалі ўслаўляльныя тосты [294, с.153].

У 16.00 гадзін пачаліся народныя забавы. Дамы вечарам былі розным чынам асветлены, паўсюды былі транспаранты. На вуліцах гучала музыка, на Рынку быў пастаўлены прызавы стоўп, раздаваліся напіткі і харчаванне. Войска атрымала двайную порцыю ежы і водкі, ваеннапалонныя таксама мелі павялічаную порцыю ежы і водкі. У 21.00 гадзіну ў палацы Радзівіла пачаўся баль, на які па білетах запрашаліся з горада і дыстрыкта. У гэты ж дзень абвясцілі аб перамозе Напалеона пры Смаленску [40, а.137; 277, с.277].

У Ваўкавыску святкаванне дня нараджэння Напалеона пачалося ў 6.00 гадзін звонам званоў. У 11.00 падпрэфект разам з сябрамі магістрата і цэхоў, аўстрыйскім генералам Ванзэлтэрам і афіцэрамі пайшлі ў парафіяльны касцёл, дзе адбыліся набажэнства, казанне мясцовага плебана, спяванне "Te Deum laudamus". На ўрачыстасцях прысутнічаў 14-ты пяхотны полк. Пасля ў падпрэфекта адбыўся абед для званых асоб. Вечарам увесь горад быў асветлены: дом падпрэфекта, ратуша, плебанія, сінагога. Жыхары, без уліку веравызнання, прасілі Бога блаславіць "Вялікага Напалеона, Вызваліцеля і Адраджэнца польскай краіны" [294, с.155].

У Лідзе ў 10.00 гадзін у парафіяльным касцёле маліліся за "Караля Каралёў, які зрабіў цуд для нашай Айчыны, зямлі Ягайлаў, вызваліў ад нявол, узбудзіў у грамадзян Літвы ўдзячнасць, пашану, любоў і здзіўленне" [294, с.150]. Перад алтаром месца на лаўках занялі дамы, народ – бакавую прастору, у сярэдзіне стаялі вайскоўцы з 14-га фузілернага палка. У памяшканні вісеў транспарант з лічбай "Найяснейшага Цэсара і

Караля” з надпісам “Magne caesar! Vive dice belix locup lex que omnium prosperitatum” – “Вялікі цэсар! Жыві, атрымаўшы ў дар ад нараджэння, шчасце даваць правы і поспехі”. Мшу адспяваў смаленскі канонік і пробашч касоўскі ксёндз Станіслаў Нарбут, казанне гаварыў прафесар мясцовага піярскага калегіўма ксёндз Гадлоўскі. Пасля ўсе пайшлі на могілкі, дзе канонік інфлянцкі і пробашч лідскі ксёндз Вінцэнці Нарбут з духавенствам праспявалі пад салют гармат і ружжаў “Te Deum laudamus”. Затым падпрэфект Ігнаці Скіндар запрасіў знатных гараджан да сябе на абед.

На вуліцы Віленскай пабудавалі трохкутную піраміду з віншавальнымі транспарантамі і лічбай “43”. Пад лічбаю было напісана: “Найсвятлейшаму, Наймагутнейшаму і Непераможнаму Герою, Цэсару і імператару Вялікаму Напалеону ад зямлі мужных ліцвінаў, якая атрымала свабоду, дзякуючы ягоным намаганням. Вызваліцелю свайму, дня 15 жніўня 1812 года” [294, с.129]. На адным баку на транспаранце было напісана:

Айчыны нашай цудоўны мсціўца,
Гордай поўначы моцны пагромца,
Няхай польскія арлы і літоўская Пагоня
Служаць намерам тваім, Напалеон.

На другім транспаранце, які размешчаны быў з боку замка, былі такія словы:

У нашых мурах племя Ягайлаўскае
У XV стагоддзі дасягло трыўмфу.
Калі татарскія орды знайшлі польскую зямлю,
Імя Ліцвінаў граміла прышэльцаў.
Сёння прыйшоў сюды Герой свету,
З кайданаў вызваліць вас, муж.
Бярыце на поле славы польскую моладзь
Адшукаць зямлю, права і зброю.

Калісьці чужой крывёю цякла Лідзея,
Сёння з ёй змешваюцца Нёман, Днепр, Дзвіна
Мацнее нашай Пагоні надзея,
Ужо нашага цярпення прайшла гадзіна. [294, с.151].

Часта грымеў гарматны і ружэйны салют, чуліся віншавальныя воклікі ў гонар цэсара і караля. Вечарам падпрэфект абвясціў баль. Ён быў перарваны вячэрнай службай у касцёле, а скончыўся вячэрай, на якой гучалі тосты за здароўе Напалеона. Брама фарнага касцёла была асветлена і ўпрыгожана раслінамі.

Падобныя ўрачыстасці адбыліся 15 жніўня ў Навагрудку. Перад абедам гараджане, прадстаўнікі цэхаў, духавенства, былыя вайскоўцы ВКЛ сабраліся ў дамініканскім касцёле. Перад алтаром стаяў трон з партрэ-

там Напалеона, насупраць знаходзіліся падпрэфект Рдултоўскі і павятовае кіраўніцтва, у цэнтры залы размеркаваўся мясцовы гарнізон, апрануты ў парадную форму. Пад час паднясення святога сакрамэнту апошні біў у барабаны марш у гонар "Заступніка Багоў і донара перамог". Казанне гаварыў ксёндз прэор Лей, былы місіянер і капелан літоўскага войска: "Польшча была пакарана знішчэннем свайго існавання, але ніколі, як цяпер, не мела такога Вялікага Абаронцы ў асобе Напалеона. Шчасце і моц народаў могуць быць толькі там, дзе захавана рэлігія і добрыя звычаі". Выказанае напрыканцы пажаданне "Няхай жыве Напалеон!" было падхоплена воклікамі ўсіх сабраўшыхся. Прагучаў гарматны салют.

У падпрэфекта адбыўся святочны абед. У францішканскім кляштары для былых вайскоўцаў і параненых салдат былі накрыты сталы з пачастункамі, прыслужвалі палкоўніца 19-га ўланскага палка і іншыя дамы і грамадзяне дыстрыкта. Усюды пілі за здароўе Вялікага Напалеона, Французскі народ, Манархаў і Народаў, якія прыйшлі на абарону Польшчы, за камандуючых войск, параненых у баях ваяроў. Афіцэры і салдаты гарнізона мелі пачастунак у ратушы і дамах багатых гараджан. Амаль усю ноч народ знаходзіўся на Рынку і вуліцах, спяваў, крычаў "Няхай жыве Вялікі Напалеон!". Горад быў ілюмінаваны. На доме падпрэфекта знаходзіўся партрэт Напалеона з вершавальным надпісам:

Францыя ўдзячна табе за шчасце, Італія – за значэнне,
Дзяржавы Рэйха – за пэўнасць быту, Польшча – за вызваленне.
Адгалосак усяго кантынента – у гэты дзень нарадзіўся
Той, хто пакараў ганаровых, слабых вызваліў.

На ратушы, асвечанай лямпамі, каля імя Напалеона былі напісаны пажаданні горада, а таксама ўзятая з Бібліі цытата на мове яурэяў, у якой ушаноўваліся намаганні імператара для сусвету і народаў. На дамініканскім касцёле вісеў транспарант з выявай літоўскай Пагоні, засланёнай Залатым арлом, з-пад ног якога б'юць перуны, з вершаваным надпісам:

Як толькі прыйшоў на нашу зямлю ты, Напалеон,
Залаты твой арол прыкрыў Пагоню.
Гэта твая сіла зрабіла, што на шчасце Літвы
Упусціў баязлівы маскаль здабычу, не пачынаючы бітву.
Што гавару? У шэсць тыдняў далёкія краіны
Польшчы з намі сёння святкуюць тваё нараджэнне.

На транспаранце францішканскага касцёла была намалявана камета з вогненным хвастом, у цэнтры яе стаяла лічба "43". Камета разрывала чорныя хмары, над ёю, на лазоравым небе, быў надпіс на лацінскай мове: "Найвялікшаму з вялікіх Напалеону". Пад транспарантам быў зямны шар, паверхню якога асвятлялі перуны, якія білі на поўнач і растап-

лялі лёд пад якім ляжалі мёртвыя расліны. Вершаваны надпіс растлумачваў:

> Гэтая камета з'явілася на небе Еўропы.
> Потым прыйшоў той, хто вызваліў Літву з небыцця!
> Гэта прамені, якія растапляюць кайданы народаў,
> Вяртаюць мёртвым раслінам жыццё і здаровы рост.
> Праз яго Бог садзіць на троны новых каралёў.
> Справядлівы, усемагутны Бог у Напалеоне [294, с.150].

## БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ НАПРЫКАНЦЫ ЛІПЕНЯ – ПАЧАТКУ СНЕЖНЯ 1812 г. У ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ

Шмат хто на Беларусі ў пачатку ліпеня 1812 г. быў упэўнены, што з адступленнем Баграціёна і Платава вайна ў заходнім рэгіёне Беларусі скончылася. На самай справе ўсё толькі пачыналася. Заходняй Беларусі, асабліва яе паўднёвай частцы – Берасцейшчыне, было наканавана лёсам ператварыцца ў арэну зацятай барацьбы паміж аўстра-саксонскімі саюзнікамі Напалеона ды расійскімі арміямі Тармасава, Чычагава і Остэн-Сакена. Каля 100 тысяч вайскоўцаў было ўцягнута ў баі на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні, ваенная абстаноўка прынцыпова змянялася літаральна кожны месяц, але гістарычныя працы вельмі сціпла апавядаюць аб тых цяжкіх і крывавых часах.

Для замежнай гістарыяграфіі гэта тлумачыцца тым, што ўласна французы амаль не ўдзельнічалі ў тых баях. Асноўны цяжар вайны ў Заходняй Беларусі прыпаў на напалеонаўскіх саюзнікаў – арміі дзяржаў, якія даўно не існуюць на карце Еўропы: саксонскага каралеўства ды аўстрыйскай імперыі Габсбургаў. Для расійскіх і савецкіх гісторыкаў баявыя дзеянні ў заходнім рэгіёне Беларусі былі другасным – кіеўскім напрамкам. Яны любілі ўзгадваць наступныя словы французскага цэсара: "Калі я вазьму Пецярбург – я схаплю Расію за галаву, калі займу Кіеў – схаплю Расію за ногі, калі ж вазьму Маскву – я ўдару Расію ў самае сэрца". Як вядома, на Маскву Напалеон вырашыў ісці толькі на 15 дзень вайны 1812 г. Спачатку ён спадзяваўся вырашыць лёс вайны ў межах гістарычнай Літвы: Літоўска-Віленскай ды Літоўска-Гродзенскай губерній. Наўрад Напалеон усур'ёз разглядаў магчымасці ўварвання сваёй арміі на Украіну праз тэрыторыю Беларусі. Ён так і не рэалізаваў дэталёвы план "дыверсіі" праз Валынь на Украіну да Кіева, прапанаваны напярэдадні "маскоўскай кампаніі" ў лютым 1812 г. дывізіённым генералам Міхалам Сакальніцкім [212, с.113 – 130]. Паводле французскага гісторыка Фернана Бакура, Напалеон не жадаў рызыкаваць раздзяленнем сваіх сіл. Тым больш, што ў гэтым выпадку паміж "Вялікай арміяй" і асобным корпусам на Валыні ды Украіне апынуліся б палескія багны [212, с.13].

Для Напалеона Валынь і паўднёвая частка Літоўска-Гродзенскай губерні з’яўляліся чыста абарончым тэатрам ваенных дзеянняў, які прыкрываў правы фланг “Вялікай арміі” і тэрыторыю Варшаўскага герцагства. Тут дзейнічаў спачатку аўстрыйскі корпус фельдмаршала князя Карла Піліпа Шварцэнберга (тры пяхотныя і адна кавалерыйская дывізіі колькасцю 31 000 чал.). Хутка яго змяніў VII саксонскі пяхотны корпус дывізіённага генерала графа Жана Луі Рэнье (дзве пяхотныя дывізіі і кавалерыйская брыгада колькасцю 17 000 чал.). Але магутныя ўдары расійскіх войскаў з поўдня прымусілі Напалеона пакінуць у Літоўска-Гродзенскай губерні абодва гэтыя корпусы. Ім супрацьстаяла 3-я Заходняя (рэзервная) армія на чале з генералам ад кавалерыі Аляксандрам Пятровічам Тармасавым, да якой у верасні 1812 г. далучылася Малдаўская армія адмірала Паўла Васільевіча Чычагава. Гэтыя генералы не належалі да кола славутых палкаводцаў, хаця ад іх загадаў залежала жыццё тысяч салдат.

Камандуючы VII (саксонскім) корпусам “Вялікай арміі” дывізіённы генерал, француз, граф імперыі Жан Луі Эбенезэр Рэнье (1771 – 1814) меў багаты баявы вопыт. Ён ваяваў у Егіпце (1799 – 1801), Італіі (1805 – 1806), Аўстрыі (1809), Іспаніі (1809 – 1811). Гэты самаўпэўнены і гарачы генерал, заўзяты дуэлянт быў схільны да хуткіх і неразважлівых дзеянняў. Невыпадкова, што сябрам Рэнье быў такі ж шалёны храбрэц – славуты маршал Мішэль Ней. Рэнье быў добрым камандзірам ў якасці падначаленага ў выдатных палкаводцаў: Напалеона ці маршала Масена. У 1805 г. імклівая атака Рэнье прынесла французам перамогу пад Касцельфранка ў Італіі. Але для самастойнага камандавання Рэнье не хапала вытрымкі і асцярожнасці. У 1806 г. у бітве каля Майды ў Паўднёвай Італіі няўрымслівы Рэнье кінуў сваё войска ўпрост на англійскі дэсант генерала Д.Сцюарта і быў літаральна змецены з поля бою шчыльным агнём англійскай пяхоты. Сваю рэпутацыю Рэнье выправіў у 1809 г., калі ў вайне з Аўстрыяй ён быў губернатарам стратэгічна важнага вострава Лабаў на Дунаі і ўдала ахоўваў тылы арміі Напалеона. Тады яму ўпершыню былі падначалены саксонскія войскі. Магчыма, гэта паўплывала на рашэнне французскага імператара ў 1812 г. даручыць камунікацыі “Вялікай арміі” і саюзны саксонскі кантынгент Рэнье. Але на Дунаі Рэнье аддзялялі ад Напалеона ўсяго 15 – 20 км. Імператар заўжды мог асабіста праінструктаваць ці паправіць свайго генерала. У 1812 г., за сотні кіламетраў ад штаба, няўрымслівы Рэнье павінен быў разлічваць толькі на сябе [126; 267]. Паводле ўспамінаў саксонскага генерала Функа, станоўчым бокам Рэнье была яго своеасаблівая “ваенная інтуіцыя”: “Думка аб тым, што павінна адбыцца, яскрава круцілася ў яго галаве, ён усё прадумаў. Яго вытрымка была заўжды непахіснай, таму што для яго нічога не было нечаканым”. Але Рэнье ніколі не казаў аб сваіх планах, ніколі не тлумачыў падначаленым сваіх загадаў і зусім не ведаў нямец-

кай мовы! Таму, па словах Функа, многія загады ў VII корпусе залежалі ад дакладнасці перакладу ці інтэрпрэтацыі начальніка штаба Рэнье палкоўніка Фрыдрыха Карла Густава фон Лангенаў [273, с.97].

Поўнай супрацьлегласцю Рэнье з'яўляўся аўстрыйскі камандуючы фельдмаршал-лейтэнант князь Карл Піліп Шварцэнберг (1771 – 1820). Гэта быў нашчадак старажытнага і багатага арыстакратычнага роду, які з XVII ст. валодаў большай часткай Паўднёвай Багеміі. Па сённяшні дзень аб гэтым нагадваюць турыстычныя жамчужыны: замак Орлік у Чэхіі і палац у Празе, якія некалі належалі Шварцэнбергам. Месца роду Шварцэнбергаў у гісторыі Чэхіі падобна да месца Радзівілаў у лёсах Беларусі. К.П.Шварцэнберг быў больш палітыкам, чым генералам. Разважлівы і асцярожны, Шварцэнберг ведаў, як спадабацца людзям, асабліва калі гаворка ішла аб каранаваных асобах. Ахвярай яго абаяльнасці стаў сам Напалеон, які настаяў у Вене на прызначэнні Шварцэнберга камандуючым аўстрыйскім корпусам у вайне 1812 г. Здольны генерал, адзін з нешматлікіх аўстрыйскіх вайскоўцаў "захаваўшых твар" пад час паражэнняў 1800 і 1805 г., Шварцэнберг не пакінуў значнага следу ў ваеннай гісторыі. Ён заўжды добра пралічваў палітычны эфект сваіх дзеянняў і мог ахвяраваць вернай перамогай дзеля палітычных разлікаў. Гэта яскрава праявілася ў баях на Беларусі. Да лістапада 1812 г. Шварцэнберг не дазволіў расіянам паставіць пад пагрозу камунікацыі "Вялікай арміі" ці ўварвацца ў Варшаўскае герцагства, бо гэта сапсавала б адносіны Напалеона да Аўстрыі. У той жа час Шварцэнберг не выкарыстаў магчымасць разбіць 3-ю расійскую армію, бо гэта ўзмацніла б Напалеона і не было карысным для аўстрыйскіх Габсбургаў. Карацей кажучы, у вайне 1812 г. гэты ігрок гуляў сам за сябе. Дарэчы, менавіта фельдмаршалу Шварцэнбергу належыць дзіўны для вайскоўца выраз: "Вайна – гэта брыдкая рэч". Напалеон вельмі спадзяваўся на больш дзейсную дапамогу аўстрыйцаў. Ён прыказаў называць корпус Шварцэнберга "Першым корпусам аўстрыйскай арміі" і распаўсюджваў чуткі, што хутка прыйдуць 100 тыс. аўстрыйцаў. Але гэты хітрык быў хутка раскрыты [126; 267; 281].

Галоўнакамандуючым 3-й расійскай арміі ў баявых дзеяннях у заходнім рэгіёне Беларусі да верасня 1812 г. з'яўляўся генерал ад кавалерыі Аляксандр Пятровіч Тармасаў (1752 – 1819). Сапраўдны арыстакрат, ён пачаў службу ў 10-гадовым узросце як імператарскі паж. Доўгі час прасоўваўся па службовай лесвіцы ў якасці ад'ютанта вядомых асоб. У руска-турэцкай вайне Тармасаў служыў пад камандаваннем Пацёмкіна, Рэпніна, Кутузава. Першы вопыт самастойнага камандавання ў Тармасава не атрымаўся. 4 красавіка 1794 г. яго калона была разбіта пад Рацлавіцамі паўстанцамі Касцюшкі. Толькі ў 1808 г. Тармасаў вяртаецца на ваенную службу, адразу ў якасці галоўнакамандуючага расійскай арміі ў Грузіі. Вясной 1812 г. ён быў прызначаны камандуючым 3-й рас-

ійскай арміі на Валыні [125; 231; 267]. Тармасаў быў непапулярны ў расійскай арміі, якая бачыла ў ім пагардлівага, надзьмутага франта. Генерал-маёр В.В.Вяземскі адзначыў у дзённіку свае ўражанні аб аглядзе Тармасавым 20 чэрвеня 1812 г. 13-га егерскага палка: "Ні слова салдату перад вайной, ні "дзень добры" афіцэру […] Э, Тармасаў, ты, як бачна, мірны галоўнакамандуючы" [96]. Яшчэ больш катэгарычным да Тармасава быў славуты рускі генерал Ярмолаў, які пісаў: "Генерал ад кавалерыі Тармасаў, з самога пачатку сваёй службы ніякага значэння не меўшы, нічым сябе з маладосці не вызначыўшы, ад спакойнага жыцця адарваны бураю вайны, з'явіўся на сцэне камандуючым арміі. Лёс узнагародзіў яго намаганні адной перамогаю і вярнуў у спакойнае жыццё. Армія ў яго асобе нічога не страціла" [124; с.58].

Восенню 1812 г. вялікую ролю ў баявых дзеяннях на захадзе Беларусі адыграў яшчэ адзін расійскі генерал – курляндскі барон Фабіян Вільгельмавіч фон дэр Остэн-Сакен (1752 – 1837). Гэта быў стары, патомны ваяка, які служыў у баявых часцях з 14 гадоў. У 1799 г., у нешчаслівай для расіян бітве пад Цюрыхам, генерал-лейтэнант Остэн-Сакен быў паранены ў галаву і трапіў у французскі палон, дзе знаходзіўся да 1801 г. У 1806 – 1807 г. камандаваў дывізіяй у вайне з Францыяй. У 1807 г. расійскі галоўнакамандуючы Л.Л.Бенігсен вырашыў зрабіць Остэн-Сакена вінаватым за паражэнне расійскіх армій пад Фрыдландам і аддаў яго пад суд, які, аднак, апраўдаў генерала. Пасля такіх выпрабаванняў – удзел у пяці войнах, цяжкае раненне, палон, ваенны суд – Остэн-Сакен нічога не баяўся. Можна спрачацца наконт яго ваенных здольнасцей, але сумнявацца ў яго каласальным баявым вопыце немагчыма. Прызнаннем ваенных заслуг Остэн-Сакена з'явілася яго прызначэнне саюзнікамі ў 1814 г. ваенным губернатарам Парыжа [126; 267].

Расійскае войска, якім камандаваў А.П.Тармасаў, мела доўгую афіцыйную назву: 3-я рэзервная абсервацыйная армія. Яна фарміравалася на працягу мая – чэрвеня 1812 г. і да пачатку вайны не паспела атрымаць стабільнай структуры. Спачатку войска Тармасава было задумана як асобны корпус, які прыкрываў з поўдня тылы арміі Баграціёна. Таму першапачаткова 3-я расійская армія мела пераважна запасныя батальёны і эскадроны, якія аб'ядналі ў адну пяхотную і дзве кавалерыйскія дывізіі. 20 мая 1812 г. са складу 2-й расійскай арміі Баграціёна Тармасаў атрымаў тры пяхотныя і адну кавалерыйскую дывізіі. Атрымаліся чатыры пяхотныя дывізіі (9-я, 15-я, 18-я, 36-я) і тры кавалерыйскія (5-я, 8-я, 11-я). З гэтых сіл Тармасаў сфарміраваў тры пяхотныя і адзін кавалерыйскі корпус, якія і склалі 3-ю расійскую армію:

– корпус генерала ад інфантэрыі графа Сяргея Міхайлавіча Каменскага 2-га – сына старога генерал-фельдмаршала М.Ф.Каменскага (18-я пяхотная дывізія генерл-маёра князя Аляксея Рыгоравіча Шчарбатава, зводная грэнадзёрская брыгада і Паўлаградскі гусарскі полк);

– корпус генерал-лейтэнанта Яўхіма Іванавіча Маркава (9-я пяхотная дывізія генерал-маёра Яўстафія Яўстафьевіча Удома 2-га, 15-я пяхотная дывізія генерал-маёра Фёдара Віктаравіча Назімава, Александрыйскі гусарскі полк);

– корпус генерал-лейтэнанта Ф.В.Остэн-Сакена (тры асобныя брыгады, узятыя са складу 35-й, 36-й, 37-й пяхотных дывізій і ўкамплектаваныя толькі запаснымі батальёнамі, ды 11-я кавалерыйская дывізія генерал-маёра Аляксея Андрэевіча Ласкіна, якая складалася з запасных эскадронаў 4-й і 5-й кавалерыйскіх дывізій);

– кавалерыйскі корпус генерал-маёра графа Карла Восіпавіча Ламберта (5-я кавалерыйская дывізія самога Ламберта і 8-я кавалерыйская дывізія генерал-маёра Яфіма Ігнацьевіча Чапліца) [126; 198 дадаткі].

У 1812 г. 3-я заходняя армія не была самым моцным расійскім вайсковым злучэннем. Толькі корпусы Ламберта і Маркава мелі адпаведную структуру (па дзве дывізіі). Корпус Каменскага складаўся з адной дывізіі ды адной брыгады. Стракаты корпус Остэн-Сакена (толькі запасныя часці) у лепшыя часы ўвогуле не паслалі б на вайну. Але гэтыя хібы кампенсаваў патрыятычны ўздым, які агарнуў расійскія палкі [96].

Акрамя рэгулярных войск, 3-я расійская армія мела 10 палкоў "ірэгулярнай кавалерыі": пяць палкоў данскіх казакаў, два – калмыкаў, Феадасійскі і Еўпатарыйскі конна-татарскія палкі, адзін башкірскі казацкі полк. Сярод іх вылучаліся татарскія палкі, якія фактычна былі рэгулярнымі часцямі з выдатным узбраеннем. Іх нават называлі татарскімі ўланамі. Камандаваў татарамі прафесійны ваенны – палкоўнік Карл Багданавіч Кнорынг.

Паводле загада Барклая дэ-Толі ад 21 чэрвеня 1812 г., 3-я расійская армія сканцэнтравалася каля Луцка на Валыні. Выключэнне складала 36-я дывізія Сарокіна, якую пакінулі ў Старым Канстанцінаве ахоўваць аўстрыйскую мяжу. Па рапартах Тармасава, 3-я расійская армія налічвала 44 180 чал. і 168 гармат [199, с.63].

Галоўныя задачы Тармасава вынікалі з інструкцыі Барклая дэ-Толі ад 5 (17).06.1812 г.: "...а) турбаваць непрыяцеля і днём, і ноччу; б) дзейнічаць у тыл і ў флангі...; в) адбіраць у непрыяцеля ўсе спосабы да харчавання, ... спальваць і знішчаць масты..." [174, с.29].

Патэнцыяльным праціўнікам арміі Тармасава з'яўляўся аўстрыйскі корпус Шварцэнберга (31 тыс. чалавек і 60 гармат). У пачатку чэрвеня 1812 г. аўстрыйцы пакінулі Львоў і Галіцыю і размясціліся ў ваколіцах Любліна на тэрыторыі Варшаўскага герцагства. Аўстрыя абвясціла галіцыйскую мяжу з Расіяй нейтральнаю. Гэта значыла, што са сваёй тэрыторыі аўстрыйцы не нападуць на Тармасава і чакаюць ад расіян адпаведнага кроку. Для Тармасава паміж аўстрыйскай мяжой і Палессем заставаўся толькі адзін праход з Валыні на Беларусь – Брэсцкі павет, якому дарага каштавала ягонае нечаканае вялікае стратэгічнае значэнне.

Аўстрыйцы з’явіліся на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні 30 чэрвеня 1812 г. Разам з імі рухаліся каля 3 тыс. палякаў генерала Красніцкага. Галоўныя сілы ішлі праз Высока-Літоўск і Камянец Літоўскі на Пружаны. 1 ліпеня кавалерыя Шварцэнберга з’явілася ў Цярэспале каля Брэста, які яшчэ заставаўся вольны, бо казакі спалілі мост праз Буг. 2 ліпеня аўстрыйскі атрад палкоўніка барона Г. фон Зюдэна з дывізіі Траўтэнберга заняў Брэст і прасунуўся далей на ўсход, дзе недалёка ад горада нечакана трапіў на пакінуты расіянамі вялікі харчовы магазін з мукой і ячменем [121, с.196]. 3 ліпеня галоўныя сілы Шварцэнберга фарсіравалі Буг каля Драгічына ў Польшчы. 5 – 8 ліпеня аўстрыйскі корпус утульна ўладкаваўся на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні: Кобрыне, Іванаве, Пружанах, Пінску, Слоніме. У Брэсце знаходзіліся толькі вянгерскія гусары. Яны рамантавалі мост праз Буг, знішчаны казакамі Ілавайскага 5-га пад час адступлення, і спачатку добра ставіліся да жыхароў. Вянгерскія гусары ўважліва сачылі за рускімі гусарамі і казакамі ў 7 вярстах на поўдні ад Брэста, але ніякіх ваяўнічых намераў не выказвалі. Паводле расійскай разведкі, аўстрыйцы збіралі правіянт ды фураж і звозілі іх у Кобрын і Пружаны. Саюзнікі Напалеона не спяшаліся і выглядалі даволі мірна. Князь Шварцэнберг 11 дзён пражыў у Камянец Літоўску ў доме доктара Штырха. Аўстрыйскі штаб размясціўся ў Пружанах. Вянгерскія гусары стаялі ў Брэсце і Пінску, завіталі яны ў Слуцк і Нясвіж, дзе сустрэлі раз’езды правага крыла “Вялікай Арміі” і ўстанавілі сувязь з Даву і Панятоўскім. Аўстрыйская пяхота паціху цягнулася праз Пружаны на Слонім. Усім сваім выглядам аўстрыйцы паказвалі, што па-сапраўднаму ваяваць яны не збіраюцца [96; 109, с.134 – 141].

Тармасаў, відаць, разгубіўся. З аднаго боку, трэба было выконваць загад – рабіць “дыверсію” ў тыл “Вялікай арміі”. З другога боку – было не пажадана сварыцца з аўстрыйцамі. Расійскага камандуючага выратаваў Напалеон. Паводзіны Шварцэнберга выдаваліся французскаму імператару вельмі падазронымі, і ён вырашыў замяніць аўстрыйцаў на больш надзейныя войскі. Бліжэйшым да паўднёвага тэатра ваенных дзеянняў быў VII (саксонскі) корпус “Вялікай арміі” генерала Рэнье, які расцягнуўся на маршы ад Беластока да Клецка. Нерашучасць Тармасава нечакана адыграла станоўчую ролю. Напалеон вырашыў, што 3-я расійская армія настолькі слабая, што 17 тыс. саксонцаў хопіць для яе нейтралізацыі, а 31 тыс. ненадзейных аўстрыйцаў лепш далучыць да галоўных сіл напярэдадні паходу на Маскву. Магчыма, што французскі імператар карыстаўся старымі агентурнымі звесткамі з сярэдзіны мая 1812 г., калі ўсё войска Тармасава складалася з аднаго корпуса. К.Клаўзевіц сцвярджае, што Напалеон першапачаткова лічыў, што войска Тармасава налічвае не больш за 10 тыс. чалавек [284, с.78]. Французскі імператар загадаў Рэнье атакаваць Тармасава і ўварвацца ў Валынскую губерню.

Напалеон запэўніваў камандуючага VII корпусам: “Тармасаў перад Вамі нішто, у яго рэшткі трох палкоў, дрэнныя рэкруты, непрыдатныя для справы дзе ж тут думаць Тармасаву аб наступальных дзеяннях з яго жаласным войскам” [174, с.8]. Мемуары напалеонаўскага ад’ютанта графа дэ Сегюра таксама дазваляюць меркаваць, што французскае камандаванне да падыходу Чычагава недаацэнівала расійскую армію Тармасава на поўдзень ад Брэста ды корпус Эртэля каля Мозыра і разглядала іх як “бяссільныя рускія атрады” ў “паўднёвых польскіх правінцыях” [209, с.20].

Выконваючы загад Напалеона, аўстрыйскі корпус у сярэдзіне ліпеня 1812 г. праз Нясвіж і Слуцк рушыў на ўсход, дзе яго планавалася падначаліць маршалу Н.Даву. Аўстрыйцы прамаўчалі, што сваім загадам Напалеон груба парушыў аўстра-французскі дагавор – не пасылаць аўстрыйцаў на галоўны тэатр ваенных дзеянняў. Неўзабаве напрыканцы ліпеня авангард Шварценбэрга дасягнуў Магілёва. З поўначы на поўдзень Літоўска-Гродзенскай губерні насоўваўся VII саксонскі корпус Рэнье. У яго авангардзе ішла 23-я лёгкая кавалерыйская брыгада генерал-маёра барона Генрыха Адольфа фон Габленца. Войскі Рэнье яшчэ не ўдзельнічалі ў баях, але іх колькасць пад час маршу ад Варшавы да Клецка скарацілася да 16 200 чалавек.

15 ліпеня VII (саксонскі) корпус Рэнье ў Клецку атрымаў загад павярнуць на захад і закрыць стратэгічныя дарогі з поўдня на поўнач праз палескія багны: Пінск – Клецк – Мінск і Стары Канстанцінаў – Брэст – Пружаны – Слонім. 18 ліпеня VII корпус рушыў праз Ляхавічы і Востраў на Біцень (на поўдні ад Слоніма). У Востраве (на поўдні ад Баранавічаў) саксонцы сустрэлі двух аўстрыйскіх афіцэраў, якія паведамілі, што корпус Шварцэнберга ўжо пакінуў месцы сваёй дыслакацыі (Брэст, Кобрын, Пружаны) і ідзе на Слонім. 19 ліпеня праз Біцень і Грудаполь прайшоў аўстрыйскі ар’ергард фельдмаршал-лейтэнанта барона Іягана Фрыдрыха фон Мора. Саксонцы засталіся сам-насам з праціўнікам. 23 ліпеня корпус Рэнье дасягнуў раёна Косава – Бялявічы, а 24 ліпеня – Бярозы Картускай. Тут Рэнье падзяліў сілы VII корпуса. Саксонскі авангард на чале з Габленцам у складзе двух кавалерыйскіх палкоў – гусарскага (палкоўнік фон Энгель) і лёгкаконнага Поленца (палкоўнік фон Хан) – пасунуўся да Борак. 1-я пяхотная брыгада генерал-маёра Генрыха Хрысціяна Магнуса фон Кленгеля з 22-й саксонскай дывізіі, узмоцненая трыма эскадронамі ўланскага палка прынца Клеменса (палкоўнік фон Цэшвіц), рушыла да Кобрына і Брэста. Чацвёрты эскадрон уланаў прынца Клеменса на чале з маёрам Зейдліцам павінен быў захапіць пакінуты аўстрыйцамі расійскі харчовы магазін у Пінску [273, с.58 – 59].

У гэты час і адбыліся падзеі, якія істотна паўплывалі на лёс усёй вайны. Тармасаў зразумеў, што яго час настаў. Галоўныя сілы напалеонаўскай арміі ўжо прайшлі на ўсход, агаляючы свае тылы. За імі падал-

ісяа аўстрыйцы Шварцэнберга, у дачыненні да якіх планавалася весці “прыстойную” вайну. Саксонскі корпус Рэнье, які займаў месца аўстрыйцаў на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні, быў удвая слабейшы. Саксонцаў як верных саюзнікаў Напалеона, можна было не шкадаваць.

Дзякуючы шпіёнам з ліку кобрынскіх яўрэяў (шпіёны былі афіцыйна прызначаны кагалам!), расіяне дакладна ведалі дыслакацыю саксонцаў. Сам Рэнье 25 ліпеня з 22-й саксонскай дывізіяй генерал-лейтэнанта Карла Вільгельма Фердынанда фон Функа (без брыгады Кленгеля яна налічвала толькі пяць батальёнаў) стаяў у Бездзежы. 21-я саксонская дывізія генерал-лейтэнанта Карла Хрысціяна Эдлера фон Лекока стаяла побач, у Хомску, авангард Габленца – каля Іванава. Войскі Рэнье былі раскіданы на шырокай prасторы ад Кобрына да Іванава і працягвалі разыходзіцца ў супрацьлеглыя бакі: да Брэста і Пінска. Відаць, французскага генерала больш хвалявала пытанне правіянту, чым магчымая атака рускіх. Рэнье меў недакладныя звесткі, што Тармасаў пакінуў на Валыні толькі корпус Каменскага, а сам адыходзіць да Кіева [109, с.78 – 80].

Дарэчы, саксонскі генерал Функ (1761 – 1829) пакінуў вельмі цікавую працу аб баявых дзеяннях у Заходняй Беларусі: “Успаміны аб кампаніі саксонскага корпуса генерала Рэнье ў 1812 г.” (першае выданне ў Дрэздэне ў 1829 г.). Гэта каштоўная крыніца заслугоўвае асаблівай увагі. Функ быў не толькі важным удзельнікам баявых дзеянняў у Літоўска-Гродзенскай губерні, але і кампетэнтным ваенным спецыялістам. Ён з маладосці грунтоўна займаўся ваеннай тэорыяй, а ў 1815 – 1819 г. служыў пры штабе славутага брытанскага фельдмаршала Велінгтона.

17 ліпеня 1812 г. Барклай дэ-Толі выслаў Тармасаву распараджэнне аб рашучых дзеяннях ягонай арміі ў тыл і фланг непрыяцельскіх войск, накіраваных супраць Баграціёна. 20 ліпеня Тармасаў аддаў загад аб наступленні на Брэст, Кобрын і Пінск. 3-я расійская армія была перагрупіравана для рашучай атакі. Атрад генерал-маёра Ламберта ў складзе двух егерскіх, аднаго гусарскага і аднаго драгунскага палкоў павінен быў ісці на Брэст уздоўж “польскага” берага Буга. Атрад генерал-маёра Шчарбатава – часці 18-й пяхотнай дывізіі і татарскія палкі – ішоў на Брэст з боку Ратна (зараз Украіна). Галоўныя сілы пад камандаваннем Тармасава павінны былі рухацца з Ковеля на Несухаежы – Ратна – Дзівін – Хабавічы ўпрост на Кобрын. Яны былі размеркаваны на тры эшалоны:

– авангард генерал-маёра Чапліца (гусарскі, казацкі і 13-ты егерскі палкі);

– корпусы Каменскага і Маркава (дзевяць палкоў);

– ар’ергард генерал-маёра князя Мікалая Мікалаевіча Хаванскага (чатыры зводныя грэнадзёрскія батальёны).

Атрад генерал-маёра Аляксея Пятровіча Мялесіна ў складзе 32-га егерскага, Серпухаўскага драгунскага палкоў, трох эскадронаў Лубенс-

кага гусарскага палка і батальёна грэнадзёр павінен быў атакаваць Пінск, каб заблытаць непрыяцеля. Корпус Остэн-Сакена застаўся на Валыні [96].

Ствараецца ўражанне, што Тармасаў у ліпені 1812 г. вырашыў выкарыстаць вопыт Т.Касцюшкі ў бітве пад Рацлавіцамі. Тады атакамі на флангах ураджэнец Беларусі "расцягнуў" фронт Тармасава, пасля чаго імклівай атакай касінераў прарваў цэнтр непрыяцеля і перамог. Тармасаў у стратэгічным плане імкнуўся паўтарыць штосьці падобнае – атакамі на Брэст і Пінск адцягнуць увагу Рэнье і магутным ударам у цэнтры, па Кобрыну, разбіць непрыяцеля. Як паказалі далейшыя падзеі, Тармасаў выдатна засвоіў урок Касцюшкі.

22 ліпеня ў 14.00 галоўныя сілы 3-й расійскай арміі рушылі з Коваля. Атрад Ламберта пераправіўся праз Буг, "разагнаўшы натоўп ўзброеных мужыкоў". У ноч з 23 на 24 ліпеня атрад Мялесіна дасягнуў ракі Піны. У гэту ноч лютавала страшэнная бура з дажджом іградам. Саксонцы кінулі свае пасты і схаваліся па хатах. Скарыстаўшы гэта, Мялесіна пачыніў мост праз Піну і кінуў у атаку Серпухаўскі драгунскі полк на чале з палкоўнікам Спірыдонам Эраставічам Жывахавым (пад такім імем на рускай службе значыўся грузінскі арыстакрат князь Джавахішвілі). У начным кавалерыйскім баі рускія драгуны апракінулі тры саксонскія эскадроны з атрада Габленца. Саксонцы страцілі 50 чалавек забітымі і 32 палоннымі, расіяне – 15 забітымі. Развіваючы поспех, Мялесіна 24 ліпеня ўварваўся ў Пінск, дзе захапіў яшчэ 28 палонных і адну гармату. Гэта былі мясцовыя канфедэраты, рэшткі якіх уцяклі ў Слонім. Палонныя данеслі, што саксонская кавалерыя Габленца павярнула ад Іванава назад – да Драгічына. Каб нарабіць як мага больш шуму, Мялесіна, згодна з загадам, 24 ліпеня адправіў раз'езды драгун на Хомск і Ляхавічы. Рускія адціснулі ў бок Хомска ар'ергардныя патрулі Шварцэнберга – вянгерскіх гусар ды напалі ў маёнтку Ажэшкаў каля Людвінава на саксонцаў, якія ўцяклі ў накірунку Дубога – Ляхавічаў. Расійскія трафеі склалі "адзін карабін"! [109, с.54, 61; 189, с.76].

Рэнье трапіў на падман. Ён пачаў перакідваць праз Хомск па слонімскай дарозе свае ўдарныя сілы: авангард Габленца і дывізію Функа. Раніцай 25 ліпеня каля Іванава Серпухаўскі драгунскі полк Жывахава пачаў бой з саксонскім авангардам. Пасля некалькіх гадзін зацятага бою саксонская кавалерыя на чале з маёрам Ліндэнаў апракінула рускіх і праследавала іх да вёскі Кужалічын (на поўдні ад Іванава на рацэ Піне), дзе знаходзіўся лагер Мялесіна. Тут Мялесіна асабіста павёў у атаку два палкі кавалерыі і егераў і адкінуў саксонцаў ізноў да Іванава. Паводле расійскіх дадзеных, яны страцілі 15 чалавек забітымі і некалькі цяжка параненымі. У палон трапіла 22 саксонцы, у тым ліку камандзір эскадрона маёр Зейдліц [189, с.76]. Саксонцы не прыводзяць лічбы дакладных страт, а толькі адзначаюць, што быў паранены ротмістр Ліндэман.

Але абодва бакі зыходзяцца ў тым, што Іванава засталося за саксонцамі [198, с.35; 273, с.61].

У гэты час атрады Шчарбатава і Ламберта з двух бакоў набліжаліся да Брэста. У ноч з 24 на 25 ліпеня Шчарбатаў у 8 вярстах ад Брэста перахапіў раз'езд саксонскай кавалерыі. Ад палонных даведаліся, што 24 ліпеня Брэст быў заняты двума эскадронамі саксонскіх улан з палка прынца Клеменса, якія 25 ліпеня чакаюць падмацавання з Кобрына. Шчарбатаў не стаў чакаць раніцы. Узяўшы шэсць эскадронаў са складу Татарскага ўланскага і Еўпатарыйскага татарскага палкоў, ён ноччу знянацку атакаваў Брэст і выбіў праціўніка з горада. Саксонцы страцілі 20 чалавек забітымі і 34 палоннымі, расіяне мелі толькі 10 параненых. 25 ліпеня ў Брэст прыбыў атрад Ламберта. Адсюль абодва расійскія атрады павярнулі на Кобрын. У Брэсце для прыкрыцця левага фланга расійскай арміі з боку Варшаўскага герцагства застаўся кавалерыйскі атрад генерал-маёра І.К.Розэна [109, с.92; 184, с.137].

Інакш гэтыя падзеі падае саксонскі генерал Функ. Паводле яго ўспамінаў, брыгада Кленгеля вельмі стамілася на маршы да Кобрына. Таму на авалоданне Брэстам начальнік штаба саксонскай брыгады Цэшвіц накіраваў не эскадрон кавалерыі і батальён пяхоты, як планавалася, а толькі 100 уланаў на чале з гаўптманам Хейманам. Але да Брэста саксонцы так і не дайшлі. Каля вёскі Булькава яны трапілі на эскадрон казакаў. Саксонцы атакавалі праціўніка і адкінулі яго назад. Тут на іх нечакана наляцелі рускія ўланы, а казакі разгарнуліся і зноў кінуліся ў бой. Расіяне апракінулі саксонцаў і гналі іх да Кобрына 4 гадзіны. Гаўптман Хейман і лейтэнант Зальца былі паранены. Выратавацца здолелі прыкладна 60 саксонцаў. Паводле Функа, галоўнай прычынай паражэння саксонскай кавалерыі была не колькасная перавага праціўніка, а замена ўзбраення. Напярэдадні вайны 1812 г. лёгкаконны полк прынца Клеменса ператварылі ва ўланскі. Замест ружжаў салдаты атрымалі дзіды, але яшчэ не ўмелі добра карыстацца імі [273, с.63 – 64].

26 ліпеня расійскі авангард дасягнуў Булькава. У першай гадзіне ночы 27 ліпеня Ламберт рушыў па Брэсцкай дарозе на Кобрын, загадаўшы пяхоце выступіць у 4 гадзіны раніцы. Камандзір саксонскай брыгады Кленгель накіраваў на брэсцкую дарогу кавалерыю, аднак ёй не ўдалося спыніць рускіх. Пасля перастрэлкі Ламберт, атрымаўшы звесткі аб падыходзе да Кобрына з поўдня авангарда галоўнай арміі на чале з Чапліцам, адправіў падпалкоўніка князя В.Р.Мадатава (армянскага арыстакрата з Карабаха на рускай службе) з двума эскадронамі Александрыйскіх гусар і сотняй казакаў за раку Мухавец для захопу пружанскай дарогі. Мадатаў перайшоў раку ўброд, атакаваў два эскадроны саксонскіх уланаў прынца Клеменса і загнаў іх у горад. Для таго, каб закрыць саксонцам шлях для адыходу, падышлі па два эскадроны са Старадубскага і Аляксандрыйскага палкоў, адзін – з Татарскага палка. Саксонцы атака-

валі батарэю коннай роты Апушкіна, але тая адбіла атаку з дапамогаю драгун Старадубскага і Цвярскога палкоў.

Рускія акружалі Кобрын з усіх бакоў. У 8.00 гадзін у бой уступіў авангард галоўных сіл генерал-маёра Чапліца. Даведаўшыся, што на дапамогу Кленгелю ідзе з боку Антопаля Рэнье з 12-тысячным атрадам, ён накіраваў у Кобрын маёра Востраграцкага з дывізіёнам Паўлаградскіх гусар, а сам Чапліц скрытна перайшоў на Антопальскую дарогу. Востраграцкі прыцягнуў да сябе ўвагу саксонскай кавалерыі і адбіў чатыры яе атакі. На правы бераг Мухаўца Чапліц паслаў маёра Каханова з Паўлаграцкім і Лубенскім эскадронамі гусар, а сам пачаў наступаць на Кобрын. Насустрач яму Кленгель выслаў некалькі эскадронаў з 2 гарматамі, але гусары адкінулі іх, адбілі гарматы і на рамёнах праціўніка ўварваліся ў горад. Для іх падтрымкі быў пасланы 13-ты егерскі полк (камандзір І.С.Велісараў). Пачаўся крывавы вулічны бой. Паводле рапарта маёра 13-га егерскага палка Ізбаша, “непрыяцель смела абараняўся, адступаючы заўжды з моцным агнём, прыкрываючы адступленне стрэламі з дамоў і гарматамі з папярэчных вуліц”. Спроба саксонцаў прабіцца з горада па пружанскай дарозе не атрымалася. Атакай Лубенскага і Паўлаградскага палкоў іх “загналі” зноў у Кобрын. Выратавацца здолелі толькі частка кавалерыі з начальнікам штаба Цэшвіцам ды частка пяхоты [96; 172; 191].

У 9.00 гадзін падышлі галоўныя сілы Тармасава. Атрад Ламберта ахапіў мястэчка з захаду. 15-я пяхотная дывізія Назімава – з усходу. Сам Тармасаў разгарнуў свае палкі з поўдня – насупраць Кобрына. На дапамогу 13-му егерскаму палку, які ледзь трымаўся ў вулічных баях, быў пасланы Ражскі пяхотны полк. Саксонцы сканцэнтраваліся ў цэнтры мястэчка на ўзвышшы каля замка. Пад камандаваннем Кленгеля заставалася толькі 1 100 чалавек. Каля 10.00 гадзін з усіх бакоў пачаўся агульны штурм Кобрына расійскімі войскамі. Саксонцы біліся з незвычайнай упартасцю, але былі вымушаны адступіць з горада ў рэшткі невялікага форта XVIII ст., на пад’ёмны мост і за каменную сцяну Базыліянскага кляштара, дзе яны і склалі зброю. У 12.00 гадзін 27 ліпеня ўсё было скончана. Расіяне атрымалі першую бясспрэчную перамогу ў вайне 1812 года.

Рэнье зрабіў запаздалую спробу выратаваць брыгаду Кленгеля. Французскі генерал страціў цэлы дзень, каб зразумець накірунак галоўнага ўдара рускіх. Раніцай 26 ліпеня ён з’явіўся ў распалажэнне саксонскага авангарда ў Іванаве і ў гэтым жа накірунку паслаў 22-ю саксонскую дывізію Функа. Тут Рэнье знайшоў кур’ер з Кобрына, які прывёз звесткі аб кавалерыйскім баі пад Брэстам 25 ліпеня і рапарт Кленгеля, што ён чакае хуткага нападзення рускіх. Увечары 26 ліпеня ўвесь саксонскі корпус сабраўся ў Драгічыні. Разведка з лёгкаконнага палка Поленца на чале з гаўптманам Кругам данесла, што рускія каля Іванава і Пінска

маюць толькі кавалерыю, трошкі гармат і зусім не бачна пяхоты. Тут Рэнье дапусціў сваю галоўную памылку. Ён паслаў усю кавалерыю – гусарскі полк, лёгкаконны полк Поленца і эскадрон улан Зейдліца на чале з Габленцам на Пінск, а сам з адной пяхотай – 21-й і 22-й дывізіямі – рушыў на Кобрын. Уся кавалерыя Рэнье складалася з невялікага гусарскага эскорта ротмістра Пробштайна. Незразумела, як французскі генерал спадзяваўся хутка дапамагчы Кленгелю сіламі адной пяхоты.

27 ліпеня ў 6.30 гадзін раніцы Рэнье пачаў рух на Антаполь – Гарадзец. Яго салдаты ўжо чулі магутны гук гармат з-пад Кобрына, які сціх каля 12.00. У 13.00 гадзін саксонцы занялі Гарадзец і пераправу праз Каралеўскі канал. Тут нават было відаць полымя і дым ад зруйнаванага Кобрына, да якога было 13 км! Спроба саксонскай разведкі прасунуцца ў бок Кобрына не дала станоўчага выніку. Саксонскія гусары сутыкнуліся з раз’ездамі казакаў. Рэнье зразумеў, што Кленгель знішчаны, і загадаў адступаць на поўнач. Гэта рашэнне цяжка далося французскаму генералу. Больш гадзіны пануры Рэнье хадзіў уздоўж Каралеўскага канала і ні з кім не размаўляў. Але дадзеныя разведкі і ўцекачы з Кобрына – пераважна маркітанты ды фурманы з абозаў – не пакідалі ніякіх надзей на выратаванне брыгады Кленгеля. Пасля неабходнага для салдат адпачынку ў ноч з 27 на 28 ліпеня пачаўся адыход саксонскага корпуса з-пад Гарадца на поўнач. Ліхаманкавае адступленне магло скончыцца сапраўднай катастрофай. Вялікі абоз, у якім было каля 600 канфіскаваных у беларускіх сялян колаў, нейкім чынам уклініўся паміж 21-й і 22-й саксонскімі дывізіямі ды загарадзіў дарогу. Генерал-лейтэнант Функ з трыма батальёнамі аказаўся адрэзаным ад галоўных сіл, якія імкліва ішлі на поўнач. Калі б расіяне працягвалі наступленне, то ноччу і раніцай 28 ліпеня яны мелі ўсе шанцы канчаткова знішчыць 22-ю саксонскую дывізію [273, с.66].

У выніку дзевяцігадзіннага бою расійскія войскі захапілі ў палон двух генералаў (у тым ліку Кленгеля), 76 (па іншых дадзеных 66 ці 53) штаб- і обер-афіцэраў, 2 382 (2 234) ніжніх чына. Было забіта болей за 1 300 (2 000) саксонцаў. Гэтыя дадзеныя вельмі часта прыводзяць у працах расійскія і савецкія гісторыкі. Польскі гісторык М.Кукель прыводзіць рапарты Кленгеля, паводле якіх саксонскі атрад налічваў 2 433 чалавека і 8 гармат. З іх загінула 273 чалавека і 2 054 трапіла ў палон. Паводле саксонскага генерала Функа, да дывізіі якога належала брыгада Кленгеля, яе колькасць складала больш за 2 100 чалавек і 8 гармат, з якіх каля 1 900 загінула ці трапіла ў палон. Страты расійскай арміі Беларуская гістарычная энцыклапедыя ацэньвае ў 77 (па іншых звестках – 74) забітых і 182 параненых. На мармуровых дошках у храме Хрыста Спасіцеля занатавана, што рускія страцілі пад Кобрынам 15 афіцэраў і 362 салдата. Сярод загінуўшых былі падпалкоўнік Мажараў, маёры Надпратаў, Шэпелеў, Цэвелеў, капітаны Гарыстаў, Павукоў, Сазонаў, Бяліцкі, Сашальскі.

Першымі трафеямі расійскай арміі ў вайне 1812 г. сталі 8 гармат, 4 сцяга, шмат зброі і коней. Праціўнік страціў тры батальёны і тры эскадроны. Гэта былі адныя з лепшых часцей саксонскай арміі – палова лінейнага пяхотнага палка караля Фрыдрыха-Аўгуста (камандзір – палкоўнік фон Гобхадт) і весь лінейны пяхотны полк Ніземойшэля (палкоўнік фон Фогель). Таксама былі знішчаны тры з чатырох эскадронаў саксонскага ўланскага палка прынца Клеменса (камандзір – палкоўнік фон Цэшвіц). [У нямецкіх арміях часоў напалеонаўскіх войнаў – аўстрыйскай, прускай, саксонскай – палкі называліся па імёнах сваіх "шэфаў", якія вельмі рэдка асабіста камандавалі часцямі і прызначалі палкоўнікаў і афіцэраў].

Паводле штабных папер на 30 чэрвеня 1812 г. саксонская брыгада Кленгеля налічвала 3 482 чалавекі (пяць батальёнаў), а ўланскі полк прынца Клеменса – 604 кавалерысты (чатыры эскадроны). Калі супаставіць звесткі генерала Функа і дадзеныя з даследавання Говарда Гілса, атрымліваецца, што на момант нападзення арміі Тармасава Кленгель меў толькі тры батальёны пяхоты і тры эскадроны кавалерыі. Эйхельбергскі грэнадзёрскі батальён маёра фон Браўзэ быў пакінуты каля Варшавы. Батальён маёра Бозэ з лінейнага пяхотнага палка караля Фрыдрыха-Аўгуста быў пасланы яго камандзірам палкоўнікам Карлам Леапольдам фон Гопхардам напярэдадні бітвы з Кобрына ў Пружаны, а потым адыйшоў на Беласток. Эскадрон уланаў маёра Зейдліца з уланскага палка прынца Клеменса ўвесь гэты час знаходзіўся паміж Пінскам і Іванава. Атрымліваецца, што атрад Кленгеля ў Кобрыне не мог мець больш за 2 500 чалавек. З улікам таго, што каля 200 чалавек на чале з палкоўнікам Цэшвіцам вырваліся з Кобрына, саксонскія страты ў 2 300 чалавек забітымі і палоннымі з'яўляюцца найбольш верагоднымі [273; 275].

Дарэчы, восенню 1812 г. на аснове батальёна Бозэ, да якога далучылі ацалелых уцекачоў з Кобрына і новых рэкрутаў, саксонцы спрабавалі аднавіць знішчаныя часці. Праўда, атрымалася не два палкі, а два батальёны лінейнай пяхоты: караля Фрыдрыха-Аўгуста (маёр Троскі, які збег з рускага палону дзякуючы перабежчыку казаку) і Нізэмойшеля (маёр Бозэ) [273, с.216].

Генерал-маёра Кленгеля рускія вывезлі ў Маскву, а палонных саксонскіх салдат этапіравалі на поўдзень. У разгроме саксонцаў пад Кобрынам Тармасаў задзейнічаў каля 12 000 салдат – амаль у 5 разоў больш за праціўніка – што дазволіла цалкам знішчыць узмоцненую брыгаду Кленгеля [172; 231; 275]. Саксонцы прызнавалі, што Тармасаў вельмі добра ставіўся да палонных, наколькі гэта дазвалялі ваенныя абставіны. Адзін з палонных – лейтэнант Лебескінд – быў пасланы да саксонцаў за асабістымі рэчамі афіцэраў ды са звесткамі аб лёсе сваіх таварышаў. Палонным саксонскім афіцэрам нават пакінулі шпагі як прызнанне іх мужнасці.

Кобрыну дорага каштавала перамога Тармасава. У пажары згарэлі 388 жылых дамоў, фарны касцёл, прыходская царква, ратуша, гарадская гаўптвахта, 81 лаўка, 13 корчмаў, 9 млыноў, 33 амбары і інш. – усяго страчана маёмасці на 270 тыс. руб. сеаэбром. Генерал-маёр В.В.Вяземскі свае ўражанні аб Кобрыне на наступны дзень пасля бітвы апісаў так: "Якая жудасная карціна, калі я абыходзіў мястэчка. Усё ў полымі, жанчыны, дзяўчыны ў адных рубашках [*сражэнне пачалося раніцай, і напалоханыя людзі нават не паспелі апрануцца. – аўт.*], дзеці, усе бягуць і шукаюць ыратавання; сражэнне ў пажары, імклівы рух войскаў, раскіданыя непрыяцелем абозы, па полю бегае і раве скот, пыл закрыў сонца, жах паўсюды" [96].

Кобрынская бітва была першай з пачатку вайны перамогай расійскай арміі. Яна ўмацавала надзею на будучыя поспехі расійскай зброі. У гонар яе салютавалі гарматы Петрапаўлаўскай крэпасці. У маскоўскім тэатры перад прадстаўленнямі спявалі "здравіцы": "Слава генералу Тармасаву, які перамог сілы варожыя!" Перамога азначала, што тыл французскай арміі перастае быць тылам у сапраўдным сэнсе гэтага слова – ён стаў другім фронтам. Кобрынскі бой меў ўплыў на маральны стан насельніцтва Варшаўскага герцагства – пахіснулася вера ў хуткае аднаўленне Рэчы Паспалітай "ад мора да мора" з дапамогаю Напалеона.

За перамогу Тармасаў быў узнагароджаны ордэнам св.Георгія 2-й ступені і 50 тыс. руб., граф Ламберт – шабляй, упрыгожанай алмазамі, з надпісам "За храбрость", князь Мадатаў – алмазнымі знакамі ордэна св.Ганны 2-й ступені, Чапліц – алмазнымі знакамі ордэна св.Ганны 1-й ступені [172; 173; 177; 231].

Рэнье паскоранымі маршамі вёў свае войскі на Слонім. 28 ліпеня саксонскі авангард пакінуў Іванава і адышоў да Драгічына. Частка саксонцаў тут затрымалася, каб прыкрыць адступленне, а астатнія пацягнуліся на Хомск. 30 ліпеня накіраваны Мялесіна атрад маёра Вільбака ў складзе эскадрона гусар Лубенскага палка і дзвюх рот егераў атакаваў саксонцаў паміж Драгічыным і Стараселлем. Непрыяцель пачаў хуткі адыход і пакінуў Драгічын. 31 ліпеня ўвесь атрад Мялесіна перайшоў у Драгічын, які стаў галоўным лагерам правага фланга рускай арміі. Раз'езды Мялесіна з'явіліся ў Іванаве, Антаполі, Хомску [189]. Тым часам авангард Ламберта заняў Пружаны. Тут 29 ліпеня саксонскія ўланы з палка Поленца (палкоўнік фон Хан) паспрабавалі нечакана атакаваць рускіх, але былі адбіты контратакай гусараў падпалкоўніка Мадатава. Рускія сцвярджалі, што знішчылі тут адзін з саксонскіх эскадронаў.

Саксонцы адыходзілі як мага хутчэй, кідалі ўсе непатрэбныя рэчы, а абозы паслалі ў Беласток. Паводле Функа, саксонскі корпус быў у цяжкім стане: шынелі і ўніформа знасіліся, у кожным батальёне па 30 – 40 чалавек ішлі босыя, корпус "больш нагадваў натоўп абарваных батракоў, чым салдатаў". Гэта не дзіўна, бо саксонцы маршыравалі на Слонім без пе-

рапынку 28, 29 і 30 ліпеня. Адпачывалі толькі па некалькі гадзін. Прывал у начы з 28 на 29 ліпеня быў каля Бярозы, наступны – ноччу з 29 на 30 ліпеня за Сяльцом.

Развіваючы поспех, Тармасаў вырашыў "зрабіць дыверсію і заняць непрыяцеля кавалерыйскімі рэйдамі". Мялесіна павінен быў з боку Пінска зрабіць кавалерыйскую атаку ў накірунку Нясвіжа, а палкоўнік Кнорынг з двума татарскімі палкамі – правесці рэйд на Пружаны – Новы Двор – Свіслач – Беласток. Найбольш удалым атрымаўся рэйд Коннататарскага і Еўпатарыйскага татарскага палкоў Кнорынга. На сваім шляху ён забіраў і знішчаў правіянт, граміў невялікія непрыяцельскія атрады. Каля Заблудава (зараз у Польшчы) Кнорынга паспрабаваў затрымаць беластоцкі губернатар французскі генерал Ферыер з атрадам саксонскай пяхоты і аўстрыйскай кавалерыі. Пасля ўпартага бою татары апракінулі непрыяцеля, губернатар Ферыер ледзьве ўцёк і схаваўся ў беластоцкіх лясах. 31 ліпеня Кнорынг захапіў Беласток. Тутэйшая французская адміністрацыя збегла ў Тыкоцін, вялікі магазін з правіянтам быў спалены. Значную частку французскіх запасаў у Беластоку складалі абозы VII (саксонскага) корпуса, які па гэтай прычыне яшчэ доўга пакутваў ад недахопу амуніцыі, харчавання і асабліва абмундзіравання. 9 жніўня атрад Кнорынга вярнуўся да сваіх з 95 палоннымі і злучыўся з авангардам Ламберта каля Пружанаў [109, с.104].

Жах ахапіў усіх прыхільнікаў Напалеона ў заходнім рэгіёне Беларусі. Не квёлыя запасныя батальёны, а магутная расійская армія ўварвалася з поўдня. Расіяне былі ў Брэсце, Пружанах, Кобрыне, Пінску. Кавалерыя Тармасава нават завітала ў Беласток. Саксонскі корпус Рэнье спешна адступаў ад Антаполя да Слоніма. Расіяне істотна зменшылі яго кавалерыю, забралі 6 гармат, знішчылі 1/6 усёй пяхоты (3 батальёны з 18). Тыл "Вялікай арміі" пахіснуўся. Французскі губернатар Кенігсберга Луазон спешна сабраў 10-тысячны атрад з запасных батальёнаў і адстаўшых салдат і рушыў праз Растэнбург на абарону Гродна [198, с.37]!

2 жніўня 1812 г. у Віцебску Напалеон атрымаў "эстафету" аб разгроме пад Кобрынам і паніцы "ў Літве". Французскі імператар адрэагаваў вельмі хутка. 3 жніўня ён загадаў аўстрыйскаму корпусу Шварцэнберга вярнуцца на Гродзеншчыну і дапамагчы Рэнье стрымаць рускіх. Напалеон напісаў Шварцэнбергу, што ён адмовіўся ад першапачатковай думкі ўключыць аўстрыйцаў у склад цэнтра "Вялікай арміі", таму што ўжо не спадзяваецца, што Рэнье самастойна справіцца з Тармасавым. Гэтак перамога пад Кобрынам пазбавіла Напалеона 30-тысячнага корпуса, якога яму так не хапіла пад Барадзіном для канчатковай перамогі [226, с.45].

Ваенныя гісторыкі часта абвінавачваюць Тармасава ў тым, што пасля Кобрына ён упусціў яшчэ большую перамогу: "Тармасаў [...] замест таго, каб абрынуцца на Рэнье і разбіць яго, раптоўна зрабіўся нерухо-

мым і цвёрда захоўваў сваю нерухомасць да 9 жніўня". За гэты час Рэнье паспеў не толькі адыйсці да Слоніма, але і дачакацца Шварцэнберга [181, с.192].

На жаль, не ўсё так проста, як выдаецца тэарэтыкам. Як мінімум, тры прычыны прымусілі Тармасава адмовіцца ад далейшага наступлення. Па-першае, адсталі ўсе транспарты і абозы. Войска засталося без харчавання. На поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні ўсё, што магчыма, было ўзята да вайны ці знойдзена аўстрыйцамі і саксонцамі. Каб забяспечыць армію, Тармасаў пад прымусам выганяў мужыкоў на сельскагаспадарчыя працы. "Зямля спусташаецца […] Зямля стогне. Зімою людзі будуць мерці з голаду…", – сумна пазначыў 28 ліпеня і 6 жніўня ў сваім дзённіку В.В.Вяземскі. Па-другое, Тармасаў нічога не ведаў аб дыслакацыі праціўніка. Той жа Вяземскі запісаў 6 жніўня: "Паляка ніводнага, да нас схільнага, але многія наадварот". [*Большасць рускіх камандзіраў усё насельніцтва Літоўска-Гродзенскай губерні лічыла палякамі. – аўт.*] Сяляне разбегліся. Шляхта шпігавала на карысць Напалеона, за што шмат паноў з Валыні і Брэсцкага павета было выслана ў Кіеў. Жахлівы лёс згарэўшага Кобрына і ў яўрэяў на нейкі час адбіў ахвоту дапамагаць Тармасаву. Без падтрымкі насельніцтва кавалерыйскія рэйды добрай інфармацыі не давалі. Тармасаў не ведаў, куды нанесці наступны ўдар, а бессэнсоўнымі манёўрамі ён рызыкаваць не жадаў. Па-трэцяе, расійская армія патрабавала адпачынку. За пяць дзён палкі прайшлі з баямі вялікую адлегласць ад Ковеля на Валыні да Кобрына. Асабліва цяжкім быў апошні хуткі марш ад вёскі Хабавічы да Кобрына. Толькі ў 15-й пяхотнай дывізіі Назімава 6 чалавек памёрла ад фізічнага вычарпання, а звыш 300 знясіленых і стомленых салдат засталіся на кобрынскай дарозе [96]! Яшчэ адзін такі манёўр без усякіх баёў мог каштаваць Тармасаву паловы арміі.

Таму Тармасаў вырашыў аддаць ініцыятыву праціўніку і чакаць яго дзеянняў. У пачатку жніўня 1812 г. 3-я расійская армія на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні была размешчана наступным чынам:

– авангард графа К.В.Ламберта ў Пружанах закрываў скрыжаванне дарог з Гродна і Слоніма. Яго раз'езды на чале з К.Б.Кнорынгам сталі ў Новым Двары і Поразаве;

– атрад Я.І.Чапліца, узмоцнены брыгадай князя М.М.Хаванскага, паміж вёскамі Рэвятычы і Сігневічы прыкрываў дарогу ад Бярозы Картускай;

– атрад А.П.Мялесіна ўтвараў правы фланг арміі, ён занімаў Драгічын і кантраляваў Пінск;

– галоўныя сілы А.П.Тармасава былі размешчаны каля Антаполя і Гарадца;

– корпус барона Ф.В.Остэн-Сакена заставаўся на Валыні, ажно каля Луцка, і на яго разлічваць не прыходзілася [96].

Фактычна Тармасаў расцягнуў сваю армію на 120 км з захаду (Пружаны) на ўсход (Пінск). 2 жніўня Тармасаў аддаў загад падрыхтаваць 10-дзённую порцыю сухароў на кожнага салдата і выступаць насустрач праціўніку, які набліжаўся з паўднёвага ўсхода.

На жаль, мы і сёння не ведаем, хто з'яўляўся аўтарам аўстра-саксонскага плана кампаніі супраць Тармасава. Адно бясспрэчна – гэты чалавек дакладна ведаў распалажэнне 3-й расійскай арміі. Відаць, мясцовая шляхта добра паклапацілася аб дакладных звестках. Галоўны ўдар наносіў свежы і больш моцны аўстрыйскі корпус. Шварцэнберг павінен быў разбіць Чапліца каля Сігневічаў, рассекчы расійскую армію на дзве паловы і зайсці ў тыл авангарду Ламберта. Рэнье трэба было адцягнуць на сябе ўвагу Ламберта з фронта. Як мінімум, саюзнікі Напалеона маглі разбіць авангард Ламберта, а калі ўсё пойдзе добра – дык знішчыць па частках усю 3-ю расійскую армію.

31 ліпеня Шварцэнберг пакінуў Нясвіж і праз Сталовічы і Палонку прыйшоў у Слонім, дзе 3 жніўня злучыўся з Рэнье. 6 жніўня авангард непрыяцеля заняў Зэльву і Ружаны. Колькасная перавага стала не на карысць расіян: каля 45 тыс. супраць 31 тыс. Саксонскі корпус Рэнье, узмоцнены трымя аўстрыйскімі брыгадамі, рушыў на Пружаны. 4 жніўня саксонцы дасягнулі вёскі Івашковічы на поўдні сучаснага Зэльвенскага вадасховішча, дзе патрулі казакаў выкрылі іх рух. 5 жніўня войскі Рэнье занялі Падароск паміж Ваўкавыскам і Ружанамі. 6 жніўня саксонцы занялі Поразава, якое рускія пакінулі без бою. 7 жніўня ўзмоцнены корпус Рэнье сканцэнтраваўся ў Вялікім Сяле на поўначы ад Пружанаў [273, с.78 – 79].

Аўстрыйцы Шварцэнберга ішлі на Бярозу Картускую і Хомск – нібыта атакаваць галоўныя сілы рускіх. Расійскія раз'езды без бою пакінулі Сельцы і Бярозу Картускую. 6 жніўня адбылася сутычка паміж аўстрыйскімі і расійскімі раз'ездамі каля Сельца [198, с.39]. 7 жніўня ў 12.00 гадзін пад праліўнымі дажджамі адбылася перастрэлка лёгкай кавалерыі каля Сігневічаў [96]. 8 жніўня 1812 г. у 11.00 гадзін аўстрыйскі корпус Шварцэнберга абрынуўся на расійскія палкі Чапліца і Хаванскага паміж Сігневічамі і Рэвятычамі. Тармасаў загадаў Чапліцу адступаць на Хомск – Антаполь, але без бою зрабіць гэта было ўжо немагчыма. Перад Сігневічамі заняла пазіцыю расійская кавалерыя: тры эскадроны Уладзімірскага і адзін Таганрогскага драгунскіх палкоў. Каля вёскі стаў Калыванскі пяхотны полк з 4 гарматамі. На могілках, каля дарогі на Рэвятычы і па асобных хатах у Сігневічах і Грэблі разгарнуўся 13-ты егерскі полк. Далей стаялі Лубенскі і Паўлаградскі гусарскія палкі і казакі. Першай атакай аўстрыйская кавалерыя (гусарскія палкі кайзера Франца і Бланкенштайна) апракінула рускіх драгун і пагнала іх у Сігневічы, дзе трапіла пад перакрыжаваны агонь расійскай пяхоты і змяшалася. Тады ў атаку пайшлі Лубенскія гусары і казакі і пагналі аўстрый-

цаў назад. Шварцэнберг узмацніў сваю кавалерыю і зноў ударыў на левы фланг расіян. Другая аўстрыйская атака была адбіта агнём 4 гармат і стралкоў Калыванскага пяхотнага палка. Гэта дало магчымасць адыйсці гусарам і казакам. Неўзабаве паказалася аўстрыйская пяхота, але расіяне ўжо паспелі адвесці свае палкі за Грэблю. Апошнімі адступілі егеры, знішчыўшы мост каля Грэблі. Расіяне страцілі 35 чалавек забітымі і 79 параненымі. Аўстрыйцы, акрамя пэўных страт шэрагоўцаў, страцілі гусарскага палкоўніка фон Горвата, які памёр ад ранаў, атрыманых ля Сігневічаў. Чапліц адступіў да Хомска і ўзнікла рэальная пагроза акружэння авангарда Ламберта. Расчысціўшы сабе шлях на захад, Шварцэнберг праз Мальцы і Лінёва пачаў ахопліваць расійскі авангард [96; 282].

Тым часам, таксама 8 жніўня, каля вёскі Галоўчыцы ў Шарашэўскім старостве адбыўся бой паміж авангардам расійскіх войск на чале з Ламбертам і саксонскім корпусам Рэнье, узмоцненым трымя аўстрыйскімі брыгадамі: дзвюма пяхотнымі генерал-маёра прынца Піліпа Аўгуста Гесэн-Хомбурга і генерал-маёра Юзафа фон Майера і адной кавалерыйскай генерал-маёра барона Франца фон Фрэйліха. Пад націскам пераўзыходзячага праціўніка Ламберт быў вымушаны адыйсці да Пружан. Рэнье не збіраўся адпускаць сваю здабычу. 9 жніўня саюзнікі Напалеона атакавалі расійскі авангард каля Пружанаў. Пачатак гэтага бою быў за расіянамі – удалая атака казакаў і башкіраў нават выклікала ўцёкі саксонскіх салдат. Становішча напалеонаўскіх саюзнікаў выратавала ўдалая контратака раз’ездаў лёгкаконнага палка Поленца на чале з лейтэнантам Вольферсдорфам. Пасля гэтага саксонцы атакавалі з фронта, а аўстрыйскія драгуны паспрабавалі абысці флангі. Расіяне былі вымушаны адступіць па прычыне колькаснай перавагі праціўніка, страціўшы палонным аднаго з афіцэраў башкірскага палка [273, с.80]. Іх выратавала павольнасць аўстрыйцаў. Ламберт пачаў адыходзіць на поўдзень па дарозе Пружаны – Клетна – Козі Брод – Гарадзечна – Кобрын. Ворагі літаральна віселі на плячах расійскага авангарда. Толькі вузкая лясная дарога не дазваляла Рэнье абысці і знішчыць праціўніка [173 – 175; 273, с.80 – 81].

Нібыта подых французскай рэвалюцыі пранёсся над Літоўска-Гродзенскай губерняй. З аднаго боку, на чале расіян змагаўся французскі арыстакрат і раяліст граф Шарль Жозэф дэ Ламберт (з 1793 г. на рускай службе як Карл Восіпавіч Ламберт). З другога боку – на чале саксонцаў стаяў французскі рэвалюцыянер і банапартыст Жан Луі Рэнье. Цікава, ці адчувалі гэты парадокс гісторыі рускія і саксонскія салдаты, якія дзесяткамі гінулі ў ар’ергардных баях ля беларускіх вёсак Клетна ды Козі Брод? Як толькі мясцовасць затрымлівала расіян (яры пад Клетна ці лясная рачушка ля Козьега Броду), Рэнье адразу атакаваў іх. Найбольш жорсткі бой адбыўся ў другой палове 10 жніўня на пераправе каля Козьега Броду, дзе расійскі ар’ергард на чале з Кнорынгам вырашыў затры-

мацць праціўніка. Ад гарматнага агню расіян саксонская пяхота змяшалася. Саксонцы страцілі лейтэнанта Буша, якому гарматным ядром адарвала руку. Стомленых саксонцаў змяніў аўстрыйскі авангард: гусарскія палкі Бланкенштайна і Кінмайера. Аўстрыйскі палкоўнік Зюдэн з двума батальёнамі егераў фарсіраваў рэчку і шчыльным агнём знішчыў рускую батарэю, расчысціўшы шлях для кавалерыйскай атакі. Ламберт ледзь прарваўся страціўшы адну гармату. "Непрыяцель дорага заплаціць за гэту гармату", – заявіў расійскі камандзір. Паводле Функа, Ламберт асабіста ўзначаліў контратаку расійскай кавалерыі, якая пасля кавалерыйскага бою спыніла націск вянгерскіх гусар і дазволіла расіянам адысці [174, с.12; 273, с.81].

У гэтыя цяжкія дні Тармасаў праявіў не толькі ваенныя здольнасці, але і высокія чалавечыя якасці. Можна было ахвяраваць атрадам Ламберта і адвесці галоўныя сілы на Валынь. Так зрабіў Напалеон з корпусам М.Нея на Смаленшчыне восенню 1812 г. Але Тармасаў з галоўнымі сіламі – корпусамі Каменскага і Маркава – рушыў насустрач Ламберту. Расіяне злучыліся пад Гарадзечна. 11 жніўня тут сканцэнтраваліся авангард К.В.Ламберта, корпусы генерал-лейтэнанта Я.І.Маркава і генерал-лейтэнанта С.М.Каменскага – усяго 18 тыс. чалавек. З поўначы і ўсходу да Гарадзечна падыходзілі саксонскія і аўстрыйскія войскі.

Хаця разбіць Ламберта не атрымалася план напалеонаўскіх генералаў пакуль ажыццяўляўся. Рускія былі расколаты на дзве часткі: каля Гарадзечна 18 тыс. салдат Тармасава і Ламберта, каля Хомска і Драгічына – 13 тыс. салдат Чапліца і Мялесіна. У выпадку адступлення Тармасава апошнія траплялі пад удар як мінімум 40-тысячнага аўстра-саксонскага войска. Каб выйграць час і далучыць да сябе атрад Чапліца, расійскі камандуючы вырашыў прыняць няроўны бой. Для Тармасава гаворка ішла не аб перамозе, а аб магчымасці сабраць і выратаваць сваю армію.

12 жніўня паміж Гарадзечна і Паддубна адбылася самая вялікая бітва напалеонаўскай эпохі ў заходнім рэгіёне Беларусі, у якой, як прынята лічыць, прынялі ўдзел амаль 60 тыс. чалавек (па іншых, менш распаўсюджаных звестках 46 тыс.: 30 тыс. аўстрыйцаў і саксонцаў супраць 16 тыс. рускіх). М.Кукель прыводзіць лічбу ў 33 тыс. салдат і 124 гарматы ў аўстра-саксонскай арміі і 18 тыс. салдат і 84 гарматы ў рускіх. У "Журнале" ("Дзённіку") рускага генерал-маёра Васіля Васільевіча Вяземскага, які ў дзень бітвы прыкрываў тылы расійскай арміі, сілы Тармасава пад Гарадзечна ацэнены ў 16 тыс. чалавек, а аўстра-саксонскага войска – ў 30 тыс. чалавек. Паводле ўспамінаў саксонскага генерала Функа, пасля паражэння пад Кобрынам колькасць VII корпуса складала 14 700 чалавек: 13 200 пяхоты і 1 500 кавалерыі. Аўстрыйскі корпус налічваў не менш 30 тысяч чалавек. Разам – каля 45 тысяч салдат. Тэарэтычна атрымліваецца, што супраць 18 тыс. чалавек у Тармасава напалеонаўс-

кія генералы мелі пад Гарадзечна амаль 45 тыс. чалавек. Але, дзякуючы аўстрыйскаму сабатажу, у бітве прыняло ўдзел не больш за 25 тыс. чалавек: весь саксонскі корпус, дзве кавалерыйскія і дзве пяхотныя аўстрыйскія брыгады. На баку Шварцэнберга і Рэнье была колькасная перавага. На баку Тармасава – вельмі моцная для абароны пазіцыя. Адзіным мінусам расійскай пазіцыі было тое, што ўзвышшы на левым беразе, дзе стаяла аўстра-саксонскае войска, былі самымі высокімі ў ваколіцах. Таму непрыяцель мог бачыць усе манёўры і перадыслакацыі расійскіх палкоў. Хаця гэту акалічнасць часткова кампенсавалі лясы на правым беразе ракі.

Расійская армія размясцілася на ўзвышшах уздоўж правага берага невялікай рэчкі Гарадзечна, прытока Мухаўца. У цэнтры і на правым фланзе расійская пазіцыя была прыкрыта вельмі балоцістай рачной далінай. З левага фланга яна ўпіралася ў балоцісты лес, праз які вяла ўсяго адна старая дарога – з вёскі Шарашэва праз Цевялі да Кобрына. Дасягнуць рускіх можна было толькі па трох вузкіх гацях:

– каля Гарадзечна на вялікай дарозе Пружаны – Кобрын;

– каля вёскі Паддубна ў 4-х вярстах на захад ад Гарадзечна;

– на лясной дарозе Шарашэва – Кобрын.

Увечары 11 жніўня Шварцэнберг сканцэнтраваўся ў Гарадзечне, а Рэнье каля вёскі Жабіна. Саюзнікі Напалеона вырашылі нанесці галоўны ўдар па леваму флангу рускіх. Тармасаў лічыў, што балоцісты лес нельга прайсці, але саксонскі патруль маёра Астэра знайшоў тут старую, забытую і залітую вадою дарогу. Вельмі дзіўна, што гэту дарогу прагледзелі рускія патрулі. Відавочна, тут ізноў не абышлося без мясцовых прыхільнікаў Напалеона, бо такія рэчы можа ведаць толькі тутэйшы жыхар. Аўстрыйская дывізія фельдмаршал-лейтэнанта Леапольда Траўтэнберга павінна была атакаваць расіян праз гаць на дарозе Пружаны – Кобрын каля Гарадзечна. За ёй разгарнулася дывізія фельдмаршал-лейтэнанта барона Вінцэнта Феррэрыўса Фрыдрыха Б’янкі. Аўстрыйская дывізія фельдмаршал-лейтэнанта барона Генрыха Берзіна фон Зігенталя стала насупраць гаці ў вёсцы Паддубна. Узмоцнены дзвюма аўстрыйскімі брыгадамі корпус Рэнье павінен быў абысці рускіх і разбіць іх левы фланг. Цікава, што ўсю “брудную працу” – пераадоленне лясных багнаў і ўдар па рускіх – Шварцэнберг даручыў Рэнье. Для выканання гэтага плана саксонскі корпус напярэдадні сражэння быў даўкамплектаваны. Рэшткі ўланаў прынца Клеменса былі далучаны ў якасці пятага эскадрона да лёгкаконнага палка генерал-маёра Поленца. Разам з саксонскім гусарскім палком (“блакітныя гусары”) і аўстрыйскай кавалерыйскай брыгадай генерал-маёра Шмельцэра (два лёгкаконныя палкі О’Рэйлі і Гогенцолерн-Гехінгена) яны ўтварылі асобную кавалерыйскую брыгаду з чатырох палкоў. Замест саксонскага генерала Габленца яе ўзначаліў аўстрыйскі генерал-маёр барон Цэафіл Юзаф Цэхмейстар

фон Райнаў. Да саксонскай пяхоты далучылі аўстрыйскую брыгаду генерал-маёра барона Вільгельма Веттэр фон Ліліенберга (19-ты пяхотны полк Альвінчы і 48-мы пяхотны полк Вукасовіча) са складу дывізіі Б'янкі. Для каардынацыі дзеянняў да штабу Рэнье быў прыкамандзіраваны аўстрыйскі палкоўнік Латур-Байле.

На вайсковай нарадзе напярэдадні сражэння аўстрыйскія і саксонскія генералы, нарэшце, пазнаёміліся. Саксонскі генерал Функ пакінуў цікавыя характарыстыкі аўстрыйскіх камандзіраў. Ён станоўча адзначыў трох аўстрыйскіх генералаў: Мора, прынца Ліхтэнштэйна і прынца Гесэн-Хомбурга. Апошні вылучаўся "вялікім гонарам і жаданнем змагацца". Фрымон "рабіў толькі тое, што было вельмі неабходна", а старыя генералы Фрэйліх, Цэхмейстар і Пфлахер "былі проста нулямі". Вядомы сваімі антыфранцузскімі настроямі Б'янкі трымаўся ў адносінах да саксонцаў карэктна і холадна. Ён і начальнік штаба аўстрыйскага корпуса Штуттэрхейм не вельмі хавалі, што іх не цікавіць гэтая вайна. Пры гэтым Функ адзначыў, што найбольш здольнымі аўстрыйскімі генераламі былі Б'янкі і Ліхтэнштэйн, якія, па зразумелых прычынах, ніяк не праявілі сябе ў гарадзечанскай бітве. На нарадзе Рэнье прапанаваў свой план атакі рускага левага фланга і акружэння праціўніка, які Шварцэнберг цалкам падтрымаў [273, с.82].

Тармасаў даручыў свой левы фланг князю А.Р.Шчарбатаву, правы – генерал-лейтэнанту Я.І.Маркаву. Рэзервам з'яўляўся авангард К.В. дэ Ламберта. 3-я расійская армія была разгорнута ўздоўж рэчкі тварам на поўнач. У ходзе сражэння да расіян паспеў далучыцца Паўлаградскі гусарскі полк Я.І.Чапліца. Камандзір VIII расійскага корпуса граф Каменскі быў адхілены ад камандавання, таму што яшчэ 22 ліпеня пасварыўся з Тармасавым [96; 172 – 175; 270; 281].

Ноччу напярэдадні бітвы ў аўстрыйскай арміі адбылася раптоўная трывога. Волкі з навакольных лясоў напалі на аўстрыйскіх коней. Трэба адзначыць, што беларускія ваўкі мелі густ. Яны абралі на вячэру лепшых коней – 1-га гусарскага палка, шэфам якога быў аўстрыйскі цэсар Франц І. Напалоханыя коні сарваліся і панесліся на адпачываючых гусар, а потым на бівак суседняга пяхотнага палка і разбегліся. Знікла 600 коней, шмат салдат было пакалечана і растаптана. Дзякуючы "дыверсіі" беларускіх ваўкоў, аўстрыйская кавалерыйская брыгада Фрэйліха здолела толькі ўвечары прывесці сябе ў належны стан і прыняць удзел у бітве. У саксонскім корпусе вырашылі, што пачалася атака казакаў, і ўзнялі ўсе палкі "ў ружжо" [290, т.2, с.112].

На світанку ў 5.00 гадзін Рэнье выклікаў да сябе камандзіраў дывізій і аддаў загады па войсках. Французскі генерал сядзеў на даху сялянскай хаты ў Жабіне і разглядаў у падзорную трубу рускі левы фланг. Але невялікі дождж перашкаджаў яму. Верны сваім правілам Рэнье не растлумачыў падначаленым сапраўднага сэнсу манёўра. Ён заявіў, што гэта

будзе разведка боем на левым фланзе рускіх. “Паглядзім, што яны будуць рабіць”, – дадаў Рэнье [273, с.85]. У 6.00 гадзін 12 жніўня 1812 г. саксонская лёгкая пяхота захапіла плаціну каля Паддубна на левым фланзе расійскай арміі, але была выбіта за рэку контратакай войск Шчарбатава і моцным гарматным агнём. Гэта была падманная атака, каб расіяне не заўважылі лясны манёўр корпуса Рэнье, які доўгай калонай прабіраўся праз лес. У авангардзе ішлі батальён саксонскіх егераў і батарэя коннай артылерыі. За імі – аўстра-саксонская кавалерыя Цэхмейстара на чале з Рэнье. Далей цягнулася пяхота. У 8.00 гадзін Шчарбатаў заняў вышыні каля Паддубна і стаў чакаць франтальную варожую атаку праз гаць. Ён узмацніў гарматны агонь і запаліў вёску Паддубна, побач з якой знаходзіўся Шварцэнберг. Шчыра кажучы, у гэтым не было неабходнасці. Шварцэнберг даў усім зразумець, што не збіраецца быць ні ў якай іншай ролі, акрамя ролі гледача. Калі саксонскія генералы перад фарсіраваннем балота звярнуліся да яго за загадамі, Шварцэнберг адказаў: “Выконвайце загады Рэнье, а я з гэтым корпусам буду ў рэзерве” [273, с.86].

Каля 10.00 – 10.30 гадзін першыя саксонскія батальёны пачалі выходзіць з лесу ў фланг і тыл часцям Шчарбатава. Балоцісты лес усё ж такі дапамог расіянам. Шэрагі саксонцаў змяшаліся, яны расцягнуліся на лясных сцежках і спатрэбіўся час, каб згрупіравацца для атакі. Каб расчысціць месца для сваёй пяхоты, Рэнье асабіста павёў у атаку саксонскую кавалерыю і адкінуў рускіх драгун, якія стаялі ў рэзерве Шчарбатава і не чакалі гэтай атакі [270]. Каля 11.00 гадзін пад прыкрыццём кавалерыйскай атакі з лесу паспела выйсці і разгарнуцца 21-я саксонская дывізія Лекока.

Расійскі камандуючы левым флангам Шчарбатаў адразу зразумеў небяспеку. Пакінуўшы на ўзвышшах каля Паддубна адзін Уладзімірскі пяхотны полк, ён разгарнуў свой фланг на захад і адкрыў па саксонцах агонь з гармат. Пяхота Шчарбатава – Дняпроўскі, Кастрамскі і Тамбоўскі палкі – была пастроена “ў лінію”, што дазваляла лепш за ўсё выкарыстаць ружэйны агонь. Паміж старой і новай пазіцыямі Шчарбатава знаходзіўся 28-мы егерскі полк. Рускія драгуны і гусары атакавалі 21-ю саксонскую дывізію Лекока і паспрабавалі “загнаць” яе зноў ў лес. Саксонцы страцілі шмат людзей і коней, два афіцэры трапілі ў палон, але ўсё ж такі адбілі атаку дзякуючы артылерыйскай батарэі капітана Рота, які трапным агнём спыніў імклівую атаку расіян [273, с.86]. Скарыстаўшы гэта, саксонская кавалерыя, у сваю чаргу, контратакавала праціўніка і захапіла 150 палонных. Стала зразумела, што выбіць корпус Рэнье за рэчку Гарадзечна не атрымаецца і рускім трэба прымаць бой на новай, нязручнай пазіцыі [270; 281].

Рэнье на сваім левым флангу (супраць Шчарбатава) размясціў 22-ю саксонскую дывізію Функа. Паколькі пасля разгрома пад Кобрынам у

яе складзе засталася толькі адна 2-я пяхотная брыгада Сара, 22-ю дывізію ўзмацнілі аўстрыйскай пяхотнай брыгадай Ліліенберга (са складу аўстрыйскай дывізіі цэнтра Б'янкі) і 1-м саксонскім палком лёгкай пяхоты (палкоўнік Эгідзі). У цэнтры, супраць войск Маркава, разгарнулася 21-я саксонская дывізія Эдлера фон Лекока. Правы фланг Рэнье, супраць Ламберта, склала аўстра-саксонская кавалерыя Цэхмейстара.

Тармасаў хутка зарыентаваўся ў абстаноўцы і пачаў пераводзіць усе свае войскі на левы фланг. На гаці каля Гарадзечна засталіся толькі Ражскі пяхотны і Цвярскі драгунскі палкі. Астатняя расійская армія каля 12.00 гадзін ужо была перастроена перпендыкулярна старой пазіцыі. Зараз яе правы фланг падпарадкоўваўся Шчарбатаву і ўпіраўся ў раку Гарадзечна. Цэнтр утварылі войскі Маркава: Віцебскі, Казлоўскі, Нашэбургскі пяхотныя, 10-ты егерскі, Старадубскі драгунскі палкі і два эскадроны Конна-татарскага палка. Для ўзмацнення агню Маркаў аб'яднаў 24 гарматы ў адну артылерыйскую батарэю, якая вітала саксонцаў шчыльным агнём. Левы фланг утварылі Александрыйскі гусарскі, Курынскі пяхотны, 14-ты егерскі палкі, адзін эскадрон Конна-татарскага палка, казакі, татары, калмыкі і 6 гармат пад камандаваннем Ламберта. Імклівай атакай Ламберту ўдалося прымусіць адысці саксонскую батарэю (16 гармат) і заняць вышыні насупраць войск праціўніка.

Такім чынам, на старой пазіцыі каля гацей Тармасаў пакінуў толькі тры палкі супраць дзвюх аўстрыйскіх дывізій Зігенталя і Траўтэнберга! Прычым у ходзе бою Тармасаў перакіне Цвярскі драгунскі полк на левы фланг – узмацніць Ламберта. Расійскі камандуючы спадзяваўся на моцную пазіцыю, мужнасць сваіх палкоў ды аўстрыйскі сабатаж. Уся армія была разгорнута на захад супраць войск Рэнье. Праціўнікі мелі тут прыблізна аднолькавую колькасць: каля 18 тыс. у Рэнье і каля 15 тыс. у Тармасава [109, 174 – 175; 270; 281]. Тармасаў вырашыў знішчыць праціўніка шчыльным агнём артылерыі і пяхоты. Паводле Функа, не паспела яго дывізія пастроіцца, як міма пранеслі параненага аўстрыйскага генерала Ліліенберга, за якім бег разгублены ад'ютант і крычаў: "Яны страляюць проста жудасна! Яны застрэлілі каня нашага генерала!" [273, с.88].

Паколькі нечаканай атакі не атрымалася, то Рэнье спачатку паспрабаваў другі раз абысці левы фланг расіян, выкарыстаўшы больш прыдатную для кавалерыйскіх манёўраў прастору за балоцістым лесам. Каля 15.00 гадзін саксонскі лёгкаконны полк Поленца і аўстрыйскі лёгкаконны полк Гогенцолерн-Гехінгена (чэхі) пасля ўпартага супраціўлення перамаглі на дарозе Шарашэва – Кобрын Паўлаградскі гусарскі полк. Аднак адступаючыя рускія гусары заманілі непрыяцеля пад агонь пяхоты. Аўстра-саксонская кавалерыя змяшалася і была адкінута контратакай Паўлаградскага і Александрыйскага гусарскіх палкоў. Каб выратаваць правы фланг Рэнье перакінуў сюды яшчэ адну аўстрыйскую кавалерыйскую брыгаду – Фрэйліха [109; 174; 175, с.46 – 48].

Рэнье зразумеў, што левы фланг расіян абысці не атрымаецца і змяніў планы. Каля 16.00 гадзін ён атакаваў правы фланг Шчарбатава – узвышшы каля Паддубна. Відаць, французскі генерал хацеў адцясніць рускіх ад гаці каля Паддубна, што дало б магчымасць пераправіцца на левы бераг Гарадзечны аўстрыйскай дывізіі Зігенталя і прынцыпова б змяніла суадносіны сіл паміж праціўнікамі. Рэнье сканцэнтраваў на войсках Шчарбатава артылерыйскі агонь 24 гармат 21-й і 22-й саксонскіх дывізій і двойчы атакаваў расіян сіламі дывізіі Функа (разам з аўстрыйскай брыгадай). Параненага камандзіра аўстрыйскай брыгады Ліліенберга змяніў камандзір дывізіі Б’янкі. Войскі Шчарбатава мужна абараняліся і адбілі ўсе атакі.

Першая атака вялася саксонскай пяхотай, пастроенай у калоны. Расіяне адбілі непрыяцеля і адказалі контратакай Старадубскага і Таганрогскага драгунскіх палкоў. Рускія драгуны “ўрубіліся” ў шэрэгі сакснскіх егераў і захапілі ў палон капітана Ліндэмана. Але саксонскі генерал фон Сар разгарнуў 2-гі егерскі полк “у лінію”, прыкрыў флангі грэнадзёрскімі батальёнамі “ў карэ” і адбіў праціўніка. Вялікую ролю ў адбіванні рускай атакі адыграла саксонская батарэя маёра Аўэнмюлера які падпусціў бліжэй расійскую кавалерыю і спыніў яе залпамі карцечы “ва ўпор” [273, с.89 – 90]. Баі станавіліся ўсё больш жорсткімі. 22-я саксонская дывізія Функа, якая раніцай налічвала 2300 чалавек, страціла амаль 25 % асабовага складу. Каля 18.00 гадзін яна атрымала падмацаванні – аўстрыйскі гусарскі полк Гесэн-Хомбурга. Але як толькі над галавамі гусараў пранеслася першая руская карцеч, аўстрыйскі палкоўнік рашуча адмовіўся ісці ў атаку. Пасля просьб і пагроз Функа аўстрыйскі камандзір пагадзіўся здалёк паказацца рускім і адразу адвёў сваіх людзей на бяспечную адлегласць [273, с.91].

Неўзабаве, аўстрыйцы забыліся аб сваіх абяцаннях “прыстойнай вайны”. Пад вечар у 18.30 гадзін пачалася другая атака з удзелам аўстрыйскай пяхотнай брыгады Гесэн-Хомбурга (пад час напалеонаўскіх войнаў у аўстрыйскай пяхоце і кавалерыі служылі чатыры прадстаўніка гэтага нямецкага арыстакратычнага роду). Акрамя 22-й саксонскай дывізіі Функа, у ёй удзельнічаў 19-ты аўстрыйскі пяхотны полк Альвінчы дэ Бэрберэка (венгры) і лёгкая пяхота 21-й саксонскай дывізіі Лекока. Адначасова адзін батальён аўстрыйскага 33-га пяхотнага полка графа Каларэда-Мансфельда (венгры) на чале з палкоўнікам А.Рэтцэй фон Рэтцы прабраўся праз балота ўпрост да гаці ля Паддубна, каб расчысціць дарогу для дывізіі Зігенталя, а другі пайшоў у атаку з-за ракі. У гэты крытычны момант, калі да праціўніка заставалася 200 крокаў, генерал-маёр П.Я.Бенардас (грэк на расійскай службе) асабіста павёў у атаку “ў штыкі” Уладзімірскі пяхотны полк. Вянгерскія батальёны Габсбургаў славіліся меткай стральбой, і увязвацца з імі ў перастрэлку было б вельмі небяспечна. Паводле расійскіх крыніц, аўстрыйцы былі загнаны назад у

балота і панеслі вялікія страты. Паводле аўстрыйцаў, яны адбілі атаку і замацаваліся на другім беразе [109; 174; 270].

Надыходзіла ноч. Каля 22.00 гадзін Рэнье і Шварцэнберг спынілі бітву. Усе спробы Рэнье абысці і разбіць расіян аказаліся беспаспяховымі. Аўстрыйскія дывізіі Зігенталя (цэнтр) і Траўтэнберга (правы фланг), супраць якіх у другой палове дня Тармасаў пакінуў па аднаму палку, абмежаваліся артылерыйскай кананадай ды дэманстратыўнымі манёўрамі. Напрыклад, на ўсходзе пазіцыі, каля Гарадзечна, аўстрыйскія кавалерыйскі і пяхотны палкі разам з артылерыйскай батарэяй на чале з фельдмаршал-лейтэнантам баронам Іяганам Марыя фон Фрымонам толькі ў 17.00 гадзін наблізіліся да гаці і пасля невялікай перастрэлкі вакол паштовай станцыі адышлі назад. Няўрымслівы аўстрыйскі палкоўнік Зюдэн паспрабаваў імклівай атакай захапіць пераправу, але быў затрыманы загадам Шварцэнберга. Расіяне маглі святкаваць перамогу. Яны пратрымаліся цэлы дзень супраць магутнага ворага. За гэты час атрады Чапліца і Хаванскага паспелі да Кобрына. 3-я расійская армія зноў уяўляла сабой адзінае цэлае [172, с.46 – 48; 270].

Па розных дадзеных, ў Гарадзечанскай бітве аўстра-саксонскія войскі страцілі ад 2,5 да 5 тысяч чалавек, расіяне – ад 1 300 да 4 000. Тармасаў прызнаў свае страты ў колькасці 1 500 чалавек забітымі і параненымі. Па іншых звестках – 1 300 забітых і параненых і 300 палонных. Вяземскі адразу пасля бітвы запісаў у сваім “Журнале”, што расіяне страцілі забітымі і параненымі 1 200 чалавек, а непрыяцель – да 4 тыс. Саксонцы афіцыйна страцілі 1 034 чалавека, а аўстрыйцы 1 362. Большая частка аўстрыйскіх стратаў прыйшлася на пяхотную брыгаду Гесэн-Хомбурга і пяхотны полк Каларэда-Мансфельда. Страты праціўніка абодва бакі ацанілі ў 5 000 чалавек. У Гарадзечанскай бітве, а таксама пад час адступлення рускіх аўстра-саксонская армія захапіла каля 500 палонных. 3-я расійская армія ўзяла ў палон пад Гарадзечна 4 афіцэраў і 230 салдат праціўніка [109; 174; 270]. Роберт Гілс прыводзіць наступныя лічбы страт саксонскага корпуса ў бітве пад Гарадзечна – 931 чалавек. У тым ліку 175 забітых, 688 параненых і 68 палонных. Набольшыя страты панёс 2-гі егерскі саксонскі полк: 73 забітых, 260 параненых і 31 палонны. Рускія страцілі забітымі толькі 5 афіцэраў: паручыка Бястужава-Руміна, падпаручыкаў Цярлецкага, Чуціна 3-га, Іванова, Гайдэнку. Сярод параненых былі генерал-маёр Сакалоў 1-шы, маёры Крукаў і Граммека. Відавочна, што бітва не была вельмі інтэнсіўнай і вялася пераважна ў выглядзе артылерыйскіх дуэляў і перастрэлак. Тут расійская артылерыя аказалася лепшай. Саксонцы страцілі ў артылерыйскіх дуэлях 5 гармат, у тым ліку 3 гарматы конна-артылерыйскай батарэі.

Паводле ўспамінаў Функа, саксонцы таксама адчувалі сябе пераможцамі: яны здзейснілі цяжкі абходны манёўр, вытрымалі ўсе атакі рускіх і захапілі іх пазіцыю. Таму ўвечары сярод рускіх забітых і параненых

яны абдымаліся і крычалі генералу Рэнье “Віват!” [273, с.93 – 94]. Саксонцы добра разумелі, што менавіта на іх корпус прыйшоўся галоўны цяжар бітвы, і казалі, што аўстрыйцы “не жадаюць кусаць”. Расіяне таксама ганарыліся сабой – яны не далі сябе абкружыць і знішчыць. Аб рэакцыі і пачуццях аўстрыйцаў нічога не вядома.

Аляксандр I узнагародзіў павышэннем ў чыне, падзякай, ганаровай зброяй, ордэнамі 379 генералаў і афіцэраў, знакам Ваеннага ордэна – 223 салдата [173, с.50]. Георгіеўскія трубы атрымалі Кастрамскі і Уладзімірскі пяхотныя, 28-мы і 31-шы егерскія палкі. Напалеон спачатку быў незадаволены Шварцэнбергам, хацеў адхіліць яго ад кіраўніцтва, але пазней, як пісаў яго ад’ютант А. дэ Каленкур, “весткі аб поспеху які атрымаў над рускімі прынц Шварцэнберг, ажывілі надзеі імператара” [145, с.37]. Шванцэнберг атрымаў ад свайго імператара чын генерал-фельдмаршала. Напалеон выдаў таксама 500 тыс. франкаў для ўзнагароджання аўстрыйскіх афіцэраў і салдат.

Тармасаў вырашыў не рызыкаваць і ў ноч на 13 жніўня пачаў адыход ад Гарадзечна. Расійскаму адступленню спрыяў туман, які агарнуў поле бітвы ў ноч з 12 на 13 жніўня. У 4.00 гадзіны пайшоў корпус Каменскага, за ім – корпус Маркава. Напалеонаўскія войскі хутка пачулі рух расійскіх калон і пачалі праследаванне. Каля 6.00 гадзін лёгкая кавалерыя і конная артылерыя Рэнье пачалі абстрэльваць рускіх. Адступленне Тармасава спачатку прыкрываў атрад Чапліца, потым яго ўзмацнілі войскі Ламберта. У 7.00 гадзін 13 жніўня аўстра-саксонская кавалерыя атакавала расійскі ар’ергард. Чапліц і Ламберт адступалі з пастаяннымі перастрэлкамі і контратакамі кавалерыі ажно да вёскі Стрыгава. Каля вёскі Кляшчы непрыяцелю атрымалася прымусіць уцякаць кавалерыю Чапліца: “…тут канфузія, усё бяжыць, усё друг друга топча”. Адступленне ледзь не ператварылася ва ўцёкі. У гэты крытычны момант генерал-маёр В.В.Вяземскі спыніў і разгарнуў да ворага 10-ты, 13-ты і 38-мы егерскія палкі, якія адкрылі агонь з гармат і ружжаў. Аўстра-саксонская кавалерыя змяшалася, і яе адагналі контратакай рускіх гусар. Толькі саксонская кавалерыя 13 жніўня захапіла ў палон 75 рускіх [96; 273, с.95].

Днём 13 жніўня расійскі ар’ергард дасягнуў Кобрына. Апошнія тры вярсты рухаліся бегма. “Канфузія страшная”, – пазначыў В.В.Вяземскі. Не паспелі салдаты адпачыць, як непрыяцель пачаў абстрэльваць мястэчка з гармат. Як адзначыў Вяземскі: “Кобрын ізноў у полымі, а бедныя жыхары зноў у роспачы”. Скарыстаўшы гэта, аўстрыйскія гусарскія палкі Гесэн-Хомбурга і Бланкенштайна атакавалі рускіх і нават узялі палонных. Чапліц і Ламберт вымушаны былі працягваць адступленне. У трох вярстах за Кобрынам па дарозе да Дзівіна расійскі ар’ергард злучыўся з галоўнымі сіламі. Пачаўся цяжкі начны марш да Дзівіна. Пад праліўнымі дажджамі размяклі дарогі. Абозы ды павозкі з параненымі

змяшаліся з пяхотай і кавалерыяй. У ноч з 13 на 14 жніўня на дарозе Кобрын – Дзівін 3-я расійская армія страціла амаль 500 чалавек: адстаўшымі, пакінутымі, знясіленымі ды збегшымі невядома куды [96; 282]. Увечары 13 жніўня аўстра-саксонская армія заняла "руіны спаленага Кобрына". Надвор'е зноў сапсавалася: ішоў дождж, было холадна. [273, с.98].

14 жніўня ў 20.00 гадзін расіяне дасягнулі Дзівіна. Ад дажджоў і натоўпаў людзей дарогі нагадвалі балоты. Каля вёскі Шматы стрымліваць непрыяцеля застаўся ар'ергард Ламберта. Аўстра-саксонскія войскі занялі Кобрын і раздзяліліся. Аўстрыйскі корпус Шварцэнберга рушыў на Рудню – Макраны – Ратна. Саксонскі корпус Рэнье пайшоў у абход на Брэст – Маларыту – Любомль. Гэты манёўр прымусіў Тармасава 22 жніўня пакінуць моцную пазіцыю каля Ратна і адыходзіць далей на поўдзень. Аўстрыйская брыгада І.Ф.Мора (два пяхотныя, адзін гусарскі палкі і 6 гармат) пайшла праз Іванава – Косава да Пінска. У авангардзе Шварцэнберга рухалася ўзмоцненая кавалерыяй аўстрыйская дывізія Б'янкі. У жорсткіх ар'ергадных баях 14 жніўня паміж Б'янкі і Ламбертам аўстрыйцы страцілі каля 100 чалавек.

15 жніўня пасля бою каля вёскі Навасёлкі аўстрыйцы адцяснілі расійскі ар'ергард Чапліца да Дзівіна [198, с.40]. Тармасаў загадаў корпусу Маркава застацца і падтрымаць свой ар'ергард. Корпус Каменскага і абозы ў ноч з 15 на 16 жніўня рушылі на Валынь. Частка абозаў была свядома затоплена рускімі ў навакольных балотах.

16 жніўня аўстрыйцы зноў атакавалі атрад Ламберта і корпус Маркава каля Дзівіна. Б'янкі ўвёў у бой новыя сілы: гусарскі полк Кінмайера і лёгкаконны полк Гогенцолер-Гехінгена. Пасля поўдзеня корпус Маркава зняўся з пазіцый і пачаў адступаць на поўдзень. Ламберт яшчэ нейкі час стрымліваў аўстрыйцаў. У гэты дзень расіяне страцілі каля 150 чалавек. Саксонцы 16 жніўня занялі Брэст. Рэнье знайшоў тут вялікія харчовыя запасы і даў VII корпусу невялікі адпачынак.

Неўзабаве саксонцы рушылі далей на поўдзень, аднак абходны манёўр не атрымаўся. 18 жніўня ў ар'ергардным баі каля вёскі Макраны рускія затрымалі саксонскі авангард, што дазволіла галоўным сілам Тармасава без перашкод адысці на Валынь праз Дзівін [273, с.102]. У ноч з 18 на 19 жніўня 3-я расійская армія пакінула тэрыторыю Беларусі. Галоўныя сілы аўстрыйцаў – на чале з Шварцэнбергам размясціліся ў Дзівіне, а аўстрыйская брыгада Мора – ў Пінску. Саксонцы 18 – 19 жніўня занялі Маларыту, Олтуш і Збураж [96; 273, с.103]. Паводле Функа, Рэнье не адчуваў сябе ў гэтай мясцовасці бяспечна і ў кожным бачыў расійскага шпіёна. Усіх падазроных арыштоўвалі і вадзілі на допросы. Пры кожнай дывізіі было каля 20 такіх небаракаў, якія не ведалі французскай мовы, а Рэнье не разумеў па-польску. Таму дапросы прыводзілі толькі для марнатраўства паперы [273, с.103]. Неўзабаве аўстра-саксонскія

войскі ўслед за Тармасавым пацягнуліся на Валынь. Вайна на нейкі час пакінула тэрыторыю Заходняй Беларусі.

Прыхільнікі Напалеона ў Літоўска-Гродзенскай губерні святкавалі перамогу. “Віленскі кур’ер” з захапленнем пісаў пра перамогі “саюзных войскаў князя Шварценберга і генерала Рэнье” пад Пружанамі, Клетна, Гарадзечна. Апавядалі аб 3 000 забітых і параненых рускіх, 500 палонных, 300 павозках з параненымі і хворымі, якія ледзь уцяклі на Валынь, аб кінутых абозах і паніцы сярод рускіх [174, с.34]. Шчыра кажучы, большасць гэтых звестак вельмі праўдападобная, за выключэннем панікі. 3-я расійская армія не адчувала сябе разбітай. Галоўную мэту – адцягнуць да сябе як мага больш варожых войск, яна выканала. Два корпусы “Вялікай арміі” і рэзервы Варшаўскага герцагства былі прыкаваны да поўдня Літоўска-Гродзенскай губерні. У сярэдзіне верасня 1812 г. яны налічвалі паводле штабных папер 62 тыс. чалавек і каля 200 гармат. Гэта амаль палова колькасці французскай арміі пад Барадзіно.

Пасля заключэння міра з Турцыяй вызваліліся расійскія палкі на поўдні – Дунайская, ці Малдаўская, армія адмірала П.В.Чычагава. Яна ўжо маршыравала на дапамогу Тармасаву. 11 верасня ў Дубна на Валыні прыбыла першая калона Дунайскай арміі – корпус генерал-лейтэнанта А.Л.Войнава. 14 верасня прыбыў корпус генерал-лейтэнанта П.К.Эссена 3-га. 18 верасня з’явіліся галоўныя сілы Дунайскай арміі Чычагава. Папоўніўшы сябе рэкрутамі, аб’яднаная армія Чычагава і Тармасава налічвала звыш 70 тыс. чалавек і 378 гармат. Армія Тармасава – 32 822 чалавека, а армія Чычагава – 34 750 чалавек (пасля далучэння атрада Людэрса і рэзервных батальёнаў Рюхтэля – 39 259). У гэты час фактычная колькасць напалеонаўскіх войскаў ледзь перавышала 40 тыс. чалавек: 26 тыс. аўстрыйцаў, 9,6 тыс. саксонцаў і 5,6 тыс. палякаў (імправізаваная дывізія Касінскага). Напалеон добра разумеў небяспеку на сваім правым флангу. Ён патрабаваў у аўстрыйскага імператара Франца І яшчэ як мінімум 9 тыс. салдат для ўзмацнення корпуса Шварцэнберга.

13 верасня 1812 г. Аляксандр прызначыў адмірала Паўла Васільевіча Чычагава (1767–1849) камандуючым аб’яднанай арміяй. Тармасаў быў адазваны на галоўны тэатр ваенных дзеянняў – камандуючым 2-й расійскай арміі замест смяротна параненага пад Барадзіно Баграціёна. Гэты загад і план аперацыі па акружэнню Напалеона на Бярэзіне палкоўнік Чарнышоў прывёз толькі 4 кастрычніка. Выбар адмірала на такую важную армейскую пасаду шмат каго здзівіў. Чычагаў ніколі не служыў у войску. Кар’еру ён пачынаў як ад’ютант у свайго бацькі – вядомага адмірала В.Я.Чычагава. З 1801 г. быў залічаны ў світу імператара Аляксандра І. У 1802 – 1811 г. ён быў міністрам марскіх сіл. Званне адмірала Чычагаў атрымаў у 1807 г. не за баявыя заслугі, а па “манаршай міласці”. У 1812 г. Чычагаў з’яўляўся галоўнакамандуючым Дунайскай арміі, га-

лоўным начальнікам Чарнаморскага флота, генерал-губернатарам Малдавіі і Валахіі. Чычагаў быў вядомы як асабісты вораг Напалеона. Магчыма, Аляксандр I меркаваў, што асабістая нянавісць лепшая за прафесійную падрыхтоўку ды адпаведны вопыт. Паводле вядомага рускага генерала Ярмолава, Чычагаў у камандаванні войскам быў таленавітым аматарам, які арыгінальна мысліў, але часам не ведаў элементарных спраў. Пры гэтым Ярмолаў падкрэсліваў, што Чычагаў быў больш здольным, чым большасць тагачасных рускіх генералаў. Генерал Ланжэрон характарызаваў Чычагава як маладога, рэзкага і хуткага чалавека з галавой "як вулкан" – "амбіцыёзнага дылетанта". Дарэчы, Тармасаў расцаніў прызначэнне адмірала на вайсковую пасаду камандуючым 3-й арміі як асабістую абразу.

21 верасня 1812 г. рускі авангард Ламберта (10 эскадронаў і 10 соцен казакаў) фарсіраваў раку Стыр на Валыні і нечаканым нападзеннем разграміў паміж Чарнковым і Несвічам на Валыні зводную кавалерыйскую брыгаду саюзнікаў пад камандаваннем Цэхмейстара. Асабліва цяжкія страты панёс 3-ці аўстрыйскі лёгкаконны полк О'Рэйлі. Расіяне захапілі ў палон 9 афіцэраў і звыш 200 салдат праціўніка. Тры аўстрыйскія штандарты Чычагаў адаслаў у Вену, а палонных адпусціў пад чэснае слова не ваяваць з рускімі. Гэта было зроблена, каб паказаць свае нязменна добрыя адносіны да аўстрыйцаў. Саюзнікі Напалеона ўжо сварыліся паміж сабой. Паводле аўстрыйцаў і саксонцаў, у паражэнні Цэхмейстара былі вінаваты палякі, якія на аванпастах не заўважылі рускіх [290, т.2, с.98].

Гэта быў першы сігнал, што вайна вяртаецца на тэрыторыю Літоўска-Гродзенскай губерні. 24 верасня ўся расійская армія рушыла праз Стыр на поўнач. Шварцэнберг і Рэнье пачалі адступаць з Валыні на Кобрын і Брэст. Палякі і саксонцы перайшлі на польскі бераг Буга каля Уладавы. Аўстрыйцы канцэнтраваліся каля Брэста. Сітуацыя нагадвала "Гарадзечна наадварот". Расійскія авангарды ўвесь час "насядалі" на аўстрасаксонскія войскі. 2 кастрычніка расійская армія ўжо мела каля 700 ваеннапалонных: марадзёраў, адстаўшых, параненых салдат напалеонаўскіх саюзнікаў.

Паводле расійскай разведкі, 29 верасня ў корпусе Шварцэнберга заставалася 24 тыс. чалавек ды 4 тыс. хворых і параненых знаходзілася разам з абозамі ў лагеры каля Шарашэва. Дысцыпліна ў аўстрыйскіх войсках пахіснулася. Калі пад час адступлення да Брэста Шварцэнберг загадаў атраду ў 300 чалавек прыкрыць лясную дарогу, аўстрыйскі афіцэр аспрэчыў прыказ на вачах салдат як небяспечны! Бунтаўшчыка арыштавалі. Тады аўстрыйскія салдаты паклалі сваю зброю пад ногі Шварцэнбергу, заявіўшы, што калі яму трэба – няхай пасылае на верную смерць палякаў ці саксонцаў. Увесь атрад пад канвоем быў адпраўлены ў Аўстрыю, але гэта ўжо не магло істотна паўплываць на дысцыпліну [96; 109, с.146].

Раніцай 4 кастрычніка, калі ўсталявалася цудоўнае восеньскае надвор’е, першыя расійскія войскі – авангард Ламберта і атрад Чапліца (апошні прыкрываў правы фланг рускай арміі) уступілі на тэрыторыю Заходняй Беларусі. У 19.00 гадзін атрад Чапліца дасягнуў вёскі Рудня каля Дамачова. Тут лубенскія гусары пад камандаваннем палкоўніка Я.Ф.Сталя нечаканай атакай разбілі два эскадроны аўстрыйскіх гусар з палка Кінмайера (палкоўнік фон Ліліен) і захапілі ў палон 2 афіцэраў, 2 трубачоў ды 47 радавых. Паміж Брэстам і Рудняй размясціўся атрад Ламберта [96; 282].

5 кастрычніка атрад Чапліца яшчэ больш наблізіўся да Брэста і заняў Радванічы на рацэ Рыта. Шварцэнберг адвёў усе свае войскі на правы (паўночны) бераг Мухаўца і спаліў мост у Булькаве. Аднак гэта ўжо не магло стрымаць наступленне расіян. Расійскі авангард пад камандаваннем Ламберта здолеў фарсіраваць Мухавец і, адкінуўшы аўстрыйскія пасты, замацавацца ў вёсцы Шэбрын на правым беразе Мухаўца [198, с.52]. З поўдня надыходзілі ўсё новыя калоны арміі Чычагава. Рудню заняў корпус Маркава. На Кобрын рушыў корпус Войнава. 6 кастрычніка расіяне пад кіраўніцтвам Вяземскага аднавілі мост у Булькаве і пачалі пераправўляцца праз Мухавец. Сваім хуткім наступленнем Чычагаў спадзяваўся разбіць непрыяцеля наступным чынам: спачатку адрэзаць ад галоўных сіл аўстрыйскія атрады Зігенталя ў Антаполю і Мора ў Пінску,  потым нанесці паражэнне Шварцэнбергу і Рэнье [96; 109].

Шварцэнберг, як два месяцы таму Тармасаў, вырашыў дачакацца сваіх атрадаў. Аўстра-саксонская армія разгарнулася да бою за Мухаўцом паміж Брэстам і вёскай Чэрні. На правым флангу каля  Брэста стаяў корпус Рэнье. Ён абапіраўся на натуральную перашкоду – раку Буг, зрабіў дадатковыя ўмацаванні і прагнуў сражэння. Левы фланг паміж вёскамі Чэрні і Задворцы заняў больш моцны Шварцэнберг. Ён адчуваў сябе няўтульна – пазіцыя ў адкрытым полі магла быць лёгка ахоплена рускімі пасля адступлення з Кобрына аўстрыйскага атрада Мора.

8 кастрычніка авангард Ламберта ад вёскі Шэбрына атакаваў непрыяцельскі авангард у вёсцы Брацілава, пагражаючы праваму флангу Шварцэнберга. Увесь дзень у ваколіцах Брэста на аванпастах ішлі жаркія сутычкі. Увечары расіяне недалічыліся 120 чалавек забітымі і параненымі. Аўстра-саксонскія войскі толькі палоннымі страцілі 200 салдат. Верагодна, што расіяне спадзяваліся тут “убіць клін” паміж корпусамі Шварцэнберга і Рэнье. У нямецкай ваеннай гістарыяграфіі гэты бой вядомы як “бітва на рацэ Мухавец” [282].

Пад час гэтых баёў Чычагаў у 15 вярстах ад Брэста склаў “дыспазіцыю” па разгрому непрыяцеля. Галоўныя сілы дзяліліся на чатыры корпусы:

– графа Ламберта каля вёскі Козічы;
– Маркава, які разгарнуўся на поўнач ад Козічаў;

– Эссэна 3-га, які выстраіўся на Вялікай Брэсцкай дарозе на поўдні ад горада;

– Ланжэрона за Мухаўцом насупраць Брэста.

Корпус Ламберта павінен быў абысці левы фланг ворага каля вёскі Чэрні. Корпус Эссэна 3-га – зламаць найбольш умацаваны правы фланг Шварцэнберга каля Брэста. Корпусы Маркава і Ланжэрона наносілі франтальныя атакі. Корпус Войнава праз Чарняўчыцы павінен быў абысці левы фланг ворага, а асобны атрад Энгельгардта – правы фланг над Бугам. Акрамя таго, нанава сфарміраваны атрад царскага фаварыта, былога дыпламата і шпіёна палкоўніка Чарнышова (7 эскадронаў, 3 казачыя палкі і 4 гарматы) павінен быў прайсці па леваму берагу Буга, захапіць Цярэспаль і спаліць масты. Корпус Сабанеева ўтварыў стратэгічны рэзерв. Фактычна гэта быў план акружэння аўстра-саксонскага войска. Стаўка Чычагава 8 – 10 кастрычніка знаходзілася ў вёсцы Булькава, дзе адмірал жыў у доме памешчыка Райскага [96].

На шчасце, Брэст не стаў полем бітвы паміж дзвюма вялікімі арміямі. Аўстрыйскі атрад Зігенталя пад носам рускіх паспеў злучыцца з галоўнымі сіламі. 5 кастрычніка авангард расійскага корпуса генерал-лейтэнанта А.Л.Воінава пад камандаваннем генерал-маёра графа І.К.О-рурка атакаваў каля Кобрына аўстрыйскі атрад Мора ў складзе 30-га пяхотнага палка прынца дэ Ліня (галічане) і чатырох эскадронаў гусарскага палка прынца Гесэн-Хомбурга (венгры) і прымусіў яго замест Брэста адступаць да сваіх акольным шляхам: на Пружаны – Ваўкавыск – Масты – Гродна – Беласток – Драгічын – Белавежу (тры апошнія гарады знаходзяцца цяпер у Падляшскім ваяводстве Польшчы). Адзіным трафеем расіян з’явіліся кобрынскія харчовыя магазіны, у якіх было 4 тыс. чвэрцей хлеба, што не паспеў спаліць Мор [198, с.52].

9 кастрычніка паміж Вялікім Сялом і Ліхасельцамі расійскі авангард Орурка зноў дагнаў аўстрыйскі атрад Мора. Крывавы бой не прынёс поспеху ніводнаму з бакоў. Для аўстрыйцаў героем гэтага бою стаў гусарскі маёр граф Франц Біго дэ Сен-Квенцін, які з чатырма эскадронамі здолеў затрымаць рускіх і выратаваць брыгаду Мора. Пасля бою мясцовыя жыхары пахавалі 1 150 чалавек і 450 коней [40, а.78; 198, с.53; 282]. У такіх умовах Шварцэнберг і Рэнье вырашылі не рызыкаваць “генеральнай баталіяй”. Увечары 10 кастрычніка аўстра-саксонскія войскі атрымалі загад адступіць на поўнач і адправіць абозы на Пратулін і далей у выпадку небяспекі на Варшаву [273, с.144].

11 кастрычніка ў 4 гадзіны раніцы расійскія войскі пад Брэстам рушылі ў атаку. Магутны ўдар прыйшоўся па пустому месцу. Яшчэ ўпоўнач аўстра-саксонскае войска ціха перайшло за раку Лясную. Спачатку Брэст пакінула 21-я дывізія Лекока, потым авангард Габленца і апошняй, ужо раніцай, адышла 22-я дывізія Функа. Батальён саксонскіх егераў обер-лейтэнанта Зейдэвіца разбурыў усе масты і затрымаўся ў Брэс-

це, каб сачыць за дзеяннямі рускіх. Зейдэвіц данёс, што раніцай казакі з'явіліся на другім беразе Мухаўца і з дапамогай тутэйшых яўрэяў пачалі рамантаваць масты. Саксонскія егеры не сталі ўвязвацца ў бой і адышлі да сваіх. Каля 9.00 гадзін 11 кастрычніка аўстра-саксонскае войска напалеонаўскіх саюзнікаў заняло новую пазіцыю ўздоўж ракі Лясной на поўнач ад Брэста. На левым флангу ад Вістычаў да Старога Сяла стаялі аўстрыйцы Шварцэнберга. У Клейніках – 21-я саксонская дывізія Лекока і штаб Рэнье, потым – саксонскі авангард Габленца і паміж Матыкаламі і Церабунню – 22-я саксонская дывізія Функа. Далей, ад Церабуні да ўпадзення Лясной у Буг, расцягнуўся саксонскі гусарскі полк, які павінен быў перашкодзіць магчымай атацы рускіх з-за Буга. Аўстра-саксонская армія абклала ўсе масты саломай, у месцах магчымай пераправы былі пастаўлены артылерыйскія батарэі. Але рака Лясная была плыткай, і яе лёгка было перайсці ўброд. Да таго ж вялікія лясы дазвалялі абодвум бакам скрытна манеўраваць уздоўж сваіх пазіцый. У 9.00 гадзін раніцы аўстрыйцы адначасова запалілі ўсе масты на рацэ, а артылерыя і стралкі з супрацьлеглага берага сустрэлі расійскія калоны шчыльным агнём. У корпусе Ламберта гарматным ядром быў паранены генерал-маёр Удом, забіта і паранена некалькі егераў. Каля 11.00 гадзін берагоў Лясной дасягнулі карпусы Маркава і Эссэна 3-га [96; 273].

Найбольш пашанцавала апошняму. Праз ваколіцы Брэста Эссэн дасягнуў маёнтка Клейнікі памешчыка Красоўскага, дзе сутыкнуўся з непрыяцельскім ар'ергардам з 21-й дывізіі Лекока, які не паспеў пераправіцца праз Лясную. Як сціпла адзначыў Вяземскі: "Тады пачалася вялікая кананада і ружэйны агонь у корпусе Эссэна". На рамёнах праціўніка рускія фарсіравалі Лясную, але Рэнье ўдалай контратакай адкінуў іх за рэку. Каля 15.00 гадзін уздоўж усёй ракі Лясной ад Вістычаў да Церабуні ішла гарачая перастрэлка. Але самы крывавы бой ішоў каля Клейнікаў, дзе саксонцы страцілі капітана Метча і обер-лейтэнанта Эгідзі. Як адзначыў Функ, "страты з абодвух бакоў былі значнымі". Каля 16.00 гадзін расійская артылерыя здолела падавіць саксонскую батарэю каля Церабуні, і некалькі рот расійскіх егераў адразу кінуліся ўброд праз Лясную. Рэнье накіраваў сюды конную батарэю капітана Рота, якая паспела хутка заняць пазіцыю і адбіць расійскую атаку. Саксонцам вельмі дапамагала тое, што яны добра ведалі гэтую лясную мясцовасць. Аканом графа Грабоўскага з Церабуні прадставіў саксонцам дакладны план мясцовасці, таму напалеонаўскія генералы лепш арыентаваліся ў абстаноўцы і маглі больш рацыянальна манеўраваць у навакольных лясах [273].

У жорсткім баі каля Клейнікаў, Церабуні ды Вістыцаў, паводле слоў тутэйшых жыхароў, загінула каля 2 000 аўстрыйцаў ды саксонцаў і да 1 000 рускіх. Іншыя крыніцы такіх вялікіх страт не называюць. Напалеонаўскія саюзнікі паспелі падпаліць масты. Агонь, не без дапамогі гармат, перакінуўся на вышэйназваныя вёскі, якія ўшчэнт згарэлі. Каля 13.00

гадзін на дапамогу рускім з Кобрына падышоў атрад генерал-маёра М.Л.Булатава са складу корпуса Войнава. Аднак галоўныя сілы аўстра-саксонскай арміі здолелі ўтрымаць пазіцыю і ўначы адступілі на Высока-Літоўск – Волчын – Драгічын (у Польшчы). Там іх чакалі яшчэ неразрабаваныя вёскі і новыя рэкруты [40, а.82; 96].

У 4.00 гадзін раніцы 12 кастрычніка напалеонаўскія саюзнікі дасягнулі Волчына. Пасля невялікага адпачынку войскі працягвалі адступленне. У Волчыне ў якасці прыкрыцця затрымаліся саксонскі авангард Габленца і 22 дывізія Функа. За аўстра-саксонскім войскам ішлі раз'езды казакаў, але ніякіх "зачэпных" дзеянняў не прадпрымалі. У гэты дзень да саксонскага ар'ергарда ў Волчыне далучыліся некалькі соцен саксонскіх салдатаў, якія пад час начнога маршу адбіліся ад сваіх часцей ці, знясіленыя, забыліся цяжкім сном уздоўж дарогі Матыкалы – Волчын. 13 кастрычніка аўстра-саксонская армія сабралася ў Семятычах (у Польшчы). Напалеонаўскія афіцэры радаваліся цудоўнаму выратаванню і дзівіліся, што Чычагаў пад час адступлення не абрынуўся на іх усёй сваёй кавалерыяй [273, с.119].

Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу, але здаецца, што баі на Мухаўцы і Лясной у ваколіцах Брэста 8 – 11 кастрычніка 1812 г. не толькі належаць да забытых старонак беларускай гісторыі. Гэта быў адзін з ключавых момантаў напалеонаўскіх войнаў. У выніку перамогі над аўстра-саксонцамі Чычагаў мог кінуць на Бярэзіну ўсю сваю армію – каля 60 тыс. чалавек. У гэтым выпадку яму хапіла бы сіл адбіць атаку французскага корпуса маршала Віктора і перакрыць усе магчымыя месцы пераправы праз Бярэзіну. Але Шварцэнберг і Рэнье здолелі адступіць на захад, што прымусіла Чычагава пакінуць каля Брэста 26-тысячны корпус Остэн-Сакена, а ўласных сіл адмірала хапіла толькі на перамогу над 17-й польскай дывізіяй Х.Дамброўскага. Усё гэта робіць вывучэнне кастрычніцкіх баёў 1812 г. пад Брэстам адной з важных задач беларускай ваеннай гісторыі.

13 кастрычніка расіяне па пантонах фарсіравалі Лясную. На поўначы ад Брэста размясціўся корпус Ламберта: атрад Кнорынга пайшоў на Высока-Літоўск, атрад генерал-маёра С.М.Ланскога заняў Вялікую Турну, атрад генерал-маёра Ф.Ф.Падзенскага застаўся ў Чарнаўчыцах. Корпус Войнава пасля няўдалай пагоні за аўстрыйскай брыгадай Мора вярнуўся ў Пружаны. Сам Чычагаў з 12 кастрычніка размясціўся ў Брэсце, дзе два тыдні пражыў у доме купца Вінаграда. Корпус Эссэна 3-га і атрад Булатава стаялі ў Польшчы, каля Белай. Корпус Ланжэрона – каля Залесся. Корпус Сабанеева – насупраць Брэста ў Цярэспале. Былы корпус Маркава, які пасварыўся з адміралам, быў падначалены Остэн-Сакену, які са сваім корпусам 13 кастрычніка перайшоў з Валынскай у Літоўска-Гродзенскую губерню. Спачатку ён пайшоў на Пружаны, але потым павярнуў да Брэста [96].

Відавочна, што Чычагаў не ведаў, што рабіць. Разбіць галоўныя сілы непрыяцеля не атрымалася. Нягледзячы на значныя страты, Шварцэнберг і Рэнье захавалі баяздольнасць. Аўстрыйцы прыкрылі Варшаўскі напрамак, а саксонцы абышлі з захаду Белавежскую пушчу і маглі хутка закрыць Ваўкавыск і Гродна. Стаўка Рэнье знаходзілася ў Венграве (Польшча). У Беластоку стаяла аўстрыйская дывізія Зігенталя. З тэрыторыі Варшаўскага герцагства яны пасылалі атрады на тэрыторыю Літоўска-Гродзенскай губерні. Спроба корпуса Эссэна 3-га 18 кастрычніка прасунуцца да Варшавы каштавала яму звыш 300 забітых і параненых і 1 гарматы. Яшчэ больш, чым супраціўленне Шварцэнберга і Рэнье, расійскага адмірала непакоілі весткі з Расіі. Пасля шырока абвешчанай "перамогі" Кутузава пад Барадзіно Напалеон быў у Маскве! Вайна магла хутка скончыцца новым Тыльзітам. Як дзейнічаць у такіх складаных палітычных умовах, Чычагаў не ведаў.

Не дзейнічаць увогуле таксама было немагчыма. З сярэдзіны кастрычніка 1812 г. у заходнім рэгіёне Беларусі пачалася "малая вайна" – вайна на вынішчэнне, якую з абодвух бакоў вялі асобныя вайсковыя партыі. Невядома яшчэ, што было горшым для беларускіх сялян – імклівы праход вялікіх армій ці гэтае бясконцае пасоўванне маленькіх атрадаў.

Шмат шуму нарабіў у Заходняй Беларусі рэйд расійскага генералмаёра Я.І.Чапліца. У сярэдзіне кастрычніка расіяне даведаліся, што з Гродна на Мінск рухаецца гвардзейскі літоўскі полк брыгаднага генерала Яна Канопкі, створаны 12 верасня 1812 г. як 3-ці (літоўскі) уланскі полк напалеонаўскай гвардыі. Яго аснову складала "залатая" шляхецкая моладзь Беларусі і Літвы. Тут служылі Валовічы, Ромеры, Рэнны, Платэры, Хлявінскія, Пузыны, Памарнацкія ды іншыя нашчадкі шляхецкіх родаў. Полк быў выдатна ўзброены і меў адпаведны шляхецкаму стану абоз – пад час выхаду з Гродна на 444 чалавекі прыходзілася 121 фурманка! Разам з палком ехалі дамы – жонкі генералаў Дамброўскага, Канопкі, Зайончака. Не дзіўна, што літоўска-беларуская гвардыя Напалеона ішла вельмі павольна. У родным Слоніме Канопка затрымаўся на некалькі дзён, каб з бляскам прадэманстраваць сваё войска ды набраць новых рэкрутаў. Апошняе атрымалася – 19 кастрычніка полк Канопкі налічваў ужо амаль 800 чалавек, з якіх палова служыла менш тыдня [109, с.124; 259; 267, с.144]. Аўстрыйскі генерал Мор, адступаючы з-пад Пінска, і польскі генерал Дамброўскі з-пад Бабруйска папярэджвалі Канопку аб небяспецы, але таму вельмі хацелася затрымацца ў родным Слоніме [290, т.2, с.281].

У 5.00 гадзін раніцы 20 кастрычніка атрад Чапліца (28-мы і 30-ты егерскія, Паўлаградскі гусарскі, данскі казачы Дзячкіна палкі, тры эскадроны Цвярскога драгунскага палка і 13-я конна-артылерыйская рота) нечакана абрынуўся на Слонім. Гвардзейцы Напалеона не здолелі ўра-

тавацца і былі разбіты ўшчэнт. Сам Канопка быў паранены дзідаю казачым палкоўнікам Дзячкіным і ўзяты ў палон. Конная рота капітана Арнольдзі захапіла казну, у якой была 31 662 франка (што складала 50 626 злотых). Канопка страціў каля 100 чалавек забітымі. У палон трапілі герой напалеонаўскіх войнаў у Іспаніі генерал Канопка, палкоўнік Хлусевіч, капітаны Дзяржынскі, Солтан, Дэге, Ронікер, Тышкевіч, Ляном, Лукоўскі, 5 паручыкаў, 42 унтэр-афіцэры, 5 трубачоў і 170 салдат, з якіх 65 параненых. Некалькі соцен валанцёраў разбегліся. Рэшткі Літоўскай гвардыі перайшлі праз Нёман па масту і ліквідавалі яго. Выратавацца ўдалося жонкам Канопкі, генералаў Ю.Зайончака і Я.Г.Дамброўскага, якія перад бітваю былі пад аховай 250 улан адпраўлены праз Галынку ў Дзярэчын [109, с.124; 173, с.60 – 61; 177, с.40 – 41]. Страты расіян – 1 казак забіты ды 6 паранены.

Канопка абвінаваціў у сваім паражэнні мясцовую адміністрацыю і жыхароў, якія не папярэдзілі яго аб надыходзе непрыяцеля. На гэта Чапліц – паляк на расійскай службе – рэзка адказаў, што Канопка сам "змарнаваў полк і згубіў людзей". Пасля перамогі Чапліц адпачываў у Слоніме ў доме Пуслоўскага. Ён жадаў развіць свой поспех і праравацца праз Беліцу да Ліды, каб "паспець розныя палкі, якія тут фарміруюцца ў розных месцах, знішчыць, таксама і магазіны іх забраць на сваю карысць". Аднак Чычагаў загадаў Чапліцу вярнуцца да Ружанаў [109, с.128]. Паводле расійскіх звестак, важным вынікам рэйда Чапліца было тое, што некалькі тысяч беларускіх рэкрутаў у напалеонаўскае войска былі распушчаны па хатах [198, с.55].

1 – 3 лістапада 1812 г. расійскі атрад царскага фаварыта флігель-ад'ютанта А.І.Чарнышова (полк данскіх казакаў, тры эскадроны ўлан і конна-артылерыйская рота) здзейсніў рэйд да Мастоў. Ён заняў Дзярэчын і Зэльву, паслаў казакаў у мястэчка Масты, куды спяшаўся з Гродна аўстрыйскі генерал Мор. Казакі разагналі рабочых, якія будавалі праз Нёман пераправу і спалілі падрыхтаваны для маста лес. Былі разбураны масты на рацэ Зэльвянцы [76; 177, с.43]. Гэта "дэманстрацыя" атрымалася выдатна. Нездарма Чарнышоў напярэдадні вайны ўзначальваў расійскую разведку ў Парыжы. Адпраўленыя з Гродна шпіёны данеслі, што рускія ўжо пачалі перапраўляцца каля Мастоў праз Нёман: кавалерыя – праз брод, а пяхота – на лодках. Сярод французскіх прыхільнікаў у Гродне адзначаліся паніка і уцёкі.

Неўзабаве пачалося жудаснае адступленне "Вялікай арміі" з Масквы. У расійскім штабе быў складзены план акружэння і знішчэння Напалеона на Бярэзіне. Галоўную ролю ў ім павінна была адыграць армія Чычагава. 26 кастрычніка 1812 г. адмірал сабраў усе свае сілы ў ваколіцах Брэста. Корпус Остэн-Сакена колькасцю ў 26 тыс. чалавек заставаўся каля Брэста – сцерагчы тылы супраць Шварцэнберга і Рэнье. Остэн-Сакен атрымаў 8-ю, 10-ю, 16-ю і 22-ю пяхотныя дывізіі, кавалерый-

скую брыгаду А.П.Мялісіна, сем палкоў ірэгулярнай кавалерыі (данскія, украінскія і ўральскія казакі, башкіры і калмыкі) і 74 гарматы [198, с.232 – 233]. Чычагаў з корпусамі П.К.Эссэна 3-га (сам Эссэн з большай часткай сваіх войск – 9 333 чалавекі – застаўся у корпусе Остэн-Сакена), А.Л.Войнава, І.В.Сабанеева і авангардам К.В.Ламберта – разам звыш 33 тыс. чалавек – павінен быў рухацца на ўсход, каб перахапіць Напалеона. У мэтах канспірацыі войскам аб'явілі, што яны ідуць на Вільню. 29 кастрычніка галоўныя сілы Чычагава ўжо маршыравалі праз Гарадзечна. 30 кастрычніка, нягледзячы на дажджлівае і пахмурнае надвор'е, расіяне дасягнулі Пружан. 6-7 лістапада армія Чычагава сканцэнтравалася ў Слоніме і Жыровічах. Адсюль корпус Войнава пайшоў на Мір – Навагрудак, ствараючы ілюзію абвешчанага наступлення на Вільню. Галоўныя сілы рухаліся ўпрост на Нясвіж. 13 лістапада корпус Войнава заняў Мір, а Чычагаў – Нясвіж. Стала зразумела, што сапраўдная мэта расіян – не Вільня, а Мінск [96].

Аўстра-саксонскія саюзнікі Напалеона нарэшце зарыентаваліся ў абстаноўцы і накіраваліся на дапамогу свайму французскаму імператару. Яны выдатна выкарысталі зацішша другой паловы кастрычніка 1812 г. Корпус Рэнье атрымаў падмацаванне (саксонцы і палякі) і павялічыў сваю колькасць да 12 283 чалавек. Рэнье спадзяваўся на падыход сапраўдных французаў – 32-й французскай пяхотнай дывізіі Дзюрута (пяць французскіх і адзін нямецкі пяхотныя палкі). Але яна расцягнулася на маршы і падыходзіла з Германіі праз Варшаву асобнымі брыгадамі. 26 кастрычніка да Рэнье далучылася першая брыгада 32-й дывізіі. 2 лістапада каля Рудні (зараз у Польшчы) падышла другая брыгада. Злучэнне з Дзюруттам давала Рэнье яшчэ 10 тыс. салдат. Дарэчы, сучасныя ваенныя энцыклапедыі вельмі высока ацэньваюць ваенныя таленты камандзіра 32-й французскай дывізіі і спачуваюць, што ён атрымаў камандаванне толькі напрыканцы напалеонаўскай эпапеі, калі французскім генералам было цяжка праславіцца. Але саксонскі генерал Функ ахарактарызаваў Дзюрута як даволі пасрэднага генерала.

27 кастрычніка аўстрыйскі генерал Цэхмейстар прывёў да Шварцэнберга з Галіцыі сем новых палкоў. Колькасць аўстрыйскага корпуса павялічылася да 36 461 чалавека і 6115 коней, але сярод іх было шмат хворых [290, т.2, с.385]. Аўстрыйскі корпус быў перагрупіраваны ў пяць злучэнняў: авангард Фрэйліха (тры гусарскія палкі), правае крыло Траўтэнберга (чатыры пяхотныя, адзін гусарскі палкі і адзін егерскі батальён), цэнтр Біянкі (шэсць пяхотных палкоў і два егерскіх батальёна), левае крыло Зігенталя (чатыры пяхотныя, адзін гусарскі палкі і адзін егерскія батальёны) і рэзерв Фрымона (пяць кавалерыйскіх і два пяхотныя палкі). Шварцэнберг пакінуў варшаўскі напрамак, пераправіўся праз Буг каля Драгічына і пайшоў на Ваўкавыск – Слонім. За Бугам да яго далучыўся саксонскі корпус Рэнье [273; 281].

Тэарэтычна аўстра-саксонскае войска павінна было налічваць 58 тыс. (36 тыс. аўстрыйцаў, 12 тыс. саксонцаў і 10 тыс. французаў). Але гэта паводле штабных папер. Па дадзеных Функа, колькасць саюзнікаў была значна меншай: 24 тыс. аўстрыйцаў Шварцэнберга на левым беразе Нёмана, 6 тыс. аўстрыйцаў Мора на правым беразе каля Гродна, не больш за 12 тыс. саксонцаў Рэнье, а 32-я французская дывізія Дзюрута мела толькі 6 тыс. чалавек. Прычым гэта аказаліся не толькі французы, але немцы з Вюрцімберга, іспанцы і паўднёвыя славяне з французскай Ілірыі [273, с.166 – 168]. Разам атрымліваецца 48 тыс. чалавек. Рэнье скептычна ацэньваў гэтае войска. Ён казаў, што баяздольнымі былі толькі 25,5 тыс. аўстрыйцаў ды 9,7 тыс. саксонцаў. З-за хваробаў і дэзерцірства ў дывізіі Дзюрута хутка засталося толькі 4 тыс. баяздольных салдат. Па гэтых падліках атрымліваецца, што аўстра-саксонская армія магла паслаць у бой не больш за 40 тыс. чалавек.

2 лістапада Шварцэнберг сканцэнтраваўся ў Бельску, а Рэнье – у Орлі на Падляшшы ў Польшчы. Сярод саюзнікаў не было даверу. Шварцэнберг вельмі ганарыўся, што яму падначалілі “старога французскага генерала” Рэнье, што нібыта азначала дыпламатычны поспех Аўстрыі. Рэнье быў незадаволены Шварцэнбергам і казаў, што той “баіцца рызыкаваць”. Палякі не давалі саксонцам рабаваць свае вёскі, што прывяло да ўзброеных сутычак паміж саюзнікамі на тэрыторыі Падляшша. 3 лістапада аўстрыйскі корпус Шварцэнберга рушыў на Заблудаў – Ваўкавыск, а саксонскі корпус Рэнье – на Рудню – Свіслач – Новы Двор [290, т.2, с.386, 388].

6 лістапада аўстрыйскі корпус Шварцэнберга быў у Вялікай Бераставіцы, 8 лістапада – у Ваўкавыску, 10 лістапада – у Зэльве, а 14 лістапада дасягнуў Слоніма. Аўстрыйская брыгада Мора працягвала закрываць Гродна. Гэты марш аўстрыйцаў з поўдня прыкрываў саксонскі корпус Рэнье. 6 лістапада ён заняў Свіслач, дзе на нейкі час затрымаўся штаб Рэнье, і паціху прасоўваўся на поўдзень Літоўска-Гродзенскай губерні. Галоўнай і вельмі прыемнай здабычай корпуса Рэнье аказаліся вінныя пограбы графаў Тышкевічаў у Свіслачы, дзе захоўвалася 300 бутэлек віна: вянгерскага, бардо і шампанскага. 8 лістапада саксонцы занялі Поразава і Гарнастаевічы, 10 лістапада саксонскі атрад у складзе лёгкаконага палка Поленца і аднаго батальёна пяхоты заняў Рудню. Самаўпэўнены Рэнье зноў “раскідваў” свой корпус шырокім фронтам і не ведаў дакладна, дзе знаходзяцца рускія. 11 лістапада саксонцы занялі Рудню, Сакольнікі і Поразава, каб кантраляваць усе магчымыя шляхі наступлення корпуса Остэн-Сакена з поўдня [273, с.173]. У час руху Рэнье і Шварцэнберга з Беластока на Свіслач Ваўкавыскага павета насустрач ім гродзенскі губернатар Лебрэн адправіў дэлегацыю ў складзе памешчыка Сільвестровіча, былога губернатара М.Андржэйкавіча, ксёндза Каржэнеўскага і маршалка Ю.Булгарына з тым, каб яны павіншавалі іх

ад імя дваранства і папрасілі абараніць жыхароў ад саксонскіх і аўстрыйскіх войскаў [290, т.2, с.388].

Остэн-Сакен раздзяліў свой корпус на тры ваенныя злучэнні, якія былі названы корпусамі: генерал-маёра графа Івана Андрэевіча Лівена 3-га, генерал-маёра Міхала Лявонцьевіча Булатава, генерал-лейтэнанта Пятра Кірылавіча Эссэна 3-га. Пад камандаваннем Остэн-Сакена было 6 пяхотных, 5 егерскіх, 3 драгунскія, 1 гусарскі, 4 нерэгулярныя кавалерыйскія палкі і 1 артылерыйская брыгада. Прычым уся пяхота была ўзята са складу былой Дунайскай арміі (пераважна старых корпусаў Эссэна 3-га і Войнава), а кавалерыя – са складу 3-й рускай арміі (корпуса Ламберта). Войска Остэн-Сакена ў пачатку лістапада 1812 г. рушыла з Брэста на Высока-Літоўск. Тут 3 лістапада Уральскі казачы полк атакаваў два эскадроны аўстрыйскіх гусар, якія былі разагнаны, а 75 чалавек узяты ў палон. Праз Белавежскую пушчу Остэн-Сакен вырашыў нанесці ўдар па аўстра-саксонскаму войску. Гэта быў вельмі небяспечны план. Расійскі генерал рызыкаваў сваім корпусам дзеля галоўнай мэты – акружэння Напалеона. Ён жадаў адцягнуць да сябе ўвагу Шварцэнберга і Рэнье, каб тыя не перашкодзілі Чычагаву дасягнуць Бярэзіны. Пры гэтым Остэн-Сакен меў 26 тыс. войска (19 тыс. пяхоты, 7 тыс. кавалерыі і 50 гармат) супраць больш 40 – 48 тыс. у праціўніка.

Паводле расійскіх дадзеных 8 лістапада расійскі авангард пад камандаваннем Мелісіна выбіў з Рудні саксонскі эскадрон. 9 лістапада Мелісіна ў пагоні за саксонскімі абозамі ўварваўся ў Свіслач і выгнаў адтуль саксонскі батальён. Пад час гэтых баёў у палон трапіў камандзір лёгкаконнага палка Поленца палкоўнік фон Хан. [273; с.173] 10 лістапада галоўныя сілы Остен-Сакена занялі Белавежу (зараз у Польшчы), 11 лістапада – Рудню. Паміж расійскімі авангардамі і саксонскімі аванпастамі пачаліся жорсткія зачэпныя баі. Рэнье з галоўнымі сіламі павярнуў назад і зноў заняў Свіслач, дзе заставаўся да 24 лістапада і безперапынна пасылаў раз’езды. 10 лістапада пад Мсцібавым саксонская кавалерыйская брыгада Габленца ўжо рубілася з авангардам Мелісіна. На наступны дзень пасля цяжкага бою пад Крынкамі саксонцы здолелі адбросіць атрад Мелісіна (12 эскадронаў, 10 соцен казакаў і 2 гарматы). У баях пад Свіслаччу, Мсцібавым, Вялікаўшчызне, Грынках (Малыя Грыннікі) было забіта з абодвух бакоў да 1000 чал. [107; с.450] Саксонцы перахапілі кур’ера з рапартам Мелісіна і даведаліся, што Остен-Сакен жадае атакай з тылу разбіць корпус Рэнье.

13 лістапада Сакен сустрэўся з Рэнье каля Поразава, ля вёсак Гарнастаевічы і Малыя Лапеніцы. Рэнье абраў пазіцыю каля вёскі Малая Лапеніца, да якой блізка падыходзілі дарогі Поразава – Ваўкавыск, Падароск – Ваўкавыск і Беласток – Ваўкавыск – Слонім. Французы Дзюрута стаялі ў цэнтры, саксонцы займалі флангі і ўтварылі авангард. Саксонскі батальён прынца Фрыдрыха адыходзіў з Рудні на Гарнастаевічы, а два

французскія і адзін нямецкі батальён з дывізіі Дзюрута былі ў Ваўкавыску [273, с.178]. Расіяне атакавалі саксонцаў з фронта сіламі корпуса Эссэна 3-га, а авангард Мялісіна спрабаваў абысці левы фланг Рэнье. Расіяне адцяснілі лёгкую саксонскую пяхоту з авангарда Габленца. Але Рэнье сіламі 22-й дывізіі Функа заняў царкоўны двор на ўзвышшы на ўсход ад вёскі і агнём артылерыі спыніў наступленне рускіх егераў. Саксонцы адбілі расіян, і самі паспрабавалі контратакаваць сіламі батальёнаў Ангера, Бозе і Шпігеля, але беспаспяхова. Паводле саксонскіх звестак, штыкавая атака батальёна Бозе, якую ўзначаліў маёр Бок, прынесла доўгачаканы поспех. Рускія егеры, якія не мелі штыкоў, вымушаны былі адступіць. Саксонцы страцілі двух афіцэраў – лейтэнантаў Хаўшыльда і Цешаў – і каля 100 салдат забітымі і параненымі. Параненых саксонцаў адправілі за Нёман праз Масты, відавочна, у шпіталі Шчучына ці Гродна. Але паколькі на шляху аб іх ніхто не клапаціўся ды пачаліся марозы, амаль усе яны памёрлі [273, с.180 – 181]. Пасля 18-цігадзіннага бою Рэнье адышоў на паўночную ўскраіну Ваўкавыска, каб злучыцца з другой паловай дывізіі Дзюрута. Відавочна, ў гэты дзень з абодвух бакоў змагалася да 10 тыс. чалавек. 14 лістапада адбылася новая перастрэлка каля мястэчка Лапеніцы. У гэты ж дзень расіяне сканцэнтраваліся ў Ізабеліне, а саксонцы – у Ваўкавыску. Набліжалася апошняя вялікая бітва напалеонаўскай эпохі на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Напярэдадні ваўкавыскага сражэння люты мароз скаваў раскісшыя пад дажджамі дарогі і зрабіў іх амаль непраходнымі. Уся глеба пакрылася калдобінамі, выкарыстоўваць кавалерыю стала немагчыма, што было выгадна Рэнье, які меў толькі 1 200 кавалерыстаў супраць амаль 7 000 у Остэн-Сакена. Войска Рэнье заняло ўзвышша на паўночным усходзе за Ваўкавыскам фронтам да горада. Французскі генерал паставіў на левым флангу 32-ю французскую дывізію Дзюрута, у цэнтры – 22-ю саксонскую дывізію Функа, на правым флангу – авангард Габленца, а ў рэзерве пакінуў 21-ю саксонскую дывізію Лекока. Паміж франка-саксонскай пазіцыяй і горадам была адлегласць у 1 000 – 1 500 крокаў. На гэтай прасторы ў царкоўным двары Рэнье паставіў магутную артылерыйскую батарэю ў 30 гармат лейтэнанта Петрыкоўскага, а за мастамі ў Ваўкавыску – эскадрон саксонскіх гусар у якасці перадавога караўла. Масты ў Ваўкавыску ахоўвалі тры роты французаў і дзве саксонцаў. Свой штаб Рэнье спачатку хацеў размясціць у Біскупцах, але Дзюрут і Лангенаў угаварылі яго пераехаць у Ваўкавыск. Невядомы стражнік з атрада тутэйшых канфедэратаў, якія размясціліся непадалёку, запэўніў Рэнье, што Ваўкавыск надзейна ахоўваецца. Перад тым як ісці адпачывць Рэнье аддаў загад, які істотна паўплываў на ход ваўкавыскага сражэння. Ён адвёў дзве саксонскія роты на адпачынак за Ваўкавыск і пакінуў каля мастоў толькі французаў.

14 лістапада ваўкавыскія яўрэі данеслі Остэн-Сакену, дзе начуюць дзевяць саксонскіх генералаў разам са сваім камандуючым. У 21.00 гадзіну Остэн-Сакен сфарміраваў тры атрады па тры батальёны пяхоты і адной сотне лёгкай кавалерыі кожны, якія павінны былі знянацку ўварвацца ў Ваўкавыск з розных бакоў. На чале атрадаў стаялі палкоўнікі Іван Пятровіч Белакапытаў, Іван Мікалаевіч Дурнова і Васіль Ніканоравіч Шэншын 2-гі. Палкоўнік Белакапытаў з батальёнам 39-га егерскага палка павінен быў абысці горад з усходу і захапіць Рэнье. У 22.00 гадзіны 14 лістапада рускія без шуму і выстралаў падышлі да Ваўкавыска. Егеры палкоўніка Белакапытава прабраліся да заставы, але, калі падымалі рагаткі каля маста, саксонскія вартавыя пачулі шум і адкрылі страляніну. У горадзе паднялася трывога, і Рэнье выскачыў праз акно і збег разам з падначаленымі. Ён начаваў у іншым доме, а не ў тым, які ведалі праваднікі, таму яго ўсё роўна маглі не злавіць. Два іншыя расійскія атрады заплуталі ўначы. Адначасовага ўдара не атрымалася. Пачалася перастрэлка, якая працягвалася ўсю ноч. Саксонцы былі вымушаны пакінуць Ваўкавыск. Пад час гэтай аперацыі быў паранены французскі дывізіённы генерал Дзюрут, забіты ад’ютант Рэнье, адбіты адзін саксонскі палкавы сцяг, паходная канцылярыя, усе экіпажы корпуснага штаба [186].

Саксонскі генерал Функ гэтак апісаў расійскае нападзенне на Ваўкавыск: “Казакі напалі на гусар з перадавых пастоў, а калі апошнія адступілі да мастоў, тры роты французаў – адныя навабранцы – спалохаліся стука капыт і кінуліся ўрассыпную, свае і ворагі, усе змяшаліся і кінуліся ў бок горада. Мноства фурманак, экіпажаў і колаў і ўсё, што было на іх, натыкаліся друг на друга, некаторыя апракідваліся, разбівалі колы аб ухабы дарогі і загарадзілі шляхі адступлення”. [273, с.184 – 185]. Па гораду ўперамешку бегалі казакі, рускія егеры, французскія і саксонскія салдаты. Уся гэта маса страляла, калола і рабавала. У гэты момант саксонская артылерыйская батарэя лейтэнанта Петракоўскага адкрыла наўгад агонь па мастах і гораду. Генерал Габленц паскакаў без ботаў і пасля бітвы цяжка захварэў. Як выратаваўся Рэнье, ніхто так і не даведаўся. Але яго ледзь не забілі самі французы. Перапужаныя французскія навабранцы Дзюрута стралялі і ў сваіх, і ў чужых. Раз’юшаны Рэнье паскакаў да французскага атрада і закрычаў, што яны не павінны страляць у саксонцаў і свайго галоўнакамандуючага. Салдаты спынілі стральбу, але раптам нейкі французскі маёр закрычаў, што Рэнье трапіў у палон і французы кінуліся на “рускага шпіёна”. Рэнье ледзь ускакаў пад абстрэлам сваіх суайчыннікаў, якія нават паранілі лошадзь генерала [273, с.186]. Каля 4.00 гадзін ночы пайшоў моцны снег і стала зусім цемна. Рэнье адмовіўся ад спробы адбіць Ваўкавыск і рыхтаваўся да новай атакі рускіх. З горада даносіліся стрэлы і крыкі – расіяне дабівалі рэшткі французаў і саксонцаў.

Остэн-Сакен 15 лістапада заняў пазіцыю на вышыні з боку Ізабеліна, дзе праходзіў паштовы тракт на Слонім, і паслаў у Ваўкавыск да корпуса Эссэна падмацаванні. Рэнье на вышынях каля вёскі Альшымава разгарнуў 30 гармат і пастроіў свой корпус за ўзвышшамі ад Альшымава да Біскупцоў на поўнач ад горада. Ён вырашыў працягваць бітву. Рэнье адправіў усе абозы да вёскі Пяскі і далей да Мастоў. На перадавой знясіленую ў начным баі 22-ю дывізію Функа замянілі 21-я дывізіяй Лекока і авангардам Габленца. У Слонім да Шварцэнберга паскакаў з просьбай аб дапамозе ад'ютант Шарле. У нізіне за Біскупцамі быў разгорнуты новы лагер корпуса Рэнье.

15 лістапада бітва пачалася гарматнымі стрэламі з боку рускіх егераў палкоўніка Белакапытава, якія доўжыліся да світанку. З абодвух бакоў удзельнічала да 70 гармат. Да поўдзеня 15 лістапада саксонцы авалодалі часткай Ваўкавыска і разрабавалі тое, што яшчэ засталося пасля начнога пагрому. Саксонскія афіцэры асабліва радаваліся каве, якую казакі не ўжывалі і мяшкамі раскідалі па гораду. Каля 15.00 гадзін рускія ізноў выбілі праціўніка з Ваўкавыска. Карчма паміж горадам і Біскупцамі некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Рускія егеры здолелі авалодаць мастамі на ўсход ад Ваўкавыска, але былі выбіты контратакай саксонскага авангарда Габленца пры падтрымцы батальёна прынца Антона. Спроба саксонскага палка прынца Фрыдрыха ўвечары атакаваць Ваўкавыск была беспаспяховай і каштавала сцягу 2-му батальёну. Паводле расійскіх крыніц, гонар захопу варожага сцяга належаў Вяцкаму пяхотнаму палку пад камандаваннем палкоўніка Мікалая Васільевіча Васільчыкава 3-га, які быў узнагароджаны ордэнам Св.Георгія 3-й ступені. Дарэчы, гэта была адзіная ўзнагарода ў расійскай арміі, звязаная з Ваўкавыскім сражэннем. М.В.Васільчыкаў атрымаў гэты ордэн 20 сакавіка 1813 г. (па старому стылю) з фармуліроўкай: "у гонар выдатнай мужнасці і храбрасці, праяўленых у сражэннях пры праследаванні французскіх войск з 25 кастрычніка па 15 лістапада 1812 года" (6 – 27 лістапада па новаму стылю).

Вячэрні холад і цемра паклалі канец сражэнню. За саксонцамі засталіся масты за горадам, за расіянамі – горад і масты ў Ваўкавыску. Як адзначыў Функ, страты з абодвух бакоў былі значнымі, хаця ўвесь дзень праціўнікі біліся асобнымі батальёнамі, якія змянялі адзін аднаго. Позна ўвечары да корпуса Рэнье, нарэшце, далучыўся батальён, які адступаў з Рудні праз Гарнастаевічы. Увечары 15 лістапада каля 22.00 гадзін акрылены сваім поспехам Остэн-Сакен загадаў атакаваць Рэнье на наступны дзень.

Паводле расійскага плана, абход саксонскай пазіцыі з усходу ажыццяўляў генерал-маёр Булатаў з трыма палкамі. Генералы Эссэн і Лівен атакавалі цэнтр франка-саксонскай пазіцыі. Раніцай 16 лістапада расіяне пачалі свой манёўр, але саксонцы самі атакавалі праціўніка. Рэнье

пастроіў 22-ю дывізію Функа ў калону і накіраваў яе на карчму паміж Біскупцамі і Ваўкавыскам. На нейкі момант саксонцы авалодалі гэтай важнай пазіцыяй, але хутка былі выбіты рускімі. Пры гэтым яны страцілі двух афіцэраў – лейтэнантаў Кіндлера і Брэшкі і шмат салдат. Тым часам за правым флангам Рэнье з’явіліся калоны Булатава. Рэнье контратакаваў расіян сіламі саксонскіх гусараў і лёгкаконнага палка Поленца на чале са старым палкоўнікам Энгелем, які быў цяжка паранены, і адкрыў агонь батарэяй капітана Рота. Расійская атака на нейкі момант спынілася. Паводле М.Кукеля, атака Булатава ўсё ж такі адбылася, але была адбіта саксонцамі і 131-ым французскім пяхотным палком (полк вострава Вальхерэн палкоўніка Моры), значную частку якога складалі іспанцы [290, т.2, с.393]. Пад час гэтых баёў у Ваўкавыску насупраць правага фланга Рэнье пачалі канцэнтравацца значныя сілы рускіх для рашучай атакі [273, с.194].

Неўзабаве з усходу пачуўся доўгачаканы для Рэнье сігнал – дзевяць гарматных стрэлаў залпамі па тры з боку Ізабеліна. Гэта Шварцэнберг паведамляў Рэнье, што спяшаецца на дапамогу. 15 лістапада аўстрыйцы даведаліся аб пачатку бітвы пад Ваўкавыскам і адразу рушылі на дапамогу саксонцам. Шварцэнберг пакінуў у Слоніме толькі рэзерв Фрымона (6 тыс. чалавек). Расійскія раз’езды хутка паведамілі Остэн-Сакену, што аўстрыйцы нечакана абрынуліся на Ізабелін, дзе захапілі расійскія абозы і параненых. Узнікла пагроза акружэння і знішчэння расійскага корпуса [186; 239].

Остэн-Сакен адразу спыніў манёўр Булатава. Ён загадаў адступаць на захад. Рускія пакінулі масты на ўсход ад горада, якія былі адразу захоплены саксонскай кавалерыяй. Расійскі рэзерв Лівена павінен быў як мага хутчэй заняць адзіны ў наваколлі мост і пераправу праз раку Рось каля вёскі Блакітная і рухацца далей на вёску Гнезна. Каб прыкрыць гэты манёўр, з Ваўкавыска былі накіраваны ў бок саксонцаў некалькі батальёнаў, якія пачалі перастрэлку. За Лівенам павінен быў адыходзіць Эссэн 3-ці, а прыкрываць армію – Булатаў.

Рэнье хутка зарыентаваўся ў абстаноўцы і таксама пераправіў праз Рось частку сваіх войскаў, каб першаму захапіць пераправу. Саксонцы з’явіліся каля Блакітнай у той момант, калі другая расійская калона на чале з Эссэнам 3-м перапраўлялася праз Рось і ўзнаўляла стары мост. Пачалася перастрэлка. У гэты час Рэнье загадаў 22-й саксонскай дывізіі Функа агнём гармат запаліць Ваўкавыск, а 32-й французскай дывізіі Дзюрута – атакаваць горад, дзе ўпарта абараняўся атрад Булатава. Маладыя французскія рэкруты рушылі на штурм, але яны пачалі страляць вельмі рана, не паспелі перазарадзіць ружжа і трапілі пад кінжальны агонь рускіх егераў, якія хаваліся паміж дамамі і ў дварах. За некалькі хвілін зямля была пакрыта забітымі і паранenymi французамі. Асабліва вялікімі былі страты сярод афіцэраў. Дывізія Дзюрута змяшалася і па-

бегла назад. Тут яе сустрэў раз’юшаны Рэнье і паслаў у новую атаку. На гэты раз французы рухаліся бягом без адзінага выстрала і ўварваліся ў горад. Пачалася сапраўдная разня. Раззлаваныя вялікімі стратамі французы не бралі палонных і дабівалі рускіх егераў штыкамі. Горад ізноў палынаў. Шмат расійскіх салдат, якія схаваліся па хатах ды французскіх і саксонскіх палонных згарэлі ў гэтым полымі [273, с.195 – 196]. Рэнье захапіў Ваўкавыск і ўзмацніў свой атрад каля Блакітнай. Але расіяне здолелі прарвацца і адышлі да вёскі Гнезна. Адсюль пасля некалькіх гадзін адпачынку Остэн-Сакен у ноч на 17 лістапада пачаў адступаць на Свіслач – Рудню – Камянец-Літоўскі – Брэст у Ковельскі павет Валынскай губерні. У ноч з 16 на 17 лістапада саксонцы і аўстрыйцы распачалі праследаванне расійскага корпуса праз Гнезна – Свіслач – Рудню – Брэст.

На месцы бітвы засталося 700 забітых і шмат параненых, 130 трупаў жывёлы, згарэла 200 дамоў, маёмасныя страты жыхароў склалі 269 756 руб. серабром [107, с.451; 177, с.44; 186, с.108 – 109]. У баях пад Ваўкавыскам корпус Рэнье страціў каля 1 300 чалавек [225]. Асабліва вялікія страты былі ў кавалерыі. Расійскія страты дакладна невядомыя. Саксонец Функ ацаніў іх у больш за 1 500 чалавек, і гэта выглядае даволі верагодным. Як адзначаюць расійскія ваенныя гісторыкі: “Страты нашы ў гэтым баі былі значнымі, але задача адцягнуць Шварцэнберга ад Бярэзіны – выканана”. На дошках храма Хрыста Спасіцеля занатавана, што “ў справе пад Ваўкавыскам 2 і 4 лістапада” быў забіты гусарскі карнэт Пушчынскі і каля 100 “ніжніх чыноў”. Верагодна, што саксонцы падлічылі разам усе свае страты пад час баёў у Ваўкавыскім павеце, а Остэн-Сакен падаў толькі страты за 14 – 15 лістапада, таму што найбольш цяжкія страты 16 лістапада было немагчыма аддзяліць ад іншых ахвяр пад час адступлення на поўдзень.

У Ізабеліне аўстрыйцы захапілі казачную здабычу – “усё багацце турэцкага паходу Чычагава”. Як напісаў Функ: “Простыя гусары купаліся ў дукатах, футрах, каштоўных каменях, турэцкіх шаўках ды іншых каштоўнасцях”. Афіцэрам, акрамя гэтага, дасталіся англійскія карэты, скакавыя коні ды экзотыка – аднагорбыя вярблюды. Тры вярблюды з рускім пагоншчыкам Шварцэнберг падарыў Рэнье. Але, як падкрэсліў Функ, ніводная расійская гармата не трапіла да ворага [273, с.196].

Аўстра-саксонскае войска літаральна “вісела” на плячах адступаючага Остэн-Сакена. Рэнье яшчэ спадзяваўся дабіцца гучнай перамогі. Уначы з 16 на 17 лістапада ён адправіў усю кавалерыю і два батальёны пяхоты ў Рудню, каб захапіць з дапамогай аўстрыйскай кавалерыйскай брыгады Фрэйліха пераправы праз раку Нараў, акружыць расіян ці адрэзаць ад Валыні ды адкінуць да Беластоку. Аднак аўстрыйцы ўжо даўно ваявалі ў гэтай вайне па сваіх правілах. Фрэйліх затрымаў сваю дывізію на 10-гадзінны адпачынак. А сіл адных саксонцаў не хапіла, каб

затрымаць Остэн-Сакена. Рускія паспелі “выслізнуць” на Валынь, разбурыць усе масты праз Нараў і спаліць Рудню [273, с.197].

17 лістапада войскі Рэнье і Шварцэнберга таксама рушылі на поўдзень. Пры гэтым фурманкі з порахам не рызыкнулі весці праз Ваўкавыск, каб яны не ўзарваліся ад тлеючых руінаў. На працягу 17 – 18 лістапада па вёсках і лясах Белавежскай пушчы напалеонаўскія саюзнікі захапілі да 2 500 расійскіх палонных: адстаўшых, параненых, хворых, стомленых ды дэзерціраў. Паколькі ніхто не жадаў іх карміць і ахоўваць, то шмат расійскіх палонных хутка разбеглася невядома куды [273, с.198]. Толькі на лясной дарозе паміж Свіслаччу і Новым Дваром у палон трапіла звыш 100 расійскіх салдат і афіцэраў. Пашанцавала толькі параненаму палкоўніку Белакапытаву, які, дзякуючы валоданню нямецкай мовай, “забалтаў” саксонскіх кавалерыстаў і збег з лясной старожкі [273, с.198]. Часам расіяне мужна абараняліся. Функ захаваў для нас гісторыю аб невядомым рускім улане, які каля Свіслачы, дзе саксонцы напалі на расійскі ар’ергард, раптоўна кінуўся ўпрост на Рэнье, разагнаў увесь штаб і ад’ютантаў і, нарэшце, быў схоплены саксонскім уланам, які, усміхаючыся звярнуўся да генералітэту: “Хлопец прымусіў нас папрацаваць!” [273, с.198]. Са Свіслачы зусім хворага саксонскага генерала Габленца, які ўсю ноч пад Ваўкавыскам ваяваў без ботаў, адправілі ў Варшаву.

Ноччу з 19 на 20 лістапада ў вёсцы Агароднікі каля Пружанаў гусарамі і драгунамі аўстрыйскага авангарда на чале з маёрам Біго дэ Сен-Квенцінам быў раптоўна атакаваны і разбіты 4-ты Украінскі казачы полк маёра Д.І.Мініцкага, які расійскі генерал-маёр І.В.Вітт паслаў з Брэста на Пружаны. Тры эскадроны былі ўзяты ў палон, а рэшткі палка збеглі ў напрамку Кобрына [179, с.253; 198, с.62]. 20 лістапада аўстрыйцы і саксонцы фарсіравалі Нараў каля спустошанай Рудні. 21 лістапада саксонцы дасягнулі Белавежы (зараз у Польшчы). Нягледзячы на перамогу пад Ваўкавыскам, абстаноўка для напалеонаўскіх саюзнікаў была складанай. Па лясах бадзялася шмат адстаўшых расійскіх салдат. Ужо з’явіліся раз’езды казакаў, якія лавілі неасцярожных саксонцаў і аўстрыйцаў. Мясцовыя жыхары адкрыта спачувалі рускім. У Белавежы саксонскі корпус адпачываў 21 лістапада. 22 лістапада войска Рэнье перайшло ў Шарашэва, а 23 лістапада дасягнула Пружан.

22 лістапада Шварцэнберг быў у Гарадзечна. 24 лістапада Остэн-Сакен дасягнуў Брэста, а Шварцэнберг заняў Кобрын. З Брэста Остэн-Сакен паслаў атрад І.В.Вітта ў складзе двух украінскіх казачых палкоў заняць Пінск. Гарачы бой адбыўся 24 лістапада каля мястэчка Журавіцкая Камяніца паміж корпусам генерала Эссэна 3-га і аўстра-саксонцамі. Расіяне замацаваліся ў Камянцы і атакавалі адтуль правы фланг саксонцаў, якія рухаліся праз Вішню – Пелішча да Брэста. Артылерыйская кананада працягвалася да вечара, у выніку значныя страты былі з

абодвух бакоў. У расіян загінулі камандзір 8-й артылерыйскай брыгады палкоўнік артылерыі Басціян і больш за 20 салдат [185, с.98; 273, с.202]. Пасля бою аўстра-саксонцы занялі мястэчка Вычулкі, а расіяне адышлі на Ратна і размеркаваліся каля мястэчка Макраны. Сюды з Кобрына прыйшоў расійскі атрад генерала Мялісіна. Рускія зноў страцілі Літоўска-Гродзенскую губерню. Па загаду расійскага камандавання Остэн-Сакен пакінуў сабе толькі 10 тыс. чалавек, а корпус Эссэна 3-га 1 снежня адправіў на ўзмацненне галоўных сіл. Эссэн 3-ці павінен быў ісці праз Пінск і Слуцк. Але паколькі Пінск быў ужо заняты аўстрыйцамі, Эссэну давялося ісці ў абход праз вёску Дацін. Остэн-Сакен застаўся на Валыні і быў ужо не здольны на самастойныя дзеянні.

Усе гэтыя баявыя дзеянні, асабліва адступленне пасля бітвы пад Ваўкавыскам, каштавалі Остэн-Сакену каля 10 тыс. чалавек, у большасці палоннымі. Аўстра-саксонская армія пад час змагання з Остэн-Сакенам узяла ў палон каля 8 тыс. рускіх. Вобразна кажучы, за кожных 5 напалеонаўскіх салдат – забітых, параненых ці трапіўшых ў палон на Бярэзіне – руская армія заплаціла 1 забітым ці параненым у лістападаўскіх баях 1812 г. ад Ваўкавыска да Брэста. Такой жудаснай была арыфметыка вайны. Дарэчы, Напалеон даведаўся аб бітве пад Ваўкавыскам 26 лістапада – у першы дзень пераправы праз Бярэзіну. Гэту навіну прывёз з Вільні літоўскі шляхціц апрануты ў сялянскае адзенне. Французскі імператар з задавальненнем аб'явіў аб "перамозе Шварцэнберга над Сакенам" і спадзяваўся, што "Шварцэнберг пайшоў па слядах Чычагава і прыдзе нам на дапамогу" [209, с.254].

Аднак саюзнікі Напалеона рухаліся зусім у іншым напрамку – не на ўсход, а на поўдзень. Саксонцы 25 лістапада дасягнулі вёскі Чарняўчыцы. 26 – 30 лістапада яны занялі Брэст, а аўстрыйцы – Кобрын. Абараніўшы тылы "Вялікай арміі", саюзнікі Напалеона паспрабавалі вярнуцца да выканання старой задачы. Корпус Рэнье з 25 лістапада да 5 снежня займаў Брэст. Перад адыходам з Брэста Рэнье пагражаў знішчыць горад у выпадку нападзення рускіх. Шмат будынкаў і нават цэрквы былі абкладзены саломай, але, на шчасце, далей пагроз справа не зварухнулася [273, с.208]. 6 снежня Рэнье рушыў на Пружаны. Паводле ўспамінаў саксонскага генерала Функа: "Мы больш не выглядалі як салдаты. Толькі ружжы ды патранташы засталіся ад былой уніформы. Футры, шалікі, жаночыя спадніцы і расы святароў – мы выглядалі вельмі жывапісна, затое не так мерзлі. Ногі і галавы былі абмотаны, так што было цяжка пазнаць адзін аднаго і трэба было крычаць, каб цябе пачулі" [273, с.207]. Гэта не дзіўна, бо маразы ў пачатку снежня дасягнулі 30 градусаў. Шварцэнберг пакінуў Кобрын раней. 1 снежня ён дасягнуў Пружан, а 7 снежня – Слоніма. Такім чынам, Остэн-Сакен забраў у ворага два тыдні, ажыццявіў трохдзённую бітву пад Ваўкавыскам, пяць баёў і здолеў выратаваць свой корпус ад знішчэння больш моцным ворагам. Тое, што Чыча-

гаў правaліў аперацыю на Бярэзіне, і дазволіў Напалеону выслізнуць, не адмаўляе мужнасці і вайсковых талентаў барона Ф.В. фон дэр Остэн-Сакена.

7 снежня 1812 г. быў вызначаны тракт, па якому саюзныя Францыі войскі (у тым ліку саксонскія і аўстрыйскія) пакідалі Літоўска-Гродзенскую губерню: Гродна – Індура – Крынкі – Свіслач – Пружаны – Брэст-Літоўск [107, с.451]. Менавіта гэтым шляхам ішлі дамоў аўстрыйскія войскі, якія па дамове з Д.Давыдавым пакідалі 20 снежня Гродна. Ці ўспаміналі тыя, хто застаўся ў жывых, бітвы, якія адбыліся ў пералічаных вышэй населеных пунктах? Паводле С.Герольда, аўстрыйскі корпус у вайне 1812 г. страціў 11 тыс. чалавек: 7 тыс. забітымі, параненымі і палоннымі і 4 тыс. хворымі. Страты саксонцаў былі яшчэ большымі. Разам з рэзервамі і французскай дывізіяй Дзюрута Рэнье мог бы мець 30 тыс. чалавек. Але 3 студзеня 1813 г. пад камандаваннем Рэнье каля Варшавы было толькі 7 тыс. саксонцаў і 4 тыс. французаў [270; 281]. Калі супаставіць дадзеныя Говарда Гілса на пачатак "маскоўскай кампаніі" і звесткі генерала Функа на момант яе заканчэння па асобных падраздзяленнях саксонскага корпуса, то атрымаюцца наступныя лічбы. 22-я саксонская дывізія Функа 30 чэрвеня 1812 г. налічвала 161 афіцэр і 6 319 салдат, з якіх 28 снежня 1812 г. засталося 52 афіцэры і 2 221 салдат. Колькасць афіцэраў скарацілася ў 3 разы, а салдат – у 2,8 разы. У 23-й саксонскай лёгкай кавалерыйскай брыгадзе Габленца на 30 чэрвеня 1812 г. было 2 129 чалавек, а 13 снежня засталося толькі 964 чалавекі – у 2,2 разы менш [270; 273, с.214, 216].

Такім чынам, агульныя страты аўстрыйскіх і саксонскіх саюзнікаў Напалеона на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні забітымі, параненымі і палоннымі пад час баявых дзеянняў на правым флангу "Вялікай арміі" склалі 22 тыс. чалавек: 13 тыс. саксонцаў, 7 тыс. аўстрыйцаў і 2 тыс. французаў. Адносна агульнага асабовага складу гэтыя страты выглядаюць наступным чынам: саксонскі корпус – 2/3, аўстрыйскі корпус – 1/6, 32-я французская дывізія – 1/3 свайго агульнага асабовага складу. Добра відаць, што асноўны цяжар барацьбы з расійскімі войскамі на тэрыторыі Заходняй Беларусі і, адпаведна, найбольшыя страты прыпадаюць на VII (саксонскі) корпус "Вялікай арміі" генерала Рэнье.

Расійскія страты пад час гэтых баёў дасягаюць 18 тыс. чалавек. Самыя цяжкія – каля 10 тыс. чалавек – прыйшліся на Ваўкавыскае сражэнне і адступленне корпуса Остэн-Сакена на Валынь. Такой была плата рускай арміі за змарнаваную магчымасць акружыць на Бярэзіне "Вялікую армію" Напалеона. Але пра гэтую крывавую ахвяру ніколі не ўзгадваюць нават расійскія гісторыкі. Выключэнне складаюць толькі складальнікі дарэвалюцыйнай рускай ваеннай энцыклапедыі, а некаторыя сучасныя расійскія гісторыкі нават пішуць пра перамогу пад Ваўкавыскам [126, с.675]. Звыш 4 тыс. чалавек расійская армія страціла ў бітве

пад Гарадзечна і пад час адступлення Тармасава на Валынь. Гэта была плата за аддзяленне ад “Вялікай арміі” напярэдадні штурма Смаленска і Барадзінскай бітвы 31-тысячнага аўстрыйскага корпуса Шварцэнберга.

## МАРАДЗЁРСТВА Ў ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ ПАД ЧАС ВАЙНЫ 1812 ГОДА

Вайна заўжды дрэнна адбіваецца на грамадстве. Кошт чалавечага жыцця падвяргаецца хуткай дэвальвацыі. Кожны ўзброены чалавек увасабляе ўладу  для іншых. Паняцце законнасці становіцца размытым і няпэўным. Знаходзіцца шмат жадаючых атрымаць хоць кавалачак чужога дабра. Падобныя настроі ў 1812 г. ахапілі ўсе бакі: і рознаплеменных напалеонаўскіх ваяроў, і рускіх казакаў ды салдат, і частку мясцовага насельніцтва. Ва ўмовах вайны правесці мяжу паміж рэквізіцыямі і марадзёрствам было немагчыма. Усё залежала ад пункту гледжання на гэтае пытанне – вайсковага ці цывільнага. Напрыклад, расійскае камандаванне фармальна плаціла за рэквізіцыі “ваеннымі квітанцыямі”, якія потым можна было перавесці ў “наяўныя грошы” па “курсу”: 2/3 кошта аблігацыямі дзяржаўнага скарба (разлік за якія адбудзецца праз некалькі гадоў), 1/3 асігнацыямі. Звонкай манетай ніхто не плаціў. Вось як “кавалерыст-дзявіца”  Н.Дурава ўзгадвае фуражыроўку “сумнай, мокрай, халоднай, ветранай, бруднай” вясной 1812 г. недзе на тэрыторыі Ваўкавыскага ці Пружанскага павета: “Мне, як і іншым, далі каманду (атрад уланаў), далі прадпісанне за подпісам камандзіра палка ездзіць па навакольных маёнтках, патрабаваць у памешчыкаў аўса і сена, браць усё гэта і ўзамен даваць распіскі, з якімі яны могуць пасылаць сваіх старастаў у эскадрон, каб там атрымаць квітанцыі, і з гэтымі ўжо квітанцыямі павінны спадары памешчыкі з’явіцца ў камісію для атрымання ўплаты наяўнымі грошамі” [116, с.78]. Не дзіўна, што насельніцтва заходняга рэгіёну Беларусі хавала правіянт і фураж, а не пастаўляла яго вайскоўцам. Напалеонаўскія генералы былі ўпэўнены, што тутэйшае насельніцтва павінна быць вельмі ўдзячным за вызваленне ад рускіх і значную частку паставак выконваць бясплатна. Зразумела, што французскія квітанцыі ніхто і ніколі не пагасіў. У выніку насельніцтва хавала свае запасы, вайскоўцы іх адбіралі, зневажаючы людзей. Усё, як звычайна на вайне. Пачатак хвалі гвалтаў паклалі вестфальцы і казакі.

Вестфальцы, саксонцы ды вюрцімбержцы пачалі рабаваць насельніцтва яшчэ ў Польшчы ў маі – чэрвені 1812 г. пад час руху да расійскай мяжы [268, с.181]. У пачатку чэрвеня 1812 г. у Торуні да французскага імператара дайшлі скаргі на вестфальцаў, якія “бязлітасна рабавалі і зневажалі” палякаў [209, с.28]. Хаця Напалеон назапасіў вялікія магазіны правіянту, але да іншаземных салдатаў з “саюзных” корпусаў нічога не траплялa. Вось вытрымка з ліста вестфальскага грэнадзёра Фігнэра ад

9 чэрвеня 1812 г. (за два тыдні да пачатку вайны): “…на траіх нам далі так мала ежы, што хлеба мы атрымалі ледзь 1 фунт на 3 дні. Таму што мы не атрымлівалі ні мяса, ні агародніны, то мы з голаду 30 чалавек забілі сабаку, а потым збіралі крапіву і зварылі шчы і потым натапілі сабачага сала, а мяса гэтага вялікага сабакі елі. У польскай краіне так мала ежы, што было б не дзіўна памерці з голаду; хлеб, піва і водка гэткія дарагія, што калі раз у 5 дзён дастанеш ежы, дык з’ядаеш яе за паўгадзіны і не ведаеш, еў ты ці не”. Ліст вестфальскага кірасіра Рункеля, напісаны з “Рускай Польшчы. Гродна”, паведамляе: “Зараз я ў Расіі, дзе на жаль мне яшчэ цяжэй чым у Польшчы. Тут нястача ва ўсіх відах харчавання. Пастаўлены хлеб такі дрэнны, што яго немагчыма есці, а каштуе вельмі дорага, за адзін хлеб трэба плаціць 8 вялікіх грошаў” [135, с.105 – 106]. Вестфальскі капітан фон Лосберг у сваім дзённіку 3 ліпеня 1812 г. у Гродне пазначыў, што мясам VIII корпус “дапамагае сабе сам”, ды пракаменціраваў: “У такой беднай краіне, як Польшча, пазбегнуць марадзёрства можна толькі пастаяннымі пастаўкамі і строгасцю”. Але, відаць, ні таго, ні другога ў вестфальскім корпусе не было [295, с.47].

Не дзіўна, што, трапіўшы на варожую тэрыторыю Літоўска-Гродзенскай губерні, галодны вестфальскі корпус адразу пачаў рабаваць. Камандуючы корпусам генерал Вандам не перашкаджаў сваім салдатам, а надаў рабаўніцтву арганізаваны характар, рассылаючы па наваколлю фуражыраў. Гэта замарудзіла і без таго павольны тэмп наступлення вестфальцаў, затое дало магчымасць падсілкаваць салдат. Лідскі павет яшчэ доўга з жахам успамінаў праход вестфальцаў і асабіста генерала Вандама. Каб аблегчыць сабе шлях, вестфальцы, акрамя правіянту, адбіралі ўсіх коней у вёсках і панскіх маёнтках. 26 ліпеня 1812 г. лідскі падпрэфект скардзіўся на Вандама, які загадаў салдатам рабаваць насельніцтва. У мястэчку Беліца на Нёмане, па словах Лосберга, ўсё было разрабавана палякамі, але, паколькі прадуктаў было шмат, то хапіла і вестфальцам. Трэба было толькі зазірнуць у пграбы [295, с.52]. У XIX ст. на Лідчыне было паданне аб генерале Вандаме, які ў 1812 г. правёў усё лета ў маёнтку Лябёда пана Горскага. Ён паводзіў сябе як гападар, судзіў сялян, прызначаў на паншчыну. Пры сабе Вандам меў некалькі ад’ютантаў і пару дзесяткаў салдат. Калі Напалеон загадаў яго арыштаваць, дык Вандам паехаў да сябе на радзіму [40, арк.68 – 69, 130]. Дарэчы, на самай справе 6 жніўня 1812 г. Вандам быў адхілены ад камандавання вестфальцамі за рабаўніцтва і павольны марш. Яго месца заняў генерал Андош Жюно. Але вяртаць беларускім сялянам нарабаванае дабро ніхто не збіраўся. Як з задавальненнем адзначыў Лосберг, калі вестфальцы пакінулі тэрыторыю Літоўска-Гродзенскай губерні і падыходзілі да Нясвіжа, то “гурт скаціны рознага віду, які ішоў за палком, значна павялічыўся” [295, с.56].

Вандам быў не адзіным пацярпелым. Яшчэ большы разнос Напалеон зрабіў свайму брату вестфальскаму каралю Жэрому Банапарту. Той абурыўся і пакінуў армію, забраўшы з сабой у Касель вестфальскую гвардзію. Відавочна, Жэром ва ўсіх сваіх праблемах вінаваціў палякаў, якія не здолелі разбіць казакаў пад Мірам. Таму пад час вяртання ў Вестфалію ён не стрымліваў рабаўнічыя інстынкты сваіх гвардзейцаў. Першай ахвярай помслівага караля, які так і атрымаў польскую карону, стаў Навагрудак. Салдаты рабавалі дамы і крамы на вачах Жэрома, які глядзеў на гэты пагром з дома купца Арыевіча на гарадской плошчы. Некаторыя нават пачалі біць жыхароў. Уноч з 28 на 29 ліпеня 500 вестфальскіх гвардзейцаў на чале з Жуіе арганізавалі пагром у мястэчку Шчучын. Паводле скаргі мясцовых жыхароў, вестфальцы атрымалі ўсё, што яны патрабавалі: сена, ялавічану, хлеб, водку, піва. Але са згоды афіцэраў усё роўна пачалі гвалты. Усю ноч гвардзейцы ўрываліся ў хаты і стралялі па людзях. Было скалечана ды пабіта шмат людзей, тры чалавекі забіты, двое паранены. У доказ гэтага ў Гродна былі дастаўлены 1 забіты, 2 “прастрэленыя” і 12 параненых і скалечаных. Акрамя таго, 60 чалавек вестфальцы забралі з сабой у якасці цяглавай сілы. Апошнюю кропку ў “прыгодах” вестфальцаў у Заходняй Беларусі паставіў сам Жэром Банапарт. Ён тры дні п’янстваваў каля Скідзеля ў маёнтку Котра пана Рамуальда Данкевіча. Кароль і афіцэры кідаліся бутэлькамі, павыбівалі вокны, шаблямі пасяклі маладыя дрэвы ў садзе. На скаргу гаспадара Жэром адказаў : “Няхай усе адчуваюць, што тут вайна!”. Такім было развітанне з Беларуссю брата Напалеона [40, арк.108, 131].

Ад вестфальцаў імкнуліся не адставаць саксонцы. Прыклад салдатам паказвала камандаванне. 31 ліпеня пад час дзённага прывала ў Ружанах штаб і інтэндатура Рэнье ўшчэнт абрабавалі палац Аляксандра Сапегі [290, т.2, с.39]. 6 жніўня ваўкавыскі падпрэфект данёс, што камандзір саксонцаў генерал Рэнье запатрабаваў у горадзе ўсе запасы харчавання і адправіў па навакольных вёсках атрады пяхоты, якія “бралі ўсё ўзброенай рукой”. Вось як невядомы аўтар апісаў праход праз мястэчка Новы Двор Ваўкавыскага павета “вялікай арміі саксонскай VII корпуса пад камандаваннем Рэнье”: “салдаты забіралі ўсё: харчаванне, коней, адзенне, інструменты; валоў гналі табунамі”. 8 жніўня ў 12 гадзін 25 саксонцаў, пагражаючы шаблямі, абрабавалі вёску Кабедзічы Ваўкавыскага павета. Уладальнік вёскі Аскірка са страху памёр. Салдаты забралі 9 коней, 7 быкоў і пайшлі па навакольных вёсках. У Навагрудскім і Пружанскім паветах аўстрыйцы і саксонцы перыядычна канфіскоўвалі па 100, 200 і нават 300 коней [40, арк.19, арк.130]. Толькі ў вёсцы Олтуш на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні ў жніўні 1812 г. саксонцы забралі ў насельніцтва 30 коней. Беспакаранасць у разрабаванай краіне прыводзіла да дзіўных рэчаў. Саксонскі генерал Функ пакінуў цікавыя звесткі пра тое, як у Брэсце ў жніўне 1812 г. гусары Пробштайна з эс-

корта Рэнье разрабавалі маёмасць самога Функа! Генерал Габленц скардзіўся, што па прыкладу штабнога эскорта яго саксонская кавалерыя таксама пачала злоўжываць зброяй у адносінах да насельніцтва [273, с.100 – 101].

Пад час пастою ў вёсцы Сухаполь Пружанскага павета 6-тысячны саксонскі атрад адбіраў маёмасць, запасы збожжа і жывёлу. Былі разрабаваны царква, царкоўная бібліятэка. Саксонцы нават знялі боты са свяшчэнніка Сільвестра Пяроцкага. Жыхары хавалі сваю маёмасць у зямлі, у пушчы і на царкоўнай званіцы. Раз’юшаныя саксонцы намагаліся спаліць дамы і царкву. Дзякуючы перамовам арандатара сухапольскага маёнтка Энгельгарта з саксонскім камандзірам, Сухаполь была выратавана ад знішчэння [194, с.64]. Да “звычайных” гвалтаў у лістападзе – снежні 1812 г. дабавіліся пажары. Функ неаднаразова адзначае ў сваіх успамінах, што стомленыя саксонскія салдаты, трапляючы ў вёскі, каб абагрэцца, палілі кастры дзе толькі можна, не звяртаючы ўвагі на элементарныя правілы бяспекі. У выніку гарэлі беларускія хаты, як, напрыклад, здарылася ў Сакольніках каля Поразава 11 лістапада 1812 г., дзе згарэла палова вёскі. Часам саксонцы самі цярпелі ад свайго “лёгкадумства”. У вёсцы Вішня паміж Камянцом і Шарашэва 23 лістапада 1812 г. у полымі вялікага начнога пажару згарэлі звыш 80 коней і каля 40 чалавек з аховы і штабу Рэнье. Аб знішчанай маёмасці беларускіх сялян, зразумела, ніхто не ўспамінаў. Затое пра беларускія землі паміж Ваўкавыскам і Шарашэва Функ адзначыў: “Гэта мясцовасць увогуле адна з самых гаротных у Расіі і Польшчы”. Аб галоўнай прычыне такога становішча – бясконцых баях, маршах, пастоях, рэквізіцыях ды рабунках – саксонскі генерал дыпламатычна прамаўчаў [273, с.175 – 176, 202].

Свой унёсак у рабаванне заходняга рэгіёну Беларусі ўнеслі і аўстрыйцы князя Шварцэнберга. Іх корпус прымаў удзел у баявых дзеяннях у паўднёвай частцы Літоўска-Гродзенскай губерні. Спачатку аўстрыйцы паводзілі сябе спакойна. Расійская разведка ў пачатку жніўня 1812 г. даносіла, што аўстрыйцы ў Брэсце “абыходзяцца з жыхарамі вельмі спакойна і ласкава”. Гэта было звязана з шляхецкім энтузіязмам і шчодрымі ахвяраваннямі на карысць “саюзнікаў”. Але энтузіязм і харчаванне скончыліся, і салдаты пачалі рабаваць. Ад аўстрыйскіх рэквізіцыяў асабліва моцна пацярпелі Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі, Ваўкавыскі, Слонімскі і паўднёвая частка Лідскага павета. У снежні 1812 г. з’явіўся загад, каб Навагрудскі павет дапамог Слоніму, які быў літаральна абрабаваны аўстрыйцамі. Салдаты Шварцэнберга адбіралі харчаванне і дровы, варавалі, напалі на паслужнікаў слонімскага езуіцкага кляштара. У Брэсце асабліва пацярпеў Сімеонаўскі манастыр, дзе аўстрыйцы ў пошуках зброі і скарбаў узламалі падлогі ды спалілі частку манастырскіх забудоў [184]. В.В.Вяземскі ў верасні 1812 г. адзначаў наконт Брэсцкага

павета: “Землі тут цалкам спустошаны, немцы паказваюць сябе рабаўнікамі, край даведзены да галечы” [96]. 14 снежня 1812 г. расійскі камандзір Ажароўскі дакладваў Кутузаву: “У Беліцы і яе ваколіцах поўны недахоп правіянту, а асабліва фуражу, па прычыне доўгатэрміновага побыту тут аўстрыйскіх войскаў”. Аб жудасным стане Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў сведчыць той факт, што напрыканцы верасня 1812 г. войскі Шварцэнберга і Рэнье самі пакінулі галодны левы бераг Нёмана. Аўстрыйцы размясціліся ў раёне Беласток – Гродна, а саксонцы – каля Венграва ў Польшчы. Калі напрыканцы кастрычніка Шварцэнберг і Рэнье рушылі ад Беластока да Свіслачы, з Гродна да “саюзных генералаў” хутка адправілася дэлегацыя ў складзе пана Сільвестрава, Міхала Андржэйковіча, ксёндза Каржанеўскага і пана Булгарына – прасіць генералаў не рабаваць насельніцтва.

“Пагасцілі” ў Заходняй Беларусі і сапраўдныя французы. 18 ліпеня 1812 г. у вёску Бершты з боку Мерачы завітаў французскі атрад. Салдаты паранілі шмат сялян, забралі большую частку маёмасці ды разышліся з рабаўнічымі мэтамі па навакольных вёсках. 24 жніўня ў Гродна паступіла скарга ад пана В.Санкоўскага з Навадворскай парафіі Лідскага павета. Аўтар даводзіў, што ў парафіі затрымалася некалькі дзесяткаў французскіх конных егераў з І корпуса Даву. Гэта былі параненыя салдаты альбо тыя, у каго скалечыліся коні. Салдат пакінулі пад час праследавання Баграціёна ды і забыліся. А французы нікуды не спяшаліся. Штодзень дванаццаць конных егераў з’ядалі ў пана Санкоўскага 24 пінты збожжа, выпівалі 1,5 гарнцы водкі і абавязкова патрабавалі мяса. Уладальнік маёнтка, які ўжо пацярпеў ад вестфальцаў Вандама, цікавіўся, калі яго пазбавяць гэтага клопату. 26 кастрычніка лідскі падпрэфект данёс, што нейкі французскі атрад у 70 чалавек два дні рабаваў невялікае мястэчка Каменку. Салдаты збівалі замкі, забіралі рэчы, малако, сыр, масла, сена, авёс. Французы стралялі па жыхарах мястэчка, сяклі людзей шаблямі. Параніўшы 20 чалавек і забраўшы 23 каня, “госці” пайшлі на Гродна [40, арк.13, арк.131].

Гістарычная праўда патрабуе прызнаць, што сваю ролю ў разарэнні заходняга рэгіёну Беларусі адыгралі і царскія войскі. 13 чэрвеня 1812 г. Платаў атрымаў ад галоўнакамандуючага Барклая дэ-Толі “Прадпісанне аб задачах казацкіх войскаў у сувязі з падрыхтоўкай да вайны”. Пункт “6в” гэтага прадпісання патрабаваў: “адымаць у непрыяцеля ўсе сродкі харчавання і перавозкі патрэбных для яго рэчаў, паліць і знішчаць масты, суды, магазіны і запасы і ўвезці альбо знішчыць усялякую вупраж і фурманкі, жыхарам пакінуць толькі неабходнае для іх асабістага харчавання”. Але як пад час хуткага адступлення высвятліць, дзе скончыцца гэтае “неабходнае”? 18 чэрвеня Платаў атрымаў новы загад – у выніку вайны і адступлення “не пакідайце непрыяцелю ні правіянту, ні валоў, ні коней, якія ён мог бы выкарыстаць” [114, с.29, 34].

Казакі Платава дакладна выканалі атрыманыя загады. Усе фурманкі, сабраныя ў Гродзенскім павеце, адышлі на Навагрудак. Калёсы з Беластоцкай вобласці (звыш 1 800 фурманак) і Ваўкавыскага павета папоўнілі абозы 2-й расійскай арміі Баграціёна. Фурманкі з Лідскага павета пайшлі да Дзвіны на Невель на патрэбы 1-й заходняй расійскай арміі Барклая дэ-Толі. Дарэчы, большая частка абозаў 2-й расійскай арміі была потым спалена паміж Нясвіжам і Слуцкам. Масты праз Нёман у Гродне і Мастах былі знішчаны, а вось у Беліцы, дзякуючы мясцовым жыхарам, зрабіць гэта не атрымалася. Акрамя таго, ў Нёмане каля Мастоў рускія пад час адступлення патапілі шмат амуніцыі. Вось вытрымкі з лістоў ад’ютанта Я.Г.Дамброўскага Прота Лялевеля з Навагрудка (11 ліпеня) і Нясвіжа (15 ліпеня): “казакі ўсё рабуюць, не пакідаючы нічога – толькі хаты, дзе няма нават людзей – разбегліся”; “рухаючыся за гэтымі варварамі, мы не маем правіянту, не толькі магазіны паляць, але адбіраюць у жыхароў, а што магчыма – псуюць. Насельніцтва ўсё разбеглася, так што праходзячы праз вёскі, немагчыма даведацца, як яны называюцца, толькі зрэдку трапляюцца забітыя. Мястэчкі, якія тут даволі вялікія, яны не чапалі і абмежаваліся забіраннем харчавання і фурманак” [301, с.53 – 54]. Зразумела, што ў гарадах і мястэчках на вачах афіцэраў казакі дзейнічалі ў межах загадаў. Аб тым, што здаралася на вёсках, застаецца толькі здагадвацца. Дарэчы, легендарная хуткасць казацкай кавалерыі тлумачыцца тым, што казакі не мелі абозаў і заўжды карміліся за кошт мясцовага насельніцтва, яны ні за што не плацілі і нічога не прасілі, а проста бралі патрэбнае. Дзякуючы казацкім раз’ездам ды рэквізіцыям V (польскі) корпус на шляху ад Гродна да Нясвіжа 4 дні запар не атрымліваў хлеба [311, с.215].

З пункту гледжання мясцовых сялян, польскія салдаты не лепей паводзілі сябе. У Навагрудскім павеце войскі Жэрома Банапарта пад час марша за Баграціёнам забралі з сабой “усіх дваровых і сялянскіх коней з упражжу, значную колькасць пагоншчыкаў, скаціны, авец. Па хатах, крамах, магазінах і іншых складах забралі шмат правіянта, фуража і іншых прыпасаў”. 10 ліпеня 1812 г. яўрэй-шпіён данёс расіянам, што палякаў на поўдні Літоўска-Гродзенскай губерні не налічыцца і 3 тыс. чалавек: “Непрыяцель бадзяецца больш па вёсках, як марадзёр, хапае ўсё, што толькі трапіць пад руку. На кобрынскіх жыдоў накладзены імі падатак, каб праз кожныя двое сутак плацілі ім рускімі сярэбранымі грошамі ад 30 да 40 рублёў” [109, с.48].

Аб нейкіх дрэнных учынках 2-й заходняй расійскай арміі Баграціёна нічога невядома. Гэта не дзіўна. З вялікімі абозамі і добрымі харчовымі магазінамі на сваім шляху яна не мела патрэбы ў рэквізіцыях ды гвалтах. Пад час адступлення палкі Баграціёна палілі і знішчалі правіянт, з вялікімі цяжкасцямі сабраны ў Гродзенскай губерні ў 1812 г. Асабліва вялікія склады былі знішчаны ў Кобрыне. Часам гэтага можна было

пазбегнуць. У Навагрудку жыхары сабралі грошы і аддалі іх расійскаму афіцэру, які павінен быў падпаліць харчовыя магазіны. Замест гэтага для бачнасці пажару падпалілі на ўскраіне горада два стагі сена [102, с.26]. У Пінску на пачатку вайны мясцовыя жыхары паўсталі і не далі расійскаму гарнізону спаліць ці забраць тутэйшыя запасы.

Затое 3-я абсервацыйная расійская армія А.П.Тармасава пад час баявых дзеянняў напрыканцы ліпеня – лістапада 1812 г. вымушана была прыбягаць да шырокіх рэквізіцый. Найбольш пацярпела паўднёвая частка Літоўска-Гродзенскай губерні. 19 ліпеня А.П.Тармасаў дакладваў кіраўніцтву: “Край гэты праходам аўстрыйскіх і саксонскіх войскаў цалкам разрабаваны, усё пуста, жыхары, ўзнятыя Варшаўскай канфедэрацыяй, схаваліся ў лясы і балоты, дзе перашкаджаюць вайсковым зносінам, нападаюць на транспарты і фуражыраў, перахопліваюць кур’ераў, а на палях хлеб стаіць нясжатым” [171, с.30]. Паводле В.В.Вяземскага, у пачатку жніўня 1812 г. войскі Тармасава ў трохкутніку Пружаны – Гарадзец – Пінск “забяспечвалі сябе шляхам надзвычайнай фуражыроўкі – без усялякіх нормаў, а хто што дзе знайшоў, то і бярэ, звыш таго выганялі мужыкоў жаць, малаціць і малоць, і такім чынам армія забяспечыла сябе на 10 дзён” [96]. Як бачым, вопыт французскага генерала Вандама не быў чымсьці ўнікальным. 2 жніўня 1812 г., паводле скаргаў мясцовых жыхароў, тры расійскія кавалерыйскія палкі вывезлі з мястэчка Новы Двор Ваўкавыскага павета ўсё харчаванне на 15 фурманках. На самай справе гэта былі два расійскія палкі: Конна-татарскі і Еўпатарыйскі татарскі са складу 3-яй расійскай арміі. Маскоўскі гісторык І.Кудрашоў прывозіць звесткі пра шэраг сутычак паміж мясцовым насельніцтвам і тылавымі атрадамі арміі Тармасава. Становішча сялян яшчэ больш пагоршылася са з’яўленнем у кастрычніку 1812 г. Дунайскай арміі адмірала Чычагава. На ўсе свае патрабаванні правіянту і фуражу Чычагаў заўжды выпісваў квітанцыі. Нягледзячы на гэта, як паведамляе выкладчык гродзенскай гімназіі Ф.Гартуч (1836 г.): “Жыхары Брэсцкага павета, пакідаючы свае хаты, хаваліся ў лясах, ад гэтага нашыя вайскі сустракалі складанасці ў адшуканні харчавання…” [40, арк.19].

Калі аб выпадках марадзёрства ў 2-й расійскай арміі Баграціёна нічога невядома, то 1-я расійская армія Барклая дэ-Толі, наадварот, “праславілася” рознымі “эксцэсамі ў дачыненні да цывільнага насельніцтва”. На беларуска-літоўскім сумежжы падобныя дзеянні выклікалі супраціўленне мясцовага насельніцтва. У мястэчку Эйшышкі Лідскага павета жыхары захапілі ў палон каманду егераў з афіцэрам. У Ашмянскім павеце распарадчык маёнтка Вікторышкі (зараз хутар у Астравецкім раёне) Пётр Былінскі ўзброіў сялян і захапіў групу расійскіх марадзёраў, якія рабавалі маёнткі ўздоўж дарогі Вільня – Ашмяны. У Вільню былі дастаўлены 55 палонных. У снежні 1812 г. ашмянскі земскі ісправнік Плескі скардзіўся на расійскіх марадзёраў з артылерыйскай роты капі-

тана Прэбсцінга. Яны рабавалі і білі людзей у навакольных вёсках. Калі сяляне схапілі чатырох марадзёраў, то аднапалчане адбілі сваіх на ўскрайку Ашмян і разагналі сялян са скаргамі [89, ч.2].

Свой уклад у хвалю гвалтаў унеслі і мясцовыя жыхары. Асабліва небяспечнымі былі Гродзенскі і Лідскі паветы, дзе пасля праходу арміі Жэрома Банапарта амаль не засталося войскаў. Вестфалец Рункель паведамляе, што ад Гродна летам 1812 г. аддаляцца было небяспечна: "вакол горада бадзяюцца массы бандзітаў" [135, с.106]. Самыя жудасныя гісторыі адбываліся ўздоўж дарогі Вільня – Ліда. У навакольных лясах з'явіліся банды па 4 – 20 чалавек. Яны нападалі не толькі на падарожнікаў, але і на асобныя двары, рабавалі, забівалі і калечылі людзей. Толькі некаторыя з іх былі схоплены і пакараны французскімі ўладамі: шляхціц Скіндзер з трыма сынамі (за ўзброеныя рабункі) і нехта Карэва [277, с.152]. Але гэта былі асобныя выпадкі. Атрады стралкоў ды лясной аховы стварыць не ўдалося, бо рэкруты ўсё спрабавалі ўцячы дахаты. Сіл 14-га польскага пяхотнага палка Эўзебіюша Семяноўскага, вылучанага са складу 17-й (польскай) пяхотнай дывізіі Дамброўскага і размеркаванага для падтрымання парадка гарнізонамі ў Ваўкавыску, Лідзе, Навагрудку, не хапала. Ужо ў 4 вярстах ад Вільні ці Гродна ўсялякая ўлада заканчвалася і панавала анархія. У кастрычніку 1812 г. небяспечна было на поўначы ад Гродна ў ваколіцах Мерачы. Улады Гродзенскага дэпартамента (група ў некалькі дзесяткаў чалавек) нават не рызыкнулі ехаць у Вільню гэтым шляхам.

## КРУШЭННЕ "НАПАЛЕОНАЎСКАГА МІФА"

### ВЫЗВАЛЕННЕ ЗАХОДНЯГА РЭГІЁНУ БЕЛАРУСІ АД НАПАЛЕОНАЎСКАЙ УЛАДЫ

У пачатку снежня 1812 г. ніхто ў Гродне не ўяўляў сабе катастрофу, якая спасцігла "Вялікую армію" Напалеона. Галоўнай навінай былі баі расійскага корпуса генерал-лейтэнанта Ф.В.Остэн-Сакена з войскамі Рэнье і Шварцэнберга каля Ваўкавыска 14 – 16 лістапада. Пра Напалеона ведалі, што ён пакінуў Маскву і вяртаецца назад з новай перамогай. Пра жахі Бярэзіны і набліжэнне рускіх да Вільні не было вядома. Узмоцнены 32-й пяхотнай дывізіяй Дзюрута VII, (саксонскі) корпус Рэнье з 25 лістапада па 1 снежня знаходзіўся ў Брэсце. Саксонцы адпачывалі пасля праследавання Остэн-Сакена. Шварцэнберг, пакінуўшы 14 лістапада Слонім, каб дапамагчы Рэнье адбіць рускіх ад Ваўкавыска, вяртаўся назад – у Слонім. Аўстрыйцы дасягнулі Слоніма 7 снежня і першымі зразумелі сапраўдны стан рэчаў. Шварцэнберг, не папярэдзіўшы мясцовыя ўлады, пачаў адыход на Беласток. Адступленне аўстрыйцаў прык-

рываў з тылу ар'ергард Фрымона, а з фланга – атрад Мора ў Мастах. Паражэнне Напалеона вельмі ўзрадавала аўстрыйцаў. Яны ўжо глядзелі на рускіх як на будучых саюзнікаў і спакойна пакідалі сваіх параненых і хворых. У Слоніме расіяне знайшлі 152 хворых аўстрыйца, у Гродне – звыш 700 "аўстрыйцаў і вянгерцаў" [89, ч.2; 205].

Саксонскі корпус Рэнье 1 снежня пакінуў Брэст і рушыў на поўнач. 2 снежня саксонцы былі ўжо ў Шарашэва. 4 снежня, выконваючы загад Напалеона аб далучэнні да "Вялікай арміі", саксонцы працягвалі свой марш праз Пружаны на Смаляніцу. 6 снежня VII корпус Рэнье быў у Ружанах. Корпус быў у цяжкім стане, і Рэнье вельмі сумняваўся, што здолее сапраўды дапамагчы свайму імператару. У саксонцаў заставалася менш 1 000 шабель кавалерыі ды ў кожным батальёне да 80 хворых. У такіх умовах Рэнье пацягнуўся назад. Саксонцы занялі вёскі Чахец і Козі Брод. Чакаць дапамогі было бессэнсоўна. З боку Варшаўскага герцагства падышоў толькі невялікі польскі атрад у 600 – 800 чалавек, які заняў Цярэспаль, але не рызыкнуў перапраўляцца ў Брэст [273, с.211 – 213]. 16 снежня саксонцы пачалі адступаць на захад. 19 снежня войскі Рэнье дасягнулі ваколіц Брэста. Штаб Рэнье і 21-я саксонская дывізія Лекока занялі Воўчын, 32-я французская дывізія Дзюрута – Высока-Літоўск, 22-я саксонская дывізія Функа стаяла ў Казловічах каля Брэста, а да вёскі Матыкалы выслалі патрулі [273, с.214 – 215].

У гэтыя дні ў 170 км на поўнач ад Слоніма разыгрываўся апошні акт жудаснай драмы – адступлення "Вялікай арміі". Зараз ад яе заставалася толькі 9 тыс. баяздольных салдат і шматтысячны натоўп хворых і знясіленых людзей. 4 снежня 1812 г. рэшткі напалеонаўскай арміі дасягнулі Смаргоні. Паводле ўспамінаў цудам ацалелых французаў, гэта быў самы жудасны дзень адступлення з Масквы. Пайшоў моцны снегапад, стала вельмі холадна, а вецер прабіраў да касцей. Уздоўж дарогі Маладзечна – Смаргонь ляжалі сотні знясіленых і акалелых ад марозу салдат. Шмат немцаў і італьянцаў збегла са сваіх палкоў па навакольных вёсках і чакала рускіх, каб здацца ў палон [113, с.299]. 6 снежня расійскія войскі на чале з Чапліцам разбілі каля Смаргоні французскі ар'ергард. Рускія захапілі 25 гармат і 1 200 палонных. 7 снежня, скарыстаўшы адсутнасць ар'ергарда, расіяне на чале з Платавым і Чапліцам навалілbackslash;ся на галоўныя сілы "Вялікай арміі" – велізарны натоўп фізічна і маральна вычарпаных людзей. Расіяне захапілі каля 3 тыс. палонных і занялі Смаргонь. 8 снежня паміж Смаргонню і Ашмянамі расіяне, рухаючыся па слядах рэштак "Вялікай арміі", ўзялі яшчэ каля 2 тыс. палонных і 61 гармату. 10 снежня расійская армія авалодала Вільняй [198, с.65 – 66].

Расійскі галоўнакамандуючы М.І.Кутузаў даручыў назіранне за аўстрыйцамі і вызваленне Панямоння атраду генерал-маёра графа Адама Пятровіча Ажароўскага. Польскі арыстакрат А.П.Ажароўскі быў пато-

мным прыхільнікам Расіі. Яго бацька – вялікі каронны гетман Пётр Ажароўскі – быў павешаны ў 1794 г. у Варшаве за ўдзел у Таргавіцкай канфедэрацыі і прарускую дзейнасць на апошнім сейме Рэчы Паспалітай у Гродне ў 1793 г. Сам А.П.Ажароўскі служыў у арміі Касцюшкі. Пасля гібелі Рэчы Паспалітай перайшоў на расійскую службу і стаў блізкім сябрам Аляксандра І. Падчас праследавання французаў Ажароўскі камандаваў асобным атрадам у складзе 9-га егерскага, Марыўпальскага гусарскага і чатырох казацкіх палкоў. З 28 лістапада Ажароўскі атрымаў у якасці рэзерва яшчэ 1-шы егерскі полк і сотню казакаў. Атрад Ажароўскага рухаўся праз Валожын – Трабы – Ліду, якую ён дасягнуў 14 снежня 1812 г. Нястача харчавання прымусіла Ажароўскага затрымацца на Лідчыне. Ён заняў атрадамі данскіх казакаў Беліцу і Ішчална, а сам застаўся ў Лідзе. Тут Ажароўскі сабраў павятовага маршалка Нарбута і мясцовых чыноўнікаў французскай адміністрацыі і запатрабаваў даставіць у Ліду ўсе прыпасы па “французскіх “рэквізіцыях” [233, с.279].

За Ажароўскім рухаліся іншыя расійскія часці. Ад Гальшанаў надыходзіў авангард расійскай арміі на чале з генерал-лейтэнантам І.В.Васільчыкавым І. 19 снежня ён заняў Масты, а 22 снежня дасягнуў Малой Бераставіцы. 13 снежня з Мінска на Слонім рушыў ІІ расійскі рэзервны корпус генерала Д.С.Дохтурава (былы ІІ рэзервны корпус Эртэля з Мазыра, колькасцю звыш 12 тыс. чалавек) [261, с.151].

Падсілкаваўшыся і “паправіўшы” кавалерыю, Ажароўскі рушыў з Ліды на Гродна. На сваім шляху Ажароўскі пакідаў пасты ваеннай пошты ў Ішчалне, Шчучыне і Каменцы па 3 казакі і 1 ўрадніку на кожны пост. Дасягнуўшы 19 снежня Гродна з боку Скідзельскай заставы, Ажароўскі пачаў перамовы з аўстрыйскім генералам Фрэйліхам, які са сваім атрадам займаў горад. Аўстрыйцы мелі каля чатырох тысяч чалавек кавалерыі і пяхоты ды 30 гармат і адмаўляліся аддаць Гродна з усімі запасамі і магазінамі. Ажароўскі не рызыкнуў прымяніць сілу. Ён адправіў Кутузаву рапарт аб упартасці аўстрыйцаў і застаўся каля Гродна. Магчыма, нерашучасць Ажароўскага была выклікана дзвюма прычынамі. Па-першае, ён меў загад па магчымасці не “чапляць” аўстрыйцаў як былых і будучых саюзнікаў Расіі ў барацьбе з Напалеонам. Па-другое, пад час праследавання Напалеона Ажароўскі стаў адзіным расійскім камандзірам, які зведаў горыч сапраўднага паражэння. У ноч з 15 на 16 лістапада яго бівак у вёсцы Куткова на Смаленшчыне быў нечакана атакаваны дывізіяй Маладой гвардыі на чале з генералам Рогэ. Ажароўскі ледзь уцёк, страціўшы палову свайго атрада. Толькі асабістае сяброўства з Аляксандрам І выратавала Ажароўскага ад пакарання. Таму Ажароўскі не спяшаўся рызыкаваць [233, с.217 – 218, 249]. У выніку лаўры вызваліцеля Гродна дасталіся іншаму “партызану” – Дзянісу Васільевічу Давыдаву, а атрад Ажароўскага быў расфарміраваны 22 снежня 1812 г. як выканаўшы сваю задачу.

12 снежня ў Новых Троках Дзяніс Дывадаў атрымаў ад дзяжурнага генерала пры аб’яднаным штабе 1-й і 2-й армій П.П.Канаўніцына загад ісці на Гродна, а таксама ліст ад генерал-кватэрмайстра, у якім гаварылася аб жаданні М.І.Кутузава “бачыць войскі нашыя ў добрых адносінах з аўстрыйцамі” [106, с.238]. Апошняе галоўнакамандуючы паўтарыў Давыдаву 13 снежня на сустрэчы ў Вільні: ісці “прама да Гродна, каб я імкнуўся заняць гэты горад і вызваліць ваколіцы яго больш праз сяброўскія перамовы, чым сілаю зброі. Калі ж знайду першы спосаб недастатковым, дык дазволіў мне ўжыць і апошні, але з умоваю, каб адразу адсылаў палонных у непрыяцельскі корпус не толькі не пакрыўджаных, але ласкава прынятых і ўсім задаволеных” [106, с.238].

15 снежня ў Вільню паступіў чакаемы ад камандзіра партызанскага атрада генерала А.П.Ажароўскага рапарт аб тым, што ён заняў 14 снежня Ліду і просіць застацца тут для “лепшага харчавання і папраўлення кавалерыі” [106, с.240]. Давыдаў адразу ж адправіўся ў Новыя Трокі, адкуль са сваім атрадам пайшоў на Гродна. Авангард узначаліў маёр Аляксандр Мікалаевіч Чачэнскі. Гэта быў сапраўдны чачэнец, якога хлопчыкам вывезлі з Каўказа, хрысцілі і аддалі ў расійскае войска, дзе ён дaслужыўся да генерал-маёра. 20 снежня Чачэнскі сутыкнуўся каля Гродна з аванпастамі аўстрыйскага корпуса і ўзяў у палон двух гусараў. Паводле загада Кутузава і настаўлення Давыдава, Чачэнскі адправіў іх генералу Фрэйліху. Аўстрыйцы прыслалі да Чачэнскага парламенцёра з падзякаю, а той выкарыстаў гэта для перамоваў. Яму ўдалося перакanaць генерала Фрэйліха адысці за мяжу і не спальваць пры гэтым правіянцкія і камісарыяцкія запасы (коштам каля 1 млн. руб.). Генерал расійскай арміі А.П.Ярмолаў (стрыечны брат Д.Давыдава) так апісаў гэтыя падзеі: “Генерал-ад’ютант Ажароўскі з’явіўся з атрадам, прапанаваў здацца і атрымаў адмоўны адказ. З атрадам казакаў, значна слабейшым, партызан Давыдаў без напышлівых прамоў прыдворнага чалавека, не закранаючы палітыку, наблізіўся да перадавой непрыяцельскай аховы, пагражаючы, калі не будзе здадзены горад, атакаваць яго войскам, якое ідзе за ім. Раздаўся звон шклянак паміж вянгерскімі гусарамі, і пры хвале айчыннаму напітку, рука ў руку, у знак прыязні з начальнікам іх зроблена ўмова, і горад наш! У адзін час дайшлі да фельдмаршала рапарты: графа Ажароўскага, што аўстрыец не здае горада, і партызана Давыдава, што горад ім заняты” [128, с.58].

Чачэнскі ўвайшоў у Гродна, спыніўся на плошчы, заняў вуліцы, паставіў каравулы пра магазінах і шпіталях. Давыдаву ён данёс пра антырасійскія настроі польскіх жыхароў горада. Сам Д.Давыдаў прыехаў у Гродна 21 снежня. З палону былі вызвалены 467 радавых і 14 параненых расійскіх афіцэраў. У палон трапіў 661 варожы салдат. Пры ўездзе ў горад Давыдава сустрэлі яўрэі. Для таго, каб падкрэсліць свае добрыя адносіны да іх за добразычлівасць да рускіх, Давыдаў сказаў некалькі

добрых слоў і “ўехаў у Гродну пад жыдоўскім балдахінам” [106, с.241]. На Параднай плошчы (цяпер Савецкая) ён сышоў з каня і загадаў біць у барабан гарадской паліцыі. Калі сабраўся вялікі натоўп гараджан, быў зачытаны загадзя падрыхтаваны зварот (копіі яго пасля будуць распаўсюджаны па гораду): “...Паны палякі! У чорную вопратку! Рэдкі з вас не пазбавіўся бліжняга па сваяцтву або па сяброўству: з васьмідзесяці тысяч вашых войск, рызыкнуўшых уступіць у межы нашыя, пяцьсот толькі бягуць прэч; іншыя ляжаць на вялікай дарозе, марозам закасцянелыя і засыпаныя снегам рускім.

Я ўвайшоў сюды пры дапамозе мірнай дамовы, мог тое ж зрабіць моцаю зброі, але я ахвяраваў славаю атрада майго для выратавання горада, які належыць Расіі. Бо вам вядома, што бітва на вуліцах заканчваецца рабункамі ў дамах, а рабункі – пажарамі.

І што ж? Я вас выратоўваю, а вы самі сябе губіць хочаце! Я бачу на тварах палякаў, тут сабраўшыхся, і злосць, і каварныя задумы; я бачу нахабнасць у асанцы і выклік у поглядзе; шаблі на бёдрах, пісталеты і кінжалы за паясамі... Навошта ўсё гэтае, калі вы хацелі б шчыра звярнуцца да тых абавязкаў, ад якіх вам ніколі не трэба б адыходзіць?

Такім чынам, насуперак вам самім я павінен прыняць меры да вашага выратавання, бо адзін выстрал – і гора ўсяму гораду! Невінаватыя загінуць разам з вінаватымі... Усё – у прах і попел!

Каб адхіліць бяду – не войскам маім, якія знойдуць у ёй толькі карысць, а гораду, якому пагражае разбурэнне, – я змяняю яго ўпраўленне...”.

Далей ішлі распараджэнні аб кіраванні горадам і забеспячэнні парадку. Падпалкоўнік Храпавіцкі быў прызначаны начальнікам горада, а яўрэйскі кагальны – начальнікам паліцыі. Усё насельніцтва ў кароткі тэрмін (дзве гадзіны) павінна было здаць усю агнястрэльную зброю і спаліць алегарычныя карціны, якія праслаўлялі французаў, а на іх месцы размясціць тыя, якія “праслаўляюць вызваліцеля Расіі ад нашэсця адукаваных варвараў”. Асаблівае незадавальненне выклікала ў Давыдава карціна, якая знаходзілася на балконе аптэкі езуітаў. “На ёй былі намаляваны арол Францыі і белы арол Польшчы, якія разрываюць на часткі дзвюхгаловага арла Расіі. Я загадаў паклікаць да сябе аптэкара і сказаў яму да 12-га чысла, гэта значыць, да дня нараджэння Аляксандра, напісаць карціну цалкам супрацiўнага зместу, дабавіўшы да арлоў Францыі і Польшчы яшчэ двух арлоў, якія адлятаюць ад аднаго арла рускага” [106, с.243]. Аптэкар скардзіўся, што не паспее намаляваць карціну ў прызначаны тэрмін, Давыдаў раззлаваўся і загадаў прыставіць да яго дома каравул “з тым, каб цэлыя суткі 12-га чысла не было ў яго нідзе агню не толькі ў доме, але нават і на кухні, а 13-га вечарам, калі нідзе ўжо не будзе ілюмінацыі, сказаў яму асвятліць усе вокны і выставіць на балконе названую карціну. Так і было”.

Для патрулявання па горадзе “дзённа і ночна” была выдзелена сотня казакаў. Ксяндзу загадвалася сказаць у касцёле прамову, у якой трэба праклясці Напалеона, яго войска і саюзнікаў, “ухваліць расійскага імператара, народ і войска”. Загады Давыдава, відаць, былі выкананы без ваганняў. Гродзенскі гісторык Я.Ф.Арлоўскі пісаў: “Застукалі сякеры, і паваліўся слуп, які паставілі ў Гродне ў памяць захопу Напалеонам Масквы... Зашугалі раскладзеныя казакамі вогнішчы, і ў іх былі спалены алегарычныя карціны з насмешкамі над рускімі... Па горадзе пайшлі казацкія патрулі, не дазваляючы нідзе збірацца пазней 5 гадзін вечара...” [177 с.42]. Усе магазіны (склады) былі апячатаны і каля іх былі выстаўлены каравулы. Кагальны павінен быў скласці спіс усіх чыноўнікаў і жыхароў, якія запісаліся на службу Княства Варшаўскага. Пазней яны прыйшлі да Давыдава, і ён “гаварыў ім буйна, без косак і кропак, і завяршыў свой маналог загадам ісці разам з ім у рускую царкву маліцца за цара рускага і падзякаваць Богу за збаўленне Расіі”.

24 снежня, у дзень нараджэння Аляксандра I, адбылося богаслужэнне з нагоды вызвалення горада ад напалеонаўскага нашэсця. Усе гарадскія чыноўнікі павінны былі з’явіцца да Давыдава з віншаваннямі, горад быў асветлены, гучалі званы ўсіх царкваў. Магчыма, гарадзенцы ўспаміналі ў гэты час, як 15 жніўня яны адзначалі дзень імянін Напалеона. У Гродне Давыдаў жыў насупраць ратушы, у пакоях старажытнага палаца Радзівілаў (ён знаходзіўся каля сучаснай плошчы Савецкай), займаўся службаю, а вольны час бавіў з баявымі сябрамі. Між іншым, у сваіх “Военных записках” ён пісаў пра візіты на яго кватэру М.Анджэйкавіча, з якім Храпавіцкі павінен быў мець кантакты па пытаннях харчавання атрада; старога графа Валіцкага, які прыйшоў прасіць апекі ад разрабавання; вянгерскага ўраджэнца Рота, пяць сыноў якога служылі ў расійскай арміі.

25 снежня Давыдаў атрымаў загад ісці на Ганёндз (цяпер мястэчка ў Ломжынскім ваяводстве, РП). Яго атрад выступіў без затрымкі, аднак сам ён захварэў і вымушаны быў застацца ў Гродне яшчэ на пяць дзён (відаць, прастудзіўся ў халодных палацавых залах). У горад увайшла кавалерыя генерал-лейтэнанта Ф.К.Корфа, а на наступны дзень – пяхота генерала М.А.Міларадавіча. У гэты час Давыдаў пераехаў да яго на жыхарства і як літаратар дапамагаў яму пісаць любоўны ліст да графіні Арловай-Чэсменскай. Пад час акупацыі Напалеонам Масквы Міларадовіч засланіў сваімі войскамі ад марадзёраў маёнтак Арловых. За гэта “багацейшая нявеста Расіі” дачка знакамітага графа Аляксея Арлова падаравала Міларадовічу аздоблены каштоўнымі каменямі меч свайго бацькі (падарунак Кацярыны II за перамогу ў Чэсменскай бітве). Гэты падарунак дагнаў Міларадовіча толькі ў Гродне і баявы генерал адразу выкарыстаў гэтую магчымасць, каб пачаць любоўную перапіску. Гэты “эпісталярны раман” стаў галоўнай навінай у расійскай арміі пад час яе побыту ў Гродне. Міларадавіч забыўся пра кіраванне горадам, не пры-

маў, нават каменданта горада і чыноўнікаў корпуса. Давыдаў пісаў: “Шпіталь ператварыўся ў могілкі, поўныя хлебам, сукном і скурамі магазіны зліквідаваліся панаехаўшымі ў Гродна камісарыяцкімі чыноўнікамі, палякі пачалі яўна крыўдзіць рускіх на вуліцах і ў дамах сваіх, словам, беспарадак дайшоў да верхняй ступені” [106, с.247].

30 снежня Давыдаў быў у Тыкоціне (зараз у Польшчы). У Сакулцы спецыяльны нарочны даставіў яму ад генерала П.П.Канаўніцына пакет з узнагародамі – ордэнамі св.Георгія 4-га класа і св. Уладзіміра 3-й ступені. Апошні – за вызваленне Гродна. Гродзенская аперацыя дапамагла знакамітаму партызану ў сакавіку 1813 г., калі яго звальнялі са службы за дзеянні, не ўзгодненыя з вышэйшым начальствам. М.І.Кутузаў у размове пра службу Давыдава нагадаў цару Аляксандру І пра Гродна, і той дараваў і вярнуў у армію баявога афіцэра.

29 снежня адбыліся мерапрыемствы ў гонар пахаванага ў Гродне палкоўніка Я.Я.Давыдоўскага (пра яго Вы чыталі ў першай главе кнігі). У 9.00 гадзін раніцы камандзір 1-га егерскага палка генерал-маёр Міхаіл Іванавіч Карпенкаў вывеў егераў за гарадавое прадмесце, на праваслаўныя могілкі. Баявы сябра пакойнага штабс-капітан Воячаў нёс перад першым узводам на талерцы, пакрытай блакітным бархатам, вянок з лаўровых галін. Пастроеныя перад помнікам, зробленым з цэглы, салдаты далі тры аружэйныя залпы. Потым барабаншчыкі адбілі на малітву, Карпенкаў паклаў на магільны помнік вянок і разам з усім палком пакланіўся праху свайго папярэдніка. Палкавы святар адслужыў паніхіду, пасля якой полк стаў у ружжо насупраць могілак, і пасля бою трывогі пачуўся доўгачасовы батальённы агонь з крыкамі “ўра”. У завяршэнні полк прайшоў цэрыманіяльным маршам каля помніка, у гэты час музыканты ігралі любімы палкавы марш Давыдоўскага, афіцэры салютавалі, а Карпенкаў і два ад’ютанты прыхілілі шпагі да зямлі. У другой палове дня Карпенкаў даў абед штаб- і обер-афіцэрам, ваенным і жыхарам Гродна. Гучалі тосты за Давыдоўскага, ягоны саратнік маёр Бек расказваў пра подзвігі героя [232, с.218 – 219].

У “Краткіх сведениях о жителях г.Гродно и военнослужащих местного гарнизона, похороненных на городских православных кладбищах в XIX – начале XX века”, складзеных гродзенскім гісторыкам В.М.Чарапіцай, звестак пра магілу Давыдоўскага няма. [245, с.71 – 100]. Па словах прафесара, на могілках па вуліцы Антонава ёсць старажытныя так званыя “сувораўскія слупы”, зробленыя з цэглы. Мяркуем, што адзін з іх, размешчаны недалёка ад магілы С.Н.Ланскога (1814 г.), мог бы быць помнікам Давыдоўскаму (1806 г.).

25 снежня 1812 г. атрад Давыдава рушыў у Польшчу, а на яго месца прыбыла кавалерыя генерал-лейтэнанта Ф.В.Корфа. 26 снежня надышла пяхота генерала М.А.Міларадовіча. Да студзеня 1813 г. у Гродна падцягваліся ўсё новыя і новыя расійскія палкі. 29 – 30 снежня 1812 г. знач-

на ацяплілася. Дарогі раскіслі. Вецер з дажджом засляпляў вочы расіянам, якія надыходзілі ў Гродна. Нібыта лютая зіма, якая знішчыла ад Маладзечна да Вільна рэшткі "Вялікай арміі", адступіла, адыграўшы сваю гістарычную ролю. Вось як рускі артылерыст І.Т.Радажыцкі апісвае Гродна ў тыя дні: "Жыхары горада, шляхта і цывільныя французы з набліжэннем рускіх паехалі ў Варшаву. Таму многія дамы былі пустыя [...] Замест жыхароў сустракаліся большай часткай свае салдаты і аўстрыйцы ці венгры, якія выйшлі з шпіталяў. Хворых непрыяцеляў заставалася ў горадзе мноства; але на вуліцах не было бачна трупаў ці абгарэлых разваліна ў дамоў". У горадзе заставаліся вялікія правіянтскія магазіны з белымі сухарамі, якія раздалі салдатам. Дыпламаты толькі пачыналі перамовы, а на вуліцах Гродна ўжо ішло братанне рускіх і аўстрыйскіх вайскоўцаў. Менавіта ў Гродне расійскія палкі ўпершыню пасля выхаду з Таруціна атрымалі магчымасць адпачыць і прывесці сябе ў належны стан. Працавалі рэстараны і "обержы" – рэстараны з більярдам, дзе расійскія афіцэры пілі за перамогу ды частаваліся тагачаснымі фірменнымі гродзенскімі стравамі: зразамі, бігасам і "густой чорнай кавай са смятанкай – лепшай кавай у Еўропе", як падкрэсліў Радажыцкі, які прайшоў усю Еўропу да Парыжа. Усё каштавала даволі танна, відаць, гэтак паўплывала на гандляроў дзейнасць Давыдава і страшэнны разгром "Вялікай арміі". Радажыцкі ўзгадвае, што войскі займалі лепшыя кватэры, таму што ў Гродне засталіся толькі яўрэі і бедната, а ўсе "энтузіясты-патрыёты" збеглі і вярнуліся толькі пасля царскай амністыі [205, с.294 – 295]. 14 студзеня 1813 г. у Гродне адбыўся баль. Каб забяспечыць "масавасць", яго правялі ў форме "касіна" – сходу па білетах. Зразумела, што ніхто з мясцовых шляхцiцаў, атрымаўшых запрашэнні, не адмовіў пераможцам. Вось як рускі афіцэр Ф.К.Глінка апісаў першы пасляваенны гродзенскі баль: "Дом дваранскага сходу быў асветлены. Прыгожыя патрыёткі, фальшывыя прыхільніцы Айчыны, спачатку вельмі няласкава глядзелі на сваіх прыгожых пераможцаў – рускіх афіцэраў. Яны жадалі выглядаць шчырымі прыхільніцамі вольнасці, якія ў роспачы томна ўздыхаюць аб яе страце; жадалі плакаць... але неўзабаве зайгралі мазурку – і ўсе пусціліся кружыцца". Пад уражаннем гродзенскага балю Ф.К.Глінка падкрэсліў, што "польскім жанчынам менш за ўсё трэба баяцца заваявання: іх грацыя, розум і прыгожыя вочы спрадвек прыносілі ім перамогі над сэрцамі мужчын" [105]. 2 студзеня 1813 г. расійскія войскі пачалі рухацца далей – на Варшаву – Дрэздэн.

23 снежня 1812 г. саксонскі корпус фарсіраваў Буг на поўнач ад Брэста і адыйшоў у Польшчу. 25 снежня аўстрыйцы пакінулі Беластоцкую вобласць і пацягнуліся да Варшавы. На наступны дзень у Беласток увайшоў расійскі атрад генерал-ад'ютанта І.В.Васільчыкава. 25 снежня расійскі атрад палкоўніка Мініцкага з корпуса Остэн-Сакена заняў Брэст. 31 снежня расійскі корпус генерала Д.С.Дохтурава, які рухаўся з Мінска

на Беласток, заняў Ваўкавыск. 2 студзеня 1813 г. корпус Остэн-Сакена, які ішоў услед за адыходзячымі саксонцамі, разгарнуўся ўздоўж Буга. Паводле рапартаў Остэн-Сакена, пад час свайго праследавання ён узяў у палон каля 1 тыс. чалавек і яшчэ столькі ж хворых аўстрыйцаў і саксонцаў засталося ў розных месцах [198, с.68 – 70]. Заходні рэгіён Беларусі ператварыўся ў тылавую тэрыторыю – ізноў расійскую.

## УЦЁКІ НАПАЛЕОНА БАНАПАРТА

Хто толькі ні пісаў пра гэты цікавы сюжэт “Напалеон у Смаргоні і Ашмянах”! Успомнім гістарычную хроніку “Напалеон” Аляксандра Дзюма, раман “Сожжённая Москва” Рыгора Данілеўскага, “Ратник. Рассказ партизанского офицера” Аляксандра Бястужава-Марлінскага, манаграфію “Наполеон Бонапарт” Альберта Манфреда, раман “Кутузов” Лявонція Ракоўскага, нарысы Барыса Клейна і Кастуся Тарасава, публікацыі краязнаўцаў У.Зінкевіча, І.Сцяпуніна, У.Шумава, В.Канцельсона, З.Ленартовіча, Д.Гаўрыліна.

Якіх толькі паданняў і легенд не прачытаеш у гэтай літаратуры! Напрыклад, аб пакушэнні на жыццё Напалеона ў Ашмянах, або як ён еў там амаль жывую курыцу, раздзіраючы яе рукамі. Пра старую карчму ў Ашмянах, дзе быццам бы начаваў Напалеон і пакінуў надпіс: “Napoleon premer” (“Напалеон першы”), а калі там была кватэра Кутузава, дык той асабіста дапісаў: “Et dtrnier” (“І апошні”). А яшчэ гаварылі пра тое, што ёсць у ваколіцах Ашмян магіла графіні Крамаравай, якая спрабавала забіць французскага імператара, і недзе схавана карэта, у якой збег ён у Францыю.

Каб аддзяліць зерне ад пустазелля, звернемся да мемуараў генерала і дыпламата, чалавека, які на прцягу вайны 1812 – 1813 г. знаходзіўся пры Напалеоне, Армана дэ Каленкура, і даведаемся, калі ўзнікла ў імператара думка аб тым, каб пакінуць сваю армію і збегчы ў Францыю. Ён піша пра тое, як вечарам у Талочыне, калі Напалеон лёг спаць, Дару і Дзюрок размаўлялі пра паветраны шар, каб увезці Напалеона. На наступны дзень, 23 лістапада, дзяржаўная канцылярыя спальвала свае паперы. Напалеон пажартаваў: “Паветраны шар сапраўды не быў бы лішні” і абмеркаваў з Каленкурам, што трэба падрыхтаваць для ад`езду. У Талочыне Банапарт даведаўся аб эвакуацыі французаў з Мінску і быў здзіўлены. Ваенны выпадак меў уплыў на рашэнне пакінуць “паміраючую армію”. 29 лістапада ў вёсцы Камень Напалеон вырашае ехаць у Францыю, а 3 снежня ў Маладзечна ад`езд яго, як успамінае Каленкур, “становіцца неабходным, ён спяшаецца ехаць, пакуль дарогі больш надзейныя”. У Маладзечна Напалеон, нарэшце, атрымаў пошту – 14 парыжскіх эстафет, дэпешы з усіх пунктаў камунікацыйнай лініі, данясенне герцага Басана аб манёўрах аўстрыйскага корпусу. Навіны былі

не-суцяшальныя: звестак аб наборы польскай кавалерыі не было, ліцвінска-беларускага войска таксама, бо калі фінансы Княства Варшаўскага былі вычарпаны, дык ВКЛ мела яшчэ меншыя рэсурсы. Усё сказанае таксама ўплывала на рашэнне Напалеона [145, с.250 – 251].

У Маладзечна быў падрыхтаваны знакаміты 29-ты бюлетэнь Напалеона (яго назвалі "пахавальным"). Ён не прымяншаў і не ўпрыгожваў страты французаў і таму выклікаў у Францыі і Еўропе надзвычайныя ўражанні. Але дзіўна гучала заключная фраза бюлетэня: "Здароўе Яго вялікасці ніколі не было лепшым". А.Манфрэд лічыў, што гэта азначала: "Леў атрымаў цяжкія раненні, але ён не мёртвы, ён яшчэ захоўвае моц, ён небяспечны. Сцеражыцеся!" [164, с.638]. Напалеон бачыў немінуючую пагібель арміі і не хацеў рызыкаваць сабою і сваім асяроддзем дзеля асуджаных на смерць яе рэшткаў. Трэба было ехаць у Парыж, каб растлумачыць 29-ты бюлетэнь, напомніць аб сабе, аб сваёй уладзе і набраць новае войска для новай кампаніі. Для Напалеона, па словах Е.Тарле, "рускі паход быў толькі прайгранай партыяй. Ён быў ужо заняты падрыхтоўкай новай партыі і абдумваў, як яе выйграць" [225, с.225].

5 снежня Напалеон каля поўдзеня апынуўся ў Смаргоні. Тут яго чакалі два чалавекі: адзін з членаў часовага ўрада ВКЛ (прозвішча знайсці не ўдалося) і ад‘ютант граф ван Хагендарп, губернатар Вільні. Імператар паразмаўляў з імі і хутка адаслаў. Аб чым была размова, невядома, можна толькі здагадвацца, што рэч ішла пра ад‘езд Напалеона і пра тое, каб яго чакалі ў Вільні. Пасля размовы Напалеон прадыктаваў Каленкуру загад:

"Смаргонь, поўдзень 5 снежня. Імператар выязджае ў 10.00 гадзін вечара. Яго суправаджаюць 200 чалавек з ягонай гвардыі. Пасля перакладнога пункта паміж Смаргонню і Ашмянамі яго суправаджае да Ашмян маршавы полк, які знаходзіцца ў чатырох лье адсюль, і перадаць распараджэнне гэтаму палку праз генерала ван Хагендорфа. 150 лепшых гвардзейскіх кавалерыстаў будуць пасланы на адлегласць аднаго лье ад Ашмян. Штаб маршавага палка і эскадрон гвардзейскіх уланаў будуць размешчаны на этапах паміж Смаргонню і Ашмянамі... Імператар паедзе з герцагам Вічэнцкім (А. дэ Каленкурам. – В.Ш.) у экіпажы Яго высокасці і наперадзе – пан Вансовіч, ззаду – прыдворны лакей; оберцэрымоніймайстар граф Лабо, адзін прыдворны лакей і адзін рабочы – у калясцы; барон Фэн (сакратар кабінета імператара. – В.Ш.), прыдворны лакей Канстан, захавальнік партфеля і адзін канцылярскі служачы – у калясцы..." [145, с.271].

Жыццё ўнясе ў загад свае карэктывы, але запомнім, што гаворыцца пра экіпаж імператара і дзве каляскі, або, інакш кажучы, пра тры карэты ды яшчэ пра транспарт, на якім паедзе Вансовіч (гэта былі сані). Большасць гісторыкаў, якія даследуюць гэтыя падзеі, амаль усе пішуць пра адну карэту Напалеона.

Каля 7.00 гадзіны вечара ў стаўку, якая размяшчалася ў памешчыцкім палацы, пачалі збірацца маршалы і генералы. Прыйшлі неапалітанскі кароль, маршал Іяхім Мюрат; віцэ-кароль Італіі камандзір корпуса Яўген Багарнэ і маршалы – герцагі: Эльхігенскі – Мішэль Нэй, Трэвізскі – Эдуард Адольф Марцье, Істрыйскі – Жан Батыст Бес‘ер, Данцыгскі – Ф.-Ж. Лефэўр, князь Экмюльскі – Людовік-Нікаля Даву. Яны ўтварылі свайго роду нараду, хаця Напалеон ні з кім не раіўся і нічога не абмяркоўваў. Відаць, быў прачытаны 29-ты бюлетэнь. Затым Напалеон аб‘явіў аб сваім рашэнні адправіцца ў Парыж і запрасіў усіх выказаць свае погляды наконт гэтага. Ніхто не пярэчыў, бо разумеў, што гэта дарэмна.

Вось што піша пра гэта ўдзельнік нарады Каленкур: “Ён зрабіў выгляд, што перадае гэты праект на абмеркаванне (але мы ўжо ведаем, што пытанне было вырашана 29 лістапада. – В.Ш.), і ўсе адзінагалосна сцвярджалі, што ён павінен ехаць. Былі выказаны ўсе тыя доказы, якія мы раней абмяркоўвалі паміж сабой, усе тыя матывы, якія павінны былі абгрунтаваць гэтае важнае палітычнае рашэнне” [145, с.273].

У заключэнне Напалеон падзякаваў усім за іх добрыя дзеянні пад час кампаніі, раздаў кожнаму загады: генерал Жак Ларыстон павінен быў адправіцца ў Варшаву і збіраць там войскі, генерал Жак Рап павінен быў ехаць у Данцыг і г.д. Напалеон зацвердзіў, што ён едзе ў Парыж, каб прывезці трыста тысяч салдат для новай кампаніі. Вось вам і працяг 29-га бюлетэня, і доказ таго, што леў “захаваў моц, і ён небяспечны”. Галоўнакамандуючым французскай арміі застаўся Мюрат – ён быў не лепшым з маршалаў, але старэйшым па манархічнай іерархіі. Інструкцыя Напалеона прадпісвала яму сабраць рэшткі арміі ў Вільні і трымацца тут і ў Коўна на зімніх кватэрах. У крайнім выпадку трэба было забраць усе рэчы і ісці ў Данцыг.

Вечарам, паміж 8.00 і 10.00 гадзінамі, Напалеон выязджаў са Смаргоні. Можна нават сказаць, што гэта быў не ён, бо разам з паперамі і багажом Напалеон Банапарт пакідаў сваё імя. У дальні шлях імператар адправіўся пад прозвішчам і тытулам свайго генерала Каленкура – герцага Вічэнцкага. Гэта адна з мер засцярогі, а яшчэ адной было, па словах беларускага літаратара К.Тарасава, пераапрананне Напалеона ў мундзір польскага ўлана: “У якімсьці сэнсе гэта хітрасць была самаразжалаваннем, вяртаннем з імператараў у “маленькія людзі” [224, с.131].

Пра ад‘езд Напалеона са Смаргоні напісаў у сваіх дарожных запісах ад‘ютант Дунін-Вансовіч. Іх выкарыстаў у сваёй працы яшчэ адзін сведка гэтай падзеі – Поль Бургон. У кнізе, выдадзенай у 1864 г. у Парыжы, ён пісаў: “Стаялі на дарозе тры карэты і адныя сані. У першай карэце, на два месцы, у добра вядомым усёй арміі экіпажы Напалеона сядзеў сам імператар, маючы каля сябе Каленкура; мамлюк Рустан заняў месца каля вазніцы. У другой карэце сядзелі маршал Дзюрок і граф Лабо; у трэцяй генерал – Лефэўр, камандзір конных стралкоў гвардыі, камердзінер і

двое слуг. Нарэшце, у сані, па загаду імператара, селі граф Вансовіч і бярэйтар Амандру, які адразу паведаміў маладому польскаму афіцэру, што мэтаю вандравання з‘яўляецца не Вільня, а Парыж. Эскорт склаў эскадрон з 30 конных стральцоў, выбраных генералам Лефэўрам" [278, ч.1, с.43 – 44].

Польскі даследчык М.Брандыс піша, што гэта быў эскадрон польскай лёгкаконнай гвардыі, які суправаджаў Напалеона да Ашмян, дзе яго змянілі ваяры галандскай гвардыі. Верагодна, высока ацэньваючы парадак і дысцыпліну ў польскай часці, імператар даручыў менавіта ёй апеку над фургонамі, у якіх знаходзілася казна Францыі – 30 млн. франкаў золатам. Брандыс прыводзіць яшчэ адзін факт, які мог паўплываць на рашэнне Напалеона пакінуць армію. У той жа дзень, 5 снежня, капітан французскіх грэнадзёраў Лапэ падбухторваў прускіх афіцэраў з ганаровай гвардыі забіць "тырана" Еўропы [269, с.419 – 420].

Ітак, было тры карэты. Напалеон ехаў у сваім, "добра вядомым усёй арміі экіпажы". Цікава, чаму ён не змяніў яго, каб прыняць меры засцярогі? Большасць сведкаў гаворыць пра дармез (фр. dormeuse, літаральна – соня) – старадаўнюю вялікую карэту, прыстасаваную да сна ў дарозе. Яна, відаць, была на калёсах – наперадзе ехалі сані і пракладвалі дарогу. У сані ж Напалеон перасеў або праз два дні ў Коўна [А.Манфрэд], або ўжо ў Герцагстве Варшаўскім [Ч.Янкоўскі]. Другое, на нашу думку, больш верагоднае, бо абапіраецца на сведчанне Вансовіча.

У вёсцы Жупраны паміж Смаргонню і Ашмянамі Напалеон цудам размінуўся з нейкім казачым атрадам. Літаральна за гадзіну да праезду французскага імператара казакі скончылі хадзіць па хатах, ускочылі на коней і зніклі ў невядомым накірунку [113, с.276]. У Ашмяны першым прыехаў Вансовіч. Гэта было, відаць, каля поўначы, а раней на горад зрабіў набег армейскі партызанскі атрад А.Н.Сяславіна. Даследчык Ф.Кандэля піша, што нейкі яўрэй данёс Сяславіну, што ў Ашмяны прыехаў сам Напалеон. "Яўрэй правёў атрад па сцежцы, якая была пакрыта глыбокім снегам, а ў горадзе ўсё было спакойна і ў дасканалай нядбаласці..." [137, с.75].

А.Бястужаў-Марлінскі піша: "...Да ночы наляцелі мы на Ашмяны, – там быў сам Напалеон. Нягледзячы на першынство французаў у сілах, мы ўдарылі па іх як гром. Сам начальнік наш з ахтырцамі ўрубіўся ў сярэдзіну горада, мы ўварваліся туды з усіх бакоў; лямант, трывога, пальба, шаблі і штыкі ў рабоце, але цемра, падараваўшая нам перамогу, схавала Напалеона ад пошукаў нашых, калі б мы ведалі месца начлега, Ашмяны былі геркулесавымі слупамі яго поля дзейнасці" [81, с.643]. Сяславін вымушаны быў адступіць, бо да горада падыходзіла з Вільні 31-я французская дывізія генерала Луазона. Калі прыехаў Вансовіч, то ён і ўбачыў частку ваяроў генерала Грасьена з гэтай дывізіі і Ашмянскі гарнізон (французы, немцы, узвод польскіх уланаў) у баявой гатоўнасці.

Ахоўныя меры не былі марнымі – з усіх бакоў падыходзілі да Ашмян і расійскія войскі, якія праследавалі адыходзячую “Вялікую армію”, а дакладней, тое, што ад яе засталося.

Напалеон прыехаў амаль праз гадзіну пасля Вансовіча. Апошні абудзіў яго ад сна і далажыў становішча. Расказанае не здзівіла імператара – ён гэта прадбачыў. Запытаўся, ці падрыхтаваны новы эскорт. Вансовіч адказаў, што стаяць 266 уланаў. Цудоўна, – сказаў Напалеон, выйшаў з карэты і загаварыў з камендантам гарнізона. Потым загадаў падаць яму карту Літвы і ўважліва яе вывучаў. Генералы закліналі яго не ехаць на яўную пагібель, або хаця б пачакаць да раніцы наступнага дня. Пасля хвіліннага вагання імператар вырашыў не заставацца ў Ашмянах на ноч. Яму здавалася, што ў белы дзень адпраўляцца ў дарогу больш небяспечна. Напалеон запытаў ад‘ютанта:

– Польскія ўланы падрыхтаваны?

– Так, Ваша імператарская Вялікасць, яны былі тут перад нашым прыбыццем.

– Няхай сядаюць на коней, эскорт акружыць карэту, едзем цяпер, ноч цёмная, расіяне нас не ўбачаць. Будзем разлічваць на шчасце, інакш нічога не дасягнеш.

Было каля 2.00 гадзін ночы 6 снежня. Перапраглі коней. Імператар падаў пару пісталетаў ад‘ютанту і загадаў яму сесці побач з Лефэўрам. Мамлюк пайшоў у сані, а палкоўнік Стаўкоўскі, камандзір эскорта, атрымаў загад ехаць каля дзвярэй карэты.

– Спадзяюся на вас усіх, – сказаў імператар. – Глядзіце ў абодва бакі дарогі.

Потым дадаў:

– У выпадку смяротнай небяспекі застрэльце мяне, не дайце, каб мяне схапілі.

Напалеон меў пры сабе на ўсялякі выпадак атруту. Ноч была цёмная, без зорак, снег не падаў, мароз, імгла, так што ўсё спрыяла Напалеону, каб выйсці цэлым і непашкоджаным з цяжкага становішча. Зорка ўдачы і тут дапамагла Напалеону. Калі Сяславін раніцаю 6 снежня пачне атакаваць Ашмяны ў другі раз, Напалеон будзе ўжо ў Роўным Полі. Дасюль дайшло толькі 36 чалавек эскорта, таму яго змянілі неапалітанцы з коннай часці, якая тут стаяла. Далей шлях ішоў праз Меднікі, дзе Напалеона чакаў князь Басана, французскі міністр замежных спраў. Большасць маладых французскіх салдат з 31-й дывізіі Луазона і неапалітанскіх гвардзейцаў Мюрата, якія прыкрывалі ўцёкі Напалеона, замерзлі ў тыя снежаньскія дні 1812 г., мароз тады даходзіў да 30 градусаў [113, с.350].

Раніцай 9 снежня Напалеон быў каля Вільні. У город не заязджаў, змяніў коней і паехаў у Коўна. Праз Дрэздэн і Майнц дабраўся ў ноч з 18 на 19 снежня да Парыжа. Праз Беларусь, Літву, Польшчу, Прусію,

Саксонію, праз усю Еўропу “граф Вічэнцкі” мінаваў усе растаўленныя яму пасткі. Вандроўніцтва на мяжы рызыкі чалавека, які павінен у гібелі кожнага чацвёртага беларуса, завяршылася паспяхова. Але кара яго не мінуе. У 1815 г. Напалеон будзе сасланы на востраў Святой Алены, дзе 5 мая 1821 г. памрэ ад атручэння мыш`яком і сурмой графам Шарлем-Трыстанам дэ Манталонам. Іронія лёсу – памерці на востраве, куды ў 1804 г., у час росквіту сваёй магутнасці, збіраўся паслаць марскую экспедыцыю!

Тракт з Вільні праз Меднікі, Ашмяны, Смаргонь, Маладзечна доўгі час называлі напалеонаўскім трактам. А карэта, у якой ехаў Напалеон, па сведчанню аўтара ўспамінаў Ч.Янкоўскага, на мяжы XIX і XX стагоддзяў знаходзілася ў кушнера Вагнера, які жыў у Мецу. Згодна з юбілейным выданнем 1912 г. “Отечественная война 1812 г. и русское общество”: “Сані, у якіх ехаў Напалеон, захоўваюцца ў музеі Магілёва”. Цікава дзе цяпер знаходзіцца гэтая рэліквія?

## ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ Ў 1813 – 1815 г. І РЭХА НАПАЛЕОНАЎСКАЙ ЭПАПЕІ

### ДЭМАГРАФІЧНЫЯ ДЫ ГАСПАДАРЧЫЯ СТРАТЫ Ў ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ

Вайна 1812 г. была адной з найбольш хуткіх і разбуральных у гісторыі Беларусі. Яна доўжылася каля шасці месяцаў, але краіна аднаўляла панесеныя страты амаль чвэрць стагоддзя. Чамусьці ў беларускім краязнаўстве канца XX ст. распаўсюдзіліся лічбы ў 4 тыс. забітых жыхароў і 650 разбураных дамоў у межах Літоўска-Гродзенскай губерні, якая на той час ахоплівала амаль усю тэрыторыю заходняга рэгіёну Беларусі. Гэтыя лічбы былі надрукаваны ў 1912 г. у выданні “Виленский временник” (кн.V, ч.2) і абапіраліся на падлікі, зробленыя ў 1836 – 1837 г. [89]. Яны не адпавядаюць рэчаіснасці, таму што шэраг паветаў Гродзенскай губерні ўвогуле адмовіліся даць дакладныя дадзеныя па прычыне “даўнасці падзей” і адсутнасці адпаведных архіўных папер. Адзначым, што той жа “Виленский временник” літаральна на папярэдняй старонцы прыводзіць іншыя дадзеныя страт па Гродзенскай губерні, дзе толькі Кобрын страціў 927 дамоў, а колькасць мужчынскага насельніцтва скарацілася на 14,2 %.

Больш дакладнымі варта лічыць дадзеныя, сабраныя ў 1813 – 1816 г. І.Э.Лахніцкім для сваёй працы “Статыстыка губерні Літоўска-Гродзенскай”, “Генеральную табель страт губерні Літоўска-Гродзенскай” (рабілі І.Лахніцкі, А.Лапа, Т.Умястоўскі і інш.), – надрукаваную ў якасці дадатка № 319 да “Виленского временника” і “Пераліковую ведамасць

[…] па Гродзенскай губерні…”, якая захоўваецца ў НГАБ у г. Гродне [16;  а.137; 89]. Гэтыя крыніцы не супадаюць паміж сабой, што тлумачыцца разбежкамі ў дацiроўцы. Лахніцкі выкарыстоўваў толькі дадзеныя афіцыйных рэвізій 1803, 1810, 1816 г. Складальнікі пераліковай ведамасці параўноўвалі дадзеныя рэвізіі 1811 г. і звесткі на кастрычнік 1813 г.  У Генеральнай табелі дацiроўка ўвогуле адсутнічае, а лічбы разбіты на тры графы: да вайны, пасля вайны і страты. Разам з тым дадзеныя ўсіх гэтых крыніц добра карэлiруюць паміж сабой, хаця адрозненні могуць хістацца ад 299 душ па Навагрудскаму павету да 439 па Брэсцкаму павету. Статыстыка пачатку XIX ст. мае яшчэ адну вельмі істотную і нязручную для нас рысу. Яна фіксавала толькі “рэвізскія душы” –  мужчын, якія плацілі падаткі. Таму найбольш дакладныя дадзеныя захаваліся ў адносінах да сялян, мяшчан і часткова яўрэяў мужчынскага полу. Звесткі па шляхце і жанчынах куды менш дакладныя, хаця ўлік уласна гэтых “станаў” грамадства прыведзены ў праца Лахніцкага.

Дзякуючы Ігнацыю Эмануэлю Лахніцкаму мы маем дадзеныя дзвюх рэвізій 1810 і 1816 г. Паводле 6 рэвізіі 1810 г., у Літоўска-Гродзенскай губерні налічвалася 281 397 рэвізскіх душ (мужчын), а агульная колькасць насельніцтва дасягала 586 836 чалавек. Паводле 7 рэвізіі 1816 г., у Гродзенскай губерні засталося 231 527 рэвізскіх душ, а агульная колькасць насельніцтва складала 536 163 чалавекі. Паколькі з 1795 г. па 1810 г. колькасць насельніцтва Гродзенскай губерні значна не змянілася і вагалася паміж 585 594 (1795 г.) і 591 060 (1803 г.) чалавекамі, то страту ў 50 673 чалавекі варта растлумачыць вайной 1812 г. Гэта складае 8,6 % ад колькасці насельніцтва ў 1810 г. Але ж гэтыя страты вельмі адрозніваюцца сярод мужчынскага і жаночага насельніцтва.

| Год | Усё насельніцтва | Рэвізскія душы. Мужчыны, сяляне, мяшчане і, відавочна, яўрэі і шляхта | Жанчыны |
|---|---|---|---|
| 1810 | 586 836 | 281 397 | 305 439 |
| 1816 | 536 163 | 231 527 | 304 636 |
| Розніца | 50 673 | 49 870 | 803 |
| Страты ў % | –8,6 | –17,7 | –0,26 |

Як бачым, 1812 г. амаль не закрануў жаночае насельніцтва заходняга рэгіёну Беларусі. Калі ўсе страты насельніцтва прыняць за 100 %, то 98,4 % прыдзецца на мужчынскае насельніцтва і толькі 1,6 % – на жаночае [292]. Яшчэ шмат у чым захоўваліся правілы вядзення вайны “галантнага” XVIII ст., калі цывільнае насельніцтва ніяк не закраналася барацьбой паміж прафесійнымі арміямі. Можа таму, тыя “гусарскія” часы і захавалі пэўнае прывабнае аблічча ў грамадскай свядомасці. Хаця масавыя рэквізіцыі і вялікія рэкруцкія наборы напалеонаўскай эпохі ўжо

неслі на сабе адбітак “татальных” войнаў XX ст. Гэта добра бачна пры аналізе страт мужчынскага насельніцтва.

Паміж 6 і 7 рэвізіямі (1810 – 1816 г.) Гродзенская губерня страціла 49 870 мужчын. Відавочна, што ў гэтую лічбу ўваходзяць рэкруты абодвух ваюючых бакоў. Расійская армія ў 1810 – 1815 гг. набрала на тэрыторыі Гродзенскай губерні 14 518 рэкрутаў. Улады адноўленага Напалеонам Вялікага княства Літоўскага за палову 1812 г. паспелі узяць пад ружжо 5 968 чалавек (звыш паловы – добраахвотнікі). Разам гэта складае 20 468 чалавек, альбо 41 % страт мужчынскага насельніцтва. Яшчэ 5 709 чалавек, паводле справаздач губернскіх чыноўнікаў, пад час вайны “невядома куды зніклі” [16, с. 46 – 50; 165]. Застаецца 23 675 мужчын, альбо 47,4 % ад колькасці “выбыўшых” мужчын, якіх можна разглядаць як звязаныя з вайной непасрэдныя страты цывільнага насельніцтва: сяляне, забраныя фурманамі, насільшчыкамі, праваднікамі, забітыя марадзёрамі ці пад час баявых дзеянняў, памёрлыя ад голаду, холаду, хваробаў. Большая частка гэтых людзей засталася б у жывых, калі б не вайна 1812 г. Разам з жанчынамі страты цывільнага насельніцтва Гродзенскай губерні можна ацаніць у 24 478 чалавек.

Цікавай і важнай для этнічнай гісторыі Беларусі з’яўляецца не вырашаная па сённяшні дзень праблема сацыяльнага размеркавання ваенных страт. Паводле Лахніцкага, найбольшыя страты ў 1812 г. у абсалютных лічбах панесла сялянства, потым – мяшчане, колькасць шляхты засталася без зменаў, а лічба яўрэяў нават павялічылася. У працэнтных адносінах гэтыя разлікі выглядаюць іначай. Паводле Баброўскага, у 1810 – 1811 гг. колькасць мужчын у Гродзенскай губерні, якія падлягалі рэкрутчыне, дасягала 302 тыс. чалавек. Напрыканцы 1812 г. засталося 280 тыс. чалавек. Страты мужчынскага насельніцтва складаюць усяго 22 тыс. чалавек. Сярод іх 15 264 выкрасленыя душы прыпадаюць на тых, хто падлягаў “натуральнай рэкруцкай павіннасці” – сялян і мяшчан, а 6 949 душ – на тых, хто падлягаў “грашовай рэкруцкай павіннасці” – шляхту, яўрэяў і купцоў. Гэтыя сацыяльныя групы, паводле Лахніцкага, не панеслі ніякіх страт, але ж дадзеныя Баброўскага сведчаць аб іншым [165; 292].

На жаль, найбольш недакладнымі з’яўляюцца дадзеныя па стратах шляхты. Вядома, што ў пачатку XIX ст. 65,6 % шляхты Літоўска-Гродзенскай губерні пражывала ў Лідскім, Навагрудскім і Гродзенскім паветах. У 1802 г. шляхта Лідскага павета налічвала 9 809 чалавек, Гродзенскага – 6 384 [214]. У 1816 г. засталося ў Лідскім павеце 5 523 шляхціцы, у Гродзенскім – 4 357. Колькасць шляхты знізілася ў Лідскім павеце на 43,6 %, у Гродзенскім – на 31,7 % [292]. Магчыма, што не ўсе гэтыя страты былі непасрэдна звязаны з вайной 1812 г. Вядома, што значная частка шляхты Панямоння ў 1807 – 1811 г. ад’ехала на службу ў Варшаўскае герцагства. Але гэтая з’ява таксама была ўскосна звязана з вай-

ной 1812 г. Па розных падліках, на службу да Напалеона трапіла ад 5 900 да 6400 чалавек з Гродзенскай губерні [149]. З іх 3 600 чалавек павінны былі складаць рэкруты з сялян. Але на самай справе атрымалася набраць толькі 2 603 рэкруты. Такім чынам, астатнія 3 300 чалавек склалі шляхціцы, мяшчане і іншыя добраахвотнікі з вольных людзей. Ведаючы змяншэнне колькасці мужчын, падлягаўшых “грашовай рэкруцкай павіннасці”: у 1811 г. – 20 381 чалавек, у 1813 г. – 13 955 чалавек і колькасць яўрэяў: у 1811 г. – 9 289 чалавек, у 1813 г. – 7 651 чалавек, можна рызыкнуць падлічыць прыблізную колькасць шляхты мужчынскага полу: у 1811 г. – 11 092, у 1813 г. – 6 304 чалавекі [16; 165]. Гэтыя разлікі выглядаюць даволі праўдападобна, улічваючы, што ў 1816 г. у Літоўска-

| Адміністрацыйная адзінка | Саслоўны стан | 1795 г. з папраўкамі 1800 г. | 1811 г. | 1813 г. | 1817 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Гродзенскі павет | Мяшчане | 2 070 | 1 201 | 1 119 | 726 |
| | Сяляне | 30 185 | 29 740 | 26 413 | 26 475 |
| Слонімскі павет | Мяшчане | 1 151 | 457 | 306 | 312 |
| | Сяляне | 33 763 | 33 671 | 28 879 | 28 905 |
| Навагрудскі павет | Мяшчане | 326 | 194 | 138 | 199 |
| | Сяляне | 43 057 | 43 566 | 37 694 | 44 171 |
| Ваўкавыскі павет | Мяшчане | 994 | 391 | 188 | 703 |
| | Сяляне | 28 208 | 27 961 | 24 380 | 19 337 |
| Лідскі павет | Мяшчане | 821 | 196 | 196 | 578 |
| | Сяляне | 25 265 | 31 626 | 24 958 | 23 891 |
| Брэсцкі павет | Мяшчане | 2 520 | 583 | 444 | 888 |
| | Сяляне | 35 389 | 34 506 | 30 446 | 38 134 |
| Кобрынскі павет | Мяшчане | 581 | 447 | 327 | 677 |
| | Сяляне | 39 443 | 39 440 | 33 434 | 36 773 |
| Пружанскі павет | Мяшчане | 677 | 536 | 210 | 202 |
| | Сяляне | 22 841 | 22 388 | 19 785 | 20 782 |
| Па Гродзенскай губерні рэвізскіх душ | Мяшчане | 9 140 | 4 005 | 2 928 | 4 285 |
| | Сяляне | 258 151 | 262 898 | 225 989 | 238 409 |
| Па Гродзенскай губерні | Яўрэяў і караімаў мужчынскага полу | 13 097 | 9 289 | 7 651 | 11 850 |
| Па Гродзенскай губерні | Шляхты мужчынскага полу | 12 180 (не поўныя дадзеныя) | 11 092 | 6 304 | 11 450 |
| Гродзенская губерня | Мужчынскае насельніцтва | 292 568 | 287 284 | 242 872 | 265 994 |

Гродзенскай губерні колькасць мужчын-шляхціцаў дасягала 11 450 чалавек, а да Напалеона далучылася больш за 3 300 шляхціцаў. У 1814 г. Аляксандр I дараваў ім службу ў варожай арміі і дазволіў вярнуцца на Радзіму.

Яўрэйскае насельніцтва таксама панесла значныя страты. У 1811 г. у Гродзенскай губерні налічвалася 9 289 яўрэйскіх душ мужчынскага полу. У 1813 г. засталася 7 651 душа. Страты склалі 1 638 чалавек, альбо каля 18 %: 1 070 чалавек памёрла па розных прычынах, 557 збегла невядома куды і 11 адышло разам з французамі. Куды больш моцна пацярпелі мяшчане хрысціянскага веравызнання. З 4 005 мяшчан-хрысціян у 1811 г. у Гродзенскай губерні ў 1813 г. засталося толькі 2 928 мяшчан-хрысціян мужчынскага полу. Страты склалі 1 077 чалавек, альбо 26,8 % [16, а.136].

На аснове гэтых дадзеных можна высветліць ступень удзелу і страт кожнай саслоўнай групы Гродзенскай губерні. Гэта параўнальныя дадзеныя 1813 і 1817 г. з апошнім даваенным годам – 1811 г. Яны дазваляюць прасачыць не толькі саслоўныя страты, але і асаблівасці грамадскага аднаўлення. Праўда, гэтыя разлікі ахопліваюць таксама толькі мужчынскае насельніцтва.

| Саслоўныя групы (мужчыны) | 1813 г. у % да 1811 г. | 1817 г. у % да 1811 г. |
|---|---|---|
| Шляхта | – 43,17 | + 3,22 |
| Мяшчане хрысціяне | – 26,87 | + 6,99 |
| Яўрэі | – 17,64 | + 27,57 |
| Сяляне | – 14,04 | – 9,32 |
| Усё мужчынскае насельніцтва Гродзенскай губерні | – 15,46 | – 7,42 |

Такім чынам, у абсалютных лічбах страты Гродзенскай губерні склалі па мужчынскаму насельніцтву каля 24 000 сялянскіх душ, 4 788 шляхецкіх, 1 638 яўрэйскіх і 1 077 мяшчанскіх (хрысціянскіх) душ. Разам гэта складае 31 503 чалавекі, што ў суме з рэкрутамі – 20 486 чалавек – складае каля 52 тыс. чалавек (па Лахніцкаму, павінна быць 50 673 чалавекі, так што дадзеныя карэліруюць паміж сабой). У працэнтных адносінах найбольшыя страты панесла шляхта – 43,17 %, потым – мяшчане хрысціянскага веравызнання – 26,87 %, яўрэі – 17,64 %, сяляне – 14,04 %. У святле гэтых лічбаў добра бачна, у якой ступені розныя грамадскія станы заходняга рэгіёну Беларусі прынялі ўдзел у падзеях 1812 г. Іншая справа, што да 1817 г. шляхта і хрысціяне-мяшчане цалкам аднавілі панесеныя страты, а яўрэі нават пераўзышлі даваенную колькасць. Затое колькасць сялян засталася без зменаў, на ўзроўні 1813 г. (гл. дадатак 4).

Калі прасачыць страты насельніцтва па асобных паветах і грамадскіх станах, то найбольшыя страты па мяшчанскаму насельніцтву хрысці-

янскага веравызнання панеслі Пружанскі павет – 60,8 %, Ваўкавыскі – 52%, Слонімскі – 33 %, Навагрудскі – 28,8 %, Кобрынскі – 26,8 %, Брэсцкі – 23,8 %. Амаль не пацярпелі мяшчане Гродзенскага павета. Тутэйшыя страты склалі толькі 7 %. Найбольшыя страты па сялянскаму насельніцтву панеслі Слонімскі павет – 14,2 % сялянскіх рэвізскіх душ, Навагрудскі – 13,4 %, Ваўкавыскі – 12,8 %. Найменшыя – ізноў Гродзенскі павет – 11,1 %. Хаця па сялянскіх стратах агульная розніца паміж паветамі невялікая – ад 11 да 15 % (без дадзеных па Лідскаму і Кобрынскаму паветах, якія так і не прадставілі размеркаванне па асобных грамадскіх станах). Калі глядзець на агульныя страты мужчынскіх рэвізскіх душ, то найбольшыя страты прыпалі на Лідскі павет – 21,4 %. Гэты павет ні разу не станавіўся полем баявых дзеянняў, затое вельмі моцна пацярпеў ад марадзёраў – вестфальскіх, аўстрыйскіх ды мясцовых. Адсюль вынікае, што першаснай прычынай страт насельніцтва былі не баявыя дзеянні, а марадзёрства. Другое месца па агульных стратах мужчынскіх рэвізскіх душ займаў Навагрудскі павет – 14,3 %. Чатыры паветы панеслі прыблізна аднолькавыя страты: Слонімскі – 13,9 %, Ваўкавыскі – 13,8 %, Гродзенскі – 13,6 %, Пружанскі – 13 %. Найменшыя страты прыпадалі на Брэсцкі – 12,2 % і Кобрынскі – 11,8 % паветы, якія былі сведкамі пастаянных баёў паміж рускімі і аўстрасаксонскімі войскамі і на тэрыторыі не дзейнічалі ніякія органы ўлады [89, ч.2].

Паводле губернскай канцылярыі, 30 % страт мяшчан, як хрысціянскага, так і іўдзейскага веравызнання прыпадаюць на асобаў, якія “невядома куды зніклі”. Відавочна, што большасць гэтых людзей пасля вайны вярнулася дадому. У сялян катэгорыя “невядома куды знікнуўшыя” займае толькі 17,5 % ад агульных страт, і гэтыя людзі ўжо ніколі не вярнуліся пад панскае ярмо [16, а.136 – 137]. Калі да гэтага дадаць пасляваенныя рэкруцкія наборы 1812 – 1815 г., то становіцца не толькі бачным, але і зразумелым, чаму беларускае сялянства працягвала несці страты ўжо пасля вайны. Аднаўленне колькасці шляхты магло адбыцца ў 1814 – 1815 г., калі Аляксандр I дараваў шляхце службу ў Напалеона, вярнуў маёнткі і дазволіў вярнуцца на Радзіму.

Трэба адзначыць, што ў гэтыя разлікі не трапіў Ашмянскі павет, які ў 1812 г. уваходзіў у склад Віленскай губерні, а зараз яго тэрыторыя ўтварае значную частку заходняга рэгіёну Беларусі, дакладней кажучы, Гродзенскай вобласці (Астравецкі, Ашмянскі, Іўеўскі і Смаргонскі раёны). У Ашмянскім павеце страты мужчынскіх рэвізскіх душ склалі 26,5 %. З 38 244 засталося толькі 28 084 душы. Большыя страты ў Віленскай і Гродзенскай губернях меў толькі Віленскі павет.

Моцна ў выніку вайны 1812 г. пацярпелі хатнія жывёлы. Вось як выглядалі страты “братоў нашых меншых” (і вельмі патрэбных для сялянскай гаспадаркі) разам з падзяжом знясіленай скаціны ў 1813 г.

| | Да 1812 г. | Пасля 1812 г. | Страты ў % |
|---|---|---|---|
| Коні | 60 586 | 23 377 | – 61,6 |
| Валы | 156 956 | 82 659 | – 47,4 |
| Каровы | 277 107 | 148 069 | – 46,6 |
| Свінні | 156 604 | 84 187 | – 46,3 |
| Авечкі | 419 871 | 244 230 | – 39,5 |

Вайна значна скараціла пасяўныя плошчы. У гэтым кантэксце найбольш пацярпеў Брэсцкі павет, дзе пасяўныя плошчы скараціліся на 23 %. У Навагрудскім павеце – на 21,8 %, Слонімскім – 20,8 %, Ваўкавыскім – 17,7 %, Пружанскім – 17,6 %, Кобрынскім – 13,8 %, Лідскім – 9,5 %, Гродзенскім – толькі на 4,1 %. У цэлым па Гродзенскай губерні скарачэнне пасяўной плошчы склала 17,1 % – з 483 752 моргаў да 400 672.

Відавочна, плошча ворнай зямлі працягвала скарачацца і пасля вайны. Паводле Лахніцкага (1816 г.), плошча ворыва паменшылася з 518 тыс. дзесяцін да 417 тыс. дзесяцін – амаль на 20 % [292].

Страты рухомай маёмасці склалі 7 205 766 руб. 51 кап. серабром. Найбольшыя страты панёс Брэсцкі павет – 1 640 006 руб., потым у спісе пацярпелых ішлі Ваўкавыскі павет – 902 113 руб., Навагрудскі – 885 856, Кобрынскі – 880 297, Слонімскі – 874 593, Пружанскі – 797 612, Гродзенскі – 679 318, Лідскі павет – 545 968 руб. серабром. Агульныя страты Літоўска-Гродзенскай губерні склалі 8 141 261 руб. серабром [89, ч.2].

Што тычыцца Ашмянскага павета Літоўска-Віленскай губерні, то тут плошча ворнай зямлі скарацілася яшчэ больш – на 35 %. Страты рухомай маёмасці дасягнулі 1 999 160 руб., а агульныя страты – 2 160 730 руб. серабром [89, ч.2]. Атрымліваецца, што паўночна-ўсходняя частка Заходняй Беларусі – Ашмянскі павет – панесла самыя значныя страты ў рэгіёне. У грашовым эквіваленце страты Ашмянскага павета складаюць 25 % (2 160 730 руб.) ад страт усёй Гродзенскай губерні (8 141 261 руб.). Прычына гэтага ў тым, што баявыя дзеянні на тэрыторыі Ашмянскага павета вяліся ў самыя моцныя снежаньскія маразы 1812 г. паміж часцямі, якія цалкам страцілі дысцыпліну: рэшткамі напалеонаўскай “Вялікай арміі” ды стракатымі расійскімі атрадамі “партызан”. Адсутнасць дысцыпліны ў лютыя маразы – самы разбуральны фактар вайны 1812 года ў адносінах як да ваенных, так і да мірнага насельніцтва.

З гарадоў найбольш пацярпелі Кобрын, Ваўкавыск і Ашмяны, якія апынуліся ў эпіцэнтры баёў. У Кобрыне з 1 187 дамоў было спалена 927. У Ваўкавыску не засталося ніводнай прыстойнай пабудовы, і павятовыя ўлады вымушаны былі пераехаць у Ізабелін. Цяжка давялося Брэсту,

Пружанам, Слоніму, дзе на некалькі тыдняў затрымліваліся значныя сілы праціўнікаў. Амаль не пацярпелі Гродна і Ліда. У Гродне, як цэнтры дэпартамента падтрымліваўся адпаведны парадак, а Ліду вялікія войскі абмінулі.

## ЗАХОДНІ РЭГІЁН БЕЛАРУСІ Ў БАРАЦЬБЕ З НАПАЛЕОНАМ У 1813 – 1815 г.

Вайна з Напалеонам для большасці насельніцтва заходняга рэгіёну Беларусі не скончылася пасля выгнання французаў за Нёман. Барацьба з "карсіканскім монстрам" перанеслася ў Еўропу. Ізноў былі патрэбны рэкруты, грошы, правіянт.

З мэтай падрыхтоўкі стратэгічных рэзерваў 8 сакавіка 1813 г. расійскае камандаванне стварыла Рэзервную армію на чале з генералам ад інфантэрыі князям Д.І.Лабанавым-Растоўскім. Ён атрымаў правы галоўнакамандуючага вялікай арміі за выключэннем магчымасці ўзнагароджання і ўплыву на грамадзянскія ўлады. Рэзервная армія мела ў сваім складзе чатыры пяхотных і тры кавалерыйскіх корпусы. 26 марта 1813 г. галоўная кватэра расійскай Рэзервная арміі знаходзілася ў Беластоку, І пяхотны корпус генерал-маёра П.Я.Башуцкага фарміраваўся ў Іванава, ІІ пяхотны корпус генерал-лейтэнанта А.А.Клейнміхеля – ў Браньску (зараз Падляшскае ваяводства Польшчы), ІІІ пяхотны корпус генерал-летэнанта В.І.Брозіна – ў Брэст-Літоўску, І кавалерыйскі корпус палкоўніка А.А.Жандра – ў Навагрудку, ІІ кавалерыйскі корпус генерал-маёра А.А.Бельскага – ў Ружанах, ІІІ кавалерыйскі корпус генерал-маёра князя М.А.Гарчакова – ў Лагішыне. 6 чэрвеня 1813 г. армія Лабанава-Растоўскага была аб'яднана з корпусам апалчэнцаў генерал-лейтэнанта графа П.А.Талстога і корпусам генерала Д.С.Дохтурава пад агульным камандаваннем генерала ад кавалерыі Л.Л.Бенігсена. 15 ліпеня 1813 г. войскі Бенігсена атрымалі назву Польскай арміі і пачалі рухацца на захад у якасці стрэтэгічнага рэзерва адноўленай антынапалеонаўскай кааліцыі [198, с.85, 89, 106, 109].

Польскія гісторыкі сцвярджаюць, што ў 1813 г. Рэзэрвная армія князя Д.І.Лабанава-Растоцкага набрала на расійскай тэрыторыі падзелаў Рэчы Паспалітай (Беларусь і Літва) каля 100 тыс. рэкрутаў [311, с.217]. У Гродзенскай губерні вялікія наборы пачаліся з 15 жніўня 1813 г. Да 15 кастрычніка было ўзята па 18 рэкрутаў ад 1 000 душ. Агульная лічба склала 4 794 чалавекі. Амаль адразу, з 1 студзеня па 1 сакавіка 1814 г., узялі яшчэ па 16 рэкрутаў ад 1 000 душ, што склала яшчэ 4 263 чалавекі. Увогуле са снежня 1812 г. па снежань 1815 г. руская армія набрала ў Гродзенскай губерні 10 111 чалавек [165, с.306 – 309]. Толькі ў 1816 г., пасля Ватэрлоо і ссылкі Напалеона на востраў Св. Алены, рэкруцкага набору не было.

18 студзеня 1813 г. загадам літоўскага ваеннага губернатара А.М.-Рымскага-Корсакава з чыноўнікаў, якія знаходзіліся ў Гродне, была створана Гродзенская губернская выканаўчая камісія. Яе ўзначаліў выконваючы абавязкі Гродзенскага губернатара губернскі правадыр дваранства (маршалак) князь Ф.К.Друцкі-Любецкі. Пад час вайны ён знаходзіўся ў Санкт-Пецярбурзе пры Аляксандры І. Галоўныя мэты Гродзенскай губернскай выканаўчай камісіі – забеспячэнне войскаў правіянтам і фуражом, унутранае кіраванне, аднаўленне фінансаў і адміністрацыі, выкананне загадаў вышэйшых устаноў. З асаблівым натхненнем камісія збірала падаткі з 1 ліпеня 1812 г. па 1 студзеня 1813 г., калі Літоўска-Гродзенская губерня знаходзілася пад французскай акупацыяй. Калі гэтых грошаў не хапіла, быў уведзены "збор на экстранныя ўнутраныя патрэбы" – 1 злоты з кожнага сялянскага дыма.

За рэдкімі выключэннямі, уся адміністрацыя засталася з часоў Часовага ўрада ВКЛ. У вялікай справе, прысвечанай працы Гродзенскай камісіі ў пачатку 1813 г., з 120 лістоў толькі чатыры невялікія дакументы напісаны па-рускі (два мясцовага паходжання, адзін з Мінска, адзін з Санкт-Пецярбурга). Усе астатнія – па-польскі [58]. Не дзіўна, што Гродзенская выканаўчая камісія часам парушала загады вышэйшага кіраўніцтва дзеля мясцовых інтарэсаў. Паводле загадаў, усе ваеннапалонныя палякі, якімі лічыліся і рэкруты, узятыя "па наборах непрыяцелем у літоўскіх губернях" (Віленскай і Гродзенскай), прызначаліся для ўкамплектавання палкоў у Грузіі і на Сібірскай лініі. Аднак Друцкі-Любецкі накіраваў сваіх землякоў у нанава фарміраваныя палкі, што дало ім больш шанцаў захаваць жыццё ды памяншала цяжар рэкрутчыны. Захаваліся скаргі гродзенскага каменданта палкоўніка Кляноўскага на Друцкага-Любецкага, які нібыта хаваў зброю і ваеннапалонных ад расійскіх вайсковых улад. Было знойдзена паразуменне, і ў сакавіку 1813 г. Кляноўскі ўвогуле распусціў па хатах 17 "літоўскіх" рэкрутаў напалеонаўскай арміі.

Большасць шляхціцаў, разгубленая нечаканым разгромам Напалеона, з усіх сіл імкнуліся дагадзіць расійскім афіцэрам, прасіла ў іх рэкамендацыі для кіраўніцтва. Вядомы падобны ліст у дачыненні лідскага маршалка Аляксандра Нарбута, дадзены камандзірам ІІ кавалерыйскага корпуса генерал-лейтэнантам Панчулідзевым 26 снежня 1812 г. у Лідзе. У ім падкрэслівалася, што А. Нарбут "у дні смутнага часу паехаў у свае вёскі, не займаўся ніякімі справамі, зараз жа робіць войскам разнастайныя дапамогі" [89, ч.1, с.67 – 68]. Графы Касакоўскія ды Юндзілы нават стварылі асабістыя магазіны для харчавання расійскай арміі.

Галоўным клопатам Гродзенскай губернскай выканаўчай камісіі хутка стала стварэнне і папаўненне харчовых магазінаў. У Гродне ў студзені 1813 г. знаходзіўся 21 такі магазін. Частка з іх захоўвала яшчэ трафейны правіянт і фураж, сабраны Часовым урадам ВКЛ. На Гарадніцы (сучасная вул. Ажэшкі) было 7 магазінаў, з іх 4 – поўныя. У горадзе

было 3 магазіны ў дрэнным стане: у каралеўскіх стайнях (пад сухары), доме Сабалеўскіх і доме Мараўскага. У прадмесці за Нёманам было закладзена ажно 11 магазінаў. Два магазіны, якія стварылі адпаведна граф Касакоўскі і паны Юндзілы, былі поўныя, астатнія ўкамплектаваны часткова [58, арк.21 – 21адв.]. Праца па харчоваму забеспячэнню расійскай арміі была ўскладзена 30 снежня 1812 г. на павятовых маршалкаў, якія павінны былі арганізаваць шляхту і сялян. Асабліва цяжка прыходзілася маршалкам Гродзенскага, Лідскага і Навагрудскага паветаў – Крыдзелю, Нарбуту, Рдултоўскаму – праз якія рухаліся асноўныя сілы расійскай арміі. Ад маршалкаў патрабавалі ўжо ў студзені 1813 г. мець харчовыя магазіны і склады фуража ў Каменцы і Скідзелі Гродзенскага павета; Беліцы, Жалудку і Шчучыне Лідскага павета; Карэлічах, Міры і Навагрудку Навагрудскага павета. Улады патрабавалі спяшацца, таму што ўжо падыходзілі драгунскія і гусарскія палкі, якія ішлі ў Польшчу. Потым з’явілася “рэкамендацыя” праз кожныя 50 – 60 вёрст (адлегласць стандартнага аднадзённага вайсковага марша) ставіць магазіны разлічаныя на 5 000 чалавек і 2 000 коней кожны [58, арк.6, 27].

У лютым 1813 г. у Літоўска-Гродзенскай губерні пачалося стварэнне адзінай правіянцкай сістэмы. Яна адпавядала тром галоўным ваенным шляхам, праз якія на захад рухаліся расійскія палкі:

а) Мір – Карэлічы – Навагрудак – Навіны – Беліца – Жалудок – Шчучын – Каменка – Скідзель – Гродна;

б) Вільня – Мерач – Ратніча – Гожа – Гродна;

в) Вільня – Воранава – Жырмуны – Ліда (потым на Шчучын і далей паводле першага маршрута).

Правіянцкая сістэма павінна была складацца з аднаго дэпо, трох “этапаў” і дзесяці магазінаў. Самым вялікім было правіяцскае дэпо ў Гродне. Яно ўтрымлівала 37 758 пудоў сухароў, 883 чвэрці круп, 14 666 чвэрці аўса, 158 546 пудоў сена. Забяспечвалі Гродзенскае дэпо Гродзенскі, Брэсцкі і Кобрынскі паветы. “Этапы” знаходзіліся ў Лідзе, Наваградку і Шчучыне. Кожны з іх утрымліваў 19 687 пудоў сухароў, 351 чвэрць крупы, 7218 чвэрцей аўса і 78 750 пудоў сена. Лідскі этап забяспечвалі Лідскі, Слонімскі і Пружанскі паветы; Навагрудскі этап – Навагрудскі і Слонімскі паветы; Шчучынскі этап – Лідскі, Кобрынскі, Пружанскі і Ваўкавыскі паветы. Лічылася, што кожны этап утрымлівае 20 тысяч порцый сухароў, 350 порцый круп (па 4 чвэрці і 4 горсці кожная, відаць, адразу на роту), 7 200 порцый аўса ды 78 750 порцый сена. Магазіны ў Гожы, Ратніча (каля Друскенік), Каменцы, Скідзелі Гродзенскага павета, Міры і Навінах Наваградскага павета, Беліцы, Воранава, Жаладку і Жырмунах Лідскага павета былі ўтрая меншыя за этапы. Кожны з магазінаў утрымліваў 6 562 пуды сухароў, 117 чвэрцей круп, 2 406 чвэрцей аўса і 26 250 пудоў сена. Магазіны ў Гожы, Ратніча камплектаваліся з Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў; ў Каменцы і  Скідзелі – з Гродзен-

скага і Брэсцкага паветаў; Воранава і Жырмунах – з Лідскага і Слонімскага паветаў; Міры і Навінах – з Наваградскага павета; Беліцы і Жырмунах – з Лідскага, Пружанскага і Ваўкавыскага паветаў. Паколькі правіянту катастрафічна не хапала, 19 лютага 1813 года дазволілі замяніць пастаўкі сухароў на 1/4 жытам, а пастаўкі сена – на 1/4 саломай ці сечкай. Увогуле, Гродзенская губерня павінна была сабраць 169 008 пудоў сухароў, 3 227 чвэрцей круп, 62 791 чвэрць аўса і 683 546 пудоў сена. Самыя вялікія пастаўкі прыпадалі на Наваградскі і Кобрынскі паветы, а самыя малыя – на Гродзенскі, Ваўкавыскі і Пружанскі.

Другім па значнасці клопатам пасля харчавання з'яўлялася медыцына. У Гродне, Лідзе, Слоніме засталіся вялікія шпіталі з хворымі ваеннапалоннымі, якіх хутка змянілі хворыя расійскія салдаты. У Гродне знаходзілася звыш 700 хворых аўстрыйцаў, якіх лячылі 5 дактароў, 7 хірургаў і 20 "медбратоў". Прычым 2 доктары і 5 хірургаў самі паходзілі з ваеннапалонных. У Лідзе войскі ВКЛ пакінулі каля 350 хворых з 20-га пяхотнага палка. З іх 272 чалавекі паправілася, 60 памёрла, а 8 яшчэ былі хворыя ў лютым 1813 года. Іх лячылі доктар Янкоўскі і яго вучань Мараўскі. 152 хворыя аўстрыйцы знаходзіліся ў Слоніме. Да іх далучыліся 318 хворых салдатаў расійскай арміі з палкоў Дунайскай арміі адмірала Чычагава. Катастрафічна не хапала "медработнікаў". Без уліку Гродна, на ўсю губерню ў пачатку 1813 года прыходзілася 6 урачоў і 1 хірург, у тым ліку 2 ксяндза і 1 аптэкар. Большасць гэтых людзей, нягледзячы на вялікую працу, у сакавіку 1813 года яшчэ не атрымала грошай за снежань 1812 г. [89, ч.2, с.112 – 113].

Трэба было збіраць зброю, якую вайна багата параскідвала па Літоўска-Гродзенскай губерні. 29 красавіка 1813 г. з'явіўся царскі ўказ аб абавязковай здачы ўсёй зброі. Асабліва падкрэслівалася, што "сяляне не павінны мець у хатах зброі". За прынесеныя зброю, кулі і порах улады абяцалі добра заплаціць. Аднак казённых грошай не хапала, і насельніцтва не спяшалася раззбройвацца. Брэсцкі гараднічы 4 ліпеня 1813 г. паведаміў, што жыхары патрабуюць грошы за зброю, а ён не мае чым заплаціць. Навагрудскі паліцтмайстар увогуле не здолеў знайсці зброю. На самай справе гэтага дабра было багата. У Гродзенскім замку было знойдзена 427 ружжаў аўстрыйскіх і французскіх, 243 – рускіх, ружэйных ствалоў – 222, штыкоў – 48, корцікаў егерскіх – 119, цесакоў – 36, карабінаў – 30, ядзер – 150. У Слонімскім павеце, паводле тутэйшага каменданта капітана Каблукова, было сабрана 72 ружжа, 2 кавалерыйскія карабіны, 90 штыкоў, 12 шабель, 2 палашы, 1 барабан і шмат амуніцыі: партупей, ножнаў ды салдацкіх сумак. У ваколіцах Брэста мясцовы камендант штабс-капітан Вялікапольскі знайшоў склад з 700 ядрамі і 2 бомбамі. Самыя цяжкія працы давялося выканаць Ашмянскаму павету. Тут на шляху адступлення "Вялікай арміі" ружжы ды шаблі ніхто і не лічыў. У Ашмянах і ваколіцах было раскідана 66 гармат і 18 гаўбіц. У

Смаргоні знаходзілася 18 гармат і 12 гаўбіц. Каб вывезці ў Маскву гэты арсенал, расійскія ўлады заключылі ў студзені 1813 года кантракт з віленскімі яўрэямі – Завелем Пейсахавічам Гермайзе і кампаніяй, якія за 11 323 рублі 53 капейкі асігнацыямі абавязаліся як мага хутчэй вывезці з Ашмянскага павета ўсе гарматы [89, ч.2, с.118 – 121, 130, 148].

Расійскія ўлады ўважліва сачылі за магчымымі дэзерцірамі з царскай арміі. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне нам удалося знайсці дзве справы аб бацьку знакамітага пісьменніка Льва Мікалаевіча Талстога – Мікалае Ільічы Талстым. Яны нават называюцца амаль аднолькава – "О розыске подпоручика Толстого" і "О розыске поручика графа Толстого, не явившегося к месту службы" [19; 29]. Першы раз у снежні 1813 – студзені 1814 г., другі раз у жніўні – верасні 1814 г. яго шукалі ў Літоўска-Гродзенскай губерні. Па прычыне хваробы падпаручык лейб-гвардыі драгунскага палка Талстой быў пакінуты ў Гродне (тут, дарэчы, ён ужо пабываў раней – гісторык В.М.Чарапіца знайшоў ягоны гродзенскі ліст, датаваны 28 снежня 1812 г. [246, с.156]. Другі раз ізноў з-за хваробы Талстой застаўся ў Магілёве, дзе губернатарам быў ягоны сваяк граф Дзмітры Аляксандравіч Талстой.

Вельмі турбавалі расійскія ўлады настроі тутэйшага насельніцтва. Вясной 1813 года па Панямонню папаўзлі чуткі аб падрыхтоўцы паўстання. У карчме ў Грандзічах 30 сакавіка 1813 года быў арыштаваны селянін Варфаламей Агель, які апавядаў, што ў Гродне на вуліцы знойдзены ліст, каб кожны жыхар горада зарэзаў расійскіх вайскоўцаў, расквагараваных у яго доме. Падобныя чуткі былі зафіксаваны ў Гродне, Ваўкавыскім, Наваградскім, Кобрынскім і Ашмянскім паветах. Гродзенскі губернскі пачтмайстар данёс літоўскаму ваеннаму губернатару, што ў Гродне распаўсюджваюцца чуткі, нібыта жыхары, "якія залічылі сябе да польскай народнасці", уступілі ў змову і 1 красавіка 1813 года збіраюцца выразаць усіх рускіх і яўрэяў. За кожную рускую галаву будуць даваць 1 рубель 50 капеек, за яўрэйскую – 90 капеек. У карчме ў Ашмянах шляхціц Юзаф Харашэўскі заявіў, што хутка пачнецца паўстанне: "Ашмяны пусцім дымам і попелам, ніводнай душы не выпусцім з горада жывой". У Ваўкавыску і Міры падобныя звесткі былі дастаўлены расійскім уладам напалоханымі яўрэскімі абшчынамі [89, ч.2, с.167 – 172].

Расійскія чыноўнікі сур'ёзна аднесліся да падобных чутак. Яны добра памяталі раптоўныя паўстанні ў Варшаве і Вільні ў 1794 годзе ды шляхецкі энтузіязм у чэрвені – ліпені 1812 г. У Ваўкавыскім павеце пад ваенны суд трапіла 10 чалавек. Шляхціцы Дамінік Плонскі і Сцяпан Дмухоўскі ды поразаўскі мяшчанін Томаш Грыгаровіч атрымалі пакаранне плеццю і былі сасланы ў Табольскую губерню. Сяляне Іван Грыцкевіч, Павел Гірц, Міхайла Радзівон, Антон Мінка ды яўрэй Хаім Іцкавіч за раўспаўсюджванне чутак атрымалі 50 udараў палкай. Селянін Сцяпан

Улановіч – 100 удараў палкай за паклёп. Як высветліла следства, большасць чутак разыходзілася ў карчмах сярод п'янага люду. Крыніцай чутак былі прызнаны ваеннапалонныя, якіх як мага хутчэй перавялі ў Расію. Нягледзячы на тое, што чуткі былі прызнаны бессэнсоўнымі, вясной 1813 г. адбылося некалькі смяротных пакаранняў: два – у Гродна, чатыры – у Коўне, шэсць – у Вільні [89, ч.2, с.94]. Але што гэта былі за людзі, пакуль невядома.

У чэрвені 1813 года расійскія ўлады спынілі следства па дадзеных справах. Сапраўдны загавар выкрыць не атрымалася, а следчыя дзеянні пачалі злаваць мясцовае насельніцтва. Так, у Гродзенскім павеце прапаршчык Астраханскага грэнадзёрскага палка Ерліч ездзіў па маёнтках і вёсках, чапляўся да жыхароў, называў знойдзенае зарытае збожжа "баявымі прыпасамі". Пасля шэрагу скаргаў прапаршчыка хутка адазвалі. Хутчэй за ўсё, "пагромныя чуткі" ў Панямонні вясной 1813 года былі запаздалай рэакцыяй мясцовых прыхільнікаў Напалеона і незалежнасці Польшчы, якія ачунялі пасля разгрома "Вялікай арміі" ў 1812 годзе. Але з захаду прыходзілі ўсё новыя несуцяшальныя звесткі аб паражэннях французаў пад Кульмам, Дэневіцам, Лейпцыгам. У гэтых умовах патэнцыяльны загавар выліўся ў горкія і безнадзейныя п'яныя чуткі ды пагрозы.

6 красавіка 1814 г. Напалеон адрокся ад імператарскага прастолу. 9 – 19 мая 1814 г. расійскія войскі, якія на той момант былі зведзены ў чатыры асобных корпусы, пачалі адыход з тэрыторыі Францыі. 13 жніўня 1814 г. у Брэст-Літоўск першым з пераможцаў Напалеона ўступіў I расійскі асобны корпус Ф.В.Остэн-Сакена. Напрыканцы жніўня 1814 г. II расійскі асобны корпус Ф.Ф.Вінцэгеродэ дасягнуў Гродна. Два астатніх расійскіх корпусы вярталіся ў межы імперыі ў Коўна і Уладзімір-Валынскі. Польская армія Бенігсена, у якой было шмат рэкрутаў з заходняга рэгіёну Беларусі, знаходзілася ў Гальштыніі. Толькі ў снежні 1814 г. гэтыя войскі адышлі на тэрыторую ўжо расійскага Варшаўскага герцагства [198, с.194 – 197].

## ПАЛОННЫЯ З "ВЯЛІКАЙ АРМІІ" НА ЗАХАДЗЕ БЕЛАРУСІ

Французскі даследчык Альберт Вандаль у кнізе "Напалеон и Александр" пісаў, што Банапарт "згрупаваў вакол сваіх французаў усіх саюзнікаў, усе свае народы. Ён заклікаў іх да сябе з усіх бакоў свету: ламбардцаў Яўгена, неапалітанцаў Мюрата, іспанцаў, партугальцаў, Мармона з краатамі, Германію з яе васемнаццаццю кантынгентамі, Жэрома з вестфальцамі, гановерскія і ганзейскія палкі, якія фармаваліся пад начальствам Даву, Панятоўскага з яго палякамі". Гэтая "Вялікая армія" перайшла Нёман, дайшла да Масквы, але была вымушана адыходзіць назад па старой Смаленскай дарозе. Страціўшы паступова баяздольнасць

і веру ў непераможнасць Напалеона, дэмаралізаваная армія “двунадзесяці языкоў” бегла ад расійскай арміі. Навязаныя ёй бітвы праігрывала, страчваючы ў іх масу забітых, параненых і палонных.

Па падліках сучаснага расійскага гісторыка В.Бяссонава, ў межах Гродзенскай губерні пасля вайны 1812 г. знаходзілася каля 2 900 ваеннапалонных напалеонаўскай арміі. З іх прыблізна 1 900 памёрла і 1 000 засталося ў жывых [79, с.59]. Паводле ўрадавых справаздач за 1814 г., у шпіталях Гродзенскай губерні памёрлі 1 афіцэр і 1 219 салдат непрыяцеля, таму падлікі В.Бяссонава, зробленыя па аналогіі з дадзенымі па Мінскай губерні, выглядаюць вельмі верагодна. Большасць ваеннапалонных утрымлівалася Гродне і Слоніме. Іспанцаў і партугальцаў адразу адпраўлялі ў Мемель (Клайпеда), і на англійскіх фрэгатах вывозілі на Перынейскі паўвостраў для камплектавання іспанскіх палкоў брытанскай арміі Велінгтона. Немцаў разглядалі як патэнцыяльных саюзнікаў і хутка далучылі да аўстрыйскіх і прускіх войскаў. Уласна ваеннапалоннымі лічыліся французы і палякі (у лік апошніх траплялі і рэкруты ВКЛ). Хаця і гэтым людзям прапанавалі ісці ў расійскую службу, і французы згаджаліся значна часцей, чым палякі. Самым “каштоўным” вязнем у Гродне ў пачатку 1813 г. лічыўся саксонскі генерал Носціц, які ў вайне 1812 г. камандаваў пяхотнай брыгадай у 21-й (саксонскай) дывізіі. Ён трапіў у палон 1 лютага 1813 г. у бітве пад Калішам, дзе 16 тыс. рускіх на чале з генералам Вінцэгеродэ разбілі 10-тысячны саксонскі корпус Рэнье і дывізію Дзюрута. Страты саксонцаў склалі каля 3 тыс. чалавек. Гэта была першая бітва кампаніі 1813 г. Носціца трымалі ў станоўчых умовах разам з ад’ютантам фон Котшэм і доктарам Карлам Гінцам. У маі 1813 г. Носціцу дазволілі пераехаць у Каліш [89, ч.1, с.97].

Мы знайшлі ў НГА Беларусі ў Гродне “Именные списки военнопленных разных наций, находившихся в Гродненской губернии”. Тут прыведзена колькасць на ліпень – жнівень 1813 г. з падзелам на 21 “нацыю” (гл. дадатак 5). Усяго з розных мясцін прайшло праз губерню 2 871 штаб-афіцэр, обер-афіцэр, ніжнія чыны. Амаль палова з іх была французамі (1 480 чал.), другой значнай групай з’яўляліся “палякі” (561 чал., падаем у двукоссі, бо невядома, колькі з іх было ліцвінаў), трэцяй па колькасці – вюрцімбержцы (264 чал.), далей ішлі баварцы (168), італьянцы (134), галандцы (87), аўстрыйцы (61), саксонцы (29), іспанцы (23) і іншыя. Такое размеркаванне адпавядала нацыянальнаму складу напалеонаўскай арміі ў 1812 г. У розныя часы было адпраўлена з губерні 3 285 палонных ніжніх чыноў (у гэтай жа архіўнай справе на іншай старонцы ўказана лічба 3236 чал.), 209 обер-афіцэраў, 16 штаб-афіцэраў; пакінута – адпаведна чыну: 180, 43 і 9 палонных [18, арк.101].

Палонныя дзяліліся на дзве катэгорыі: улічаныя вайсковымі і цывільнымі ўладамі (менавіта іх колькасць указана ў выкарыстаным намі спісе) і тых, хто адстаў пры адступленні “Вялікай арміі” і шукаў вырата-

вання ад голада і холада ў мясцовага насельніцтва (колькасць гэтых палонных улічыць пакуль не ўдалося). Дарэчы, на землях Беларусі жыхары адносіліся да былых сваіх акупантаў лаяльна і аказвалі дапамогу харчам, вопраткай, хавалі ад уладаў. Напрыклад, Лідскі земскі суд 23.11.1813 г. даносіў Літоўскаму генерал-губернатару Рымскаму-Корсакаву, што пры пошуку ваеннапалонных у Лідскім павеце ў маёнтку Крупе (зараз вёска Крупава) памешчыка Казіміра Шукевіча быў знойдзены прускі ўраджэнец Віктар Склароўскі [13, арк.1]. Яўрэі шукалі сваіх аднаверцаў, давалі ім ежу, грошы, вопратку, дапамагалі лячыцца ў шпіталі і нават пераправіцца за мяжу [137, с.80].

Дапамога насельніцтва зямель Беларусі палонным зразумела, бо яе ўраджэнцы, як ужо вядома чытачу, таксама ўдзельнічалі ў вайне на баку Напалеона. Напрыклад, у 1843 г. былы капітан французскай гвардыі 1-га польскага ўланскага палка Мацвей Іванавіч Мержыеўскі прасіў гродзенскага губернатара выдаць яму пасведчанне аб тым, што ён жыве ў сваім маёнтку Задвея Навагрудскага павета. Яно патрэбна было для атрымання пенсіі ад французскага ўрада за ордэн Ганаровага Легіёну. Губернатар выдаў патрабуемую паперу. Верагодна, што Мержыеўскі атрымліваў пенсію, бо такія пасведчанні ён прасіў да гэтага выпадку на працягу 1814 – 1843 г. [37, арк.4 – 6].

У пачатку 1813 г. у расійскім палоне лічылася 9 569 польскіх салдат (афіцэры трымаліся асобна). З іх вясной 1814 г. 8 643 чалавекі трапілі на Каўказ і 926 – на “сібірскую лінію”. Цыркулярам галоўнакамандуючага ад 14 (26) студзеня 1813 г. усім грамадзянскім губернатарам прадпісвалася “палонных палякаў узяць на камплектаванне палкоў на Каўказе, у Грузіі і нават тых, якія на Сібірскай лініі знаходзяцца”. Гродзенскі губернатар паведаміў галоўнакамандуючаму аб тым, што сярод ваеннапалонных ёсць такія, якія “паступілі ў непрыяцельскую службу па канскрыпцыі з літоўскіх губерняў розных памешчыкаў і казённых месцаў..” [17, арк.1]. Цыркулярам ад 28.01. (9.02.) 1813 г. адсылку палонных палякаў і ліцвінаў на Каўказ і Грузію спынілі. У “Ведомости о числе военнопленных поляков, распределённых в войска на Кавказские линии и в Грузии находящихся, и в военно-рабочие по инженерным командам и к укреплению берегов р.Терек”, складзенай у красавіку 1814 г., маюцца звесткі аб 8 963 “палякаx” [79, с.58]. Польскі даследчык Г.Масціцкі налічыў каля 10 тысяч палякаў, прымусова залічаных у расійскія палкі Каўказскай лініі, з якіх каля 7 000 тыс. вярнулася на радзіму [303, с.108 – 109]. На Каўказе і ў Грузіі палонныя служылі ў палках 19-й і 20-й дывізій. З сярэдзіны 1813 г. палонных палякаў і ліцвінаў высылалі ў Табольскую губерню.

Расійскі ўрад выдаваў прабачэнне тым жыхарам зямель Беларусі, якія былі на службе ў непрыяцеля. Маніфест ад 12.(24) 12.1812 г. амніціраваў цывільных чыноўнікаў, якія служылі ў розных мясцовых орга-

нах улады, а таксама тых, хто пакіне армію Напалеона на працягу двух месяцаў і вернецца дадому. Адносна ваеннапалонных гаварылася, што "палонныя, якія ўзяты са зброяй у руках, хаця не выключаюцца з гэтага агульнага прабачэння, але без парушэння справядлівасці не можам Мы пайсці рухам Нашага сэрца, пакуль палон іх скончыцца заканчэннем вайны. Тым не менш, і яны ў свой час уступяць у правы гэтага Нашага ўсім і кожнаму прабачэння" [ПСЗРИ, т.32, с.482]. 24 мая 1814 г. упраўляючы Міністэрства паліцыі С.К.Вязміцінаў растлумачваў губернатарам прадпісанне, якое тычылася вяртання ваеннапалонных на радзіму. Сакрэтна паведамлялася, што гэтае распараджэнне не распаўсюджваецца на "палякаў і іншых нацый людзей", якія сасланы пад нагляд паліцыі. Усіх іх пакідалі на месцы знаходжання да адпаведных загадаў [79, с.98]. Агульная амністыя адбылася ў 1815 г. Па загаду цара палякаў павінны былі адправіць на возах у Варшаву да вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Значная частка сасланых у Сібір вярнулася, а некаторыя засталіся там назаўсёды.

Ваеннапалонныя, якія знаходзіліся на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні, былі пад наглядам губернскага праўлення, павятовых ніжніх судоў, органаў паліцыі. Перш за ўсё яны клапаціліся, каб палонныя мелі грошы на сваё ўтрыманне, вопратку і падлячыліся ад ран і хваробаў. Знойдзены ў НГА Беларусі ў Гродне рэестр "порционных денег" паказвае, што іспанцы (19 чал.) атрымлівалі з 26.11. (6.12.) па 16. (28.) 12.1813 г. па 15 кап. у суткі, саксонцы (26 чал.), аўстрыйцы (9), палякі (2), баварцы (11), прусакі (2) – па 5 кап. у суткі. Усяго на 69 чал. гродзенская казённая палата выдаткавала 83 руб. 25 кап. [17, арк.64]. 7 сакавіка 1814 г. у Гродне быў складзены рэгістр на прынятую з г.Белава (Белой) Тварской губ. вопратку для 1 629 ваеннапалонных: 1 582 паўшубкі, 1 624 кароткіх панталонаў, 1 595 кашуль, 1 620 "худо шитых" фуражак, 1 605 параў панчох, 1 564 пары пальчатак, 1 615 параў валенак, 1 595 кушакоў, 1 569 "катов летних, к носке мало годных", 33 шынелі, 33 мундзіры, 33 пары ботаў [26, арк.25 адв.].

Лячыліся палонныя "Вялікай арміі" ў ваенных шпіталях Гродна, мястэчак Жыровічы і Быцень, Слоніма Слонімскага павета, Брэста, Навагрудка, Ваўкавыска. Самым значным быў Гродзенскі шпіталь на 2 500 чал. У пачатку 1814 г. ён размяркоўваўся ў Старым і Новым замках, у дамах, якія належалі графам Юндзілу і Касакоўскаму (па вул. Брыгіцкай), Ляхновічу (па вул. Замкавай), Агінскаму, Мараўскаму. Усіх гэтых будынкаў хапала, як адзначыў пасля агляда галоўны доктар фон Тыфенбах, толькі на 1 350 чал., таму на двух ложках спалі па тры чалавекі [15, арк.90, 133, 211]. Гродзенскім шпіталем кіравала пасля выгнання напалеонаўскага войска і да красавіка 1813 г. шпітальная камісія, а потым – кантора Гродзенскага ваеннага шпіталя. Адным з яе сяброў быў ксёндз дамініканскага кляштара Цяцерскі, якога замяніў ксёндз Вайткевіч [32,

арк.5, 7 – 7 адв.]. У Гродзенскім філіяле НГА Беларусі захавалася шмат спісаў ваеннапалонных, якія лячыліся ў гродзенскім шпіталі. Іх складалі для сябра камітэта калежскага дарадцы гродзенскага губернскага праўлення, дарадцы і кавалера Пятра Фёдаравіча Рызенкі. Па спісах відаць, што лячыліся ў шпіталі афіцэры і ніжнія чыны розных нацыяў: французы, палякі, ліцвіны, немцы, італьянцы, непалітанцы, іспанцы, швейцарцы, галандцы і іншыя [18, арк.17 – 20, 38, 79 адв., 81, 93].

У спісе лекараў і цырульнікаў, якія працавалі ў гродзенскім шпіталі, на 22.01. (3.02.) 1814 г. знаходзім доктара медыцыны з былога французскага шпіталя (на жаль, прозвішча неразборлівае), доктара хірургіі Севасцяна Сярвінскага, лекараў Білінга, Рудкоўскага (хутка памёр, пакінуўшы жонку з малымі дзецьмі), Юркевіча, галоўнага доктара шпіталя, інспектара ўрачэбнай управы калежскага дарадцы Міхельсона, 14 цырульнікаў з яўрэяў – Я.Зусмажавіча, І.Лапяровіча, Х.Гіршавіча, П.Енкелевіча, Л.Ясялевіча і іншых. Лекамі шпіталь забяспечвала ад галоўнага доктара віленскіх шпіталяў калежскага дарадцы і кавалера Гейропа аптэка. Правізарам яе быў Жадзілоўскі, старэйшым вучнем – Андрэй Зэзін, якія служылі пры шпіталі, адышлі з рускімі войскамі, былі ўзяты ў палон французамі і вернуты на працу пры шпіталі. Харчаванне ў канцы 1813 – пачатку 1814 г. пастаўляла па падпісцы кампанія адэскага купца 1-й гільдзіі Рыгора Этынгера [15, арк.15, 32, 90]. У верасні 1813 г. у суткі на аднаго хворага патрабавалася мыла, свеч, саломы, дроў, бялізны, алею на 6,5 кап. серабром [15, арк.3 адв.].

Нягледзячы на сваё залежнае становішча, некаторыя палонныя паводзілі сябе даволі дрэнна. Архівы захавалі прыклады іх недысцыплінаванасці і нават разбояў. Так, радца М.Сушынскі з гродзенскай гарадавой паліцыі паведамляў Рызенку аб тым, што палонны прускі афіцэр Ян Латэмбах робіць “шматлікія грубіянствы, займаецца толькі п’янствам і крыўдамі, у гаспадыні ўдавы Макарэвічавай, у якой кватаруе, украў медную каструлю”. Радца прасіў, каб паліцыя ўзяла яго пад нагляд, каб палонны не мог “рабіць падобных учынкаў”, а за каструлю заплаціў [18, арк.13]. Салдат з Саксоніі ўспамінаў, што пастаянна спрачаўся са сваімі “адвечнымі ворагамі” – яўрэямі. Палонны баварэц разам з сябрамі краў у іх курэй, патрабаваў водку і прадаць па таннаму кошту тавары, а, калі тыя не пагаджаліся, дык іх білі. Яўрэі ў адказ казалі: “Пан не павінен біцца. Вы ж знаходзіцеся ў палоне!” [137, с.81].

Некаторыя палонныя спрабавалі збегчы з-пад нагляду. Цыркуляр Міністэрства паліцыі ад 29.08. (9.09.) 1812 г. у п. 7 растлумачваў, што “за ўцёкі аднаго адказваць яны будуць усе, а таму тыя, хто знаходзіцца ў адным месцы, горадзе, сяленні або на дарозе, назіралі за паводзінамі адзін аднаго і такіх, якія да чаго-небудзь шкоднага спакусіцца надумаюць, для асабістага свайго выратавання, даносілі адразу ж уладам, у процілеглым выпадку будуць адасланы ў аддаленыя сібірскія гарады і

крэпасці для стражайшага за імі нагляду" [11, арк.1]. Але, нягледзячы на такую суровую перасцярогу, палонныя беглі. У Гродзенскім архіве захавалася справа "О розыске бежавших военнопленных из г.Минска, Новогрудка и других местностей", якая вялася з 20 сакавіка (1 красавіка) па 8 (20) чэрвеня 1813 г. У ёй шмат прыкладаў уцёкаў. Так, пружанскі гараднічы затрымаў у горадзе капітанаў польскіх войск 9-га пяхотнага палка Уладзіслава Дзяргоўскага і Мацвея Гратоўскага, але яны зноў збеглі з-пад арышта. 10 красавіка з Навагрудскага шпіталя збеглі 3 палонных іспанца, з Брэсцкага шпіталя ў красавіку збеглі два палонныя палякі – Станіслаў Астроўскі з 10-га пяхотнага палка і Станіслаў Грудзінскі з 12-га ўланскага палка. Рапарт ваўкавыскага земскага спраўніка ад 4 (16) красавіка даносіў аб затрыманых палонных французскага войска Іване Шурко і польскага 15-га пяхотнага палка Іосіфе Зянкевічы, якіх адправілі ў Гродна да ваеннага каменданта Кляноўскага. Пружанскі ніжні суд рапартам ад 9 (21) мая 1813 г. даносіў, што 16 мая ў калоніі Краснік з'явіліся 12 французаў, 3 з якіх затрыманы (яны сказалі, што збеглі, бо іх дрэнна карміліі) , а астатніх шукаюць у лесе. Па дарозе з Вільні ў Мінск у маі збеглі 4 французы капітаны і 6 паручыкаў, 1 польскі і 1 італьянскі падпаручыкі, 4 французскія і 2 італьянскія салдаты. Наглядальнік Прыбораўскай заставы тытулярны дарадца Фрыдрых, асноўваючыся на рапарце Парчэўскага каменданта падпалкоўніка Жур'ера, даносіў у Міністэрства фінансаў, што збеглыя французскія палонныя ідуць з Вільні, Мінска, Беларусі ў напрамку р.Буг, на Уладаву. Адсюль рыбакі перапраўляюць іх у Аўстрыю. Міністэрства фінансаў паведаміла аб гэтым гродзенскага губернатара і прасіла прыняць меры для спынення такіх выпадкаў [24, арк.6, 12, 25, 53, 76, 111, 127].

Яшчэ ў адной архіўнай справе гаварылася пра трох аўстрыйскіх яўрэяў, якія збеглі ў ліпені 1813 г. з Гродна: Маркуль Гіршавіч 25-ці год, Янкель Шэломавіч 26-ці год, Моўша Абрамовіч 24-х год. Згодна з рапартамі ніжніх земскіх судоў і гараднічых Гродзенскай губерні, іх, відаць, не знайшлі [23, арк.4 – 4 адв.]. Думаем, гэта зразумела, бо ўжо вышэй мы казалі, што мясцовыя яўрэі дапамагалі сваім аднаверцам і перапраўлялі збеглых за мяжу.

Некаторыя палонныя вырашалі прыняць падданства Расіі. Як гэта зрабіць, растлумачвала цыркулярнае прадпісанне міністра ўнутраных спраў ад 10(22).11.1813 г. "О правилах относительно военнопленных, вступающих в подданство России":

- пасля прыняцця прысягі мясцовым начальствам дазвалялася жыць ва ўсіх губернях Расіі, акрамя далучаных ад Польшчы (значыць, у заходнім рэгіёне Беларусі жыць было нельга), а таксама ў Беластоцкай і Тарнопальскай абласцях, Курляндыі, Бесарабіі, Фінляндыі і абедзвюх сталіцах;

- на працягу двух месяцаў неабходна было выбраць сацыяльны стан і род дзейнасці, бо маглі пакараць за бадзяжніцтва;
- мясцовыя ўлады павінны былі дапамагаць тым, хто выказаў жаданне працаваць на казённых і прыватных фабрыках і заводах, бо яны не ведаюць рускай мовы і законаў;
- рамеснікаў, якія запісаліся ў мяшчанскае саслоўе, на 10 год вызвалялі ад павіннасцяў як новых падданых, якія не маюць яшчэ аседласці і маёмасці;
- садоўнікі, краўцы, шаўцы і г.д. па запісу ў мяшчанства могуць займацца сваім рамяством у гарадах, па найму ў прыватных асобаў або быць самастойнымі майстрамі [18, арк.25 – 26 адв.].

Мясцовае губернскае начальства павінна было дастаўляць міністру ўнутраных спраў ведамасці аб тых, хто выбраў сабе якое-небудзь прадпрыемства, але мы не знайшлі пакуль ніводнай, таму не можам сказаць, ці былі на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні палонныя, якія выкарысталі магчымасць прыняць расійскае грамадзянства.

Вялікая колькасць ваеннапалонных у памежным Гродне турбавала расійскія ўлады. Таму з лютага 1813 г. партыі палонных пачалі адвозіць у Мінск. Паводле рапартаў гродзенскага камендanta палкоўніка Кляноўскага, 6 лютага 1813 г. пад аховай салдат Чарнігаўскага пяхотнага палка ў Мінск адправілі 162 ваеннапалонных. 10 красавіка пад аховай Гродзенскага гарнізоннага батальёна – яшчэ 447 чалавек.

З улікам змен ваеннай абстаноўкі пад час замежнага паходу расійскіх войск змянялася становішча некаторых палонных. У першую чаргу атрымалі магчымасць вяртання на радзіму іспанцы. Гродзенскі губернатар 20 снежня 1813 г. запытаў калежскага дарадцу губернскага праўлення П.Ф.Рызенку аб тым, чаму са жніўня не адпраўлены ў Рыгу іспанцы, і загадаў на працягу тыдня зрабіць гэта. Адной з прычын затрымкі была адсутнасць дэпутата Слонімскага павета, якога выбралі для суправаджэння былых палонных. У сваім рапарце адстаўны паручык Чаранкевіч пісаў, што ён – чалавек бедны, за свае грошы дабраўся да Гродна, але далей не можа, і просіць фінансавай дапамогі ці выбраць замест яго іншага чалавека. Што зрабілі, на жаль, невядома, а самыя палонныя былі падрыхтаваны і забяспечаны неабходным у дарогу. Захаваўся спіс іспанцаў на 29 снежня. У ім адзначаны капітан Дон Міхаіл Кастра 36-ці гадоў з г.Фантарэвія, сяржант Мануэль Хільберт, 18 ніжніх чыноў ва ўзросце ад 20 да 36 гадоў з Валенсіі, Мурыі, Эльчы, Маіча**.** Большасць іх дэзерціравала з французскай арміі (III і VI корпусаў) [18, арк.58 – 60, 86, 87 адв., 90]. Былога палоннага іспанца паручыка Карла Раймонда шукаў у Літоўска-Гродзенскай губерні ў красавіку 1819 – студзені 1820 г. адстаўны генерал-лейтэнант Ф.Эртэль, які пражываў у м.Вікторына Шавельскага павета Віленскай губерні. Ён пытаўся ў гродзенскага губернатара М.Ф.Бутаўта-Анджэйкавіча, ці паручык лячыўся ў мясцовым

шпіталі ў канцы 1812 г. Спісаў не захавалася, таму адказаць генералу не змаглі [32, арк.5].

Цыркулярам ад 25.04(7.05).1813 г. з палону вызваляліся саксонцы. Гродзенскі губернатар атрымаў цыркуляр ад правіцеля асобнай канцылярыі Міністэрства паліцыі фон Фока ад 31.05(12.06).1813 г. У маі 1813 г. ад'ехалі на жыхарства ў Герцагства Варшаўскае па асабістаму дазволу расійскага імператара генерал саксонскай службы Носціц, яго ад'ютант Котш і доктар Гінц. Губернатар Анджэйкавіч атрымаў для іх падарожныя ад літоўскага генерал-губернатара А.М.Рымскага-Корсакава [25, арк.2]. Распараджэнне асобай канцылярыі Міністэрства паліцыі па загаду імператара аб адпраўцы на радзіму саксонскіх, вюрцембергскіх, саксэн-веймарскіх, саксэн-кабургскіх ваеннапалонных было выдадзена 9 (21) лістапада 1813 г. На працягу двух месяцаў трэба было адправіць іх у Беласток і Рыгу (у тым ліку праз Літоўска-Гродзенскую губерню). Мясцовая ўлада павінна была аказаць дапамогу ў харчаванні, вопратцы і даглядаць за парадкам. Губернатар на сваёй тэрыторыі збірае партыю палонных і даручае яе свайму чыноўніку або служачаму ад дваранства (канвойнаму начальніку), акрамя таго, на чале партыі стаіць афіцэр з палонных. Ён мае імянны спіс, а мясцовая ўлады сочыць, каб да саксонцаў не далучаліся палонныя іншых нацый [11, арк.2 – 3]. Партыя палонных у колькасці 64 чал. з Валынскай губерні прайшла праз Літоўска-Гродзенскую губерню ў Беласток [14, арк.1].

26.11(5.12).1813 г. цыркулярам пецярбургскага галоўнакамандуючага Вязміцінава і правіцеля асобнай канцылярыі Міністэрства паліцыі фон Фока ў выкананне манаршай волі вызначаліся два зборныя пункты ў Рызе і Беластоку для палонных з Рэйнскага саюза, якія вызваляліся і адпраўляліся на радзіму. Нагадаем, што Рэйнскі саюз – канфедэрацыя германскіх дзяржаў (у 1812 г. – 36 краін) пад пратэктаратам Напалеона – існаваў у 1806 – 1813 г. Пасля паражэння напалеонаўскіх войск у Лейпцыгскай бітве распаўся, а немцы далучыліся да "саюзных армій для дзеяння супраць агульнага непрыяцеля...". Да цыркуляра прыкладаўся спіс каралеўстваў, вялікіх герцагстваў, герцагстваў, княстваў. Сярод іх – Баварскае, Саксонскае, Вестфальскае каралеўствы, Бадэнскае, Вюрцімбергскае, Гесэнскае вялікія герцагствы, Меклянбургскае, Саксэн-Веймарскае, Саксэн-Гоцкае, Саксэн-Кабургскае герцагства і княства. У Беласток праз Заходнюю Беларусь везлі палонных – ураджэнцаў краін Рэйнскага саюза з Маскоўскай, Калужскай, Тульскай, Разанскай, Смаленскай, Арлоўскай, Варонежскай, Тамбоўскай, Слабодска-Украінскай, Кацярынінскай, Херсонскай, Таўрычаскай, Астраханскай, Саратаўскай, Пензенскай, Ніжагародскай, Казанскай, Сімбірскай, Кіеўскай, Чарнігаўскай, Палтаўскай, Магілёўскай, Мінскай, Падольскай губерняў, Тарнопальскай і Беластоцкай абласцей. Мясцовыя губернскія ўлады павінны былі сачыць за тым, каб палонныя атрымлівалі належнае харчаванне,

захоўвалі парадак [18, арк.27 – 30, 66 – 70]. Напрыклад, партыя палонных немцаў колькасцю 81 чал. (15 обер-афіцэраў, 1 афіцэрская жонка, 65 ніжніх чыноў) ішла з Мінску праз Гродна ў Беласток маршрутам: Койданава – Новы Свержань – Карэлічы – Навагрудак – Беліца – Жалудок – Шчучын – Каменка – Скідзель. Сярод гэтых палонных часта сустракаліся палякі з Вялікай Польшчы. [27, арк.4 – 10].

Вярталіся на радзіму і палонныя прусакі. Так, захаваўся спіс з трох чалавек, узятых у палон пад Смаленскам: паручык Ян Лятэнбах з жонкай, паходзячыя з Кёнігсберга, і два ніжнія чыны [18, арк.90]. Вызваляліся паступова і іншыя. У спісе ад 21.05.(2.06.)1814 г. пазначаны 37 неапалітанцаў, 2 аўстрыйцы, 13 галандцаў, 2 палякі, 1 вестфалец – усе ва ўзросце ад 21 да 30 гадоў [28, арк.30 – 32]. Аўстрыйскі паверaны ў справах у Пецярбургу турбаваўся аб 19 палонных італьянцах, якія не вярнуліся дадому пасля вызвалення [31, арк.1 – 2].

Такім чынам, нездарма пісалі гісторыкі, што пераход напалеонаўскай арміі праз Нёман быў пачаткам яе бясслаўнага канца.

## ЛЁС ПОЛЬСКАГА ЗЕМЛЕЎЛАДАННЯ Ў ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ Ў КАНТЭКСЦЕ НАПАЛЕОНАЎСКІХ ВОЙНАЎ

Валоданне зямлёй у даследуемы час было галоўнай, а можа быць, адзінай асновай незалежнасці. “…Зямля ёсць глеба, фундамент, моц нацыі, маці яе давольства, карміліца яе дзяцей…”, – слушна пісаў невядомы аўтар артыкула “Газетные толки о землевладении в Западной России”. Ён лічыў: “Пакуль землі рускія будуць у руках палякаў, пакуль спавядальнікі “Польскага катэхізіса” будуць падвяргацца перыядычнай небяспецы паўстання з аднаго  і ўтаймавання з другога боку, мы не будзем  мець магчымасці развіваць у Заходняй Расіі канчаткова нашыя прагрэсіўныя і палітыка-эканамічныя ўстановы… Мы ўпэўнены ўсім былым і сучасным, што пакуль землі нашы будуць у чужых руках, нашы правы на валоданне Заходнім краем Расіі будуць толькі моцныя de jure, а не de facto, яны не будуць мець пад сабою глебы і на баку прышэльцаў або рэнегатаў будзе сіла натуральная – матэрыяльная” [101, с.73].

Таму расійскі ўрад хацеў пазбавіць шляхту гэтай асновы,  а да таго ж перадаць рускім гаспадарам, каб тыя самыя стварылі сабе базу русіфікацыі беларускага насельніцтва. Вось што пісаў цару ў 1841 г. Ф.Міркавіч, праслужыўшы адзін год віленскім генерал-губернатарам і прапанаваўшы прадаць рускім дваранам 840 маёнткаў: “Толькі тады стане ўтварацца ў цэлым краі сетка наглядальнікаў, якія зрабілі бы дарэмнай ўсялякую канспірацыю ў зародку, толькі тады ўзмоцняцца наша праваслаўная вера і родная мова, а таксама адшукаем пэўнасць, за дваццаць пяць год польская народнасць загіне канчаткова” [236, с.255].

Існавалі два шляхі пазбаўлення шляхты зямельнай апоры “польскай прапаганды”: канфіскацыя і секвестр. Канфіскацыя – гэта перадача маёнтка ў казну па рашэнню Адміністрацыйнай рады ці суда. Былы гаспадар маёнтка падвяргаўся цывільнай смерці – забароне набываць зямельную ўласнасць, арэндаваць, не мог выступаць як бок ці сведка ў працэсе, яго сям`я магла лічыць яго памерлым і не пакінуўшым тэстамента. Секвестр – здача маёнтка прыгаворанага гаспадара на часовае кіраванне казне, якая магла завяршыцца або канфіскацыяй, або вяртаннем уладальніку.

Механізм канфіскацыі і секвестра пачаў працаваць пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, калі Кацярына II указам ад 16.08.1772 г. папярэдзіла землеўладальнікаў, што маёнткі застануцца пры іх толькі пры ўмове прысягі на падданства Расійскай імперыі. Незвычайнай была раздача зямлі на тэрыторыі другога падзелу Рэчы Паспалітай, бо спіс тых, хто атрымае яе, быў абвешчаны яшчэ да зацвярджэння трактатаў на Гродзенскім сейме 1793 г. 19 красавіка 1795 г. Кацярына II дала распараджэнне генерал-губернатару Ц.І.Туталміну ўзяць у секвестр маёнткі касцюшкаўскіх паўстанцаў. Указам 3(14).05.1795 г. загадана Туталміну забраць у казну маёнткі ўсіх удзельнікаў паўстання, а таксама тых гаспадароў, якія адсутнічалі на момант зацвярджэння іх праў на валоданне маёнткамі [300, с.302].

У перыяд напалеонаўскіх войн адбылася чарговая хваля пазбаўлення шляхты зямлі. Па ўказу ад 24.08.1809 г. яна неадкладна канфіскоўвалася ў тых дваран памежных тэрыторый, якія “адважыліся на самавольную адлучку ці былі заўважаны ў падгаворванні, а яшчэ болей у дастаўленні якіх-небудзь сродкаў да ўзбраення”. Указам ад 5.10.1809 г. секвестроўваліся маёнткі бацькоў, якія не былі аддзелены ад дзяцей, выехаўшых без ведама ўрада за мяжу, а пасля смерці бацькоў тая частка, якая па спадчыне адыходзіла такім дзецям, канфіскоўвалася ў казну. Указам ад 17.12.1809 г. быў прызначаны шасцімесячны тэрмін для вяртання тых, хто самавольна ад’ехаў за мяжу; пасля з імі паступалі адпаведна з двума вышэйназванымі ўказамі. Маёмасць маці і пасаг жонак не падвяргаліся канфіскацыі ў тым выпадку, калі гэта было пацверджана дакументамі, датаванымі да аўстрыйскай вайны 1809 г. [9, арк.4].

У Літоўска-Гродзенскай губерні па ўказу ад 5.10.1809 г. былі канфіскаваны маёнткі 50 чалавек. Па паветах гэта выглядае наступным чынам: з Гродзенскага, Ваўкавыскага, Навагрудскага паветаў – па 7 чал., Лідскага – 19 чал., Слонімскага – 9 чал., Кобрынскага – 1 чал. Па рэвізіі 1811 г. у гэтых канфіскаваных маёнтках была 1 151 мужчынская душа. Згодна з “Именным списком лиц, выбывших из Гродненской губернии за границу, которых имения законфискованные”, мы можам назваць прозвішчы некаторых памешчыкаў, якія пазбавіліся зямлі. З Гродзенскага павета ўспомнім чатырох асоб з ваколіцы Абуховічы – Мацвей і Пётр

Абуховічы, Стэфан і Юры Пархоўскія. З Лідскага павета збеглі за мяжу браты Іван і Ануфры Шукевічы, Леанард і Фелікс Лясковічы, Ваўрын Путкамер. З Навагрудскага павета знаходзім знаёмыя прозвішчы – граф Ксаверы Несялоўскі, Феліцыян Верашчака. Са Слонімскага павета пайшлі ў польскія легіёны браты Тадэвуш і Фелікс Ельскія, Ігнаці Юндзіл, Антоні Быхавец. З Ваўкавыскага павета збеглі за мяжу Адам Бішпінг, браты Юзаф і Ігнаці Аскеркі, з Кобрынскага – Ян Ажэшка.

У канцы вайны 1812 года, 12 (24) снежня, Аляксандр І выдаў маніфест, у якім дараваў ліцвінам удзел у вайне на баку французаў, але папярэджваў тых, хто не вернецца на працягу двух месяцаў дадому і застанецца "в службе наших неприятелей" і "продолжая и после прощения пребывать в том же преступлении, таковых, яко совершенных отступников, Россия не примет уже в свои недра, и все имущества их будут конфискованы" [89, ч.2, с.70]. 24 кастрычніка (5 лістапада) 1813 г. быў прыняты царскі ўказ аб "Правилах для конфискации и управления имений, отлучившихся самовольно за границу и невозвратившихся в определённый срок прежде бывших Польских областей жителей". Згодна з гэтымі правіламі, канфіскацыяй павінны былі займацца Камісіі для продажу казённых маёнткаў. Яны складалі спісы памешчыкаў, землі якіх канфіскоўваліся; рассылалі іх па земскіх і гарадскіх паліцыях, ва ўсе прысутныя месцы, а таксама ў іншыя камісіі і губернатарам, бо некаторыя памешчыкі мелі маёмасць у розных губернях; распаўсюджвалі спісы па гарадах і мястэчках у гандлёвыя дні; супрацоўнічалі з мясцовай казённай палатай. Да вырашэння справы аб канфіскацыі адказнасць за маёнтак неслі гарадская ці земская паліцыі. Сам працэс пераходу канфіскаванай зямлі ў казну адбываўся наступным чынам. З казённай палаты або з губернскіх чыноўнікаў разам з паліцэйскім пасылаўся ў маёнтак прадстаўнік. Яны абвяшчалі сялянам, якіх збіралі па вёсках, што з гэтага часу яны адыходзяць да кароннага ведамства і атрымліваюць апеку, як і іншыя казённыя сяляне. На першы час трэба было выконваць усе былыя абавязкі. Ад упраўляючага маёнткам патрабавалі спіс маёмасці, якая знаходзіцца ў дамах, заводах, эканоміі і інш. Наяўныя грошы адбіраліся ў павятовыя казначэйствы. Упраўляючы або аканом павінны былі даць звесткі аб грашовых спрэчках з іншымі ўласнікамі.

Камісія не павінна была задавольвацца толькі звесткамі ўпраўляючых, а правесці дазнанне ў сялян, земскай паліцыі, арэндатараў і іншых людзей. Прадстаўнік адбіраў усе паперы, якія знаходзіў у маёнтку, інвентары, вопісы і аддаваў Камісіі. Чыноўнікі павінны былі зрабіць зверку наяўнасці сялян па апошняй рэвізіі і скласці спісы тых, хто адсутнічае, для пошуку збеглых. У Камісію даносіліся звесткі і аб усіх вольных людзях маёнтка. Уся маёмасць здавалася ў Камісію па вопісу, які падпісвалі здаваўшыя яе і прыняўшыя.

Губернская камісія прызначала над канфіскаваным маёнткам кіраванне “сколь возможно проще и выгоднее для казны”. Часова іх маглі перадаць у адміністрацыю “благонадёжным дворянам”. Потым часцей за ўсё іх здавалі ў арэнду на тэрмін ад 3 да 6 год. Пры гэтым эканоміі дзяліліся на фальваркі, і кожны здаваўся ў арэнду асобна. Гэта павялічвала колькасць арандатараў і суму арэнднай аплаты. П.Вяземскі ў 1818 г. запісаў: “У Літве вельмі бядуюць сяляне. Мікалай Мікалаевіч (Навасільцаў) можа даць цудоўны прыклад, як прымаць казённыя арэнды: на іх глядзяць, як на лімон, які трапіў да вас на хвіліну ў рукі – усякі стараецца выціснуць з яго ўвесь сок” [97, с.199].

Усе рэчы, якія служылі аздобаю панскіх дамоў і падвяргаліся “порче и тлению”, патрэбна было прадаць з публічных таргоў у самым маёнтку або ў іншым месцы. Прадаваліся таксама існуючыя звыш неабходнага хлеб (маецца на ўвазе зярно), жывёла, вырабы, прылады працы, экіпажы, харчаванне. Атрыманыя грошы перадаваліся ў мясцовае казначэйства, дзе праходзілі ў агульныя дзяржаўныя зборы. Павіннасці сялян канфіскаваных маёнткаў, калі былі большымі, чым у казённых, то змяншаліся, а калі меншымі, дык заставаліся, як раней. Вырашалася пытанне аб дзейнасці прадпрыемстваў. Лясы перадаваліся обер-форштмайстрам [9, арк.3 – 6].

Імянны спіс, апублікаваны ў снежні 1813 г., дае нам наступныя звесткі. Усяго, па нашых падліках, у 189 уладальнікаў канфіскавана 234 маёнткі з агульнай колькасцю сялян 42 527 рэвізскіх душ (душ мужчынскага полу). Па паветах размеркаванне склалася такім чынам: Лідскі – 101 маёнтак з колькасцю 14 287 душ; Навагрудскі – 70 маёнткаў, 15 999 душ; Ваўкавыскі – 22 маёнткі, 2 850 душ; Слонімскі – 15 маёнткаў, 3 682 душы; Гродзенскі – 12 маёнткаў, 546 душ; Брэсцкі павет адпаведна – 7 і 3 926; Кобрынскі – 5 і 1133; Пружанскі – 2 і 104 (трэба прыняць на ўвагу, што не па ўсіх маёнтках ў спісе паказана колькасць душ па рэвізіі, асабліва па Гродзенскаму павету) [133].

У лік 189 асобаў шляхецкага паходжання, якія падтрымалі Напалеона і пакінулі межы Расійскай імперыі, дзіўным чынам трапілі 2 жанчыны: графіня Ганна Патоцкая і Аляксандра Мержыеўская. Увогуле прыхільнікаў Напалеона паводле імяннога спіса снежня 1813 г. можна падзяліць на тры групы:

– 101 чалавек – уласнікі маёнткаў (“сядзіб”) і прыгонных сялян;

– 21 чалавек – уласнікі маёнткаў ці нерухомай маёмасці без прыгонных сялян альбо лічба прыгонных невядома;

– 67 чалавек – шляхта, якая не мела ўласнасці.

Тэарэтычна апошняя група павінна быць значна большай, але яе цяжка зафіксаваць, бо чалавек без уласнасці больш рухлівы і менш вядомы ўладам.

Прывядзем прозвішчы тых асоб, у якіх канфіскавалі вялікую зямельную маёмасць і значную колькасць сялян. У Лідскім павеце найбольш

пацярпеў князь Дамінік Радзівіл – 18 маёнткаў з 5 975 душамі [133]. У НГА Беларусі ў Гродне захавалася справа "По отношению министра финансов о распоряжении имением, князю Доминику Радзивиллу принадлежащим". З яго бачна, што яшчэ ў 1810 г. усе радзівілаўскія маёнткі трапілі за даўгі ў залог, а таму з гэтага часу ён не мог імі распараджацца (рабіць акты, запісы, закладныя і г.д.). Паводле царскага загада ад 16.11.1811 г., на маёнткі Радзівіла быў накладзены секвестр, а ўказам ад 9.02.1812 г. было прадпісана ўзяць іх у казённае ведамства. Усе пасэсары, якія мелі землі Радзівіла сталі называцца "часовыя законныя ўладальнікі", а галоўным упраўляючым стаў Камінскі. Закладнымі радзівілаўскімі маёнткамі напрыклад, валодалі: Вайніловіч (Мір з вёскамі, 1 927 душ), Дыбоўскі (Падбераг, Вераскаў, 519 душ), Касінская (Бярозаўка, 463 душы), Брахоцкі (Пялечна, Радунь, 239 душ) і іншыя – усе ў Навагрудскім павеце; Грабоўскі (Дамачаў і Чэрск у Брэсцкім павеце, 1 424 душы); Каменскі і Захватовіч (Збляны, 311 душ). У пажыццёвым валоданні радзівілаўскія землі знаходзіліся ў Тышкевіча (Любча, 791 душа), княжны Радзівіл (Беліца з фальваркамі Крывічы, Сялец, Стокі, 2 033 душы), у нашчадкаў Хамінскага (Дакудаў, 652), Бялінскай (Ліпічна, 1 100), Бушчынскага (Пацукі, 16). З усіх названых было спагнана ў казну 22 040 рублёў 1,5 капейкі, 1 781 залаты чырвонец, 10 668 руб. 50 кап. серабром, засталося спагнаць 6 088 руб. 72,5 кап. Маёнткі Радзівіла знаходзіліся ў асаблівым кіраванні, старшынёй якога быў прысланы ад Міністэрства фінансаў надворны саветнік Равіч, а пасля яго смерці калежскі асэсар Дайнека. Ад іх і старшыні Мінскага галоўнага суда 1-га дэпартамента Каменскага ў Навагрудскае казначэйства з радзівілаўскіх маёнткаў, якія знаходзіліся ў Гродзенскай, Мінскай і Віленскай губернях [12, арк.5 – 11].

У Лідскім павеце землі канфіскавалі ў графіні Ганны Патоцкай (17 маёнткаў, 2 075 душ), графаў Людвіка Паца (6, 1 147), Рудольфа Тызенгаўза (7, 1 001), Аляксандра Хадкевіча (1, 684), князя Міхала Радзівіла (8, 1 200). У Гродзенскім павеце пад канфіскацыю трапілі землі Р.Тызенгаўза (3 маёнткі, 387 душ), у Навагрудскім – Л.Паца (1, 431), Д.Радзівіла (26, 6 183), А.Хадкевіча (1, 2 133), Казіміра Тызенгаўза (5, 1 324), Канстанціна Радзівіла (5, 1 366), графа Ксаверыя Несялоўскага (2, 693). У Ваўкавыскім павеце зямлі пазбавіліся Адам Бішпінг (8 маёнткаў, 714 душ), Аляксандр Быхавец (2, 908), граф Павел Грабоўскі (3, 369); у Слонімскім – А.Бішпінг (1 маёнтак, 738 душ), М.Радзівіл (1, 631); у Кобрынскім – граф Стэфан Грабоўскі (1, 347), Д.Радзівіл (1, 1 424), А.Хадкевіч (1, 1 719) [133]. У Брэсцкім павеце хваля канфіскацыі, па сцвярджэнню даследчыка А.У.Ерашэвіча, прывяла да пераводу ў разрад казённых 11 – 12 % былых прыватнаўласніцкіх сялян [121, с.199].

У выніку канфіскацыі ўсіх маёнткаў у Літоўска-Гродзенскай губерні маглі змяніць гаспадароў 42 527 беларускіх сялян мужчынскага пола,

што разам з жанчынамі складала больш за 80 тыс. чалавек. Гэтыя 42 527 чалавек складалі 18,8 % усіх рэвізскіх душ Гродзенскай губерні (на 1813 г. – 225 989 сялян мужчынскага полу). Безумоўна, што такі маёмасны перадзел вельмі істотна паўплываў бы на гісторыю Беларусі.

Прывядзем спіс дзесяці найбольш пацярпелых уласнікаў у Літоўска-Годзенскай губерні з колькасцю рэвізскіх душ па паветах.

| № | Прозвішча | Гродзенскі павет | Лідскі павет | Навагрудскі павет | Ваўкавыскі павет | Слонімскі павет | Брэсцкі павет | Па губерні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Князь Дамінік Радзівіл | | 5 975 | 5 923 | | | 1 424 | 13 322 |
| 2 | Граф Аляксандр Хадкевіч | | 684 | 2 133 | | | 1 719 | 4 536 |
| 3 | Графіня Ганна Патоцкая | | 2 075 | | | | | 2 075 |
| 4 | Князь Міхал Радзівіл | | 1 202 | | | 631 | | 1 833 |
| 5 | Граф Людвіг Пац | | 1 146 | 431 | | | | 1 577 |
| 6 | Адам Біспінг | | | | 714 | 738 | | 1 452 |
| 7 | Граф Рудольф Тызенгаўз | 387 | 1 001 | | | | | 1 388 |
| 8 | Князь Канстанцін Радзівіл | | | 1 366 | | | | 1 366 |
| 9 | Граф Канстанцін Тызенгаўз | | | 1 324 | | | | 1 324 |
| 10 | Аляксандр Быхавец | | | | 908 | | | 908 |
| | Разам | 387 | 12 083 | 11 177 | 1 622 | 1 369 | 3 143 | 29 781 |

Паводле прадстаўленых у табліцы дадзеных, атрымліваецца, што найбольшы маёмасны цяжар канфіскацыі падаў на арыстакратыю былой Рэчы Паспалітай. Яна страціла амаль 70 % ад усёй колькасці падлягаўшых канфіскацыі рэвізскіх душ: 29 781 з 42 527 сялян мужчынскага пола.

У 1815 г. Аляксандр I амніціраваў усіх шляхціцаў-удзельнікаў вайны на баку Напалеона. Зямля канфіскоўвалася толькі ў тых, хто не вярнуўся ў тэрмін з-за мяжы. Названыя вышэй асобы пераважна не вярнуліся на Радзіму. Гродзенскі гісторык Е.Ф.Арлоўскі прастадушна напісаў: "Гэтым усёдараваннем быў разбураны праект Кутузава – прадставіць

на Высачайшае меркаванне прапанову – узнагародзіць генералаў і афіцэраў, якія адзначыліся ў Айчынную вайну 1812 г. канфіскаванымі маёнткамі літоўскіх і беларускіх памешчыкаў” [178, с.235].

Пэўныя маёмасныя страты ліцвінская арыстакратыя ўсё ж такі панесла. Адзіная дачка Дамініка Радзівіла – Стэфанія, каб выратаваць сваю ўласнасць, выйшла замуж за сына “абаронцы Пецербурга”, героя 1812 г. П.Х.Вітгенштэйна – Льва Пятровіча. Так нечакана нямецкія вайскоўцы на расійскай службе Вітгенштэйны сталі самымі багатымі магнатамі Беларусі, якія толькі на тэрыторыі Літоўска-Гродзенскай губерні мелі 13 322 рэвізскія душы.

## УШАНАВАННЕ ВАЙНЫ 1812 ГОДА Ў ЗАХОДНІМ РЭГІЁНЕ БЕЛАРУСІ

Шмат чаго могуць расказаць пра былое помнікі і могілкі – вехі нашай памяці. У заходнім рэгіёне Беларусі 1812 год пакінуў памятныя месцы, на якіх цяпер пабудаваны помнікі, усталяваны памятныя знакі ці мемарыяльныя пабудовы, а таксама брацкія і асабістыя могілкі на месцах баёў. Перагартаўшы апублікаваныя кнігі “Памяць” Бераставіцкага, Гродзенскага, Маларыцкага, Мастоўскага, Навагрудскага, Пружанскага, Шчучынскага раёнаў, у пераліках помнікаў і памятных месцаў мы не знайшлі ўспамінак пра 1812 г. Вярнуць памяць – наш абавязак.

Ужо ў 1835 г. Мікалай І загадаў “пабудаваць чугунныя манументы на галоўных пунктах баёў, якія былі на працягу вайны 1812 года”. Са справы, якая захавалася ў НГАБ у Гродне “О доставлении сведений, требующихся на предмет сооружения в Гродненской губернии памятников в память войны 1812 г.”, вядома, што меркавалася пабудаваць два помнікі. У Кобрыне – на поўнач ад горада на Прускай дарозе, адкуль атрад падпалкоўніка князя Мадатава атакаваў саксонцаў. Пры ст.Гарадзечна – на дарозе з Кобрына ў Пружаны, каля левага фланга пазіцый Тармасава [34, арк.1 – 1адв.]. Мясцовыя ўлады павінны былі прыслаць звесткі аб цэнах на будаўнічыя матэрыялы для фундамента пад помнік (бутавы камень, цэглу, пясок, гліну, бярвенні, дошкі), зрабіць падлік работы майстроў і рабочых, а таксама прадставіць звесткі аб гаспадарах у коштах 0,5 дзесяціны зямлі, на якой будзе помнік. Выконваючы абавязкі Кобрынскага маршалка павятовы суддзя выслаў патрабуемыя звесткі 22.04.1836 г. Уладальніцай зямлі ў Гарадзечне была памешчыца Бруна-Пуслоўская, якая згадзілася даць 0,5 дзесяцін зямлі без грошай. Другога гаспадара двараніна Лягуцкага кобрынскі маршалак А.Трэмбіцкі пераканаў абвясціць памяркоўную цану – 60 руб. серабром [29, арк.13 адв., 20].

Для таго, каб выбраць месцы пабудовы манументаў, быў пасланы падпалкоўнік Генеральнага штаба Якаўлеў. Ён 30 чэрвеня 1836 г. да-

носіў гродзенскаму губернатару, што на выбраных месцах паставіў вехі – “дрэвы (дакладней – бярвенні), абсыпаныя зямлёй з дзярновай абкладкай” – у 2 вярстах ад ст.Гарадзечна, на Жураўлінай гары, а таксама ў Кобрыне, на ўзвышшы пад назваю “замак каралевы Боны”. Якаўлеў прасіў земскую паліцыю і кобрынскага гараднічага ўзяць пастаўленыя вехі пад свой нагляд да пастаноўкі помнікаў [29, арк.17 – 17 адв.]. Відаць, рабілі яны гэта дрэнна, бо ў 1862 г. пружанскі земскі спраўнік і кобрынскі гараднічы даносілі губернатару, што помнікаў 1812 г. няма, а вехі разбурыліся [41, арк.7 – 8].

У 1868 г. пад Кобрынам, на месцы захавання расійскіх воінаў, пабудавалі сабор Аляксандра Неўскага. Найбольшая колькасць мемарыяльных збудаванняў з’явілася ў 1912 г. Гродзенскі губернскі камітэт па святкаванню 100-гадовага юбілею Айчыннай вайны вырашыў пабудаваць помнік у Ваўкавыску і усталяваць надмагільныя крыжы на сямі брацкіх могілках. Для гэтага 4 ліпеня 1912 г. хадайнічаў перад губернскім распарадчым камітэтам аб выкарыстанні вольных рэшткаў сум земскага сбору. Апошні на сваім пасяджэнні 10 ліпеня вырашыў падтрымаць хадайніцтва і прасіць аб выдзяленні грошай у Камітэце галоўнага кіравання па справах мясцовай гаспадаркі ў суме 4 050 руб. На пасяджэнні 20 мая 1912 г. сябры губернскага распарадчага камітэта разгледзелі прапанову губернатара аб асігнаванні 4 200 руб. на рамонт старых і пабудову новых помнікаў вайны 1812 г.:

1. На аднаўленне помніка С.М.Ланскому ў Гродне – 1 150 руб.
2. На пабудову помнікаў у Кобрыне і Ваўкавыску – па 1 000 руб. на кожны.
3. На ўладкаванне мемарыяльнай дошкі на Аляксандра-Неўскім саборы ў Кобрыне – 150 руб.
4. На пабудову помнікаў на дзвюх брацкіх могілках у м.Шарашэва Пружанскага павета, на брацкіх могілках у в.Дубна і в.Харкі Гарадзечанскай воласці, ва ўрочышчы Дзяды Бярозскай воласці – па 150 руб. на кожны.
5. На пабудову помніка каля балота паміж вёскамі Жабін і Паддубна, якое стала брацкімі могілкамі часцей аўстрыйскага корпуса генерала Шварцэнберга – 150 руб. [43, арк.244, 390].

Губернскі распарадчы камітэт падтрымаў прапанову губернатара аб будаўніцтве ў названых населеных пунктах помнікаў і выдзяленні на гэта 4 200 руб. з вольных рэшткаў ад крэдыта земскіх збораў, якія ўтварыліся ад утрымання вясковых лячэбніц.

На гродзенскіх праваслаўных могілках і сёння стаіць цагляны помнік, які ўяўляе сабой сіметрычна пабудаваную кампазіцыю. На высокай аснове (1,2 м) пастаўлены ўсечаныя калоны, паміж якімі размешчана невялікая ваза. У сярэдзіне асновы замацавана мемарыяльная дошка з надпісам: “Здесь погребено тело генерал-лейтенанта Сергея Николаевича

Ланского, с честию и славою служившего, на поле брани от полученной раны под селением Краоном февраля 23-го дня к общему сожалению своих товарищей и подчинённых, преставился в городе Намюре, от рождения на 35 году сего 1814 года марта 18 дня по полуночи в два часа".

С.М.Ланскі паходзіў са старажытнага дваранскага роду польскага паходжання, вядомага з XVI ст. Да яго, напрыклад, належалі Сяргей Сцяпанавіч Ланскі, міністр унутраных спраў Расіі (1855 – 1861), генерал-ад'ютант Пётр Пятровіч Ланскі, з 1844 г. муж удавы А.С.Пушкіна. Ланскі пачаў службу, калі меў 14 гадоў, падпрапаршчыкам лейб-гвардыі Ізмайлаўскага палка. Хутка прасоўваўся па службовай лесвіцы і ў 1800 г. быў штабс-капітанам. У 1802 – 1805 гг. служыў у Калегіі замежных спраў і два гады прабыў з дыпламатычнай місіяй у Парыжы. Затым вярнуўся на вайсковую службу і ўдзельнічаў у антыфранцузскіх кампаніях (баі пад Ландсбергам, Прэйсіш-Эйлаў), быў узнагароджаны афіцэрскім Георгіеўскім крыжам. У маі 1807 г. Ланскі стаў камандзірам Конна-Польскага палка, які раней фарміраваўся і кватараваў у Гродне.

3 жніўня 1810 г. Ланскі атрымаў чын генерал-маёра. Вайну 1812 года ён сустрэў камандзірам Беларускага гусарскага палка, які фарміраваўся з ураджэнцаў Беларусі і стаяў недалёка ад Гродна, на левым флангу 1-й Заходняй арміі. Давыдаў, які ведаў Ланскога, казаў пра яго: "Столь же красив наружностью, сколь блистательный мужеством...". Ланскі ваяваў пад Полацкам, на Бярэзіне, вызваляў Вільню. Удзельнічаў у замежным паходзе рускай арміі: баях пад Калішам (Польшча, атрымаў ордэн Св.Уладзіміра 2-й ступені), Зондэргаўзенам, Гальберштадтам, Вейсэнфельдам, Люцэнам, Баўцэнам, Лейпцыгам. Апошнім боем Ланскога стала бітва 7 сакавіка 1814 г. пад Краонам у Шампані (Францыя). Прыкрываючы сваёй дывізіяй адыход часцей князя Варанцова, Ланскі быў смяротна паранены і праз два тыдні памёр.

Баявыя сябры прывезлі яго ў Гродна. Два гады таму, 20 ліпеня 1812 г., тут урачыста па загаду губернатара – француза Лебрэна пахавалі ягонага бацьку генерал-маёра Мікалая Сяргеевіча Ланскога, брата гродзенскага губернатара Васіля Сяргеевіча Ланскога (у 1803 – 1813 г.). 18 (30) жніўня 1795 г. Кацярына II падаравала бацьку вёскі былой Брэсцкай эканоміі: Збаражскага ключа Збараж, Маларыта, Хаціслаў; Алтушскага ключа в.Олтуш (усяго 1 760 душ мужчынскага полу ў Гродзенскай губерні, цяпер Маларыцкі раён Брэсцкай вобласці). У архіве захаваліся справы, з якіх вядомы спрэчкі паміж нашчадкамі М.С.Ланскога з сялянамі казённага маёнтка Тур Ратненскага староства. Яны адбываліся, нягледзячы на тое, што ў 1811 г. адбылося межаванне маёнтка Олтуш (зацверджана Сенатам 13.11.1816 г.), [1, арк.5]: Олтуш, Хаціслаў, Крушынец, Волчы Лес, Лочкі знаходзяцца ў Гродзенскай губерні; Тур – у Валынскай. У 1820 г. упраўляючы маёнткам Ланскога скардзіўся на незаконны дазвол Ковельскага ніжняга земскага суда і спраўніка вырубаць

Олтушскія лясы, на тое, што тураўскія сяляне карыстаюцца іх сенакосамі, жураўскія сяляне “скапалі грунты” Олтуша [33, арк.2, 4 – 6]. 15 красавіка 1822 г. 40 сялян з Олтуша напалі на землі в.Тур, якія арандаваў генерал-маёр Шостак, захапілі 34 галавы рагатай жывёлы. Арандатар скардзіўся, што ўпраўляючы Олтушскага ключа Ф.Талочка штодзённа робіць напады на спрэчныя землі і крадзе рагатую жывёлу, высякае чужы лес, знішчае межавыя знакі. Сяляне Тура ў адказ засеялі жыта на полі в.Хаціслаў [1, арк.10, 12, 14]. Па ўказу Агульнага Схода 4 і 5 межавога дэпартамента Правячага Сената ад 21.01.1846 г. Валынскай і Гродзенскай грамадзянскім палатам прадпісана спрэчныя землі пакінуць у сучасным стане да генеральнага межавання заходніх губерняў. Аднак у жніўні гэтага ж года нашчадак Ланскога калежскі дарадца Парошын скардзіўся ў Сенат на тое, што ад хацілаўскіх сялян адабралі зямлю і сенакосы па распараджэнню ляснога дэпартамента Валынскай губерні. Сенат пацвердзіў 30.01.1848 г. сваё рашэнне 1846 г. і загадаў вясною правесці межаванне зямель нашчадкаў Ланскога. 13 (25) чэрвеня 1848 г., калі чыноўнікі Брэсцкага земскага суда прыехалі ў спрэчнае месца ўрочышча Рэкі, дык сяляне з вёсак Тур, Заблоцце і Гуты не далі ім выканаць зямельныя абмеры [38, арк.2 – 5, 22 – 23]. Гэтак рознымі шляхамі лёс Ланскіх пераплятаўся з заходнім рэгіёнам Беларусі.

У Кобрыне праект помніка выканаў грамадзянскі інжынер Д.Маркаў. Каменныя працы рабіў майстар Ярасінскі з Брэста, ляпніну і адліўку бронзавага арла, выраб і ўсталяванне мармуровых дошак ажыццявіў варшаўскі скульптар Сігізмунд Отта. На прамавугольным з бутавага каменя пастаменце ў цэнтральнай частцы стаіць чатырохвугольны п’едыстал у выглядзе ўсечанай пірамiды, абліцованай гранітнымі плітамі. На версе сядзіць бронзавы арол. Перад помнікам па франтону стаяць чатыры чыгунныя гарматы і піраміды з ядраў. З трох бакоў знаходзяцца мемарыяльныя дошкі. З ліцавога боку напісана: “Русским воинам, одержавшим первую победу над войсками Наполеона в пределах России 15 июля 1812 г.”. З правага боку адзначана: “Под начальством генерала ад кавалерии Тормасова в пленении неприятельского отряда в Кобрине участвовали полки: пехотные – Ряжский, Апшеронский, 13-й Егерский; Пионерная рота капитана Куцевича; драгунские – Стародубский, Владимирский, Тверской; уланский – Татарский; гусарские – Павлоградский, Александрийский, Лубенский, казачий Барабанщикова, артиллерийские роты: легкая № 34 и конные № 11 и № 12; Трофеи: 4 знамени, 8 орудий, два генерала, 78 офицеров, 2 382 низших чинов”. На левай дошцы надпіс наступны: “Сооружён потомками героев кобринской победы полками: пехотными – Ряжским, Апшеронским, 9 сапёрным батальоном; уланскими – Владимирским, Татарским; гусарскими – лейб-Павлоградским, Александрийским, Лубенским, населением Гродненской губернии, при участии полков 38-й пехотной дивизии, 38-й артиллерий-

ской бригады и Украинского гусарского полка". Лёс помніка быў цяжкі: у час Першай сусветнай вайны кайзераўскія салдаты знялі з яго мармуровыя дошкі і бронзавага арла. Толькі ў 1951 г. помнік быў адноўлены, калі заслужаны дзеяч мастацтваў БССР прафесар М.А.Керзін зрабіў новага бронзавага арла [251, с.57, 59].

Праект помніка для Ваўкавыска быў падрыхтаваны І.А.Фаміным. Прадугледжвалася паставіць на квадратны пастамент круглую калону з паліраванага граніта. На версе яе меркавалі размясціць шар з двухгаловым арлом. На адным з бакоў калоны была бы прымацавана авальная бронзавая дошка з надпісам [251, с.48]. Першая сусветная вайна перашкодзіла планам, а потым палітычная сітуацыя змянілася. Але ў Ваўкавыску ёсць будынак, які звязаны з падзеямі 1812 г. – гэта фальварачны дом з мезанінам і паўкруглым балконам, які абапіраецца на чатыры масіўныя калоны. Тут перад вайной знаходзілася штаб-кватэра 2-й рускай арміі на чале з П.І.Баграціёнам. Аб гэтым сведчыць мемарыяльная дошка на заходнім баку дома. Перад ім на пастаменце знаходзіцца бронзавы бюст палкаводца. А ў самым будынку размешчаны ваенна-гістарычны музей імя П.І.Баграціёна, адна з залаў якога прысвечана 1812 году [94, с.3].

Да 100-годдзя Гарадзечненскай бітвы на месцы бою і пахавання воінаў ва ўрочышчы "Высокая Гара" каля в.Паддубна заклалі, а потым пачалі будаўніцтва мемарыяльнай капліцы "Доблесным предкам, погибшим в бою под Городечно 1812 г. 31 июля" (захаваўся падмурак). За вёскай Харкі Астравок (урочышча Пяскі) на месцы захавання загінуўшых воінаў збудавалі і асвяцілі драўляны праваслаўны крыж, які да сённяшняга дня не захаваўся [175, с.12]. У 1962 г. у в.Паддубна Пружанскага раёна быў адчынены манумент архітэктараў Л.В.Маскалевіча і А.К.-Суворава. Квадратная калона вышынёй 6,4 м стаіць на невялікім ступенчатым п'едыстале. У ніжняй частцы калоны прымацавана мемарыяльная дошка з надпісам, які сведчыць аб тым, што 12.08.1812 г. тут адбыўся чатырнаццацігадзінны бой 3-й арміі Тармасава з напалеонаўскай арміяй [251, с.49 – 51].

У 1962 г. пабудаваны Памятны знак у гонар 1812 г. у Брэсце, на тэрыторыі цэнтральнага вострава крэпасці, каля Паўночнай Брамы. Выканала яго аўтарская група ў складзе Л.В.Маскалевіча, А.У.Гарбачова і мастака У.У.Старчакова. На невялікай бетоннай пліце пастаўлены гранітны маналітны блок цёмна-чырвонага коляру вышынёй 1,3 м. На ім размешчана пласціна чорнага лабрадарыта з лічбаю "150", а на паўночна-ўсходнім баку на глыбе выбіта дата "1812". На ім таксама маецца з надпісам, які сведчыць, што тут 25 ліпеня 1812 г. часткі 3-й расійскай арміі на чале з генералам Шчарбатавым нанеслі паражэнне напалеонаўскай арміі і занялі Брэст [251, с.72 – 73].

На могілках некаторых населеных пунктаў знаходзяцца захаванні ўдзельнікаў вайны 1812 г. Каля сцяны могілак Барунскага кляштара ў

1813 г. пахавалі ўрача Іллю Ягоравіча Грузінава (1781 – 1813). Два гады перад вайной доктар медыцыны працаваў на кафедры анатоміі, фізіялогіі і судовай медыцыны, быў выбраны яе загадчыкам. З пачатку вайны добраахвотнікам паступіў на ваенную службу. У жніўні быў прызначаны корпусным урачом Маскоўскага апалчэння і пад час Барадзінскага бою аказваў хірургічную дапамогу параненым. У студзені 1813 г. знаходзіўся ў м. Баруны, адкуль паслаў свой апошні ліст рэктару Маскоўскага універсітэта І.А.Гейму: "...З таго часу, як я з Вамі развітаўся, выконваў я сваю пасаду па 3-е чысло добра, але з гэтага часу я занямог моцнаю гарачкаю". Ад "нервовай гарачкі" ён і памёр на 32 годзе жыцця [131].

На старых (Ружанскіх) могілках г.Слоніма пахаваны Міхаіл Іванавіч Лявіцкі (1769 – 1831). Ураджэнец Магілёўшчыны пачаў вайсковую службу ў 14 год. У 1793 г. быў ужо капітанам. Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне, штурмаваў Ізмаіл. У 1803 г. атрымаў званне генерал-маёра і быў прызначаны шэфам Падольскага мушкецёрскага палка. У 1805-1807 г. ваяваў супраць Францыі пад Аўстэрліцам, Прэйсіш-Эйлаў. Вайну 1812 г. сустрэў на заходняй мяжы Расійскай імперыі ў складзе корпуса генерала Дохтурава з 1-й Заходняй арміі. З ёю адыходзіў да Дрысы, дайшоў да Масквы. Пасля ўдзелу ў замежных паходах расійскай арміі быў камендантам Варшавы. Апошнія два гады свайго жыцця жыў у Слоніме, дзе і памёр [290, с.4]. Помнік на могілках уяўляе сабою прыпадняты саркафаг, які знаходзіцца на каменным п'едыстале. Саркафаг зроблены з маналітнага кавалка ружовага граніту з адпаліраванымі вонкавымі бакамі. На правым баку надпіс: "Михаил Иванович Левицкий Императорской Российской службы генерал от инфантерии кавалер орденов св. Благоверного кн. Александра Невского, св. Анны – I ст., алмазами украшенного, св. Равноапостольского кн. Владимира – III ст., Великомученика Победоносца Георгия – IV степени, св. Станислава – I ст., золотые штурмовые знаки за взятие Измаила и Праги и медали серебрянная на голубой ленте и бронзовая на Владимирской, установленные в память Отечественной войне 1812 года" [215, с.4; 251, с.80].

На могілках в.Дзярэчын Зэльвенскага раёна пахаваны генерал-маёр Ермалай Ермалаевіч Гампер (1749 – 1814). З шаснаццацігадовага ўзроста ён служыў у войску на працягу 36 гадоў. Лёс звёў яго са знакамітымі палкаводцамі: П.А.Румянцавым, А.В.Суворавым, М.І.Кутузавым. У вайне 1812 г. Гампер быў камандуючым корпуса ў складзе Дунайскай арміі. Яму давялося вызваляць ад напалеонаўскіх войск Мінск, Слонім, Зэльву. На мармуровай дошцы, прымацаванай на абяліску, што стаіць на могілках, напісана: "Его превосходительству г-ну генерал-майору Гамперу, бывшему шефу Смоленского драгунского полка 25 ноября 1814 г. Деречин.

Не пышный мавзолей, любовь – монумент твой.
Почий, великий муж, бессмертие с тобой" [215, с.4; 251, с.81–82].

На гарадскіх могілках Скідзеля стаіць помнік Аляксандру Мікалаевічу Энгельгарду (1778 – 1826). Пірамідальны чатырохграннік зроблены з шэрага граніту, на версе яго – кветка, у сярэдзіне якой калісьці быў крыж. Надпіс абвяшчае: "Генерал-майор Энгельгард А.Н. родился 17.01.1778 года, служил Отечеству 32 года, скончался на службе 16 июня 1826 г. От сослуживцев и подчинённых". За баявыя заслугі Энгельгард быў узнагароджаны ордэнамі Св. Ганны 2-й ст., Св.Уладзіміра 4-й ст., бронзавым медалём "В память 1812 года" [83].

У 1,5 км на захад в.Камень Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, ля дарогі Кобрын – Драгічын, знаходзіцца магіла палкоўніка расійскай арміі Васіля Нічыпарэнкі. На ёй ляжыць шэры камень-валун памерамі 1,7х0,6х0,22 м, на якім выбіты прозвішча і дата захавання [251, с.81].

## СТОГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ВАЙНЫ 1812 ГОДА

20 мая 1910 г. была зацверджана "Міжведамасная камісія па абмеркаванню пытанняў, звязаных са 100-гадовым юбілеем Айчыннай вайны". У Гродзенскай губерні былі створаны губернскі і павятовыя камітэты па падрыхтоўцы святкавання 100-гадовага юбілею Барадзінскай бітвы і Айчыннай вайны. Як адзначалася ў дзённіку пасяджэнняў губернскага камітэта папячыцельства аб народнай цвярозасці, "айчынная (напісана з маленькай літары. – В.Ш.) вайна мае асаблівае значэнне ў гістарычным жыцці ў прыватнасці і для Гродзенскай губерні, у межах якой пакладзены пачатак перамогам рускай зброі над дагэтуль непераможнай арміяй Напалеона..." [45, арк.122].

Галоўныя юбілейныя мерапрыемствы адбыліся ў Маскве і на Барадзінскім полі. У НГА Беларусі ў Гродне захавалася справа "О прибытии представителей от Гродненской губернии в г.Москву и Бородино для участия в торжествах 100 юбилея Отечественной войны и Бородинского сражения". У дакументах гаварылася, што па праекту цырыманіяла святкавання права прысутнічаць на маскоўскіх урачыстасцях маюць прамыя нашчадкі па мужчынскай лініі генералаў, адміралаў, штаб- і обер-афіцэраў – удзельнікаў Айчыннай вайны. Нашчадкі ўдзельнікаў Барадзінскага бою могуць прысутнічаць на ўрачыстасцях у Барадзіне і Маскве, а астатнія – толькі ў Маскве. Кожны прэтэндэнт павінен атрымаць па месцы жыхарства або службы пасведчанне, якое ў Маскве будзе абменена на спецыяльныя білеты канцылярыі маскоўскага губернатара і граданачальніка. Праезд на святкаванне – за ўласны кошт [39, арк.1].

У № 53 "Гродненских губернских ведомостей" (6.07.1912 г.) губернатар В.М.Барзэнка даводзіў да свядомасці жыхароў, што нашчадкі бы-

лых удзельнікаў вайны 1812 г., якія хочуць паехаць у Маскву і Барадзіно, павінны падаць заяву на яго імя з дадаткам дакументаў аб сваім паходжанні [42, арк.1]. Дзякуючы захаваўшымся заявам, вядома, што некалькі нашчадкаў знайшлося і ў Гродзенскай губерні. Памочнікам начальніка станцыі Слонім Палескай чыгункі працаваў Елявофій Фёдаравіч Чырыкаў. Яго дзед Якаў удзельнічаў у вайне і быў узнагароджаны крыжам Св.Георгія № 17659. Сам Чырыкаў паходзіў з дваран Сімбірскай губерні. Ён жыў у Слоніме з 1907 г., раней працаваў у Зэльве. Губернатар выдаў яму пасведчанне за № 14380, але невядома, ці ён паехаў на ўрачыстасці, бо жандарскае ўпраўленне знайшло негатыўныя характарыстыкі яго. У 1905 г. Чырыкаў, працуючы памочнікам начальніка ст.Ваўкавыск, прымаў удзел у пасяджэннях забастовачнага камітэта [39, арк.2, 5, 7, 10, 19]. Другі нашчадак удзельніка вайны 1812 г. – Юры Яўгенавіч Райскі. 48-гадовы ўрач жыў у 1912 г. на ст.Маларыта Брэсцкага павета. З 1895 па 1898 быў урачом 2-га кадравага абознага батальёна, затым па 1908 – участковым сельскім урачом Дамачаўскай сельскай лячэбніцы Брэсцкага павета. Невядома, нашчадкам каго ён быў і ці атрымаў пасведчанне. Трэці патомак – нейкі Караткоў, пра якога зрабіла запыт канцылярыя маскоўскага граданачальніка. Пра яго нам нічога невядома [39, арк.12, 15].

З копіі тэлеграмы, прысланай губернатару з Масквы, вядома, што на святкаванне запрашаліся губернскія прадвадзіцелі дваранства, адзін валасны старшыня па выбару губернатара, не болей за 5 прадстаўнікоў "инородческого населения", якое прымала ўдзел у вайне. На 22 жніўня (4 верасня) маглі прыехаць у Барадзіно для ўскладання вянкоў старшыня губернскай земскай управы, гарадскі галава губернскага горада і дэпутацыя ад саслоўяў і грамадстваў. Гродзенскі губернскі прадвадзіцель дваранства камергер Двара Яго Вялікасці Мікалай Рыгоравіч Невяровіч атрымаў пасведчанне пад № 15505, валасны старшыня Бельскага павета Леў Васільевіч Вярбіцкі – пад № 15348, гродзенскі гарадскі галава Эдуард (Эдвард) Эдуардавіч Лістоўскі – пад № 14399 [39, арк.1 адв., 21, 23]. Пра астатніх заходнебеларускіх удзельнікаў пакуль нічога невядома.

Прыехаўшыя ў Барадзіно маглі наведаць Кутузаўскую хату ў Філях, убачыць помнік М.І.Кутузаву ў в.Горкі Мажайскага павета і 34 помнікі на Барадзінскім полі, якія былі пабудаваны за кошт салдат і афіцэраў тых палкоў, якія прымалі ўдзел у баю [157, с.139]. Былі адрэстаўраваны Маслоўскія флешы, левая Баграціёнава флеш, Шэвардзінскі рэдут. На месцы "інваліднага" доміка ўзнік будынак Ваенна-гістарычнага музея [84, с.367]. 25 – 26 жніўня (7 – 8.09) праходзілі асноўныя ўрачыстасці на Барадзінскім полі: малебны, паніхіды, адкрыццё і агляд умацаванняў і помнікаў, парад, хрэсны ход, дэлегацыі з губерняў і Францыі. Вось як узрушана піша пра гэта галоўная дзеючая асоба ўрачыстасцей Мікалай

II: “...усе мы праніклiся агульным пачуццём да нашых продкаў. Нiякiя апiсаннi баёў не даюць тае сiлы ўражанняў, якае пранiкае ў сэрца, калi сам знаходзiшся на той зямлi, акропленай крывёю 58 000 нашых герояў, забiтых i параненых у гэтыя два днi Барадзiнскага бою... Прысутнасць на панiхiдзе i святочным малебне знакамiтага абраза Божай Мацi Адыгiтрыi, тае самай, якая была ў баю, i абнясенне яе ўздоўж фронта войскаў – гэта такiя хвiлiны, якiя рэдка перажываюцца ў нашыя днi! У давяршэнне ўсяго ўдалося прывезцi некалькi старых, якiя помнiлi нашэсце французаў, але, што самае галоўнае – памiж iмi знаходзiўся адзiн удзельнiк бою, былы фельдфебель Вайтынюк, 122 гадоў. Падумай толькi – гаварыць з чалавекам, якi ўсё помнiць i расказвае ўсялякiя падрабязнасцi бою, паказвае месца, дзе быў паранены i г.д.” [157, с.140].

27 жнiўня (9.09) iмператарская сям’я прыехала ў Маскву, дзе ўрачыстасцi працягнулiся. 28 жнiўня (10.09) адбыўся ваенны парад на Хадынскiм полi, на наступны дзень з ранiцы адбылася панiхiда па Аляксандру I i ўдзельнiках вайны 1812 г. у Храме Хрыста Збавiцеля (ён стаў дзеючым у 1883 г.), потым наведалi выставу 1812 г. у Гiстарычным музеi, а затым была ўрачыста адчынена панарама Ф.А.Рубо “Барадзiно”. 30 жнiўня (12.09) прайшлi абедня ва Успенскiм саборы, хрэсны ход на Чырвоную плошчу, дзе быў зачытаны царскi манiфест i адслужаны святочны малебен. 31 жнiўня (13.09) урачыстасцi закончылiся i губернскiя дэлегацыi пачалi ад’язджаць дадому [157, с.141].

Пералiчанымi мерапрыемствамi святкаванне 100-гадовага юбiлею не абмяжоўвалася. Так, напрыклад, у Кобрыне ўрачыстасцi адбылiся 15 (28) лiпеня, у дзень бою Тармасава. Удзел у iх прынялi прадстаўнiкi тых вайсковых часцей, якiя прымалi ўдзел у памятнай бiтве. На свята кобрынскi прадвадзiцель дваранства атрымаў ад камiтэта папячыцельства аб народнай цвярозасцi 1 тыс. руб. [45, арк.116 адв.]. Прадугледжвалася ўзнагародзiць памятным медалём жывых ветэранаў вайны (вайскоўцаў, партызан, апалчэнцаў), сведкаў падзей, заслужаных асоб [44, арк.82]. Бронзавую медаль атрымаў, напрыклад, гродзенскi гiсторык Е.Ф.Арлоўскi, якi напiсаў кнiгу “Гродненская губерния в 1812 г.”. Мiжведамасная камiсiя вырашыла аказаць дапамогу нашчадкам нiжнiх чыноў i апалчэнцаў “уладкаваннем дзяцей у навучальныя ўстановы, прыняццем на службу, апекай старых i тых, хто не можа працаваць, i iншай дапамогай”. У цыркуляры гродзенскага губернатара ад 31.08.1910 г. земскiм начальнiкам, палiцмайстрам i павятовым спраўнiкам гаварылася: “...у самы кароткi тэрмiн i ва ўсялякiм разе не пазней 20 верасня бягучага году прадставiць мне звесткi аб застаўшыхся сярод насельнiцтва ветэранах Айчыннай вайны i сведках яе, а таксама аб нашчадках ужо памёрлых з паказаннем iх маёмаснага i сямейнага стану i вiд мiласцi, якую мэтазгодна было бы аказаць самым ветэранам цi iх нашчадкам” [44, арк.82 – 82 адв.].

У архіўнай справе “О праздновании 100-летнего юбилея Отечественной войны 1812 г.” захаваліся дакументы аб будаўніцтве ці рамонце помнікаў, усталяванні мемарыяльных дошак, упарадкаванні могілак і месцаў баёў. Так, па рашэнню камісіі па будаванню помніка Айчыннай вайны 1812 г. у Ваўкавыску вырашана закончыць яго да 1 (14) снежня 1914 г. Будаўніцтвам займаўся ўладальнік фабрыкі помнікаў у Мінску Л.М.Бяркоўскі. Камісіі дадаткова выдзелілі 400 руб. Сто рублёў было выдаткавана губернскім камітэтам па святкаванню юбілею на ўсталяванне мемарыяльнай дошкі на будынку кобрынскага Аляксандра-Неўскага праваслаўнага сабора, пабудаванага ў 1861 г. на месцы брацкага захавання 1812 г. У Кобрыне таксама меркавалі пабудаваць помнік, на які выдаткавалі 1000 руб. 250 рублёў далі на будаўніцтва помніка Уладзімірскаму палку ў Гарадзечне. На пасяджэнні гродзенскага губернскага камітэта па ўладкаванню 100-гадовага юбілею Айчыннай вайны 24 красавіка (7.05) было вырашана замест прапаноўваемых сямі помнікаў “паставіць адзін у горадзе Гродне, надаўшы яму значэнне помніка, агульнага для ўсёй губерні” [30, арк.56, 120, 166]. На жаль, Першая сусветная вайна перашкодзіла зрабіць гэтае. Да 100-годдзя Гарадзечанскай бітвы на яе месцы і пахаванні воінаў ва ўрочышчы “Высокая Гара” ў 1912 – 1913 г. будавалася мемарыяльная капліца, а  за в.Харкі Астравок (уроч. Пяскі) на месцы пахавання воінаў паставілі драўляны праваслаўны крыж [175, с.12].

Да юбілею выдаваліся кнігі і альбомы. Напрыклад, выдавецтва “Сельский вестник” праз прадвадзіцеляў дваранства распаўсюджвала на тэрыторыі Гродзенскай губерні брашуры “Година бед – година славы”, Е.Ф.Арлоўскага “Гродненская губерния в 1812 году”, “Отечественная война 1812 г.” (выдавец П.М.Плахаў), “Александр Благословенный”, “Женщины герои” і іншыя. Рэкамендавалася падпіска на ілюстраваны часопіс “Тысяча восемьсот двенадцатый год”. Прадвадзіцелі дваранства набывалі юбілейныя выданні і потым раздавалі насельніцтву [45, арк.113 адв., 119]. У 1913 г. у Гродне быў надрукаваны зборнік “Отечественная война 1812 г. Юбилейный сборник. Труды учениц Гродненской Мариинской женской гимназии”. На жаль, мы не змаглі адшукаць гэтае выданне.

А вось 20-цістаронкавая брашура “По следам великой армии (к 100-летнему юбилею Отечественной войны). Экскурсия реалистов Гродненского реального училища”, выдадзеная ў 1912 г., знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску.  Дарэчы, звярніце ўвагу яшчэ на адно юбілейнае мерапрыемства – экскурсіі па памятных месцах 1812 г. Акрамя экскурсій па губерні, некаторым удавалася паехаць у Маскву і Пецярбург. Дырэктар Свіслачскай семінарыі наладзіў “патрыятычна-адукацыйную” экскурсію ў Маскву і Пецярбург з прыпынкамі ў тых месцах, якія напамінаюць пра Айчынную вайну 1812 г. Двесце рублёў яму

выдаткаваў 25 мая 1912 г. губернскі распарадчы камітэт для таго, каб у экскурсіі маглі прыняць удзел 8 земскіх стыпендыятаў [43, арк.246]. Адбыліся некаторыя змены ў тапаніміцы Гродна. У апошнім нумары 1912 г. карэспандэнт "Gazety Biaiystockiej" ("Газэты Беластоцкай") Ю.Арцішэўскі паведамляў аб перайменаванні вуліцы Брыгіцкай у Кутузаўскую. З 1912 г. Гродзенская мужчынская гімназія атрымала імя А.П.Тармасава.

Як бачым, трагічны 1812 год быў урачыста адзначаны. Але нічога невядома, ці ўспомнілі ў юбілейны год пра тых гарадзенцаў, якія служылі ў напалеонаўскай арміі. Наўрад ці расійскія ўлады маглі дазволіць якія-небудзь мерапрыемствы з мэтаю ўшанавання гэтых герояў – архівы не захавалі нават просьбаў пра гэтае.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Кожнае даследаванне – гэта не толькі падвядзенне вынікаў, але і пастаноўка задач на будучае, магчыма выхад за вузкаспецыялізаваныя рамкі навуковай працы, калі атрыманыя мадэлі набываюць новае жыццё ў іншых навуках ці грамадскай свядомасці. У гэтым кантэксце можна звярнуць увагу на шэсць пытанняў, якія маюць пэўную навуковую ды грамадскую цікавасць і з'яўляюцца вынікам прапанаванага даследавання:

– месца заходняга рэгіёну Беларусі ў падзеях 1805 – 1807 г.;

– значэнне і перыядызацыя баявых дзеянняў на тэрыторыі Заходняй Беларусі;

– удзел розных сацыяльных груп беларускага грамадства ў напалеонаўскай эпапеі;

– колькасны удзел беларусаў (у межах Літоўска-Гродзенскай губерні) у напалеонаўскіх войнах на баку Расіі і Францыі;

– змены ў землеўладанні па выніках напалеонаўскіх войнаў як доўгатэрміновы сацыяльна-эканамічны фактар гісторыі Беларусі;

– падзеі ў заходнім рэгіёне Беларусі пад час замежных паходаў рускай арміі 1813 – 1814 г.

Паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.

У той час, калі для большасці беларускіх земляў "навальніца дванаццатага года яшчэ спала", заходні рэгіён Беларусі – Літоўска-Гродзенская губерня, Ашмянскі павет Літоўска-Віленская губерні ды Беластоцкая вобласць – ужо быў ўцягнуты ў віхуру гістарычных падзей. Па Заходняй Беларусі перасоўваліся расійскія войскі падчас франка-аўстра-расійскай вайны 1805 г. і франка-пруска-расійскай вайны 1806 – 1807 г. У Гродне хацеў схавацца ад Напалеона будучы кароль Францыі з дынастыі Бурбонаў Людовік XVIII. У Гродне і на тэрыторыі губерні ў той час апынуліся: галоўнакамандуючыя рускай арміі М.Ф.Каменскі і Л.Л.Бенігсен, "кавалерыст-дзявіца" Н.Дурава, будучы герой вайны 1812 г. гусар і паэт Д.В.Давыдаў. Пасля Тыльзіцкага міра 1807 г. у склад Літоўска-Гродзенскай губерні была ўключана Беластоцкая вобласць, якая раней уваходзіла ў склад прускай часткі падзелаў Рэчы Паспалітай.

У вайне 1812 года на тэрыторыі заходняга рэгіёну Беларусі можна вылучыць сем асобных перыядаў:

1) 26 чэрвеня – 16 ліпеня – пачатак вайны. Наступленне праз тэрыторыю Заходняй Беларусі войск правага крыла "Вялікай арміі" на чале з вестфальскім каралём Жэромам Банапартам. Адступленне 2-й расійскай арміі Баграціёна. Каля 16 ар'ергардных баёў. У тым ліку баі пад Ашмянамі, Карэлічамі, кавалерыйскае сражэнне пад Мірам. Напалеонаўскія войскі займаюць увесь заходні рэгіён Беларусі;

